ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 1—2

30-е СТУДЗЕНЯ 1935 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20 000 даб. 80; адк. сакратара—12
гарадскі—21644.



# З'езд вялікіх перамог

VII усесаюзны з'езд советаў увойдзе ў гісторыю барацьбы рабочага класа за пабудову соцыялізма як з'езд вялікіх перамог.

Справаздачны даклад тав. Молатава на з'ездзе—гэта велізарнейшы дакумент сталінскай эпохі, гістарычны дакумент вялікіх перамог, дасягнутых рабочым класам нашай краіны пад мудрым кіраўніцтвам лепшага саратніка Леніна—вялікага Сталіна.

13 год назад, выступаючы на пленуме Моссовета, Ленін гаварыў:

> «**Мы соцыялізм працягнулі ў штодзеннае жыццё і тут мы павінны разабрацца.** Вось што складае задачу нашага дня, вось што складае задачу нашай эпохі. Дазвольце яшчэ раз закончыць выражэннем упэўненасці, што як гэта задача ні цяжка, як яна ні нова ў параўнанні з папярэдняй нашай задачай і як многа труднасцей яна нам ні прыносіць, усе мы сумесна не заўтра, а ў некалькі год, усе мы разам вырашым гэту задачу, ва што-б там ні стала, так што з **Расіі нэпаўскай будзе Расія соцыялістычная».**

Гэта велізарнейшая задача, пастаўленая Леніным, выканана. З гонарам выканана клятва, даная тав. Сталіным 11 год таму назад. «Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай». Соцыялізм у нашай краіне перамог канчаткова і беспаваротна.

«Соцыялістычны ўклад з'яўляецца непадзельна пануючай і адзіна камандуючай сістэмай ва ўсёй народнай гаспадарцы нашай краіны»—гаварыў тав. Сталін на XVII з'ездзе партыі. Кулацтва ліквідавана як клас на аснове суцэльнай калектывізацыі. «Астаткі дробнай прыватна-сялянскай гаспадаркі на вёсцы не робяць пагоды» **(Молатаў).**

Карэнным чынам змянілася соцыяльная структура СССР. «Пераважная маса насельніцтва нашай краіны непарыўна звязала сваё жыццё з соцыялізмам» **(Молатаў).**

96 проц. усіх вытворчых фондаў належыць цяпер соцыялістычнаму сектару і толькі 4 проц.—прыватнаму. Соцыялістычная ўласнасць стала асновай нашага ладу.

Гэтыя сусветна-гістарычныя перамогі заваяваны ва ўпорнай і непрымірымай барацьбе з класавым ворагам і яго агентурай.

Соцыял-фашысты, контррэволюцыйныя трацкісты-зіноўеўцы, правыя апартуністы—усе ў адзін голас сцвярджалі аб немінучасці краху пралетарскай рэволюцыі, аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

У сваёй кнізе «Сусветная рэволюцыя» Отто Бауэр—слуп II соцыял-фашысцкага інтэрнацыянала—11 год таму назад пісаў: «Большэвізм не ў стане пабудаваць соцыялістычнае грамадства... Нават

у лепшым выпадку, нават калі капіталістычныя краіны не стануць на шлях адкрытай вайны супроць пролетарскай дыктатуры, а толькі адмовяць ёй у крэдытах... нават у гэтым выпадку Совецкая рэспубліка немінуча акажацца перад неперасільнымі труднасцямі, якія зробяць для яе пабудову соцыялістычнага грамадства проста немагчымай».

Так запалохваў гэты махровы воўк соцыял-фашызма пролетарыяў Захаду.

Гэту контррэволюцыйную тэорыю аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне адстойвала антысовецкая, контррэволюцыйная, трацкісцка-зіноўеўская апазіцыя.

Гэта паражэнча-капітулянцкая контррэволюцыйная канцэпцыя Троцкага-Зіноўева-Каменева з'яўляецца перапевам «філасофіі» II Інтэрнацыянала.

Правы апартунізм высоўваў контррэволюцыйную кулацкую тэорыю «урастання кулака ў соцыялізм», заклікаў да капітуляцыі перад капіталістычнымі элементамі, што азначала немінучую рэстаўрацыю капіталізма.

Велізарнейшая заслуга тав. Сталіна заключаецца ў тым, што ён адстаяў і развіў далей вучэнне Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне, разграміў контррэволюцыйны трацкізм і правы апартунізм, распрацаваў і падняў на вышэйшую ступень ленінскую тэорыю пабудовы соцыялізма ў адной краіне, указаў канкрэтныя шляхіператварэння ленінскага вучэння ў рэчаіснасць і разгарнуў стратэгічны план дзеянняў, якія забяспечылі пераўтварэнне Расіі нэпаўскай у Расію соцыялістычную.

Ленінска-сталінская тэорыя аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне ідэйна ўзброіла партыю і рабочы клас, натхняла на вялікую будаўнічую работу, на перамаганне труднасцей. Будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне з'яўляецца непадзельнаю часткай сусветнай пролетарскай рэволюцыі. «Мы робім справу, якая ў выпадку поспеху пераверне ўвесь свет і вызваліць увесь рабочы клас» **(Сталін).**

* * *

В. І. Ленін у 1921 г. пісаў:

«Гляньце на карту РСФСР. На поўнач ад Валогды, на паўднёвы ўсход ад Растова-на-Дану і ад Саратава, на поўдзень ад Орэнбурга і ад Омска, на поўнач ад Томска ідуць неабдымнейшыя прасторы, на якіх змясціліся-б дзесяткі агромных культурных дзяржаў. І на ўсіх гэтых прасторах пануе патрыярхальшчына, поўдзікасць, і самая сапраўдная дзікасць. А ў сялянскіх захалусцях усёй астатняй Расіі? Усюды, дзе дзесяткі вёрст прасёлку—вярней: дзесяткі вёрст бездарожжа—аддзяляюць вёску ад чыгунак, г. зн. ад матар'яльнай сувязі з культурай, з капіталізмам, з буйнай прамысловасцю, з вялікім горадам. Хіба не пераважае ўсюды ў гэтых месцах таксама патрыярхальшчына, абломаўшчына, поўдзікасць?» *).

Зусім іншым стаў малюнак Совецкага саюза ў сучасны момант. Ленінска-сталінская палітыка ЦК ВКП(б), мудрае кіраўніцтва нашага правадыра—тав. Сталіна, большэвіцкая энергія і самаадданасць ра-

*) **Ленін**—т. XXVI, стар. 338.

бочага класа ў корні змянілі твар нашай краіны. СССР ператварыўся ў магутную індустрыяльную краіну.

> «СССР за гэты перыяд ператварыўся ў корані, скінуўшы з сябе аблічча адсталасці і сярэдневякоўя. З краіны аграрнай ён стаў краінай індустрыяльнай. З краіны дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі ён стаў краінай калектыўнай, буйнай механізаванай сельскай гаспадаркі. З краіны цёмнай, няграматнай і некультурнай, ён стаў—вярней, становіцца—краінай граматнай і культурнай, пакрытай агромнай сеццю вышэйшых, сярэдніх і ніжэйшых школ, дзеючых на мовах нацыянальнасцей СССР». *)

Мы становімся самай багатай краінай у свеце. Народны даход у нас вырас за 4 гады да 56 мільярдаў рублёў, г. зн. на 59 проц. Дзяржаўны бюджэт павялічыўся ў 4,5 разы.

> «У гэтым вялікім росце дзяржаўнага бюджэта знаходзіць сваё адлюстраванне ўмацаванне нашай дзяржавы, як сістэмы планавай гаспадаркі» **(Молатаў).**

Мы адкрываем ўсё новыя і новыя багацці ў нетрах нашай краіны—краіны адважных герояў, энтузіястаў навукі і тэхнікі, якіх нараджае рабочы клас, калгаснае сялянства, выхоўвае наша партыя, вялікі Сталін.

Мы заваёўваем Арктыку, стратасферу, пранікаем у мясцовасці, дзе яшчэ нядаўна не ступала нага цывілізаванага чалавека.

Наша краіна стала металёвай—гэта значыць, што рабочы клас нашай краіны падвёў моцную базу пад грандыёзны будынак соцыялізма.

Няма такой машыны, ці прылады, якіх нельга было-б вытвараць на нашых совецкіх заводах, гэта значыць, што мы маем у нашай краіне ўсё неабходнае для завяршэння ў самы кароткі тэрмін уласнымі сіламі тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі Совецкага саюза (прамысловасць, транспарт, сельская гаспадарка).

Ленін вучыў, што наша задача—«перасесці, выражаючыся фігуральна, з аднаго каня на другога, г. зн. з каня сялянскага, мужыцкага, жабрацкага, з каня эканомій, разлічаных на разораную сялянскую краіну,—на каня, якога шукае і не можа не шукаць для сябе пролетарыят, на каня буйнай машыннай індустрыі, электрыфікацыі, Волхаўбуда і т. д.» **)

Гэта задача пад кіраўніцтвам т. Сталіна выканана. Толькі за чатыры гады асноўныя фонды цяжкай прамысловасці павялічаны больш як ў 3 разы: з 9.434 мільёнаў (ў 1931 г.) да 28.903 мільёнаў рублёў (у 1934 г.). Для гэтага патрэбна было ўкласці ў цяжкую прамысловасць велізарнейшыя сродкі, арганізаваць людскія масы, пабудаваць, рэканструяваць і асвоіць прадпрыемствы. За гэтыя чатыры гады ўложана ў цяжкую прамысловасць 30.306 мільёнаў рублёў, уведзены ў эксплаатацыю прадпрыемствы на 20.400 мільёнаў руб.

Ужо адзін факт выплаўкі ў 1934 г. больш 10 мільёнаў тон чыгуна мае велізарнейшае гаспадарчае і палітычнае значэнне. Па выплаўцы чыгуна СССР у апошнім квартале 1934 г. заняў першае месца ў свеце.

Ленін гаварыў, што комунізм—гэта совецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны.

---

*) **Сталін**, Справазд. даклад на XVII партз'ездзе.

*) **Ленін**, т. XXVII, стар. 417.

У 1934 г. выпрацавана 20.500 мільёнаў кілават-гадзін, супроць 12 тысяч кілават у 1921 г. Па вытворчасці электрычнай энергіі наша краіна з апошняга месца ў свеце высунулася на адно з першых.

Труднейшай задачай пролетарскай рэволюцыі была перабудова дробнай сялянскай гаспадаркі на соцыялістычны лад.

Пад кіраўніцтвам нашай партыі, вялікага Сталіна вырашана труднейшая задача пролетарскай рэволюцыі. Калгасны лад перамог. Каля 4/5 сялянства аб'яднана ў калгасы. Калгаснае сялянства з'яўляецца актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва. На совецкіх палях працуе каля 300 тыс. трактароў.

Перамога калгаснага ладу ў СССР практычна паказвае ўсяму свету шляхі вырашэння труднейшай задачы—соцыялістычнай рэволюцыі.

Велізарныя перамогі ў справе індустрыялізацыі нашай краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі прывялі да карэнных змен ў суадносінах класавых сіл нашай краіны.

У 1934 годзе ў Совецкім саюзе налічвалася 47.118 тыс. пролетарыята і 77.037 тыс. калгаснікаў, кааператаваных саматужнікаў і раменнікаў. Буржуазных элементаў засталося ў нашай краіне 174 тыс. чалавек (у асноўным з рэштак кулацтва), тым часам як у 1913 годзе было 22.100 тыс. памешчыкаў, буржуазіі, гандляроў і кулакоў.

Карэнныя змены ў эканоміцы і соцыяльнай структуры нашай краіны, што адбыліся ў выніку вялікіх перамог на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, высунулі неабходнасць некаторых змен ў совецкай канстытуцыі.

«Ленін гаварыў аб нашай першай совецкай канстытуцыі, што ў ёй запісана тое, што заваявана. Тады намі былі заваяваны: улада, камандныя эканамічныя вышыні, з поспехам адваёўваўся серадняк на бок пролетарыята. Але наша рэспубліка называлася тады соцыялістычнай, як ўказваў Ленін, толькі па сваёй праграме, а не таму, што соцыялізм ўжо перамог». («Большевик» № 3.)

Пад сцягам совецкай канстытуцыі краіна Советаў дабілася велізарных перамог. Соцыялістычная ўласнасць стала сапраўднай асновай совецкага грамадства.

Лютаўскі пленум ЦК ВКП(б) і VII з'езд советаў па ініцыятыве т. Сталіна вынеслі пастанову аб неабходнасці некаторых змен ў нашай канстытуцыі, якая павінна быць прыведзена ў адпаведнасць з тымі зменамі, што адбыліся ў соцыяльнай і гаспадарчай структуры краіны і ў напрамку далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы—замены не зусім роўных выбараў роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі. Гэта сусветна-гістарычнае рашэнне з'езда советаў адкрывае агромную перспектыву далейшага развіцця дыктатуры пролетарыята.

У совецкай краіне існуе сапраўдная дэмакратыя. Совецкая ўлада створана працоўнымі масамі, яе астрыё накіравана супроць ворагаў працоўнага народу. Мэтай буржуазнай дэмакратыі заўсёды было ўвекавечанне класа буржуазіі і панавання кучкі капіталістаў над большасцю насельніцтва, «абман працоўных фармальнай роўнасцю пры захаванні гнёту, іга, рабства капіталістычна-буржуазнай дэмакратыі» **(Ленін).**

Мэта пролетарскай дэмакратыі—знішчыць класы, уцягнуць працоўныя масы ў кіраўніцтва дзяржавай, умацаваць дыктатуру пролетарыята.

Змены ў канстытуцыі яшчэ больш умацуюць саюз рабочых і сялян, узнімуць аўтарытэт рабочага класа і комуністычнай партыі

як кіруючай сілы нашага соцыялістычнага будаўніцтва, дапамогуць ліквідацыі класавай розніцы паміж рабочымі і сялянамі.

Замена адкрытых выбараў закрытымі паставіць усю работу советаў пад яшчэ больш жорсткі кантроль мас, узніме яшчэ вышэй аўтарытэт совецкай улады, узмоцніць сувязь советаў з шырокімі працоўнымі масамі, з усёй сілай ударыць па бюракратах, адарваўшыхся ад мас.

Неабходна яшчэ больш уцягнуць самыя шырокія масы працоўных у работу советаў і пад кіраўніцтвам партыі павысіць іх актыўнасць у барацьбе з бюракратычнымі скажэннямі ў нашым дзяржаўным апараце.

Наша краіна высока трымае сцяг сапраўднага дэмакратызма ў той самы момант, калі буржуазія адкідае нават знешнія ілжыва-дэмакратычныя формы і ўсё больш скатваецца на шлях фашызма і агалцелага тэрора.

> «Ад буржуазнай дэмакратыі і парламентарызма да непрыкрытай тэрарыстычнай улады капітала над працоўнымі, пад фашысцкім сцягам—такі шлях развіцця буржуазных краін за апошні перыяд» (Молатаў).

Тут адлюстроўваецца той бясспрэчны факт, што капіталізм ідзе к сваёй немінучай пагібелі, а соцыялізм мацнее і развіваецца.

У краінах капіталізма разгортваецца сусветны эканамічны крызіс, а разам з ім пагаршаецца становішча працоўных мас. СССР—ударная брыгада сусветнага пралетарыята, радзіма працоўных усяго свету—расце і мацнее.

Нашы перамогі, перамогі соцыялізма ў нашай краіне, рэволюцыянізуюць працоўныя масы ўсяго свету, паказваюць ім адзіна магчымы шлях збаўлення ад жахаў крызіса, ад бясконцай эксплаатацыі і разгулу фашызма.

Гранітнай скалою горда высіцца Краіна советаў над капіталістычным светам.

Наша краіна за апошнія гады мае вялікія дасягненні і на арэне міжнароднага жыцця. Поспехі соцбудаўніцтва, ператварэнне СССР у магутную передавую індустрыяльную краіну, узросшая магутнасць нашай Чырвонай арміі, высокая абараназдольнасць нашай краіны, паслядоўная палітыка міру—усё гэта ўзняло аўтарытэт СССР на небывалую вышыню.

Ведучы паслядоўную палітыку міру, мы ні на мінуту не можам і не павінны забываць аб ваеннай небяспецы, якая пагражае СССР—соцыялістычнай радзіме ўсіх прыгнечаных і зняволеных. Шалёная падрыхтоўка вайны ў першую чаргу накіравана супроць СССР, і мы ў любы момант павінны быць гатовы да абароны.

«Не бачыць набліжэння новай вайны,—гаварыў тав. Молатаў на VII з'ездзе советаў,—значыць закрываць вочы на галоўную небяспеку».

Мы павінны заўсёды памятаць аб ваеннай небяспецы і пагрозе вайны супроць нас і няўстанна змагацца за далейшае ўмацаванне нашай палітычнай і гаспадарчай магутнасці, за павышэнне абараназдольнасці Совецкага саюза. Совецкая Беларусь павінна быць зоркім вартавым вялікага Совецкага саюза на мяжы з капіталістычным Захадам.

* * *

У брацкім адзінстве з рабочымі і калгаснікамі ўсяго Савецкага саюза і пры іх пастаяннай сістэматычнай дапамозе БССР дабілася вялікіх поспехаў у будаўніцтве соцыялістычнай гаспадаркі, у развіцці пролетарскай культуры.

1.125 мільёнаў рублёў укладзена толькі за 4 гады ў народную гаспадарку БССР. Валавая прадукцыя вырасла з 836,7 мільёна ў 1931 годзе да 1.293 мільёнаў руб. у 1934 г. Удзельная вага прамысловай прадукцыі ва ўсёй народнай гаспадарцы БССР складала ў 1934 г. 68 проц. супроць 42 проц. у 1928 г.

Калгасны лад перамог канчаткова. На 1 студзеня 1935 г. БССР была калектывізавана на 72,6 проц. Кулацтва як клас у асноўным ліквідавана, зроблен буйны крок у справе павышэння ўраджайнасці. Каля 4 тыс. трактароў працуе на калгасных і соўгасных палях Беларусі. Вырасла і даходнасць калгаснікаў.

Расце і квітнее беларуская культура, нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу, расце пролетарская навука, мастацтва, літаратура.

Няўхільна ажыццяўляючы ленінскую нацыянальную палітыку, БССР поўнасцю і канчаткова ліквідавала сваю спрадвечную адсталасць і забітасць—спадчыну царызма. Усе нацыянальнасці БССР маюць свае тэатры, школы, вышэйшыя навуковыя ўстановы, будуюць разам новае радаснае жыццё ў адзінай сям'і народаў. Усё гэта— рэзультат перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі, разгрому контррэволюцыйных буржуазных нацыяналістаў усіх масцей.

Перамогі БССР на фронце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва былі заваяваны ва ўпорнай барацьбе з рэшткамі кулацтва, з контррэволюцыйным трацкізмам, з апартуністамі ўсіх масцей, з вялікадзяржаўным шавінізмам, з мясцовым беларускім нацыяналізмам, які з'яўляецца галоўнай небяспекай на даным этапе у БССР, з шавінізмам і нацапартунізмам усіх масцей. У выніку разгрому гэтых варожых элементаў БССР пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало дабілася агромнейшых поспехаў на ўсіх участках соцбудаўніцтва.

БССР—адзін з магутных атрадаў згуртаванай сям'і народаў вялікага Савецкага саюза, надзейны фарпост нашай вялікай радзімы на мяжы з капіталістычным светам.

Бязлітасная барацьба з рэшткамі класавага ворага і яго агентуры, з рэшткамі контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызма, вялікарускага і іншых масцей шавінізма, рашучая барацьба з рэшткамі контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага ахвосця—неабходнейшая ўмова далейшых поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Разбіваючы і выкарчоўваючы антыпартыйныя, антысавецкія класава-варожыя элементы і іх агентуру, працоўныя масы БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б на чале з т. Гікало, даб'юцца новых велізарнейшых перамог.

* * *

Вялікія адказныя задачы паставілі перад працоўнымі масамі нашай рэспублікі VII з'езд саветаў СССР і XI з'езд саветаў БССР.

Неабходна памятаць, як гаворыцца ў рашэннях XI з'езда саветаў, што значная колькасць прадпрыемстваў БССР заняты вытворчасцю тавараў шырокага спажывання, і што гэтыя тавары разыходзяцца па ўсяму Савецкаму саюзу. Таму ва многа раз павінна быць павышана якасць прадукцыі прамысловасці БССР.

У сваім выступленні на XI з'ездзе советаў таварыш Гікало намеціў канкрэтныя задачы: Мы павінны дабіцца ў 1935 г., каб у БССР не было адстаючых прадпрыемстваў. Мы павінны дабіцца ў 1935 г. крутога ўздыму жывёлагадоўлі. Мы павінны дабіцца ў 1935 г. далейшага развароту культурнага будаўніцтва. Мы павінны паставіць перад сабой задачу, каб к 1935 г. у гаспадарчым і культурным будаўніцтве БССР, ва ўсёй нашай гаспадарчай і совецкай культурнай рабоце не было ніводнага адстаючага ўчастка. За выкананне гэтай задачы ўсе нашы партыйныя і гаспадарчыя арганізацыі павінны з дня на дзень моцна змагацца.

Поспех справы вырашаюць жывыя людзі. Вось чаму ў дакладах і выступленнях на з'ездзе, асабліва ў выступленні тав. Гікало, выключная ўвага была звернута на ўказанне тав. Сталіна аб тым, што галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай.

> «Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго, людзей трэба ўважліва і клапатліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае садовае дрэва».

Больш увагі, клопату аб людзях. Цэнтр усёй нашай масавай работы—арганізатарская работа з жывымі людзьмі. Чулы падыход да кожнага працоўнага, перавыхаванне людзей ў свядомых будаўнікоў комунізма—вось наша баявая задача.

Асобае значэнне ў гэтых умовах набывае правільная расстаноўка людзей на вытворчасці і арганізацыя зарплаты так, «каб яна ўмацоўвала рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшую кваліфікацыю» **(Сталін).**

Арганізаваць заработную плату, г. зн.—зрабіць яе асноўным рычагом уздыму вытворчасці. Арганізаваць заработную плату—значыць ведаць людзей, ведаць іх кваліфікацыю. «Арганізаваць зарплату—значыць накіраваць намаганні ўсяго рабочага калектыва ў правільнае русло, значыць падвоіць сваю сілу» **(Молатаў).**

Бязлітаснымі павінны быць нашы адносіны к дробнабуржуазнай ўраўнілаўцы і яе ідэолагам. «Пытанне аб правільным спалучэнні асабістых інтарэсаў і грамадскай карысці ў вытворчасці з'яўляецца цэнтральным пытаннем у будаўніцтве социялізма» **(Молатаў).**

Такім чынам, цэнтральная наша задача—так пабудаваць палітыку зарплаты, каб забяспечыць агульны ўздым матар'яльнага становішча працоўных, знішчыць дробна-буржуазную ўраўнілаўку ў аплаце працы, дабіцца высокай прадукцыйнасці працы, росту кваліфікацыі паасобных работнікаў, заахвочваць іх павелічэннем аплаты.

«Правільнае вырашэнне гэтай задачы—лепшая гарантыя таго, што мы паспяхова пераможам на сваім шляху ўсе і ўсякія перашкоды» **(Молатаў).**

У 1935 г. мы павінны лепш выкарыстаць багацейшыя рэзервы прамысловасці і сельскай гаспадаркі, забяспечыць поўнае выкананне гадовага народна-гаспадарчага плана.

Вынікі работы першых двух месяцаў гэтага года паказваюць, што не ўсе нашы гаспадарчыя і профсаюзныя арганізацыі перабудавалі сваю работу ў адпаведнасці з рашэннямі XI з'езда советаў БССР і VII з'езда советаў СССР.

Рад прадпрыемстваў не выконвае промфінплана, якасць прадукцыі невысокая, кепска выкарыстоўваюцца ўнутраныя рэзервы, мясцовая сыравіна.

К 1 мая ўсе прадпрыемствы БССР павінны стаць прадпрыемствамі суцэльнай тэхнічнай граматнасці, такавы рашэнні ўсебеларускіх канферэнцый ЗОТ. Тым часам прадпрыемствы швейнай, дрэваапрацоўчай, папяровай і інш. галін прамысловасці тэхвучобу наладзілі дрэнна. Тэхэкзамен на прадпрыемствах цяжкай прамысловасці праходзіць нездавальняюча.

Кепска ідзе падрыхтоўка к новаму будаўнічаму сезону. Наша прамысловасць павінна асвоіць у гэтым годзе больш 100 млн. рублёў капіталаўкладанняў. Аднак многія нашы арганізацыі ўсё яшчэ не маюць праектаў і смет. Урокі кепскага асваення капіталаўкладанняў у мінулым годзе не ўлічваюцца паасобнымі наркаматамі і гаспадарчымі аб'яднаннямі.

Усё гэта патрабуе ад нашых партыйных арганізацый і ў першую чаргу ад гарадскіх і раённых камітэтаў партыі, ад наркаматаў, дырэктароў прадпрыемстваў і гаспадарчых арганізацый больш канкрэтнага, аперацыйнага кіраўніцтва кожным паасобным участкам работы.

Вялікія задачы стаяць перад намі ў галіне далейшага развіцця сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Мы маем усе магчымасці быстра, поўнасцю закончыць калектывізацыю бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Магутным рычагом у гэтых адносінах з'яўляецца новы прыкладны сталінскі статут калгаснага жыцця, прыняты другім усесаюзным з'ездам калгаснікаў— з'ездам перадавых людзей калгаснай вёскі. Толькі савецкая дэмакратыя, толькі большэвіцкае кіраўніцтва калгасным сялянствам маглі вырасціць такую вялікую армію перадавых людзей, свядомых барацьбітоў за справу комунізма.

Прыняты з'ездам статут—гэта закон калгаснага жыцця, праграма барацьбы за большэвіцкія калгасы, за заможнае калгаснае жыццё, выпрацаваная пад непасрэдным кіраўніцтвам і пры асабістым удзеле тав. Сталіна, работа якога на з'ездзе ўвесь час выклікала ў калгаснікаў выключную любоў і захапленне.

Увесь гэты статут, кожны яго радок прасякнуты гаспадарчымі клопатамі аб умацаванні калгасаў, аб павышэнні прадукцыйнасці працы, аб багатых ураджаях. Статут чотка і ясна вырашае пытанне аб спалучэнні грамадскіх інтарэсаў сельгасарцелі з асабістымі. Грамадскія інтарэсы павінны займаць галоўнае, рашаючае месца. Асабістая гаспадарка калгасніка таксама павінна служыць агульнай справе калгаснай гаспадаркі, павышаць даходнасць працы і рост даходнасці калгаса ў цэлым, садзейнічаць таму, каб усе калгасы сталі большэвіцкімі, а калгаснікі заможнымі.

Сталінскі статут калгаснага жыцця на аснове савецкай дэмакратыі забяспечыць уздым актыўнасці мільёнаў калгаснікаў у будаўніцтве сацыялістычнага грамадства.

Агромную ўвагу статут удзяляе пытанням жывёлагадоўлі. Барацьба за хуткі ўздым і развіццё жывёлагадоўлі на аснове дзяржаўнага плана, за палепшанне якасці племяннога стада і арганізацыі працы на аснове здзельшчыны, лепшая пастаноўка кармавой базы—галоўныя ўмовы далейшага развіцця жывёлагадоўлі. Асноўнае звяно ў жывёлагадоўлі—калгасная ферма. Аб ёй галоўны клопат.

Новы статут сельгасарцелі, пастановы ЦК ВКП(б) аб веснавой сяўбе вызначаюць канкрэтны шлях барацьбы за паспяховае і высокаякаснае правядзенне веснавой сяўбы ў гэтым годзе.



Узбагачаныя вопытам, забяспечаныя насеннем, цягавай сілай, сельгас'інвентаром, узброеныя сталінскім прыкладным статутам сельгасарцелі, нашы калгасы ў гэтым годзе павінны засеяць палі лепш, чым у мінулыя гады. А для гэтага найперш трэба добра падрыхтавацца. Калгасы, соўгасы, МТС і ўся калгасная маса павінны мабілізавацца на пасеўную кампанію, памятаючы, што пастаўленыя перад сельскай гаспадаркай VII з'ездам саветаў задачы павышэння ўраджайнасці можна выканаць перш за ўсё пры ўмове добраякаснага і своечасовага правядзення веснавой сяўбы.

Задача партыйных, савецкіх і зямельных арганізацый, соўгасаў і калгасаў—своечасова адрамантаваць усе пасеўныя сельскагаспадарчыя машыны, ачысціць насенне і праверыць яго ўсхожасць, скласці пасеўныя і вытворчыя планы, давесці іх да кожнай вытворчай брыгады, правільна расставіць людзей, замацаваць за брыгадамі пэўныя вытворчыя ўчасткі на ўвесь час севазвароту, падрыхтаваць конскае пагалоўе, збрую і т. д.

Нельга сказаць, што ўсе нашы арганізацыі ўсвядомілі ўсю палітычную важнасць своечасовай паспяховай падрыхтоўкі к сяўбе. Тым часам у гэтай веснавой кампаніі мы павінны паказаць узоры большэвіцкай работы, дабіцца рэкорднага ураджаю. Задача партыйных, савецкіх і прафсаюзных арганізацый—безадкладна давесці рашэнні VII і XI з'ездаў саветаў і ўсесаюзнага з'езда ўдарнікаў-калгаснікаў да шырокіх мас рабочых, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, прапрацаваць рашэнні з'ездаў на ўсіх прадпрыемствах, у соўгасах, калгасах і МТС і на аснове шырокай папулярызацыі гэтых гістарычных рашэнняў мабілізаваць шырокія масы рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных на паспяховае правядзенне веснавой сяўбы, павышэнне ўраджайнасці зерневых і тэхнічных культур, уздым і развіццё жывёлагадоўлі, далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, завяршэнне суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі, павышэнне працоўнай і вытворчай дысцыпліны і прадукцыйнасці працы, паспяховае выкананне народна-гаспадарчага плана 1935 г.

Неабходна высока трымаць сцяг большэвіцкай пільнасці ў адносінах усіх недабітых класавых ворагаў. Зладзейскае забойства тав. Кірава лішні раз гаворыць аб тым, што няма такога бруднага і подлага сродку, за які-б не ўхапіліся разгромленыя, але яшчэ недабітыя ворагі рабочага класа і калгаснага сялянства ў барацьбе супроць пераможнай пралетарскай дыктатуры. Неабвяргальнымі фактамі даказана, што правакатары белабандыты з контррэвалюцыйнага зіноўеўскага апазіцыйнага атрэп'я карысталіся прамым падтрыманнем фашысцкіх элементаў капіталістычных краін.

Адным з гнюснейшых метадаў класавага ворага ў барацьбе з дыктатурай пралетарыята з'яўляецца двурушніцтва—гэта галоўная запаведзь контррэвалюцыйнай правакатарскай банды трацкістаў-зіноўеўцаў, асноўны метад іх зносін з партыяй. Любое аблічча гатоў прыняць класавы вораг, абы толькі аслабіць нашу пільнасць, нанесці ўдар у спіну партыі і савецкай уладзе. Па БССР за апошні час выкрыт рад трацкісцка-зіноўеўскіх паследышаў (справа Галендо, Флюра, Дунца, вылазкі у Мед'інстытуце і інш.). Гэтыя факты сведчаць аб тым, што на паасобных участках у нас няма дастатковай пільнасці.

У сваёй пастанове па справе Дунца ЦК КП(б)Б абавязаў усе парт-арганізацыі і кожнага комуніста, асабліва працуючых на ўчастку культурнага будаўніцтва, зрабіць усе неабходныя вывады з справы

Дунца, забяспечыць сапраўднае большэвіцкае канкрэтнае кіраўніцтва ўчасткам совецкай літаратуры, асабліва літаратурай нацменшасцей. Кожны член партыі абавязан падняць і завастрыць сваю пільнасць, памятаючы, што расхлябанасць, разгільдзяйства, бяспечнасць абляг-чаюць работу ворага, работу двурушніка.

Адзін з рашаючых рычагоў павышэння пільнасці—ідэйнае ўзбраенне кожнага члена партыі, сур'ёзнае вывучэнне яе гісторыі. Кожны член партыі павінен ведаць, у барацьбе з якімі ворагамі партыя забяспечыла перамогу дыктатуры пролетарыята, перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

> «Трэба паставіць на належную вышыню вывучэнне ўсіх і ўсякіх антыпартыйных груповак у гісторыі нашай партыі, іх прыёмаў барацьбы супроць партыі, іх тактыкі і тым больш вывучэнне тактыкі і прыёмаў барацьбы нашай партыі з антыпартыйнымі групоўкамі, тактыкі і прыёмаў, даўшых нашай партыі магчымасць перамагчы і разбіць на-галаву гэтыя групоўкі. Трэба, каб члены партыі былі знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і разбіла кадэтаў, эсэраў і меншавікоў, анархістаў, але і з тым, як партыя змагалася і разграміла трацкістаў, «дэмакратычных цэнтралістаў», «рабочую апазіцыю», зіноўеўцаў, правых ухілістаў, права-«лявацкіх» уродаў і т. п.» *)

Пад сцягам партыі Леніна—Сталіна, зорка аберагаючы непахіснае адзінства і жалезную дысцыпліну сваіх радоў, разграміўшы контррэволюцыйнае зіноўеўска-трацкісцкае авхосце, правых ухілістаў, апартуністаў і буржуазных контррэволюцыйных нацыяналістаў усіх колераў і толкаў, прышлі працоўныя масы нашай краіны на свой VII з'езд з велізарнейшымі перамогамі. Пад гэтым сцягам, пад кіраўніцтвам т. Сталіна, працоўныя нашай краіны і ўсяго свету цвёрда і ўпэўнена ідуць к новым перамогам, к пабудове бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

---

*) „Большевик" № 2 за 1935 г., стар. 11–12.

Н. Ф. Гікало

# Партыйную работу—у цэнтр увагі*)

Таварышы, вы сабраліся на выключна сур'ёзную нараду, дзе галоўнае, асноўнае, цэнтр пытанняў, вакол якіх усё на нарадзе верціцца,—гэта пытанні партыйнай работы, дзе і народ сабраўся такі, для якога пытанні партыйнай работы павінны быць пытаннямі штодзённай практычнай работы, пытаннямі, над якімі думаюць і працуюць тэарэтычна, на якіх і растуць палітычна.

Я не збіраюся надоўга займаць ваш час і зраблю толькі некалькі заўваг.

Першае. Я думаю, што трэба пачаць прама з галіны работы, у якой працуе тав. Готфрыд. Работа прамысловасці БССР у гэтым годзе нядрэнная ў параўнанні з папярэднімі гадамі (у 1933 г. было 84 проц. выканання плана), але яна дрэнная па тых рэзультатах, якія мы павінны былі мець у гэтым годзе.

1934 г.—другі год другой пяцігодкі—мы закончылі з невыкананнем промфінплана як па рэспубліцы, па якой у цэлым мы маем 97,6 проц., так і па раду буйнейшых прадпрыемстваў, гарадоў. Гэта зусім нецярпімая справа.

У другой пяцігодцы мы сваёй мэтай паставілі—пабудаваць бяскласавае соцыялістычнае грамадства. Але гэта бяскласавае соцыялістычнае грамадства нельга пабудаваць, калі мы не выканаем нашы вытворчыя планы, калі мы не авалодаем самай высокай тэхнікай, калі мы не будзем працаваць так, як вучыць нас тав. Сталін, працаваць, не пакладаючы рук, каб работа гарэла, каб афяраваць усім у інтарэсах справы, у інтарэсах перамогі, у інтарэсах пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Тэхнікай мы тут, у БССР, авалодалі пакуль яшчэ выключна дрэнна. Гэта паказвае большасць прадпрыемстваў, я ўжо не кажу аб сельскай гаспадарцы, дзе ў нас скарыстанне машын, пытанні рамонту машын стаяць на выключна нізкім узроўні.

Трэба з усёй вострасцю падкрэсліць іменна тое, што работа прамысловасці БССР у 1934 г., калі нават параўнаць з паказчыкамі сельскай гаспадаркі, яшчэ нездавальняючая, хвастацца добрай работай прамысловасці ў 1934 г. ні ў якім разе нельга. Вядома, ёсць у нас прадпрыемствы, якія нядрэнна выканалі промфінплан, ёсць цэлыя галіны прамысловасці, якія выканалі заданні, ёсць і гарады, выканаўшыя свой промфінплан цалкам, але рад буйнейшых, рашаючых прад-

---

*) З выступлення на нарадзе інструктароў гаркомаў і райкомаў па прамысловасці і сакратароў парткомаў прадпрыемстваў БССР пры промаддзеле ЦК КП(б)Б.

прыемстваў усяго плана не выканалі. Напрыклад, у Гомелі, як правіла, амаль усе буйныя прадпрыемствы не выканалі гадавога плана (Добруш, шклозавод, дрэваапрацоўчы камбінат). У некаторых гарадах выкананне ідзе за кошт саматужнікаў і т. д., а буйныя адстаюць і гэта зусім не плюс. Тым часам іменна буйныя прадпрыемствы БССР, па прыкладу ўсяго СССР, павінны быць наперадзе, яны павінны паказаць узоры работы, яны павінны быць у авангардзе.

Вядома, факт выканання промфінплана дробнымі прадпрыемствамі—гэта добрая справа. Але ў цэлым справа з выкананнем промфінплана абстаіць яшчэ нездавальняюча, раз няма 100 проц., раз па БССР нехапае 2,4 проц. к гадавому плану.

Вырашэнне задач другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства—нямысліма без сур'ёзнай, пабольшэвіцку наладжанай арганізацыйнай работы, без высокай ідэйнай, партыйнай палітычнай узброенасці, тэарэтычнай падрыхтоўкі, авалодання рэволюцыйным вопытам соцыялістычнага будаўніцтва.

Мы не можам пабудаваць бяскласавае соцыялістычнае грамадства, калі не будзем узмацняць нашу партыю, узнімаць палітычны ўзровень і пільнасць яе членаў. Узмацненне дыктатуры пролетарыята прадпалагае ўсямернае ўзмацненне гэтай асноўнай, накіроўваючай, кіруючай сілы ў нашым соцыялістычным будаўніцтве, узмацненне і павышэнне боездольнасці, маналітнасці нашай большэвіцкай партыі.

Мы знаходзімся ў капіталістычным акружэнні, у нас унутры краіны ёсць усякія рэшткі недабітых варожых нам класаў, ахвосці былых апазіцыйных груп і групачак, якія імкнуцца весці сваю контррэволюцыйную работу.

Чым больш нашы поспехі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, тым маналітней наша партыя, тым азлобленей становіцца класавы вораг, які ідзе на ўсё, каб сарваць справу соцыялізма. Подлы, антысовецкі, контррэволюцыйны шлях былой трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, якая зрабіла двурушніцтва асноўным сваім метадам зносін з партыяй; забойства фашысцкімі падонкамі былой зіноўеўскай апазіцыі аднаго з лепшых кіраўнікоў партыі—тав. Кірава—яркі прыклад таго, на якія метады барацьбы з совецкаю ўладай, з партыяй здольны рэшткі класавых ворагаў, і сведчыць аб тым, што класавы вораг актывізуецца, вядзе шалёную барацьбу супроць соцыялізма, супроць партыі.

У БССР, ва ўмовах пагранічнасці яе становішча, пры наяўнасці ў мінулым даволі значных антысовецкіх партый, меншавіцкіх, эсэраўскіх, нацыяналістычных груп, рэшткі якіх, прытаіўшыяся сямтам, прадаўжаюць весці сваю контррэволюцыйную работу, патрэбна выключная пільнасць, выключная непрымірымасць да ўсякага роду вылазак класавага ворага.

Трацкісцкае выступленне Галендо на заводзе «Большэвік», антыпартыйныя паводзіны былога актыўнага ўдзельніка зіноўеўскай апазіцыі—Фліора, контррэволюцыйныя трацкісцкія і нацыяналістычныя вылазкі ў ВКСГШ і Мед'інстытуце гавораць нам аб тым, што контррэволюцыйнае ахвосце трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі яшчэ вядзе сваю работу. Патрэбна выключная пільнасць і непрымірымасць да ўсякага роду антыпартыйных вылазак класавага ворага. Трэба бязлітасна распраўляцца з агентурай класавага ворага.

Мы павінны ўвесь час памятаць указанні тав. Сталіна на XVII з'ездзе:

«Сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней, не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма».

Мы павінны зараз выключна вялікую ўвагу ўдзяліць комсамолу, бо класава-варожыя элементы ставяць стаўку на моладзь, імкнуцца весці сярод яе скрытую разлагаючую контррэволюцыйную работу. Трэба ўзмацніць нашу работу сярод беспартыйнай моладзі, сярод студэнцтва, загартоўваючы іх у барацьбе з класавымі ворагамі, выхоўваючы іх у духу большэвізма, у духу ненавісці да ворагаў рабочага класа, непрымірымасці да вылазак усякага роду рэштак класава-варожых элементаў.

Выключна складаныя задачы пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, абвостраная класавая барацьба ў краіне, неабходнасць ва што-б там ні стала даць прадукцыю больш высокую па якасці, чым дае любая капіталістычная краіна, задача асваення тэхнікі, варштатаў, машын, задача навучыцца кіраваць гэтымі варштатамі і машынамі ў самы кароткі адрэзак часу—патрабуюць ад нас усё больш і больш умацоўваць нашу слаўную большэвіцкую партыю—арганізатара нашых перамог.

І вось, калі мы гаворым аб асноўных задачах, якія стаяць перад партыяй, перад краінай, мы павінны ў першую чаргу памятаць аб нашай партыйнай рабоце, канцэнтраваць увагу вакол пытанняў партыйнай работы. Калі мы не выконваем тое ці іншае заданне партыі, урада, то прамая адказнасць кладзецца за гэта ў першую чаргу на тых комуністаў, якія непасрэдна гэтай работай займаюцца.

Тым часам у нас на Беларусі няма ніводнага прадпрыемства, дзе была-б узорна пастаўлена партыйная работа. У нас многа ў партыйнай рабоце адмініструюць. Інструктар гаркома і райкома партыі часта выступае, як чалавек, які многа загадвае. Калі ён выступае дзе-небудзь, ставіць пытанне і інш., то ён мяркуе, што яго выступленне, яго дырэктыва абавязковы, і калі яго бяруць пад малейшае сумненне, то становіцца на-дыбы. Зусім верна, што парада інструктара партыйнай арганізацыі па сутнасці справы павінна быць законам. Але на аснове чаго гэта павінна атрымлівацца? Па-першае, на аснове сваёй уласнай добрай работы, на аснове паказу самім узорнай большэвіцкай работы, на аснове ўмення паказаць, **як гэта трэба зрабіць** і на радзе прыкладаў даказаць, што ты праў. Парада інструктара будзе толькі тады законам, калі ён карыстаецца пашанай, аўтарытэтам, накопленым сваёй большэвіцкай самаадданай, дзелавой, канкрэтнай работай.

Інструктары павінны памятаць, што яны працуюць у партыйным апараце, што іх указанні ўспрыймаюцца як указанні партыі. І сапраўды, гэта на самай справе мае месца. Але аб чым гэта гаворыць? Гэта яшчэ не заўсёды гаворыць аб добрай рабоце інструктара. Гэта гаворыць аб агромным аўтарытэце, які заваявала сабе партыя пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК, пад кіраўніцтвам тав. Сталіна.

ЦК КП(б)Б не ёсць нешта адарванае, што жыве адасобленым жыццём. ЦК КП(б)Б прадстаўляе ў Беларусі ЦК ВКП(б), а вялікі аўтарытэт ЦК ВКП(б) вельмі моцны. Ён, што называецца, заваёван жыццём, работай, барацьбой за прынцыпы нашай партыі і справу будаўніцтва соцыялізма.

Аўтарытэт-жа нашага ЦК партыі пераходзіць на гарадскі камітэт партыі, на райком, на інструктара. Але ці значыць гэта, што на кожным заводзе, на кожным участку работа інструктара з'яўляецца здавальняючай? Не, не заўсёды здавальняюча.

К рабоце інструктара і к рабоце апарата партыі прад'яўляюцца асобыя патрабаванні. Асабліва работніку партыйнага апарата трэба ўмець на справе, заўсёды паказваць узоры ленінска-сталінскага стыля работы.

Мы, як партработнікі, павінны паказваць узоры работы ва ўсіх звеннях, на ўсіх участках. Партыйны апарат, вядома, падбіраецца асобым парадкам. Гэта, зразумела, не значыць, што на іншых участках горшыя людзі сядзяць. Зусім не так. Але гэта значыць, што партыйны апарат асобых людзей падбірае, каб у партыйным апараце былі сапраўды крыштальныя большэвікі, якія ўмеюць па-большэвіцку змагацца за справу пролетарыята.

Тым часам добрай пастаноўкаю партыйнай работы мы далёка яшчэ не можам пахвастацца.

Мы нядаўна чыталі дакладную запіску інструктара гомельскай партыйнай арганізацыі па пытанню аб прапрацоўцы і рэалізацыі рашэнняў пленума ЦК. Што кінулася ў вочы? Партработа, як правіла, крыху зрушылася пасля рашэння ЦК ВКП(б), але работа інструктара—асноўнага звяна ў партрабоце—з'яўляецца яшчэ вельмі нездавальняючай. Інструктар многа яшчэ адміструе, многа гастраліруе па прадпрыемствах. Але, каб узяць адно звяно і давесці да канца, як гэта патрабуе партыйная работа, гэтага далёка яшчэ няма.

Галоўны недахоп у перабудове партыйнай работы выражаецца ў дрэнным кіраўніцтве інструктарамі работай парткомаў і, з другога боку, у дрэнным кіраўніцтве гаркома партыі інструктарам, бо, як правіла, гарком партыі не кіруе інструктарам, як належыць. У прыватнасці, у некаторых гаркомах інструктар не мае прамога вольнага доступу к сакратару. Сакратар увесь час спасылаецца на тое, што ў яго многа дзяржаўнай работы, што ў яго дрэнная справа з профсаюзамі, што ён павінен займацца хлебазакупкамі, сяўбой і т. д. А партыйная работа часта не з'яўляецца рашаючай. Зусім недастаткова партыйна-выхаваўчая работа, работа па павышэнню ідэалагічнага ўзроўню членаў партыі, а тым больш—арганізатарская партыйная работа сакратара парткома, райкома.

Мы павінны дабіцца, каб партыйная работа была ў цэнтры ўвагі партыйных работнікаў. А гэтага невыстарчае ў рабоце промаддзела, у рабоце іншых аддзелаў ЦК КП(б)Б і яшчэ больш у рабоце гаркомаў, інструктароў і парткомаў.

Калі возьмем партком якога-небудзь прадпрыемства, то ўбачым, што ў радзе выпадкаў сакратар парткома лічыць сябе самай вялікай уладай на прадпрыемстве. Як сакратар парткома, ён ведае, што можа закаціць вымову таму ці іншаму комуністу, можа зрабіць адпаведнае ўздзеянне і інш. і часта сваю работу зводзіць да адміністравання. Тым часам ён забывае, як умела трэба карыстацца сваім правам, падпарадкваўшы ўсё гэта справе выхавання і мабілізацыі комуністаў і беспартыйных рабочых на барацьбу за генеральную лінію партыі.

Калі сакратар парткома, інструктар будзе больш працаваць над павышэннем палітычнага ўзроўню комуністаў, правільна будаваць рабэту партыйнай арганізацыі, ведаць людзей, кожнага комуніста,

то яго сіла і аўтарытэт ва многа раз павялічацца. А часта іменна гэта ўпускаецца з-пад увагі. Хапаючыся за знешні бок пытання, сакратар парткома многа адмініструе, але вельмі мала выхоўвае, кіруе, арганізуе людзей. Ён забывае, што галоўная сіла—у арганізатарскай, партыйна-выхаваўчай рабоце, бо калі людзей ён ведае, з людзьмі звязваецца, людзі да яго прыходзяць, ён ведае кожны вінцік, усе станоўчыя бакі, усе недахопы ў рабоце прадпрыемства, дзе што робіцца і інш. Ён будзе мацней, будзе карыстацца сапраўдным аўтарытэтам большэвіка.

Трэба, каб сакратар парткома дапаўняў дырэктара і разам з ім змагаўся за выкананне промфінплана. Толькі пры гэтай умове не будзе парушацца адзінаначалле, на прадпрыемстве будзе забяспечана дружная работа сакратара парткома і дырэктара. Калі дырэктар не партыйны чалавек, і не разумее, калі ставіш перад ім адзін раз пытанне, другі, трэці, пяты раз, ці не хоча разумець, лічачы, што дырэктар ні аб якой партыйнай і профсаюзнай рабоце ведаць не павінен, тады вы можаце ставіць гэтую справу перад адпаведнай арганізацыяй аб яго партыйнасці. Але рабіць гэта трэба на аснове цэлага раду фактаў, якія вы будзеце мець у сваіх руках, раз вы будзеце звязаны з масай, будзеце працаваць з комуністамі, дыхаць жыццём прадпрыемства, ведаць недахопы і наяўныя прарывы ў рабоце.

Сакратар парткома павінен у той-жа час памятаць, што ён адказвае за работу прадпрыемства, адказвае іменна за тое, як ён арганізоўвае комуністаў і шырокія масы рабочых на выкананне промфінплана прадпрыемствам.

На якой падставе сакратар парткома павінен выносіць вымову дырэктару за невыкананне промфінплана (як гэта ў нас сям-там было), калі партыйныя арганізацыі і партком разам з дырэктарам адказваюць за выкананне промфінплана?

Калі мы будзем ставіць пытанне аб дрэннай партыйнай рабоце данага прадпрыемства, то мы паглядзім таксама, як адносіўся да яе і дырэктар. Калі ён маўчаў і патураў дрэннай пастаноўцы партыйнай работы, то мы і з яго спытаем адказу, бо ён комуніст, к таму-ж развіты, падкаваны комуніст, які адказвае і за партыйную работу на прадпрыемстве. Не можа так стаяць пытанне, што дырэктар адказвае толькі за промфінплан, а партком—толькі за палітычную, культурна-бытавую работу. Паміж імі павінна быць цесная ўзаемасувязь. З гэтага пункту погляду нам трэба ўзяць аднаго-другога інструктара, сакратара парткома і паглядзець, як у іх пастаўлена работа, а вывады апублікаваць, раздрукаваць, каб людзі ведалі.

Перабудова партыйнай работы патрабуе, акрамя таго, большэвіцкай культуры, граматнасці ў рабоце, авалодання тэхнікай партыйнай работы. А з гэтай культурай у нас далёка не ўсё добра. Як прыклад дрэннай работы, возьмем створаную тут вамі лятучую газету «Изюминка». Не будзем гаварыць па сутнасці змешчаных ў ёй артыкулаў. Дапусцім нават, што добра напісалі. Разгледзім яе з пункту погляду граматнасці. Колькі памылак тут! Знарок ўчытваешся, чытаеш і ніяк не зразумееш. Тут напісана не «у дакладзе», а «у докаде». Гэта-ж неахайнасць. Нават малаграматны чалавек так не напіша. Гэта гаворыць аб тым, што ў людзей неахайнасць, а гэта неахайнасць часта шкодзіць справе. Раз вы пішаце неахайна, то як-жа вы працуеце... Таксама неахайна? (смех). Калі вы тут пішаце «муччані-

каў» праз два «ч», то гэта—няграматнасць плюс неахайнасць, якая шкодзіць нашай рабоце.

Нам пара адкінуць, як шкодную, непатрэбную справу, бахвальства, моў, «я—рабочы і таму пішу дрэнна». Нам патрэбна аўладаць граматай, культурай, тэхнікай. Партыя, совецкая ўлада прадастаўляюць нам агромныя магчымасці ў аўладанні ведамі, культурай. Мы з поспехам будуем бяскласавае соцыялістычнае грамадства, мы павінны абагнаць капіталістычныя краіны, але мы не вырашым гэтай задачы без аўладання тэхнікай, культурай, граматай. Нам трэба выхоўваць людзей у тым духу, што аўладанне культурай, граматай з'яўляецца цяпер неабходнай, рашаючай задачай у справе перамогі соцыялізма ў нашай краіне, бо «галоўнае зараз у людзях, аўладаўшых тэхнікай» **(Сталін).**

Або другое пытанне—аб знадворным выглядзе. У нас многа такіх таварышоў, нават у большасці не рабочых: разадзенецца так, што брыдка глядзець на яго—пояс на баку, ці наогул пояса няма, штаны спаўзаюць, бацінкі не зашнураваны і, нарэшце, нячэсаны і брудны і агідны. А лічыць сябе архірэволюцыянерам, думаючы, што сваім выглядам набліжаецца к рабочаму. Па сутнасці справы ён паклёпнічае на рабочых, таму што ў нас рабочы клас культурна вырас. Яго цяга к культуры, цяга к росту—нябачаныя ў свеце. Мы павінны самі паказваць прыклад культурнасці нават у знадворным выглядзе, ведучы за сабою рабочыя масы.

У нас іншы раз (праўда, ужо рэдка) лічаць—калі партыйны работнік, то павінен з'яўляцца брудным, замухрышкай. Няверна гэта, нядобра. Пара быць культурнымі. Але быць культурнымі гэта не значыць шчыгаляць. Не трэба гэтага. Быць культурнымі людзьмі патрэбна не толькі для нас саміх, а таксама, і галоўным чынам, для таго, каб яшчэ мацней падняць масы на барацьбу за культуру.

А гэты-ж дакумент—гэта газета—паказвае, што многія таварышы неахайна пішуць, вельмі мала працуюць над павышэннем свайго культурнага ўзроўню, не чытаюць мастацкай літаратуры. А зараз без гэтага нельга кіраваць масай. Інструктары гаркома, к прыкладу інструктар па прамысловасці, абавязкова сустракаецца з цэлым радам гаспадарчых арганізацый і навучальных устаноў, якія абслугоўваюць прамысловасць. Ён мае справу з маладымі студэнтамі, якія цікавяцца совецкай і мастацкай літаратурай, сочаць за ёю, хочуць расці, гутарыць на гэту тэму. У якім-жа становішчы акажацца інструктар гаркома партыі ці сакратар парткома, калі ён не здолее адказаць на цікавячыя моладзь пытанні. Такі інструктар, сакратар парткома не будзе мець аўтарытэта, з імі не будуць лічыцца, бо замест таго, каб быць вышэй радавых членаў партыі, яны адстаюць ад жыцця, ад палітычных і культурных запросаў мас.

Не абавязкова вы павінны ведаць абсалютна ўсіх пісьменнікаў, але асноўных ведаць павінны. У кожным разе павінны абавязкова чытаць тыя кнігі, якімі ўся совецкая грамадскасць цікавіцца.

Вы можаце сказаць:—Кніг няма, кніг не даюць. Тут, сапраўды, многа бясчынства. Тав. Коніку трэба моцна папрацаваць на гэтым участку: трэба ведаць, дзе кнігі, якая цана гэтых кніг, як яны ідуць, суткі ці месяц да Гомеля, а пакуль яны дойдуць да Гомеля ці не разбіраюць іх і т. д. За гэтай справай трэба паглядзець, гэта адказная, важнейшая работа. Але, з другога боку, нікуды не варта, калі таварышы ад нарады к нарадзе прыходзяць з патрабаваннямі, што

няма кніг, няма грошай і т. д., а над сабою не працуюць. Якія-ж мы арганізатары, большэвікі, калі самі не можам паставіць гэта пытанне на месцы так, каб справа закіпела і дабіцца неабходнага. Трэба біцца за кнігі, бо кніга сама да вас не прыдзе. Трэба весці барацьбу, каб кніжку дастаць.

Пытанні культуры набылі вельмі важнае значэнне. Тут ў нас ёсць рад недахопаў. Трэба іх выжываць хутчэй. Нам трэба па-большэвіцку змагацца за культуру. Змагацца за марксізм, за ленінізм у тэорыі і на практыцы. Змагацца за тое, каб кнігі тав. Сталіна яшчэ і яшчэ шырэй чыталіся. Цяпер, як ніколі, патрэбны веды, трэба быць узброенымі, каб разбіць класавага ворага на тым ці іншым участку, дзе ён паспрабуе вылезці.

Уся наша краіна, партыя, рабочыя, калгаснікі змагаюцца за выкананне рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК. У гэтых пытаннях вы—інструктары, сакратары парткомаў—павінны не толькі што называецца добра разбірацца, але на-зубок ведаць гэтыя рашэнні.

Тое-ж самае адносіцца да ўсіх важнейшых рашэнняў партыі, рашэнняў XVII партз'езда, дакладаў правадыроў, дырэктыўных матар'ялаў партыі і ўрада.

Трэба прадумаць гэтую справу і паставіць яе так, каб інструктар меў 2—3 гадзіны ў дзень спецыяльна для работы па аўладанню марксізмам-ленінізмам, мастацкай літаратурай і інш. Інструктары павінны больш ведаць, рухацца ўперад, мацней заняцца, па сутнасці, партыйнай работай, каб яшчэ больш узмацніць аўтарытэт, вагу і ўплыў партыі сярод шырокіх працоўных мас.

Вы—інструктары. Вы сустракаецеся з парткомам, членамі партыі. Вы—тое звяно, якое непасрэдна жыве ў катле ўсяго партыйнага жыцця. І калі вы будзеце грубы, некультурны, не будзеце ведаць работы, мала займацца—вы сваёй задачы не выканаеце.

Калі вы—сакратары партыйных камітэтаў, партарганізатары, інструктары—не будзеце для комуністаў ідэйнымі кіраўнікамі, памочнікамі, чуткімі і дбайнымі таварышамі, не будзеце тым рычагом, вакол якога рухаецца ўсё партыйнае жыццё, то партыйная работа ў нас не будзе пастаўлена на тую вышыню, якую патрабуюць ад нас рашэнні XVII з'езда партыі. Да вас звяртаюцца за спраўкамі, пытаюцца як працаваць, як арганізоўваць партыйную работу, і вы абавязаны расказаць, даць адказ на ўсе хвалюючыя пытанні.

Калі-б партыйная работа была ў нас, на Беларусі, усюды добра пастаўлена, калі-б кожны член партыі ведаў добра сваё месца ў партыйным апараце і на партыйнай рабоце, калі-б кожны член партыі добра разумеў, што значыць ідэйная, большэвіцкая арганізацыя партыйнай работы ў любым звяне, на любым участку нашага соцыялістычнага будаўніцтва і па-большэвіцку змагаўся за выкананне даручанай яму справы, то паверце, таварышы, што з класавым ворагам і яго агентурай, якія за апошні час, у сувязі з нашымі поспехамі, актывізуюцца, мы пакончылі-б быстрэй. Іменна таму, што мы недастаткова пільны, крыху расхлябаны, не заўсёды як след займаемся партыйнай работай, хапаемся за знешнія атрыбуты—гэтым часта карыстаецца класавы вораг, імкнучыся праводзіць сваю контррэволюцыйную работу.

Каб паспяхова вырашыць грандыёзнейшыя задачы другой пяцігодкі, знішчыць карэнні капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, каб наша соцыялістычная радзіма—СССР—стала адною з самых магутных і палітычна, і гаспадарча, і ў ваенных адносінах

краін свету, нам трэба паставіць сваю партыйную работу так, як пра гэта гаворыць і вучаць нас Ленін, Сталін, Кагановіч. Нам трэба так паставіць партыйную работу, каб кожны комуніст, працуючы па-сталінску, штодзённа адчуваў жыццё партыі, дыхаў ім, працаваў, закасаўшы рукавы.

У цэнтры нашай увагі павінна быць аснова асноў—партыйная работа. Мы павінны так, яе паставіць, каб на ўсіх участках нашай работы ўсё больш і больш узмацнялі аўтарытэт, магутнасць, кіруючую ролю партыі Леніна—Сталіна. **(Бурныя апладысменты.)**

---





А. Каўлін

# Перамога ленінска-сталінскага плана пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне

Соцыялістычная рэволюцыя гвалтоўна звяргае капіталістычны лад, разбівае старую дзяржаўную машыну і ўстанаўляе дыктатуру пролетарыята, якая адкрывае пераходны перыяд ад капіталізма к соцыялізму—перыяд рэволюцыйнага пераўтварэння капіталізма ў соцыялізм.

Звяржэнне буржуазіі і ўстанаўленне дыктатуры пролетарыята не азначае, што класавая барацьба скончана, наадварот—яна прадаўжаецца і абвастраецца, набываючы ўсё новыя, адкрытыя і замаскаваныя формы.

Маркс у «Крытыцы Гоцкай праграмы» піша:

> «Паміж капіталістычным і комуністычным грамадствам ляжыць перыяд рэволюцыйнага ператварэння першага ў другое. Гэтаму перыяду адпавядае і палітычны пераходны перыяд, і дзяржава гэтага перыяда не можа быць нічым іншым, акрамя як **рэволюцыйнай дыктатурай пролетарыята».**

З поваду гэтых слоў Маркса Ленін у сваёй кнізе аб рэнегаце Каўцкім піша, што тут падведзен вынік усяму рэволюцыйнаму вучэнню Маркса. Вось чаму супроць дыктатуры пролетарыята так шалёна выступае ўся сусветная буржуазія, уся зграя соцыял-фашызма, контррэволюцыйныя трацкісты-зіноўеўцы і ўсе іншыя разгромленыя партыяй апазіцыі.

Адносіны да дыктатуры пролетарыята—галоўнага пытання марксізма-ленінізма—заўсёды былі тым водападзелам, які аддзяляў марксістаў ад рэвізіяністаў і апартуністаў. Гэтыя адносіны выявілі апартуністычнае нутро II Інтэрнацыянала яшчэ задоўга да яго адкрытага пераходу ў лагер буржуазіі. Няма такой «апазіцыі» у гісторыі нашай партыі, якая-б не выступала супроць ленінска-сталінскага вучэння аб дыктатуры пролетарыята.

Ленін узбагаціў марксізм, развіўшы яго далей, прыстасоўна да эпохі імперыялізма. Ленін узняў вучэнне Маркса на новую, вышэйшую ступень, на ступень ленінскага этапа марксізма.

Ленін стварыў, выпеставаў і загартаваў большэвіцкую партыю ў шматлікіх баях з класавым ворагам і яго агентурай, з апартуністамі ўсіх масцей.

Ленін стварыў Комуністычны Інтэрнацыянал, заклаў яго тэарэтычныя, тактычныя і арганізацыйныя асновы ў бязлітаснай барацьбе з міжнародным меншавізмам.

Ленін навукова абгрунтаваў магчымасць пабудовы соцыялістычнага грамадства ў адной краіне. У процівагу буржуазнай меншавіцка-трацкісцкай тэорыі аб немагчымасці перамогі соцыялістычнай рэволюцыі ў адной краіне Ленін распрацаваў пытанне аб магчымасці перамогі соцыялізма спачатку ў адной краіне, выходзячы з няроўнамернага скачкаватага развіцця капіталізма ў эпоху імперыялізма і магчымасці прарыву імперыялістычнага ланцуга ў найбольш слабым звяне.

> «Няроўнамернасць эканамічнага і палітычнага развіцця ёсць безумоўна закон капіталізма. Адсюль вынікае, што магчыма перамога соцыялізма першапачаткова ў нямногіх або нават у адной паасобна ўзятай капіталістычнай краіне. Перамогшы пролетарыят гэтай краіны, экспрапрыяваўшы капіталістаў і арганізаваўшы ў сябе соцыялістычную вытворчасць, паўстаў-бы супроць астатняга капіталістычнага свету, прыцягваючы да сябе прыгнечаныя класы і іншых краін, падымаючы ў іх паўстанне супроць капіталістаў, выступаючы ў выпадку неабходнасці нават з ваеннай сілай супроць эксплаататарскіх класаў і іх дзяржаў». *)

Такава асноўнае палажэнне ленінізма аб перамозе соцыялізма ў адной краіне. Гэтую цэнтральную ідэю Ленін нязменна адстойваў і развіваў на ўсіх этапах пролетарскай рэволюцыі.

Ленінскі этап марксізма т. Сталін характарызуе так:

> «Новае ў Леніна ў гэтай галіне заключаецца ў тым, што: а) ён абгрунтаваў магчымасць пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства ў краіне дыктатуры пролетарыята, акружанай імперыялістычнымі дзяржавамі пры ўмове, што гэта краіна не будзе задушана ваеннай інтэрвенцыяй акружаючых капіталістычных дзяржаў; б) ён намеціў канкрэтныя шляхі эканамічнай палітыкі («новая эканамічная палітыка»), пры дапамозе якіх пролетарыят, маючы ў руках эканамічныя камандныя вышыні (прамысловасць, зямлю, транспарт, банкі і т. п.), змыкае соцыялізаваную індустрыю з сельскай гаспадаркай («змычка індустрыі з сялянскай гаспадаркай») і вядзе, такім чынам, усю народную гаспадарку к соцыялізму; в) ён намеціў канкрэтныя шляхі паступовага падводу і ўцягнення асноўных мас сялянства ў русло соцыялістычнага будаўніцтва праз кааперацыю, якая прадстаўляе ў руках пролетарскай дыктатуры велізарнейшы сродак пераробкі дробнай сялянскай гаспадаркі і перавыхавання асноўных мас сялянства ў духу соцыялізма». **)

Ленін распрацаваў пытанне аб тым, якім шляхам ператварыць гэту магчымасць у рэчаіснасць. Ён даў знішчальную крытыку соцыял-фашысцкім трацкісцка-зіноўеўскім тэорыям аб недаспеласці нашай краіны для соцыялістычнай рэволюцыі, ускрыўшы ўсю іх контррэволюцыйную сутнасць.

Ленін абгрунтаваў тое палажэнне, што мы можам пачаць з заваявання рэволюцыйным шляхам прадпасылак соцыялізма і ўжо на

*) **Ленин**, т. XXIV, стар. 107.
**) **Сталін**, Пытанні ленінізма, стар. 264—265.

аснове совецкага ладу рушыць даганяць іншыя народы. У нас ёсць усё неабходнае, гаварыў Ленін, каб на аснове совецкага ладу, на аснове дыктатуры пролетарыята дасягнуць паспяховай перамогі социялізма.

Тав. Сталін далей развівае і ўзбагачвае ленінізм. Тав. Сталін развіў і распрацаваў далей марксісцка-ленінскае вучэнне аб пабудове соцыялізма ў адной краіне, адстаяў гэта вучэнне ад нападаў контррэволюцыйнага трацкізма, трацкісцка-зіноўеўскага блока і правага апартунізма і разбіў ушчэнт гэтых агентаў класавага ворага ўнутры нашай партыі. Тав. Сталін выкрыў спробу Троцкага, Зіноўева, Каменева сфальсіфікаваць Маркса—Энгельса—Леніна ў пытанні аб пабудове соцыялізма ў адной краіне, шляхам грубейшага ігнаравання розніцы паміж даманапалістычным капіталізмам і эпохай імперыялізма, шляхам адмаўлення закона няроўнамернага развіцця манапалістычнага капіталізма. Тав. Сталін выкрыў контррэволюцыйную сутнасць трацкізма, накіраваную супроць будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, а значыць, і ва ўсім свеце. Тав. Сталін выкрыў перад партыяй і рабочым класам правых апартуністаў, адмаўляючых шляхі і метады будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, якімі рабочы клас, кіруемы ленінска-сталінскай партыяй, ішоў к перамозе.

З выключнаю сілай і глыбінёй т. Сталін распрацаваў пытанне аб разгорнутым наступленні соцыялізма па ўсяму фронту. Тав. Сталін распрацаваў пытанне аб соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны на аснове высокіх тэмпаў і напружаных планаў, як адзіным шляху будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне. Тав. Сталін распрацаваў пытанне аб суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як класа, аб формах дзяржаўнага кіраўніцтва калгасамі.

Ён распрацаваў далей пытанне аб ліквідацыі многаўкладнасці ў нашай эканоміцы, аб стварэнні фундамента соцыялістычнай эканомікі і на гэтай аснове пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Тав. Сталін распрацаваў пытанне аб немінучасці абвастрэння класавай барацьбы ў перыяд ліквідацыі класаў, аб новых формах гэтай барацьбы, аб новай тактыцы класавага ворага дзейнічаць «ціхаю сапай», аб новай тактыцы двурушніцтва падонкаў усякіх разбітых, разгромленых апазіцый у іх барацьбе супроць партыі.

Тав. Сталін не толькі тэарэтычна распрацаваў пытанне аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне і тым самым падняў марксісцка-ленінскае вучэнне на новую, вышэйшую ступень, але адначасова арганізаваў практычнае ператварэнне ў жыццё гэтага вучэння, арганізаваў барацьбу пролетарыята за перамогу соцыялізма. Пад яго кіраўніцтвам большэвіцкая партыя перамагла ў барацьбе з класавым ворагам і яго агентурай—апартунізмам унутры партыі. Пад кіраўніцтвам т. Сталіна «Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай», соцыялізм ужо перамог, ператварыўшыся з мары ў рэальную рэчаіснасць. Магчымасць перамогі соцыялізма ў адной краіне даказана на справе.

Тав. Сталін з выключнаю сілай і глыбінёй распрацаваў пытанне аб умацаванні на ўсіх этапах будаўніцтва соцыялізма дыктатуры пролетарыята і ролі партыі ў сістэме дыктатуры пролетарыята, як асноўнага фактара перамогі соцыялізма, пытанне абароны краіны, як неад'емную, састаўную частку пытання пабудовы соцыялізма ў нашай краіне.

Ленін і Сталін з выключнаю сілай ускрывалі вялікую кіруючую, пераўтвараючую, творчую ролю дыктатуры пролетарыята ў галіне эканамічнай, яе рашаючую ролю ў карэннай пераробцы старой эканомікі, атрыманай у спадчыну ад капіталізма, у эканоміку соцыялізма.

Характарыстыку дыктатуры пролетарыята, усё багацце яе зместу Ленін дае ў наступных словах:

«Дыктатура пролетарыята ёсць самая лютая, самая вострая, самая бязлітасная вайна новага класа супроць **больш магутнага** ворага, супроць буржуазіі, супраціўленне якой **падзесяцярона** яе звяржэннем... Дыктатура пролетарыята ёсць упартая барацьба, крывавая і бяскроўная, гвалтоўная і мірная, ваенная і гаспадарчая, педагагічная і адміністратарская, супроць сіл і традыцый старога грамадства». *)

Тав. Сталін, развіваючы далей ленінскае вучэнне, указвае на тры асноўныя бакі дыктатуры пролетарыята.

«1. Скарыстанне ўлады пролетарыята для падаўлення эксплаататараў, для абароны краіны, для ўмацавання сувязей з пролетарыямі іншых краін, для развіцця і перамогі рэволюцыі ва ўсіх краінах.

2. Скарыстанне ўлады пролетарыята для канчатковага адрыву працоўных і эксплаатуемых мас ад буржуазіі, для ўмацавання саюза пролетарыята з гэтымі масамі, для ўцягнення гэтых мас у справу соцыялістычнага будаўніцтва, для дзяржаўнага кіравання гэтымі масамі з боку пролетарыята.

3. Скарыстанне ўлады пролетарыята для арганізацыі соцыялізма, для знішчэння класаў, для пераходу ў грамадства без класаў, у грамадства без дзяржавы». **)

Пры дыктатуры пролетарыята класавая барацьба абвастраецца. Супраціўленне эксплаататараў можна зламаць толькі ў самай жорсткай класавай барацьбе. Задача дыктатуры пролетарыята—зламаць гэта супраціўленне, ліквідаваць эксплаататарскія класы, прыцягнуць мільённыя масы працоўнага сялянства к будаўніцтву соцыялізма, перавесці дробна-таварную сялянскую гаспадарку на новыя рэйкі буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі і на аснове суцэльнай калектывізацыі ліквідаваць кулацтва як клас.

Тэорыя перамогі соцыялізма ў адной краіне створана класікамі марксізма—Марксам, Энгельсам, Леніным і Сталіным. На аснове гэтай тэорыі партыя Леніна і Сталіна арганізавала перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

Толькі дыктатура пролетарыята, кіруючая роля партыі ў сістэме дыктатуры пролетарыята забяспечваюць знішчэнне класаў і пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Дзейсная сіла дыктатуры пролетарыята ў тым і заключаецца, што ёю кіруе ленінска-сталінская партыя на чале з т. Сталіным. Яна з'яўлялася і з'яўляецца асноўнай рашаючай сілай перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

*) **Ленін**, т. XXV, стар. 173; 191.
**) **Сталін**, Пытанні ленінізма, стар. 201.

* *
*

Пасля Окцябрскага перавароту мы атрымалі ў спадчыну адсталую эканоміку старой царскай Расіі, у дадатак зусім расстроеную імперыялістычнай вайною.

Звергнуўшы буржуазію пролетарыят аўладаў эканамічнымі камандными вышынямі. Кіруемы ленінскай партыяй, ён паставіў перад сабою задачу—ажывіць разрушаную вайной эканоміку, разгарнуць будаўніцтва социялізма. Ленін гэту задачу акрэсліў у 1918 г. у сваёй брашуры «Аб чарговых задачах совецкай улады»:

> «На чаргу дня высоўваецца аднаўленне разрушаных вайной і гаспадараннем буржуазіі прадукцыйных сіл;—вылячэнне ран, нанесеных вайной, паражэннем ў вайне, спекуляцыяй і спробамі буржуазіі аднавіць звергнутую ўладу эксплаататараў;—эканамічны ўздым краіны;—моцная ахова элементарнага парадку».*)

Аднаўленне разрушаных вайной і гаспадараннем буржуазіі прадукцыйных сіл для эканамічнага ўздыму краіны—вось што высоўваецца на чаргу дня перад дыктатурай пролетарыята.

У тым-жа артыкуле Ленін указвае, якім шляхам можна вырашыць задачу эканамічнага ўздыму краіны і забяспечыць перамогу социялізма:

> «Вядзі акуратна і добрасумленна падлік грошай, гаспадарнічай эканомна, не лодырнічай, не крадзі, захоўвай найстражэйшую дысцыпліну ў працы,—іменна такія лозунгі, якія справядліва асмейваліся рэволюцыйнымі пролетарыямі тады, калі буржуазія прыкрывала падобнымі гутаркамі сваё панаванне, як класа эксплаататараў, становяцца цяпер, пасля звяржэння буржуазіі, чарговымі і галоўнымі лозунгамі моманту. І практычнае правядзенне ў жыццё гэтых лозунгаў масай працоўных з'яўляецца, з аднаго боку, **адзінай** умовай выратавання краіны..., а, з другога боку, практычнае правядзенне ў жыццё гэтых лозунгаў **совецкаю** ўладай, **яе** метадамі, на падставе **яе** законаў, з'яўляецца неабходным і **дастатковым** для канчатковай перамогі социялізма». **)

«Левыя комуністы» выступілі супроць скарыстання дзяржкапіталізма, супроць укаранення социялістычнай дысцыпліны працы, супроць прыцягнення буржуазных спецыялістаў. Сваёй дробна-буржуазнай фразеалогіяй аб наступленні на капіталізм яны хацелі адцягнуць партыю ад высунутай Леніным гаспадарчай праграмы будаўніцтва социялізма. Ленін выкрыў антымарксісцкую, антыпартыйную сутнасць «левых комуністаў». Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам партыя ў гэты-ж перыяд прымала рашучыя меры для ўздыму сельскай гаспадаркі.

Грамадзянская вайна затрымала на некаторы час ажыццяўленне раней намечанага плана ўздыму і перабудовы эканомікі на социялістычны лад. Звергнутая буржуазія, эксплаататарскія класы і ўнутраная контррэволюцыя, сканцэнтраваўшы на акраінах усе свае контррэволюцыйныя сілы, пры падтрыманні імперыялістычных краін жалезным кальцом акружылі маладую совецкую рэспубліку, каб задушыць яе, звергнуць дыктатуру пролетарыята і аднавіць капіталізм.

*) Ленін, т. XXII, стар. 442.
**) Ленін, т. XXII, стар. 443.

На абарону заваёў Окцябра і разгром класавага ворага пролетарыят і працоўныя масы рэспублікі, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі мабілізавалі ўсе свае сілы і сродкі.

Гэты перыяд у гісторыі нашай барацьбы, вядомы як перыяд ваеннага комунізма, характэрны тым, што ўся гаспадарка падначалена была задачам абароны краіны супроць інтэрвентаў і белагвардзейскіх банд, увесь гаспадарчы арганізм быў максімальна цэнтралізаваны. Праводзілася палітыка главкізма і продразвёрсткі.

Беднякоў пролетарыят арганізаваў у камітэты беднаты для расправы з кулаком. Пад кіраўніцтвам пролетарыята камбеды перадалі беднаце частку зямлі і інвентара кулацкіх гаспадарак, зламалі эканамічнае і палітычнае супраціўленне кулацтва. Бедната дапамагла партыі і пролетарыяту адбіраць хлеб у кулакоў.

У гады грамадзянскай вайны Ленін высоўвае задачу моцнага саюза з серадняком. У артыкуле аб Піцірыме Сарокіне (лістапад 1918 г.) Ленін пісаў:

> «Умець дасягаць згоды з сярэднім селянінам—ні на мінуту не адмаўляючыся ад барацьбы з кулаком і моцна апіраючыся толькі на беднату—гэта задача моманту, бо іменна цяпер паварот у сярэднім сялянстве ў наш бок немінучы». *)

Ленін увесь час узмоцнена падкрэсліваў агромную палітычную і эканамічную важнасць саюза з сялянствам, указваючы, што ад правільных адносін да сялянства залежыць поспех, далейшае прасоўванне наперад—к соцыялізму.

Для пабудовы соцыялізма (знішчэння класаў) пролетарыят павінен не толькі «звергнуць памешчыкаў і капіталістаў», але і знішчыць розніцу паміж рабочым і селянінам, зрабіць усіх работнікамі—гэта другая частка задачы, непараўнальна больш трудная. Каб вырашыць яе, пролетарыят павінен «няўхільна весці асноўную лінію сваёй палітыкі ў адносінах да сялянства, пролетарыят павінен раздзяляць, размяжоўваць селяніна працоўнага ад селяніна ўласніка»... у гэтым размежаванні—уся сутнасць соцыялізма. Толькі саюз пролетарыята і працоўнага сялянства, пад кіраўніцтвам пролетарыята і яго партыі, можа забяспечыць соцыялістычную перабудову дробна-сялянскай гаспадаркі.

Палітыка ваеннага комунізма была адзіна правільнай і забяспечыла перамогу дыктатуры пролетарыята над інтэрвенцыяй і ўнутранай контррэволюцыяй. Але яна не магла не адбіцца на эканамічным становішчы краіны: прамысловая вытворчасць рэзка скарацілася, вытворчае жыццё краіны занапала.

Пасля ліквідацыі фронтаў грамадзянскай вайны Ленін высунуў перад партыяй і рабочым класам план электрыфікацыі краіны («ГОЭЛРО»), бачачы ў ім адзіны паратунак ад разрухі, ад звароту к капіталізму. «**Калі** не электрыфікацыя, **усёроўна** немінучы зварот к капіталізму». **)
Усе лепшыя навуковыя і інжынерныя сілы краіны прыцягнуты былі да распрацоўкі плана электрыфікацыі пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна.

Ленін гаварыў, што комунізм ёсць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны. План электрыфікацыі ён называў другой праграмай партыі, якую трэба вывучаць ва ўсіх школах, і процістаўляў яго

*) **Ленін, т. XXIII, стар. 294.**
**) **Ленін, т. XXVI, стар. 313.**

ўсякім бюракратычна надуманым планам уздыму эканамічнага жыцця краіны.

Тав. Сталін адносна плана «ГОЭЛРО» пісаў Леніну:

> «Майстэрскі накід сапраўды адзінага і сапраўды дзяржаўнага плана без двукоссяў. Адзіная ў наш час марксісцкая спроба падвядзення пад совецкую надбудову гаспадарча адсталай Расіі сапраўды рэальнай і адзіна магчымай пры цяперашніх умовах тэхніка-вытворчай базы. Памятаеце леташні «план» Троцкага (яго тэзісы) «гаспадарчага адраджэння» Расіі на аснове масавага прымянення да аблюмкаў даваеннай прамысловасці працы неквааліфікаванай рабочай масы («працармія»). Якое ўбоства, якая адсталасць у параўнанні з планам «ГОЭЛРО». Сярэдневяковы саматужнік, які палічыў сябе ібсенаўскім героем, закліканым «выратаваць» Расію сагай старажытнай... А чаго варты дзесяткі «адзіных» планаў, якія з'яўляюцца то і справа ў нашым друку на ганьбу нам,—дзіцячы лепет прыгатавішак... Або яшчэ: абывацельскі «рэалізм» (на самай справе манілаўшчына) Рыкава, які ўсё яшчэ «крытыкуе» «ГОЭЛРО» і па вушы загразнуў у руціне». *)

Тав. Сталін выкрыў усё пустазвонства, усю нікчэмнасць і шкоднасць папяровых планаў Троцкага, нiяздольных ні паставіць, ні вырашыць ніводнага буйнага народна-гаспадарчага пытання, якое-б узняло эканамічнае жыццё краіны дыктатуры пралетарыята. Барацьба Леніна і Сталіна за план электрыфікацыі краіны супроць дробнабуржуазных планаў «літаратараў» (Крыцмана, Ларына і іншых), супроць бюракратычных планаў контррэволюцыянера Троцкага была барацьбой за індустрыялізацыю краіны, за прыцягненне асноўных мас сялянства да актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве социялізма. Створаны Ленiным і ажыццёўлены пад кіраўніцтвам т. Сталіна план «ГОЭЛРО» паслужыў сродкам у руках ленінска-сталінскай партыі для пераводу краіны на шырокі шлях паспяховага социялістычнага будаўніцтва.

Пераход да новай эканамічнай палітыкі азначаў пераход ад прадразвёрсткі да прадналога, да разгортвання гандлю як формы змычкі паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай—звяна, ухапіўшыся за якое, тады можна было выцягнуць увесь ланцуг.

Адкрыццё выхаду сельскагаспадарчых прадуктаў на рынак спрыяла хуткаму ўздыму сельскай гаспадаркі, а рост яе ў сваю чаргу азначаў забяспечанне прамысловасці сыравінай і рабочых харчамі. Уздым лёгкай прамысловасці азначаў ажыўленне гаспадарчай сувязі паміж пролетарскім горадам і бядняцка-серадняцкай вёскай, спрыяў разгортванню социялістычнага накаплення для аднаўлення цяжкай прамысловасці як базы социялізма.

Развіццё індывідуальнага гандлю, прыватнага тавараабмену пры рэгулюючай ролі пролетарскай дзяржавы азначала, акрамя ажыўлення гаспадарчага жыцця краіны і росту социялізма, некаторы рост капіталістычных элементаў. Буржуазныя эканамісты і палітыкі, трацкісты, зіноўеўцы, разглядаючы нэп як адступленне, сцвярджалі аб немінучасці перараджэння совецкага ладу, стварылі тэорыю «змены вех», тэорыю аднаўлення рускага капіталізма.

*) **Ленін.** Аб электрыфікацыі, стар. 66.

Партыя выкрыла контррэвалюцыйны, рэстаўратарскі характар гэтых тэорый. Тав. Сталін даў бліскучы аналіз палітыкі нэпа, як палітыкі пролетарскай дзяржавы, разлічанай на перамогу соцыялізма над капіталізмам.

Паміж соцыялізмам і капіталізмам разгортвалася барацьба пад знакам «хто каго», барацьба за тое, па якім шляху пойдуць асноўныя масы сялянства. Пакуль пераважала дробнатаварная гаспадарка ў эканоміцы краіны, для капіталізма захоўвалася больш шырокае поле. Патрэбна была індустрыялізацыя краіны, узмацненне кіраўніцтва сялянствам, разгортванне кааперацыі для таго, каб перавесці дробнатаварную вытворчасць на новыя соцыялістычныя рэйкі развіцця, абмежаваць і выцесніць капіталістычныя элементы горада і вёскі. Патрэбна было, каб «дробная, адасобленая сялянская гаспадарка, паступова яднаючыся, зарганізавала грамадскую, буйную земляробчую гаспадарку» *), толькі пры гэтай умове кааперацыя адкрывае беднаце і серадняцтву пераход на соцыялістычныя рэйкі развіцця, шлях соцыялістычнага будаўніцтва.

Пераход к нэпу, як і далейшае яго правядзенне, суправаджаўся вострай барацьбой супроць ухілаў унутры партыі. Партыя выкрыла контррэвалюцыйную сутнасць дробнабуржуазных сіндыкалісцкіх элементаў з рабочай апазіцыі, выступіўшых супроць мерапрыемстваў партыі, трацкісцкую тэорыю адзяржаўлення профсаюзаў, якая вяла к зрыву будаўніцтва соцыялізма, прымірэнчую буферную пазіцыю т. Бухарына ў спрэчках аб профсаюзах і правяла агромную барацьбу з лявацкімі элементамі, якія ідэалізавалі ваенны комунізм, метады якога яны спрабавалі перанесці ва ўмовы нэпа. Толькі непрымірымая класавая барацьба супроць капіталістычных і дробнабуржуазных элементаў унутры партыі, супроць трацкістаў і правых апартуністаў забяспечыла паспяховы пераход і разгортванне соцыялістычнага будаўніцтва на рэйках нэпа.

З усёй сілай і палкасцю пролетарскага рэвалюцыянера абрушваецца тав. Сталін на падняўшы галаву контррэвалюцыйны трацкізм, які спрабаваў звярнуць партыю з ленінскага шляху на шлях контррэвалюцыі.

Трацкізм выцягвае сваю контррэвалюцыйную тэорыю аб немагчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, аб немагчымасці пролетарскага кіраўніцтва асноўнаю масай сялянства, аб немагчымасці саюза з серадняком, аб немінучасці рэстаўрацыі капіталізма. Высоўваецца контррэвалюцыйная тэорыя крызіснага развіцця нашай гаспадаркі на прыкладзе «ножніц» 1923 года, контррэвалюцыйная тэорыя аб капіталістычнай законамернасці нашай эканомікі, аб пажыранні дробных таваравытворцаў, аб падначаленні нашай эканомікі сусветнаму капіталістычнаму раздзяленню працы, аб несоцыялістычным характары буйных дзяржаўных прадпрыемстваў, аб кулацкім засіллі і бязмежным росце капіталізма, аб нерэнтабельнасці буйных дзяржаўных прадпрыемстваў (прапанова закрыць Пуцілаўскі завод), аб пераражджэнні краіны і партыі (тэрмідор).

Тав. Сталін выкрыў контррэвалюцыйную сутнасць трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, як разнавіднасць міжнароднага меншавізма, накіраваную супроць соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, Тав. Сталін паказаў сусветнаму пролетарыяту здрадніцтва трацкізма,

*) Ленін, т. XXVI, стар. 299.

яго прадажнасць капіталу, разбіў створаную трацкістамі легенду, нібы Троцкі быў правадыром Чырвонай арміі і саратнікам Леніна ў Окцябрскія дні, паказаў капітулянцкую, авантурысцкую ролю Троцкага на фронтах грамадзянскай вайны, нанёс рашучы ўдар і прыгваздзіў контррэволюцыйны трацкізм да ганебнага слупа здраднікаў інтарэсам рабочага класа.

Краіна на рэйках нэпа расла і ўмацоўвалася. Прамысловая прадукцыя за пяць год павялічылася ў 5 з лішнім раз і перавысіла даваенны ўзровень.

З быстрым ростам прамысловасці хутка рос і тавараз варот. У 1922—23 гг. удзельная вага дзяржаўнага рознічнага гандлю складала толькі 14,4 проц. усяго таваразвароту, кааперацыі—10,3 проц., прыватніка—75,3 проц. А ў 1926—27 гг. удзельная вага дзяржгандлю пры агульным росце таваразвароту складала 13,3 проц., кааперацыі—49,8 проц., прыватніка—36,9 проц. Такім чынам дзяржаўны і кааперацыйны гандаль разам складалі 63,1 проц. Абсалютны рост прыватніка амаль спыніўся. У 1927 г., на XV з'ездзе партыі, тав. Сталін адзначыў, што праблема «хто каго» у сферы звароту ў асноўным вырашана:

> «У асноўным у гэтай галіне мы маем ужо рашаючыя поспехі. Адмовіць гэта могуць хіба толькі сляпыя або вар'яты. Зараз гэтае пытанне пераносіцца з галіны гандлю ў галіну вытворчасці, у галіну вытворчасці саматужнай, у галіну вытворчасці сельскагаспадарчай, дзе прыватны капітал мае сваю вядомую ўдзельную вагу і адкуль яго неабходна сістэматычна зжываць». *)

Адначасова адбываўся хуткі працэс аднаўлення сельскай гаспадаркі. У сельскай гаспадарцы кулацкія элементы яшчэ займалі значную ўдзельную вагу. Так, у 1926—27 гг. удзельная вага кулакоў у валавой прадукцыі хлеба складала 617 млн. пуд. або 13 проц., а ў таварнай—126 млн. пуд. або 20 проц.; удзельная вага соўгасаў і калгасаў 80 млн. пуд. або 1,7 проц., у таварнай—37,8 млн. пуд. або 6 проц., асноўная маса хлеба паступала ад бядняцка-серадняцкіх мас вёскі; удзельная вага серадйякоў і беднякоў—4052 млн. пуд. або 85,3 проц., у таварнай прадукцыі—466,2 млн. пуд. або 74 проц.

Якім трацкісцкім паклёпам на партыю Леніна і Сталіна выглядала ў святле гэтых даных зіноўеўска-каменеўская версія аб 60 проц. кулацкага хлеба ў хлебным балансе краіны—версія, якую выцягнуў зноў трацкіст Галендо ў сваім дакладзе на заводзе «Большэвік».

Партыя пад кіраўніцтвам тав. Сталіна, паспяхова завяршаючы аднаўленчы перыяд, падрыхтоўвала пераход к рэканструкцыйнаму перыяду. Яна разграміла «новую апазіцыю»—трацкісцка-зіноўеўскі блок, які выступае супроць будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне. Контррэволюцыйная група Троцкага—Зіноўева высунула трацкісцкую тэорыю аб тым, што нэп—гэта толькі адступленне, што буйныя прадпрыемствы пролетарскай дзяржавы дзяржкапіталістычныя, што на іх існуе эксплаатацыя. Група Зіноўева высунула контррэволюцыйную тэорыю аб тым, каб дзяржава надзяляла беднякоў коньмі, і проціпаставіла гэту рэакцыйную тэорыю, якая вяла да ўвекавечання дробнай сялянскай гаспадаркі, кааперацыйнаму плану Леніна. Тэорыя гэта неміnuча прывяла-б к рэстаўрацыі капіталізма. Контррэволюцыйны трацкізм выступаў супроць ленінскага кааперацыйнага плана пераводу дробных таваравытворцаў на соцыялістычныя рэйкі развіцця.

*) Сталін. Стэнаграфічная справаздача на XV партз'ездзе стар. 35.

Тав. Сталін выкрыў «новую апазіцыю» як самую беспрынцыпную, самую подлую з усіх антыпартыйных груп у гісторыі большэвізма. Факт забойства т. Кірава паказаў, да якой нізасці, агіднасці і подласці дашла гэта група, якім подлым двурушніцкім метадам яна змагалася супроць партыі і яе кіраўніцтва, супроць совецкай улады, супроць соцыялістычнага будаўніцтва.

Заканчэнне аднаўленчага перыяду рубам паставіла пытанне аб пераходзе к рэканструкцыйнаму перыяду. У краіне за гэты час адбыліся агромныя соцыяльныя зрухі, стварыліся новыя суадносіны класавых сіл. Соцыялізм умацаваў свае пазіцыі на аснове агульнага росту народнай гаспадаркі. Але гэта быў не просты рост, а рост кіруючай ролі прамысловасці ў народнай гаспадарцы, рост удзельнай вагі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, прасцейшых форм кааперавання. Гэты рост суправаджаўся абмежаваннем і выцясненнем паасобных атрадаў кулакоў.

Выкрываючы контррэволюцыйную сутнасць апазіцыйнага блока трацкістаў, якія сцвярджалі, што нэп ёсць толькі адступленне, што соцыялізма на гэтым шляху пабудаваць нельга, тав. Сталін даў разгорнутую ацэнку палітыкі нэпа як палітыкі пабудовы соцыялізма ў нашай краіне.

Тав. Сталін у 1925 г. на XIV з'ездзе партыі гаварыў:

> «Нэп ёсць асобая палітыка пролетарскай дзяржавы, разлічаная на дапушчэнне капіталізма, пры наяўнасці камандных вышынь у руках пролетарскай дзяржавы, разлічаная на барацьбу элементаў капіталістычных і соцыялістычных, разлічаная на ўзрастанне соцыялістычных элементаў у страту элементам капіталістычным, разлічаная на перамогу соцыялістычных элементаў над капіталістычнымі элементамі, разлічаная на знішчэнне класаў, на пабудову фундамента соцыялістычнай эканомікі». *)

Каб забяспечыць поспех планамернага наступлення супроць капіталізма, канчаткова вырашыць пытанне «хто каго» на карысць соцыялізма, забяспечыць перавод асноўных мас сялянства на новыя соцыялістычныя рэйкі, пакончыць з такім становішчам, калі наша гаспадарка трымалася на двух асновах: дробна-таварнай і буйнай соцыялістычнай вытворчасці, і дабіцца, каб гаспадарка трымалася толькі на соцыялістычнай аснове, каб забяспечыць пабудову фундамента соцыялістычнай эканомікі, пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства, неабходна было індустрыялізаваць краіну.

На XIV з'ездзе партыі, падводзячы вынікі нашым дасягненням, тав. Сталін паставіў перад усёй партыяй, пролетарыятам і ўсімі працоўнымі новыя грандыёзныя задачы: стварыць буйную індустрыю, каб падрыхтаваць перавод дробнай і раздробленай сельскай гаспадаркі на соцыялістычныя рэйкі.

> «Ператварыць нашу краіну з аграрнай у індустрыяльную, здольную вытвараць сваімі ўласнымі сіламі неабходнае абсталяванне—вось у чым сутнасць, аснова нашай генеральнай лініі».

XIV з'езд партыі ўвайшоў у гісторыю, як з'езд індустрыялізацыі. Праводзячы палітыку індустрыялізацыі краіны, партыя пад кіраўніцтвам тав. Сталіна разграміла контррэволюцыйную трацкісцка-зіноў-

*) Сталін. Аб апазіцыі, стар. 211.

еўскую апазіцыю і правы апартунізм. Тав. Сталін выкрыў як звыш-індустрыялізм, так і адкрытае паганенькае капітулянцтва контррэвалюцыйнага трацкізма:

«Не разграміўшы трацкісцка-праваапартуністычнай тэорыі «патухаючай крывой», мы не маглі-б разгарнуць ні сапраўднага планавання, ні павышэння тэмпаў і скарачэння тэрмінаў будаўніцтва». *)

Разгром контррэволюцыйнай тэорыі трацкізма быў абавязковаю ўмовай для перамогі палітыкі індустрыялізацыі краіны. Супроць індустрыялізацыі і разгорнутага наступлення соцыялізма на капіталізм выступілі правыя апартуністы—гэта кулацкая агентура ўнутры партыі. Яны высунулі тэорыю патухання класавай барацьбы ў перыяд дыктатуры пролетарыята, тэорыю ўрастання кулака ў соцыялізм.

Правыя апартуністы—гэтыя кулацкія агенты ў нашай партыі—высунулі тэорыю гандлёвай змычкі пролетарскага горада з вёскай у процівагу вытворчай змычцы, якая праводзілася Сталіным і партыяй на аснове індустрыялізацыі краіны. Адмаўляючы небяспеку росту капіталістычных элементаў на аснове палітыкі нэпа, яны ўсімі спосабамі спрыялі гэтаму росту. Узятаму партыяй курсу на індустрыялізацыю краіны яны проціпаставілі сваю капітулянцкую лінію раўнання на вузкія месцы, лінію пераважнага развіцця сельскай гаспадаркі, узаконення залежнай ад капіталістычнага свету аграрна адсталай краіны і аслаблення яе абараназдольнасці. Гэта разгорнутая праграма рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне была выкрыта партыяй пад кіраўніцтвам т. Сталіна, творцы і носьбіты яе разгромлены, як агенты класавага ворага ўнутры партыі.

Толькі паслядоўная да канца барацьба як з контррэволюцыйным трацкізмам, так і з правым ухілам унутры партыі забяспечыла паспяховае ажыццяўленне плана індустрыялізацыі краіны.

На XV партз'ездзе, побач з задачамі далейшай індустрыялізацыі краіны, тав. Сталін высунуў перад партыяй і пролетарыятам новую, самую цяжкую задачу пролетарскай рэволюцыі—задачу рэканструкцыі дробнай сялянскай гаспадаркі і пераводу яе на соцыялістычны шлях, як адзіны выхад для працоўнага сялянства з галечы і жабрацтва.

«Выхад—у пераходзе дробных і распыленых сялянскіх гаспадарак у буйныя і аб'яднаныя гаспадаркі на аснове грамадскай апрацоўкі зямлі, у пераходзе на калектыўную апрацоўку зямлі на базе новай вышэйшай тэхнікі» **(Сталін).**

На гістарычнай канферэнцыі аграрнікаў-марксістаў у 1929 г. т. Сталін высоўвае лозунг аб ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Правыя апартуністы, спекулюючы на труднасцях, адлюстроўваючы супраціўленне кулацтва соцыялістычнаму наступленню, спрабавалі павярнуць партыю назад. Яны выступілі супроць індустрыялізацыі, супроць калектывізацыі сельскай гаспадаркі, змыкаліся з трацкістамі і зіноўеўцамі ў барацьбе супроць генеральнай лініі партыі, супроць ленінскага ЦК і тав. Сталіна. Але контррэволюцыйная сутнасць правых і левых ухілістаў, права-лявацкага блоку і апартуністаў усіх масцей была выкрыта.

*) Пытанні ленінізма, стар. 556.

З трыбуны XVI з'езда партыі тав. Сталін заявіў.

«XVI з'езд ёсць з'езд **разгорнутага наступлення** соцыялізма **па ўсяму фронту...**

Асноўная ўстаноўка партыі ў даны момант заключаецца ў **пераходзе** ад наступлення соцыялізма на **паасобных участках** гаспадарчага фронта да наступлення **па ўсяму фронту** і ў галіне прамысловасці, і ў галіне сельскай гаспадаркі».

Ламаючы кулацкае супраціўленне, дабіваючы астаткі разгромленых антыпартыйных груп, партыя дабілася вялікай перамогі.

Пад кіраўніцтвам т. Сталіна партыя склала і з поспехам ажыццявіла план першай пяцігодкі. Перавесці краіну з адсталай сярэдневяковай тэхнікай на рэйкі новай сучаснай тэхнікі. Ператварыць СССР з адсталай аграрнай краіны ў краіну індустрыяльную, незалежную ад капіталістычнага свету. Стварыць індустрыю, здольную рэканструяваць усе галіны народнай гаспадаркі краіны на базе соцыялізма. Перавесці раздробленую дробна-сялянскую сельскую гаспадарку на рэйкі буйнай соцыялістычнай, каб стварыць фундамент соцыялістычнай эканомікі і не дапусціць магчымасці аднаўлення капіталізма. Умацаваць максімальна абароназдольнасць краіны. Гэта быў план пабудовы соцыялістычнай эканомікі краіны, план жорсткай класавай барацьбы дыктатуры пролетарыята з капіталістычнымі элементамі, план разгрому да канца агентуры класавага ворага ўнутры партыі.

Выкананне гэтага грандыёзнага плана прывяло к таму, што ўдзельная вага прамысловасці ў народнай гаспадарцы паднялася з 48 проц. у 1928 г. да 70 проц. к канцу пяцігодкі. Краіна пературылася з аграрнай у высока індустрыяльную.

Прадукцыя сродкаў вытворчасці вырасла з 7 млрд. руб. у 1928 г. да 18 млрд. руб. ў 1932 г. або на 157,1 проц. Удзельная вага сродкаў вытворчасці павысілася з 44,3 у 1928 г. да 52,5 проц.

Прадукцыя машынабудаўніцтва вырасла з 1405,8 млн. руб. у 1928 г. да 5252,9 млн. руб. ў 1932 г. і перавысіла план на 81,2 проц. Сельска-гаспадарчае машынабудаўніцтва (уключаючы трактары) вырасла са 176,9 млн. руб. да 890,4 млн. руб. У параўнанні з даваенным узроўнем прадукцыя машынабудаўніцтва вырасла ў 10 раз. За пяцігодку створана трактарна-аўтамабільная, станкабудаўнічая, хімічная, авіяцыйная прамысловасць, электраабсталяванне, сельгасмашынабудаўніцтва. Створана магутная чорная металургія, другая вугальна-металургічная база, другая база тэкстыльнай прамысловасці.

На аснове гэтага працэса індустрыялізацыі адбыліся карэнныя змены ў сельскай гаспадарцы. Наша краіна ператварылася ў краіну буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, самай буйнай у свеце. Асноўная маса бядняцка-серадняцкіх гаспадарак перашла ў калгасы. Гэтыя буйныя соцыялістычныя гаспадаркі, узброеныя сучаснай тэхнікай, здолелі пашырыць пасеўныя плошчы на 21,4 млн. га і падняць таварнасць сельскай гаспадаркі.

Такія змены ў эканоміцы выклікалі новыя соцыяльныя зрухі ў краіне. Кулацтва ліквідавана як клас на аснове суцэльнай калектывізацыі, з пераходам у калгасы серадняк ператварыўся ў моцную апору дыктатуры пролетарыята, ліквідавана паўперызацыя вёскі, калгаснікі няўхільна ідуць к заможнаму жыццю.

Гэты «вялікі пералом» падрыхтоўваўся ўсім папярэднім перыядам барацьбы, развіццём індустрыялізацыі, барацьбой з кулацтвам, зло-

мам уго сабатажа хлебазагатовак у 1928 г., развіццём сельскагаспадарчай кааперацыі, соўгасным і калгасным будаўніцтвам. Партыя пад кіраўніцтвам тав. Сталіна выкрыла новыя, больш складаныя, прыкрытыя і гібкія прыёмы барацьбы класавага ворага, падняла бядняцка-серадняцкія масы вёскі на разгром капіталістычных элементаў, разграміла трацкісцка-зіноўеўскую апазіцыю і правы апартунізм, як агентуру кулацтва ўнутры партыі. Усё гэта прывяло к таму, што пытанне «хто каго» было паспяхова вырашана на карысць соцыялізма і ў сельскай гаспадарцы, што план першай пяцігодкі быў выканан за 4 гады.

На аснове гэтых поспехаў, на аснове пабудаванага за першую пяцігодку фундамента соцыялістычнай эканомікі партыя пад кіраўніцтвам т. Сталіна склала і паспяхова ажыццяўляе план другой пяцігодкі, план пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

> «Асноўнай палітычнай задачай 2-й пяцігодкі з'яўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, параджаючых класавую розніцу і эксплаатацыю, пераадаленне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства» (з рашэнняў XVII з'езда).

Базай для вырашэння гэтай галоўнай палітычнай задачы другой пяцігодкі з'яўляецца завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі краіны.

Пераможны калгасны лад на аснове індустрыялізацыі краіны ёсць шлях знішчэння класавай розніцы паміж рабочым і селянінам. Пераможны калгасны лад пад кіраўніцтвам дыктатуры пролетарыята знішчае ўсе соцыяльныя прычыны, якія перашкаджаюць вёсцы падняцца да ўзроўню горада. Цяпер толькі ад добрасумленнай і чэснай працы саміх калгаснікаў залежыць культурнае, заможнае жыццё.

Матар'яльны ўзровень працоўных у 2-ую пяцігодку павінен павысіцца ў 2—3 разы.

Калгасны лад перамог, і аднаасобнік адсунут на другарадныя, заднія пазіцыі. Соцыялістычная форма гаспадаркі стала абсалютна пануючай формай ва ўсёй народнай гаспадарцы. Ліквідавана кулацтва як клас, але барацьба з рэшткамі капіталістычных элементаў адбываецца ў самых вострых формах. Ранейшы клас дробных таваравытворцаў, асноўная маса сялянства ў сваёй большасці (16 млн. гаспадарак) пераведзена на новыя соцыялістычныя рэйкі развіцця і такім чынам далучана да актыўнага будаўніцтва соцыялізма.

Уступіўшы ў калгас, асноўная маса сялянства (80 проц.) ужо прынцыпова адрозніваецца ад часткі аднаасобнікаў, якая засталася за калгасамі. Сродкі вытворчасці абагулены, і арцельная праца з'яўляецца асноўнаю крыніцай іх існавання. Калгаснае сялянства парвала ўжо з эканамічнай асновай свайго ранейшага існавання як дробна-таварнага вытворца і ператварылася ў актыўнага ўдзельніка соцыялістычнага будаўніцтва.

Такім чынам, перамога калгаснага ладу ёсць перамога новых соцыялістычных адносін у сельска-гаспадарчай вытворчасці. Калгаснае сялянства не ёсць новы клас, а стаўшы на соцыялістычны шлях развіцця ранейшы дробна-таварны вытворца, які з пераходам ў калгасы ўсё больш і больш зжывае пад кіраўніцтвам рабочага класа свае пера-

жыткі дробнага таваравытворцы і становіцца свядомым і актыўным работнікам соцыялістычнай вытворчасці.

На даным этапе развіцця існуе яшчэ класавая розніца паміж рабочым класам і калгасным сялянствам. Задача другой пяцігодкі—ліквідаваць гэту розніцу іператварыць усіх працоўных у свядомых і актыўных работнікаў соцыялістычнага грамадства. Для ліквідацыі гэтай розніцы не патрабуецца ніякага перарастання арцелі ў нейкую асобую, новую форму гаспадаркі. Усякія контррэволюцыйныя трацкісцкія тэорыі соўгасізацыі накіраваны на зрыў калгаснага ладу, на зрыў умацавання арцелі, як асноўнай формы калгаснага руху на даным этапе. Контррэволюцыйны трацкізм выступае таксама за роспуск калгасаў, як нерэнтабельных, за аднаўленне раскулачаных кулацкіх гаспадарак.

Арцельная вытворчасць пры грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці забяспечвае ўсе ўмовы ліквідацыі розніцы паміж рабочым класам і калгасным сялянствам пад кіраўніцтвам пролетарыята і яго партыі.

За другую пяцігодку ў агромнай меры вырастае роля МТС у сельскагаспадарчай вытворчасці. Колькасць МТС дасягае 6 тысяч з пагалоўным ахватам усіх калгасаў. Трактарны парк сельскай гаспадаркі вырастае з 4,5 млн. конскіх сіл у 1934 г. да 8 млн. конскіх сіл у 1937 г., парк камбайнаў—з 35 тыс. цяпер да 100.000 у 1937 г., парк аўтамабіляў—з 34.000 цяпер да 170.000 у 1937 г. Кірунак такой тэхнікі ў МТС і забяспечвае завяршэнне механізацыі сельскай гаспадаркі.

МТС, як дзяржаўныя, паслядоўна-соцыялістычнага тыпу прадпрыемствы, будуць праводзіць усе асноўныя сельскагаспадарчыя работы. Сродкі вытворчасці саміх арцелей будуць адыгрываць дапаможную ролю. Сельскагаспадарчая праца ператвараецца ў разнавіднасць індустрыяльнай працы. Дзяржава непасрэдна арганізуе, кіруе, плануе калгасную вытворчасць.

Працэс умацавання арцелі, які праводзіцца дыктатурай пролетарыята, і ёсць шлях ліквідацыі класавай розніцы паміж калгасным сялянствам і рабочым класам, шлях пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Далейшая большэвізацыя калгасаў, разгортванне калгаснай вытворчасці на аснове сталінскага статута калгаснага жыцця, азначае рост арцелі як соцыялістычнай формы гаспадаркі, рост дзяржаўнай уласнасці на сродкі вытворчасці, рост дзяржаўнага кіраўніцтва калгасамі праз МТС—гэты важнейшы эканамічны і палітычны рычаг у руках пролетарскай дзяржавы, для зжывання класавай розніцы паміж рабочым класам і сялянствам. Класавая розніца рабочага і селяніна зжываецца барацьбой за соцыялізм, канкрэтнай дзейнасцю кіруемых пролетарыятам калгасных мас, канкрэтнай барацьбой з капіталістычнымі элементамі, з усякімі перажыткамі капіталізма.

Пасля таго, як калгасны лад канчаткова перамог і калгаснае сялянства канчаткова стала пад чырвоны сцяг соцыялізма, пасля таго, як кулацтва ў асноўным ліквідавана як клас і знішчана база вырастання капіталізма,—барацьба за большэвіцкі калгас, за першачарговае выкананне дзяржаўных заданняў, за высокую ўраджайнасць і ўдойнасць, за высокую прадукцыйнасць працы метадам соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, за давядзенне ўсёй масы калгасаў да ўзроўню перадавых, за заможнае жыццё калгаснікаў і ёсць канкрэтны шлях

зжывання класавай розніцы паміж калгасным сялянствам і рабочым класам.

Знішчэнне класаў можа адбыцца толькі пры ўмове ўсямернага ўмацавання дыктатуры пролетарыята. Ленін і Сталін вучаць партыю, што адміранне дзяржавы дасягаецца яе ўсямерным умацаваннем. Дзяржава існуе яшчэ пасля ліквідацыі класаў унутры краіны. Яна ажыццяўляе дзяржаўны кантроль за мерай працы і мерай спажывання, за працэсам пераробкі, перавыхавання працоўных. Дзяржава выступае як сіла, кіруючая далейшым працэсам соцыялістычнага будаўніцтва, перарастання першай фазы комунізма ў другую, як сіла супроць міжнароднага капіталістычнага акружэння, як сіла далейшага разгортвання міжнароднай пролетарскай рэволюцыі. Таму тэорыя аб неадкладным адміранні дзяржавы ёсць контррэволюцыйная тэорыя, накіраваная супроць перамогі соцыялізма ў нас і ва ўсім свеце.

* * *

XVII з'езд партыі прашоў пад знакам поўнай перамогі ленінізма. З трыбуны з'езда партыя ў асобе тав. Сталіна з поўным правам і гонарам заявіла:

> «Перамагла палітыка індустрыялізацыі краіны. Яе рэзультаты для ўсіх цяпер відавочны. Што можна сказаць супроць гэтага факта?
>
> Перамагла палітыка ліквідацыі кулацтва і суцэльнай калектывізацыі. Яе рэзультаты таксама відавочны для ўсіх. Што можна сказаць супроць гэтага факта?
>
> Даказана на вопыце нашай краіны, што перамога соцыялізма ў адной асобна ўзятай краіне—упаўне магчыма. Што можна сказаць супроць гэтага факта?».

За першыя два гады другой пяцігодкі мы маем ужо агромныя дасягненні. Соцыялізм перамог. Расія нэпаўская ператворана ў Расію соцыялістычную. Асноўная маса насельніцтва ахоплена непасрэдным соцыялістычным будаўніцтвам. Адбыліся карэнныя змены паміж соцыяльнымі групамі насельніцтва нашай краіны.

Тав. Молатаў на VII з'ездзе советаў гаварыў:

> «К пачатку 1935 г. рабочыя, разам з калгаснікамі, складуць звыш 3/4 усяго насельніцтва... Пераважная маса насельніцтва нашай краіны непарыўна звязала сваё жыццё з соцыялізмам».

Адначасова з ростам удзельнай вагі насельніцтва, звязаўшага свой лёс з соцыялізмам, адбываецца ўсё большае і большае змяншэнне буржуазных класаў: з 11,1 млн. у 1913 г. да 174 тыс. у 1934 г.

Удзельная вага соцыялістычных форм гаспадаркі ў народным даходзе ўзрасла ў 1934 г. да 96 проц., а прыватна-гаспадарчых упала да 4 проц. Удзельная вага прамысловасці ў народнай гаспадарцы дасягнула 74 проц. Адзін толькі гадавы прырост прадукцыі цяжкай прамысловасці ў 1934 г. звыш 4,2 млрд. руб., што раўняецца ўсёй прадукцыі цяжкай прамысловасці 1913 г. Адзін толькі гадавы прырост выплаўкі чыгуна ў 1934 г. складае 3,3 млн. тон або 75 проц. усёй даваеннай выплаўкі чыгуна Расіі. Выпрацоўка электраэнергіі ў 1934 г. дасягнула 20,5 млрд. клв. гадзін замест 1945 млн. клв. гадзін у 1913 г.

У калгасах аб'яднана ўжо да 80 проц. усіх сялянскіх гаспадарак. Соўгасы і калгасы ахапляюць 90 проц. усіх пасеўных плошчаў. Сацыялістычны сектар у 1934 г. даў 92 проц. усяго загатоўленага дзяржаваю хлеба. У гэтым годзе ў сельскай гаспадарцы будуць працаваць 230 тыс. трактароў, 35 тыс. камбайнаў і 34 тыс. аўтамашын. Створаны ўсе ўмовы для атрымання ўсёй масай калгасаў і соўгасаў высокіх устойлівых ураджаяў, якія ўжо цяпер маюць перадавыя калгасы і соўгасы. Самая адсталая галіна сельскай гаспадаркі—жывёлагадоўля выходзіць на шлях шырокага хуткага ўздыму. Адбываецца сістэматычны ўздым матар'яльна-культурнага ўзроўню рабочых і калгаснікаў, аб чым сведчыць адмена картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты.

Побач з агромнымі перамогамі, атрыманымі нашай краінай пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і правадыра ўсіх працоўных тав. Сталіна на эканамічным фронце, мы маем велізарнейшыя дасягненні і ў справе культурнага будаўніцтва. Наша краіна з адсталай, некультурнай—з 85 проц. няграматнага насельніцтва—на працягу 17 год існавання дыктатуры пролетарыята ператворана ў краіну суцэльнай граматнасці, пакрыта густою сеткай школ.

Бліскучыя поспехі, дасягнутыя ў правядзенні тэхмінімума; агромны рост культуры, што выразілася і ў такім факце, як з'езд пісьменнікаў; рост масавага гераізма, смелыя ўчынкі заваявальнікаў стратасферы і чэлюскінская эпапея; адкрыццё раду новых месц карысных выкапняў; рад заваяванняў у галіне навукі—ад фізікі да фізіялогіі чалавека; агромнае развіццё масавай энергіі працоўных, з'яўленне новых талентаў, арганізатараў з самой гушчы народных мас—вось чым характарызуецца наша эпоха.

Правільнае правядзенне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла велізарны ўздым культуры ўсіх нацыянальнасцей, насяляючых вялікія прасторы Совецкага саюза.

Совецкі саюз за апошні час атрымаў буйныя перамогі і на міжнароднай арэне.

Дзякуючы мудрай знешняй палітыцы нашага рабоча-сялянскага ўрада, надзвычай вырасла роля СССР, як магутнага фактара агульнага міру.

Тав. Молатаў у сваёй прамове на VII з'ездзе советаў адзначыў:

> «Роля СССР, як трывалага фактара ўсеагульнага міру, цяпер шырока прызнана. Зрабіўся правілам зварот іншых краін к Совецкаму саюзу ў тых выпадках, калі справа ідзе аб забяспечанні міру. І гэта зразумела».

Совецкі саюз не пагражаў і не пагражае нікому захопамі. Але народы Совецкага саюза, занятыя мірнай працай, добра разумеюць значэнне надзейнай абароны сваіх совецкіх граніц, умацавання сваёй роднай рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

* * *

Мінулы 1934 г. быў важнейшаю вехай у барацьбе за план другой пяцігодкі. Поспех металургаў, датэрмінова выплавіўшых 10 мільёнаў тон чыгуна, поспех слаўных бакінскіх пролетарыяў, датэрмінова выканаўшых 19-мільённую здабычу азербайджанскай нафты, поспех гераічных шахцёраў Данбаса, выканаўшых 60-мільённую праграму данецкага вугалю, поспех аўтатрактарнай прамысловасці, хімічных

камбінатаў, гумовай прамысловасці—зусім рэальны довад таго, што план другой пяцігодкі выконваецца паспяхова.

Вялікая перамога атрымана партыяй у мінулым годзе таксама і ў сельскай гаспадарцы. Не гледзячы на неспрыяючыя кліматычныя ўмовы і недарод у некаторых важнейшых раёнах поўдня,—краіна сабрала ў 1934 г. значны ўраджай—на 200—300 млн. пудоў вышэй 1933 г. Гэтыя поспехі ў сельскай гаспадарцы далі нам магчымасць перайсці ад нармаванай продажы хлеба да шырокага гандлю хлебам без картак. Гэтае буйнейшае палітычнае і эканамічнае мерапрыемства партыі з'яўляецца залогам далейшага разгортвання тавараразвароту і палепшання матар'яльнага добрабыту працоўных нашай краіны.

Агромнейшае сусветна-гістарычнае значэнне мае пастаўленае на VII усесаюзным з'ездзе Советаў па ініцыятыве тав. Сталіна і прапанове ЦК ВКП(б) пытанне аб унясенні некаторых змен у совецкую канстытуцыю.

Змены, якія воляй VII з'езда советаў унесены ў совецкую канстытуцыю, пашыраюць совецкі дэмакратызм, ствараюць новую эпоху совецкай дэмакратыі.

Нашы поспехі ў будаўніцтве соцыялізма настолькі вялікі, што мы можам цяпер ужо адмяніць некаторыя застарэлыя абмежаванні. Саюз рабочага класа і сялянства дасягнуў бліскучых поспехаў. Рабочы клас дапамог сялянству пакончыць з жабрацтвам і варварствам і стаць на шлях будаўніцтва радаснага соцыялістычнага жыцця. У Совецкім саюзе ўсім чэсным працоўным адкрыта дарога к поўнапраўнаму жыццю.

Наша краіна яшчэ вышэй узнімае сцяг пролетарскага дэмакратызма ў той самы момант, калі буржуазія адкідае нават знешнія ілжывадэмакратычныя формы, і гэта не выпадкова. Капіталізм ідзе к сваёй немінучай пагібелі, а соцыялізм расце і развіваецца. Тав. Молатаў у сваім дакладзе на VII з'езде советаў адзначыў:

> «Пастаўленае зараз пытанне аб совецкай канстытуцыі адлюстроўвае агромны рост соцыялізма ў нашай краіне. Разам з тым, унясенне неабходных змен у канстытуцыю паслужыць далейшаму ўмацаванню совецкай дзяржавы, сіла якой у актыўнасці, свядомасці і арганізацыі мас, будуючых новае грамадства».

* *
*

Дзякуючы няўхільнаму правядзенню ленінска-сталінскай палітыкі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), БССР, як неадрыўная частка СССР, дабілася перамогі сусветна-гістарычнага значэння. БССР—былая царская калонія, прыгнечаная ў мінулым краіна—стала, дзякуючы брацкай дапамозе працоўных усяго Совецкага саюза, краінай квітнеючай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Прамысловасць БССР вырасла больш як у 10 раз у параўнанні з тым, што мы мелі да рэволюцыі. Каласальна ўзрос пролетарыят, $^2/_3$ якога складаюць беларусы. БССР мае зараз больш 72,6 проц. калектывізаваных гаспадарак, і на гэтай аснове ліквідавала ў асноўным кулацтва як клас. Каласальна вырас матар'яльна-культурны ўзровень працоўных мас.

Адным з яркіх паказчыкаў гаспадарчага росквіту БССР з'яўляецца рост дзяржаўнага бюджэта. Даходы ў 1934 г. у параўнанні з 1927-28 гг. выраслі амаль у 5 раз. Капіталаў ва ўсе галіны народнай гаспадаркі ўкладзена за першую пяцігодку 1 мільярд руб., за 1933 і 1934 гг.—больш 400 млн. руб. За перыяд першай пяцігодкі і ў пачатку

другой рэканструяваны і зноў пабудаваны такія гіганты, як Гомсельмаш, бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», магілеўская шоўкавая фабрыка, касцюковіцкі шклозавод і т. д. і т. д. На прадпрыемствах БССР арганізаваны новыя вытворчасці, як напрыклад, для сельскай гаспадаркі—сілосарэзкі, бульбакапалкі, корнерэзкі, сілосныя вежы, для прамысловасці—свідравальныя варштаты, торфмашыны, абутковыя машыны, дубільны экстракт, малочная кіслата і т. д. і т. д.

Рост соцыялістычнай прамысловасці, павышэнне прадукцыйнасці працы суправаджаліся няўхільным ростам зарплаты, павышэннем матар'яльнага добрабыту рабочых. Так, напрыклад, фонд зарплаты рабочых і служачых павялічыўся ў параўнанні з 1927-28 гг. у 4½ разы. Сярэдняя гадавая зарплата на аднаго рабочага за гэты перыяд павялічылася больш як у 2½ разы. Ужо ў канцы першай пяцігодкі выдаткі на соцыяльнае страхаванне выраслі больш як у 5 раз.

Каласальна вырасла тэхнічная ўзброенасць соцыялістычнай сельскай гаспадаркі БССР. Магутнасць трактарнага парка ў параўнанні з 1928 г. павялічылася ў 33 разы. З года ў год расце ўраджайнасць соцыялістычных палёў.

Таваразварот вырас у 1933 г. у параўнанні з 1931 г. на 38 проц.

За гэтыя гады ў сельскую гаспадарку нямала ўкладзена сродкаў. Напрыклад, з 1928 г. па 1934 г. 326,6 млн. руб., плюс 19.702 тыс. руб., якія падлягаюць спісанню з калгасаў БССР па ўзятых крэдытах.

Тэмпы росту народнай гаспадаркі БССР больш хуткія ў параўнанні з тэмпамі росту народнай гаспадаркі Совецкага саюза ў цэлым.

Аб'ём капіталаўкладанняў 2-ой пяцігодкі ва ўсю народную гаспадарку БССР складае суму 1.647 млн. руб., з іх: 25 проц.—на прамысловае будаўніцтва і 26,7 проц.—на сельскую гаспадарку. Магутнасць электрастанцый за другую пяцігодку ўзрастае з 60,1 тыс. клвт. у 1932 г. да 125,3 тыс. клвт. к канцу пяцігодкі. Выпрацоўка электраэнергіі за гэты-ж час вырастае са 177,8 млн. клвт. гадзін да 372,5 млн. клвт. гадзін. Трактарны парк узрастае з 31,5 тыс. конскіх сіл у 1932 г. да 225 тыс. конскіх сіл у 1937 г., г. зн. больш як у сем раз. Пасеўныя плошчы павялічваюцца з 3.983 тыс. га ў 1932 г. да 4.060 тыс. га ў 1937 г. Агульнае пагалоўе буйнай рагатай жывёлы вырастае за пяцігодку на 55,4 проц., у соўгасах і калгасах—на 71,4 проц. Рост пагалоўя свіней—адпаведна: на 78,9 проц. і 235,7 проц.

Гэта акалічнасць з'яўляецца нагляднейшым паказчыкам таго, як БССР—неад'емная частка Совецкага саюза—пры непасрэднай дапамозе працоўных усяго Совецкага саюза, ідзе хутка па шляху канчатковай ліквідацыі сваёй адсталасці—гэтага выніку каланіяльнага становішча Беларусі ў царскай Расіі.

Паслядоўнае правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла тое, што Беларусь, дзе раней было не больш 30 проц. граматных, ператварылася ў краіну суцэльнай граматнасці. Да Окцябра на Беларусі не было ніводнай вышэйшай школы, а цяпер 26 ВНУ і ВТНУ, 15 тыс. студэнтаў, 30 тысяч студэнтаў-рабфакаўцаў, Акадэмія Навук і рад навукова-даследчых інстытутаў. Мы маем у БССР таксама росквіт мастацтва (9 дзяржаўных тэатраў). Рост выдаткаў на соцыяльна-культурнае абслугоўванне працоўных мас за першую пяцігодку павялічыўся ў 4 разы, а ў 1934 г. у параўнанні з 1932 г. на 66 проц. Выдаткі на ахову здароўя працоўных у 1933 г. супроць 1927-28 гг. павялічыліся ў 4 разы.

У 1934 г. БССР дабілася новых грандыёзных поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Цэлыя трэсты і аб'яднанні, гарады і раёны датэрмінова выканалі гадавыя планавыя заданні. Упершыню з 1931 г. выканалі гадавы план: шкляная прамысловасць, віцебская фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», магілеўская ф-ка «Валадарскага», якаўлевіцкая суконная ф-ка і рад іншых прадпрыемстваў. Ёсць яшчэ, вядома, і адсталыя прадпрыемствы. Нельга больш цярпець, каб адставалі такія прадпрыемствы, як шклозавод імя Сталіна, Добрушская папяровая фабрыка, дрэваапрацоўчы камбінат імя Гікало і крычаўскі цэментны завод. Гэтыя прадпрыествы маюць усе аб'ектыўныя ўмовы для ўзорнай работы. Усё залежыць ад людзей, ад арганізатараў. Іх задача—зрабіць перадавымі ў 1935 г. сваё адстаючыя прадпрыемствы.

У барацьбе за соцыялізм на аснове нашых поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнай будоўлі растуць і новыя людзі з карэнных нацыянальнасцей БССР, ударнікі, сапраўдныя арганізатары, якія ўзначальваюць ініцыятыву і ўдарную працу дзесяткаў тысяч рабочых у барацьбе за аўладанне тэхнікай соцыялістычнай вытворчасці.

У барацьбе за большэвіцкія калгасы і заможнасць усіх калгаснікаў выхаваўся шырокі калгасны актыў, брыгадзіры, інспектары якасці, брыгадзіры-жанчыны, старэйшыя па лёну, трактарысты і т. д.—усё гэта новыя фігуры калгаснага актыва ў вёсках БССР.

Гэтых агромных поспехаў у соцбудаўніцтве КП(б)Б дабілася ў рэзультаце няўхільнага правядзення генеральнай лініі партыі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна, ажыццяўляючы, дзякуючы непасрэднай дапамозе пролетарыята СССР, рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі на соцыялістычных падставах. КП(б)Б дабілася гэтых поспехаў у барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм з усімі відамі буржуазнага нацыяналізма, з вялікадзяржаўным шавінізмам, беларускім нацыяналізмам—галоўнай небяспекай у БССР на даным этапе, і з усімі іншымі відамі мясцовага нацыяналізма, якія ў саюзе з імперыялістычнымі інтэрвентамі імкнуліся сарваць соцыялістычнае будаўніцтва ў БССР у імя рэстаўрацыі капіталізма.

Беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмакратызм, пачынаючы з Окцябра і па гэты дзень, вёў паслядоўную палітыку ператварэння БССР у калонію польскага імперыялізма, палітыку адрыву БССР ад СССР, палітыку аднаўлення капіталізма ў БССР. Нацдэмы вялі і імкнуцца весці работу, накіраваную на распальванне нацыянальнай розні паміж працоўнымі Савецкага саюза, што з'яўляецца самай подлай зброяй буржуазіі ў яе барацьбе супроць пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята.

Нацдэмы вялі падрыўную контррэволюцыйную работу ў розных напрамках. Яны праводзілі кулацкую прышчэпаўскую хутарызацыю з мэтай падрыхтоўкі соцыяльнай базы ў асобе беларускага кулацтва для інтэрвенцыяніссцкіх планаў імперыялістаў, вялі шпіёнскую работу, стварылі контррэволюцыйную арганізацыю «Беларускі нацыянальны цэнтр», якая ставіла сабе задачу—падрыхтаваць глебу для інтэрвенцыі імперыялістаў і адрыву БССР ад СССР.

Нацдэмы разгарнулі справу падрыхтоўкі сваіх кадраў, спрабавалі захапіць у свае рукі работу паасобных наркаматаў (Наркамзем, Трактарацэнтр, Наркамасветы, Акадэмія навук і інш.). У сваёй рабоце нацдэмы блакаваліся з вялікадзяржаўнымі, яўрэйскімі, польскімі і іншымі нацыяналістамі.

Усю гэту работу нацдэмам удалося праводзіць, дзякуючы аслабленню бальшэвіцкай пільнасці ў паасобных звеннях КП(б)Б, аслабленню барацьбы з мясцовым нацыяналізмам. Партыя разграміла нацыяналістаў, ускрыла іх контррэвалюцыйную шкодніцкую работу, выкрыла іх перад працоўнымі масамі Беларусі. Аднак рэшткі нацыяналістычных элементаў працягваюць весці сваю работу.

Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР выклікаюць яшчэ большае абвастрэнне барацьбы ў краіне і супраціўленне варожых элементаў пераможнаму будаўніцтву соцыялізма.

За апошні час мы мелі ажыўленне і актывізацыю контррэвалюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх паследышаў у БССР. Так, напрыклад, былы выкладчык ВКСГШБ—Руды—распаўсюджваў з кафедры школы контррэвалюцыйныя трацкісцкія тэорыі. Некаторыя студэнты, кулацкія агенты, ашуканцкі прабраўшыся ў партыю і комсамол, у ВКСГШБ, вялі дыскусіі аб тым, ці магчыма перамога соцыялізма ў нашай краіне. У мед'інстытуце антысовецкія элементы распаўсюджвалі контррэвалюцыйную тэорыю, нібы трацкізм з'яўляецца крыніцай ленінізма. Трацкісцкія, нацыяналістычныя элементы актывізаваліся і ў Горацкім сельска-гаспадарчым інстытуце.

Бюро ЦК КП(б)Б і Менскі гарком за апошні час выкрылі цэлы рад зіноўеўцаў і трацкістаў. Напрыклад, Фліора—былога ўпаўнаважанага Наркамзнешгандлю, які адмовіўся выступіць на сходзе сваёй партыйнай арганізацыі з выкрыццём свайго зіноўеўскага мінулага, Галендо—былога старшыню Дзяржплана БССР, які ў сваім выступленні на заводзе «Большэвік» абышоў ролю зіноўеўска-трацкісцкай контррэвалюцыйнай апазіцыі ў справе забойства т. Кірава, не выкрыў свайго контррэвалюцыйнага зіноўеўскага мінулага і працягваў контррэвалюцыйныя трацкісцкія тэорыі.

Быў выкрыт яшчэ цэлы рад трацкістаў-зіноўеўцаў і буржуазных нацыяналістаў. Напрыклад, Дунец, які ў галіне яўрэйскай літаратуры, прыкрываючыся маскай артадаксальнасці, скарыстоўваў для контррэвалюцыйнай трацкісцкай кантрабанды трацкісцкія і буржуазна-нацыяналістычныя творы Абчуга і Юдэльсона, рэкамендаваў і ўсхваляў гэтыя творы ў якасці вышэйшых дасягненняў совецкай, пралетарскай літаратуры.

Мы павінны мабілізаваць усю сваю рэвалюцыйную пільнасць, каб да канца выкрыць паследышаў контррэвалюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага ахвосця, калёным жалезам высмаліць і знішчыць да канца рэшткі контррэвалюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага племені, контррэвалюцыйнага нацдэмакратызма, нацыяналістаў усіх колераў і масцей, усялякіх апартуністаў і класава-варожых элементаў.

Толькі ў бязлітаснай барацьбе з азвярэлымі рэшткамі класава-варожых элементаў і іх агентурай—правым і «левым» апартунізмам, з контррэвалюцыйным трацкізмам, нацыянал-ухілістамі ўсіх колераў дасягнуты намі перамогі. Пад кіраўніцтвам т. Сталіна партыя ў адкрытым баі сакрушыла і разграміла трацкізм, разграміла правых апартуністаў, прымусіўшы іх капітуляваць перад партыяй, выкрыла і разбіла нацыянал-ухілістаў, сарвала маску з двурушнікаў.

Соцыялізм у нашай краіне перамог. Нашы сусветна-гістарычныя перамогі бясспрэчны. Але гэта не значыць, што вораг ужо здаўся. А таму рэвалюцыйную пільнасць трэба ўзмацніць нам яшчэ ў большай меры.

Вораг вываротлівы, вораг гатоў прыняць любое аблічча, прыкінуцца нават другам нашай партыі для таго, каб аслабіць нашу пільнасць і нанесці ўдар і ў галаву і ў сэрца. Мы страцілі са сваіх радоў аднаго з слаўных барацьбітоў—Сергея Міронавіча **Кірава**, забітага ворагамі толькі за яго адданасць справе комунізма, справе совецкай улады. Белагвардзейскія вырадкі з трацкістаў-зіноўеўцаў, выхаваныя Зіноўевым і Каменевым у правакатарскім двурушніцтве, з'явіліся, пад кіраўніцтвам Зіноўева, Каменева і іншых з ленінградскага і маскоўскага контррэволюцыйнага цэнтра, арганізатарамі гэтага злачынства.

Сваім злачынствам у Ленінградзе ворагі совецкай улады жадалі ўнесці замяшанне ў нашы рады. Аднак, мільённыя масы рабочых і сялян на стрэл у Ленінградзе адказалі па-свойму—выключнай згуртаванасцю сваіх радоў вакол совецкай улады, вакол т. Сталіна.

Агромныя, нябачаныя перспектывы далейшага соцыялістычнага будаўніцтва абумоўлены перамогай соцыялізма ў нашай краіне, умацаваннем дыктатуры пролетарыята, нябачанай у гісторыі згуртаванасцю і аднадушшам ленінскай партыі пад кіраўніцтвам т. Сталіна.

1935 год наша краіна пачынае, як год яшчэ больш узмоцненага і любоўнага клопату аб сваіх знатных людзях, якія твораць справу соцыялізма. З самай гушчы народных мас узнімаюцца таленты, арганізатары, сапраўдныя героі, аб росквіце якіх пры дыктатуры пролетарыята прадказваў Ленін. Краіна з яе 170-мільённым народам ахоплена энтузіязмам будоўлі прыгожага, радаснага жыцця.

2-гі з'езд калгаснікаў-ударнікаў яшчэ раз з выключнаю сілай прадэманстраваў адданасць шматмільённай масы працоўнага сялянства—калгаснікаў справе партыі Леніна—Сталіна, справе соцыялістычнага будаўніцтва. З'езд калгаснікаў-ударнікаў паказаў, што за апошнія гады калгасная вёска ўзбагацілася вялікай арміяй перадавых людзей, выхаваных пад кіраўніцтвам партыі. З гушчы калгаснай масы выраслі яе перадавыя арганізатары, барацьбіты за большэвіцкі калгас і заможнае калгаснае жыццё.

Разам з тым, 2-гі з'езд калгаснікаў-ударнікаў прапрацаваў і аднадушна прыняў новы прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, сталінскі статут калгаснага жыцця, накіраваны на яшчэ хутчэйшы ўздым усёй сельскагаспадарчай вытворчасці і павышэнне зацікаўленасці ў ёй саміх калгаснікаў.

Выпрацаваны і прыняты з'ездам калгаснікаў-ударнікаў прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі дае ў рукі ўсім калгаснікам магутнейшы рычаг уздыму калгасаў на нябачаную вышыню. Справа партыйных, совецкіх і зямельных арганізацый—неадкладна давесці да шырокіх мас калгаснікаў рашэнні 2-га з'езда калгаснікаў-ударнікаў і новы прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі.

* * *

У трэцім годзе 2-й пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства—партыя і совецкі ўрад на аснове рашэнняў XVII партз'езда і ўказанняў т. Сталіна, паставілі перад намі грандыёзныя задачы ў справе далейшага соцыялістычнага будаўніцтва, на выкананне якіх павінны быць мабілізаваны ўсе сілы.

У галіне прамысловасці 1935 г. павінен прайсці пад знакам яшчэ больш хуткага асваення новай тэхнікі, далейшага павышэння тэхніч-

ных ведаў рабочымі ўсіх галін нашай прамысловасці, палепшання арганізацыі зарплаты і на яе аснове—павышэння прадукцыйнасці працы, палепшання якасці прадукцыі, зніжэння сабекошту і т. д.

«Клапатліва вырошчваць і кваліфікаваць людзей, правільна расставіць і арганізаваць іх на вытворчасці, арганізаваць зарплату так, каб яна ўмацоўвала рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшую кваліфікацыю,—вось што нам патрэбна для таго, каб стварыць шматлікую армію вытворча-тэхнічных кадраў».

Гэтыя ўказанні правадыра партыі і ўсіх працоўных—тав. Сталіна (у гутарцы з металургамі) адносяцца не толькі да металургічнай, а і да ўсёй нашай прамысловасці, да ўсіх галін нашай гаспадаркі і павінны стаць у цэнтры ўсёй барацьбы за выкананне плана 1935 г.

У галіне сельскай гаспадаркі 1935 год павінен прайсці пад знакам завяршэння суцэльнай калектывізацыі, далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання і ператварэння ўсіх калгасаў у перадавыя, павышэння ўраджайнасці калгасных палёў.

Выключна вялікія задачы стаяць перад намі ў галіне хутчэйшага ўздыму жывёлагадоўлі, бо БССР з гэтай справай усё яшчэ адстае ад Совецкага саюза ў цэлым, ад перадавых рэспублік і абласцей.

Зараз мы набліжаемся да веснавой пасеўнай кампаніі і павінны сустрэць яе ў поўнай падрыхтаванасці. Справа ўсіх партыйных, совецкіх, зямельных арганізацый, усіх соўгасаў і калгасаў—змагацца за арганізаванае правядзенне большэвіцкай вясны, за выкананне задач, пастаўленых перад сельскай гаспадаркай у другую пяцігодку, за рэкордны ўраджай.

На аснове дасягнутых у соцыялістычным будаўніцтве поспехаў, перад намі па-новаму паўстае пытанне аб спалучэнні асабістых інтарэсаў з грамадскімі ў соцыялістычнай вытворчасці.

«Пытанне аб правільным спалучэнні асабістага інтарэса і грамадскай карысці ў вытворчасці з'яўляецца цэнтральным пытаннем у будаўніцтве соцыялізма» (**Молатаў.** Даклад на VII з'ездзе советаў СССР).

Правільная расстаноўка людзей на вытворчасці адпаведна іх кваліфікацыі і здольнасці, павышэнне кваліфікацыі, правільная арганізацыя зарплаты, якая-б заахвочвала да павышэння кваліфікацыі, палепшанне культурна-бытавога абслугоўвання працоўных, больш чулы падыход да патрабаванняў кожнага працоўнага, палепшанне добрабыту і матар'яльнага становішча рабочых і ўсіх працоўных—павінны быць у цэнтры ўвагі партыйных, совецкіх, профсаюзных і грамадскіх арганізацый.

Паспяховае выкананне пастаўленых задач патрабуе ад нас бязлітаснай барацьбы з усімі класава-варожымі элементамі і іх агентурай, з рэшткамі контррэволюцыйнага трацкізма і зіноўеўшчыны, з правымі ўхілістамі, апартуністамі ўсіх масцей і прымірэнцтвам да іх, бязлітаснай барацьбы з рэшткамі разгромленага контррэволюцыйнага нацдэмакратызма, з рэшткамі вялікадзяржаўнага шавінізма, з контррэволюцыйным нацыяналізмам усіх колераў і масцей і прымірэнцтвам да іх.

Паспяхова весці барацьбу з усімі ворагамі соцыялістычнага будаўніцтва можна толькі на аснове павышэння рэволюцыйнай пільнасці, палітычна-тэарэтычнага ўзроўню і ўзбраення марксісцка-ленінска-сталінскай тэорыяй усёй партыйнай арганізацыі. Таму партыйная вучоба, вывучэнне гісторыі партыі, гісторыі барацьбы нашай партыі пад кіраўніцтвам Леніна—Сталіна з усімі ўхіламі, з усімі класава-варожымі і

контррэвалюцыйнымі наскокамі на партыю, яе кіраўніцтва, на яе генеральную лінію, вывучэнне гісторыі барацьбы партыі за перамогу пролетарскай соцыялістычнай рэвалюцыі, за пабудову соцыялізма ў нашай краіне—павінны быць у цэнтры партыйнай вучобы.

На аснове павышэння палітычна-тэарэтычнага ўзроўню партыйнай арганізацыі і максімальнага ўзмацнення класавай пільнасці, выкрываючы і разбіваючы ўшчэнт усялякія спробы класава-варожых элементаў і іх агентуры затармазіць справу соцыялістычнага будаўніцтва, мабілізуем шырокія масы працоўных і ўсе сілы на выкананне плана трэцяга года 2-й пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

---

Р. Выдра

# Перамога ленінскай нацыянальнай палітыкі

VII усесаюзны з'езд советаў з'явіўся грандыёзнай дэманстрацыяй бліскучых перамог соцыялізма над капіталізмам у нашай краіне.

*Выканан* завет Леніна, выканана клятва Сталіна! Так тав. Молатаў падвёў вынікі гераічнай барацьбы партыі, рабочага класа, калгаснага сялянства пад кіраўніцтвам геніяльнага правадыра—т. Сталіна.

«Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай».

Тры чверці насельніцтва нашай краіны складаюць рабочыя і калгаснікі.

Валавая прадукцыя буйнай прамысловасці за 4 гады вырасла з 28 да 50 млрд. руб., наша чорная металургія заняла першае месца ў Еўропе.

Калектывізацыя атрымала гіганцкія перамогі. Чатыры пятых працоўнага сялянства ўжо ўвашло ў калгасы, моцна і беспаваротна стала пад чырвоны сцяг соцыялізма. Дзевяць дзесятых пасеўнай плошчы знаходзіцца ў руках калгаснага сялянства. На аснове калектывізацыі разгромлен апошні капіталістычны клас—кулацтва. У совецкай вёсцы паложан канец кулацкай эксплаатацыі і жабрацтву.

Выраслі дзесяткі тысяч людзей, аўладаўшых самай передавой у свеце тэхнікай.

На аснове перамог індустрыялізацыі і калектывізацыі дасягнут велізарны рост матар'яльнага ўзроўню і добрабыту працоўных. Адным з буйнейшых сродкаў гэтага росту з'яўляецца адмена хлебных картак і поўнае забяспечанне краіны хлебам на аснове совецкага гандлю.

У непераможную сілу, аснашчоную перадавой тэхнікай, вырасла Чырвоная армія—аплот соцыялістычнай радзімы ад пасягання імперыялістаў і інтэрвентаў.

Буйна расце і квітнее культура народаў СССР, нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу. Як ніколі моцна і маналітна інтэрнацыянальнае адзінства рабочых і працоўных усіх нацыянальнасцей нашага вялікага Саюза.

VII усесаюзны з'езд советаў паклаў пачатак новай эпосе совецкай *дэмакратыі*. Па ініцыятыве т. Сталіна лютаўскі пленум ЦК ВКП(б) пастанавіў:

> «даручыць т. Молатаву ўвайсці ад імя ЦК ВКП(б) на VII з'езд советаў з прапановай аб неабходнасці некаторых змен у канстытуцыі Саюза ССР у напрамку:
>
> а) далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў сэнсе замены не ўпаўне роўных выбараў—роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі.

б) удакладненне социяльна-эканамічнай асновы канстытуцыі ў сэнсе прывядзення канстытуцыі ў адпаведнасць з сучаснымі суадносінамі класавых сіл у СССР (стварэнне новай соцыялістычнай індустрыі, разгром кулацтва, перамога калгаснага ладу, зацверджанне соцыялістычнай уласнасці, як асновы совецкага грамадства і т. п.) *)

З найвялікшым захапленнем выслухаў з'езд даклад т. Молатава, даўшага бліскучы марксісцка-ленінскі аналіз адбыўшыхся *ў нашай* краіне грандыёзных змен, якія знойдуць сваё адлюстраванне ў совецкай канстытуцыі. СССР стаў соцыялістычнай краінай. 95,81 проц. усіх вытворчых фондаў у краіне належыць зараз соцыялістычнаму сектару, 4,1 проц. прыватнай дробна-таварнай гаспадарцы і толькі 0,09 проц. прыватна-капіталістычнай. Кулацтва разгромлена. Соцыялістычная ўласнасць стала асновай нашага ладу.

З найвялікшым энтузіязмам прыняў VII з'езд советаў прапанову любімейшага правадыра—т. Сталіна—аб далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы.

У той час, як СССР узнімае вышэй сцяг сапраўднага дэмакратызма, буржуазія фашысцкім ботам топча апошнія рэшткі сваіх ілжывадэмакратычных форм. Капіталізм ідзе к сваёй немінучай *пагібелі*. Соцыялізм расце і развіваецца.

Такавы вынікі кіраўніцтва слаўнай большэвіцкай партыі на чале з геніяльным правадыром сусветнага пролетарыята—т. Сталіным.

Усе гэтыя перамогі атрыманы былі ў жорсткай класавай барацьбе з кулацтвам і яго агентурай, у барацьбе з правымі апартуністамі і з «левымі», у барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам, з праваляўвацкім блокам, у лютай барацьбе з блокам трацкістаў і нацыяналістаў усіх толкаў і масцей, вялікадзяржаўных, мясцовых шавіністаў і іншых.

Злейшыя ворагі народу, трацкісцка-зіноўеўскія контррэволюцыйныя групы, разбітыя ў адкрытых баях, у роспачы ад велізарных перамог соцыялізма, уступілі на шлях індывідуальнага тэрора супроць правадыроў партыі і совецкай улады. Падонкамі трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы забіт з-за вугла лепшы сын большэвіцкай партыі, палкі пролетарскі трыбун, член палітбюро ЦК ВКП(б), незабываемы Міроныч—т. **Кіраў**.

Прадаўшыся фашыстам і інтэрвентам і наняўшыся за грошы служыць консулу буржуазнай краіны, усё гэта ахвосце контррэволюцыі, усе гэтыя Нікалаевы, Каталынавы, Шацкія выконвалі справу міжнароднай контррэволюцыі, заказ Зіноўева, Каменева, Троцкага, якія скаціліся на белабандыцкі шлях барацьбы з партыяй.

Яны панеслі ад совецкай улады заслужаную кару. Заслужаную кару панеслі контррэволюцыянеры, натхняльнікі і арганізатары забойства т. Кірава—Зіноўеў, Еўдакімаў, Каменеў і інш.

Вось што паказаў на судзе падсудны Еўдакімаў 15/I 1935 г.:

«... Нашы контррэволюцыйныя пераконанні заставаліся аднолькавымі і актыўнымі да апошняга часу.

У ацэнцы калектывізацыі мы стаялі на контррэволюцыйных пазіцыях... У сваіх ацэнках мы не адрозніваліся ад меншавікоў і іншых ворагаў рабочага класа.

Мы злобна шыпелі аб тым, што партыі няма, што няма

*) „Правда" № 32 (6278) ад 2-II-35 г.

ЦК, няма ўнутрыпартыйнага рэжыму, кідаючы па адрасу т. **Сталіна** злобныя контррэволюцыйныя інсінуацыі...

«Мы варыліся ў сваім саку, атручваючы атрутай нашых контррэволюцыйных поглядаў і пераконанняў сваіх аднадумцаў. Гнусныя плёткі намі мусіраваліся і распаўсюджваліся ў масах, мы з вялікай радасцю падхаплялі чуткі аб разнагалоссях у ЦК, з імі мы звязвалі свае надзеі на трэшчыну ў кіраўніцтве партыі. Гэтымі настроямі мы акрылялі звязаных з намі людзей». *)

*Падонкі* контррэволюцыйнай зіноўеўскай групы імкнуліся сваім стрэлам у тав. Кірава ўнесці замяшанне ў рады партыі. Але памыліліся. *Партыя*, рабочы клас, працоўныя масы яшчэ больш згурталіся вакол любімейшага правадыра—т. Сталіна, яшчэ вышэй узнялі сваю пільнасць.

Партыя на чале з т. Сталіным выкрыла прытаіўшыхся, прыкрыўшыхся партбілетам контррэволюцыйных двурушнікаў трацкістаўзіноўеўцаў. ЦК КП(б)Б выкрыў і выгнаў з партыі аўтара трацкісцказіноўеўскага «хлебнага баланса» Галендо, які прабраўся на пост намесніка старшыні СНК БССР; выкрыў і выгнаў з партыі трацкістаўзіноўеўцаў, актыўных удзельнікаў зіноўеўскай антысовецкай групы—Фліора, Кладавікова, Рудага і інш. Выкрыт партыяй буржуазны нацыяналіст—Дунец, які працягваў і прапагандаваў буржуазна-нацыяналістычныя і контррэволюцыйна-трацкісцкія ўстаноўкі. Выкрыты контррэволюцыйныя трацкісты-зіноўеўцы у пед'інстытуце, блок нацыяналістаў і трацкістаў у Горках і рад іншых.

Партыя заклікае к далейшаму павышэнню пільнасці, к бязлітаснай барацьбе з усякага роду лібералізмам і прымірэнцтвам да тых, хто двурушніцтва зрабіў сваёй прафесіяй і сістэматычным метадам барацьбы з партыяй, з совецкаю ўладай.

Разбіваючы ўсіх ворагаў працоўных, рабочыя і калгасныя масы нашай краіны яшчэ цясней згуртоўваюцца вакол партыі і правадыра—т. Сталіна, ідуць ад перамогі к перамозе. Бліскучае пацверджанне гэтаму—выкананне і перавыкананне цяжкай прамысловасцю свайго плана ў 1934 г., 100 проц. выкананне плана здабычы вугалю, павышаны збор зерневых на 250—300 млрд. пудоў, не гледзячы на неспрыяўшыя кліматычныя ўмовы. Бліскучым вырашэннем нашага пераможнага руху па шляху соцыялізма з'яўляецца павышэнне матар'яльнакультурнага ўзроўню рабочых і працоўных мас праз адмену картак на хлеб і некаторыя іншыя зерневыя прадукты.

У той час як капіталізм не ў сілах выйсці з эканамічнага крызіса, застаючыся ў дэпрэсіі асобага роду, у той час як буржуазія, шукаючы выхаду з крызіса за кошт рабочых і працоўных мас, абрушвае на іх головы ўсе жахі галечы, беспрацоўя, жабрацтва, узмацняе ўціск, прыгнечанне і эксплаатацыю соцень мільёнаў сялян калоній і поўкалоній, Совецкі саюз, не ведаючы крызісаў, пад кіраўніцтвам т. Сталіна, цвёрда і непахісна ідзе к заможнаму жыццю, ствараючы цудоўны будынак бяскласавага соцыялістычнага грамадства, непарушна брацкага саюза народаў.

У аснове ленінскай нацыянальнай палітыкі ляжыць пролетарскі інтэрнацыяналізм, палітыка самага цеснага адзінства працоўных мас усіх нацыянальнасцей нашага Саюза ў барацьбе за пабудову бяс-

*) „Правда" № 16 (6262) ад 16-I-35 г.

класавага соцыялістычнага грамадства як базы міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі, за ўмацаванне абараназдольнасці СССР.

Кіруючыся вучэннем Леніна—Сталіна ў нацыянальна-каланіяльным пытанні, СССР пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі здолеў забяспечыць супрацоўніцтва сваіх народаў у справе пабудовы соцыялістычнага грамадства і абароны краіны, якое выключае ўсякія непрыязныя адносіны паміж нацыямі, усякую нацыянальную варожасць і нацыянальную грызню. СССР дабіўся велізарнейшых поспехаў у эканамічным, палітычным і культурным уздыме ўсіх раней прыгнятаўшыхся акраін, ператварыўшы іх у квітнеючыя рэспублікі. СССР стаў узорам сапраўднага карэннага вырашэння нацыянальна-каланіяльнага пытання, прыцягваючы да сябе прыгнечаных каланіяльных народаў свету, указваючы ім шляхі і сродкі іх уласнага сапраўднага вызвалення.

Толькі пры дыктатуры пролетарыята краіна Советаў, кіруемая комуністычнаю партыяй, можа правільна і да канца вырашыць нацыянальнае пытанне, ліквідаваць нацыянальную рознь і згуртаваць працоўных усіх нацыянальнасцей у адзіную сям'ю народаў, якія змагаюцца за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Ужо з самага пачатку сваёй барацьбы за пролетарскую праграму, стратэгію і тактыку, за партыю новага тыпу, Ленін агромную ўвагу ўдзяляў нацыянальнаму пытанню. Падкрэсліваючы ўвесь час, што нацыянальнае пытанне падпарадкавана агульнаму пытанню пролетарскай рэволюцыі, Ленін змагаўся за пролетарскую палітыку ў нацыянальным пытанні, якая забяспечвала-б ажыццяўленне пролетарскага інтэрнацыяналізма, як асновы адзінства працоўных усіх краін і нацый у барацьбе з капіталізмам.

Змагаючыся безупынна на два фронты, з правым і з «левым» апартунізмам, Ленін адначасова вёў няўстанную барацьбу з ухіламі ў нацыянальным пытанні, з ухіламі да вялікадзяржаўнага і мясцовага шавінізма. Адстойваючы пролетарскую праграму ў нацыянальным пытанні—права нацый на самавызначэнне, аж да аддзялення,—Ленін выявіў і выкрыў усю буржуазную, эксплаататарскую сутнасць як бундаўскай культурна-нацыянальнай аўтаноміі, так і вялікадзяржаўна-прыгнятальную сутнасць люксембургіянскага «імперыялісцкага эканамізма» у нацыянальным пытанні. Ленін выкрыў бундаўскую праграму культурна-нацыянальнай аўтаноміі, як праграму рэакцыйную, як праграму ўзгаднення з царызмам, як праграму падначалення яўрэйскага пролетарыята клерыкалізму яўрэйскай буржуазіі, як праграму разрыву адзінага інтэрнацыянальнага пролетарскага фронта, як праграму контррэволюцыі.

Ленін выкрыў сутнасць люксембургіянства ў нацыянальным пытанні, паказаўшы, што люксембургіянскае адмаўленне права нацый на самавызначэнне ёсць фактычнае падтрыманне вялікадзяржаўнасці, што адмаўленне люксембургіянствам рэволюцыйнага значэння нацыянальна-вызваленчага руху калоній і поўкалоній супроць імперыялізма ёсць на справе падтрыманне імперыялізма, што люксембургіянскае адмаўленне рэволюцыйнай ролі мільёнаў працоўных калоній і поўкалоній у пролетарскай рэволюцыі ёсць па сутнасці адмаўленне ад пролетарскай рэволюцыі.

У гэтай барацьбе Ленін развіў погляды Маркса і Энгельса па нацыянальнаму пытанню, дапасоўна да новай эпохі—эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый.

«Маркс і Энгельс, аналізуючы ў свой час падзеі ў Ірландыі, у Індыі, у Кітаі, у краінах Цэнтральнай Еўропы, у Польшчы, у Венгрыі,—далі асноўныя, адпраўныя ідэі па нацыянальна-каланіяльнаму пытанню. Ленін у сваіх працах базіраваўся на гэтых ідэях. Новае ў Леніна ў гэтай галіне заключаецца ў тым, што: а) ён сабраў у адно гэтыя ідэі ў стройную сістэму поглядаў аб нацыянальна-каланіяльных рэволюцыях у эпоху імперыялізма; б) звязаў нацыянальна-каланіяльнае пытанне з пытаннем аб звяржэнні імперыялізма; в) абвясціў нацыянальна-каланіяльнае пытанне састаўною часткаю агульнага пытання аб міжнароднай пролетарскай рэволюцыі». *)

Распрацоўваючы нацыянальна-каланіяльнае пытанне, Ленін выкрыў і разбіў ворагаў ленінізма як з лагера вялікадзяржаўных, так і мясцова-нацыяналістычных ухілістаў. У барацьбе з імі Ленін развіў і распрацаваў нацыянальна-каланіяльнае пытанне, нацыянальную палітыку большэвіцкай партыі, палітыку, якую вёў пролетарыят у перыяд заваявання сваёй улады і праводзіць у перыяд сваёй дыктатуры.

У барацьбе на два фронты, у барацьбе з «няўклюжым імперыялісцкім эканамізмам» польскіх і галандскіх «левых» Ленін адстойваў той погляд, што на базе соцыялізма

«разаўецца **практычна** абсалютнае ўстараненне малейшых нацыянальных трэнняў, малейшага нацыянальнага недавер'я, створыцца паскоранае збліжэнне і зліццё нацый...». **)

Развіваючы далей погляды Энгельса, паданыя ў яго артыкуле «По і Рэйн», Ленін даказваў шкоднасць люксембургіянскіх поглядаў, нібы «соцыялістычнае кола» аўтаматычна знімае пытанне аб асобай нацыянальнай палітыцы перамогшага пролетарыята.

Роза Люксембург, увесь час змагаючыся з патрабаваннем права нацый на самавызначэнне, адвяргаючы лозунг «абароны бацькаўшчыны» у рэволюцыйна-нацыянальнай вайне калоній супроць імперыялістаў, выставіла таксама тэзіс аб непатрэбнасці для перамогшага пролетарыята ніякай нацыянальнай палітыкі, бо, моў, у «соцыялістычным культурным коле» усе нацыянальныя пытанні знімаюцца. Ленін зараз-жа выступіў супроць гэтага люксембургіянскага тэзіса ў сваім творы «Вынікі дыскусіі аб самавызначэнні».

Яшчэ задоўга да Окцябрскай рэволюцыі Ленін пісаў аб неабходнасці і для соцыялістычнай дзяржавы весці сваю нацыянальную палітыку, палітыку знішчэння нацыянальнага недавер'я і варожасці, палітыку самага цеснага супрацоўніцтва працоўных усіх нацый у барацьбе з капіталізмам, палітыку ліквідацыі той эканамічнай і культурнай адсталасці нацыянальных рэспублік, якая выцякала з іх былога каланіяльнага становішча.

Такі-ж сэнс мае барацьба, якую Ленін вёў з Радэкам, Пятаковым і Бухарыным. Ужо пасля перамогі Окцябрскай рэволюцыі, калі на VIII з'ездзе партыі прымалася новая праграма, тт. Бухарын і Пятакоў зноў выступілі супроць праграмнага патрабавання партыі права на самавызначэнне, выстаўляючы замест яго «права працоўных на самавызначэнне», якое Р. Люксембург высоўвала ўвесь час. Ленін

*) Сталін. Пытанні ленінізма, стар. 266.
**) Ленін, т. XIX, стар. 171, выд. I.

выкрыў гэта лявацкае прыкрыццё вялікадзяржаўнага шавінізма, *ад*стаяўшы пролетарскую праграму ў нацыянальным пытанні.

Значэнне пролетарскага, соцыялістычнага вырашэння нацыянальнага пытання з асабліваю сілай была падкрэслена т. Сталіным у яго тэзісах і дакладзе X з'езду партыі: «Чарговыя задачы партыі ў нацыянальным пытанні». Тры перыяды існуюць у пастаноўцы нацыянальнага пытання, указвае т. Сталін.

Першы перыяд—гэта перыяд ліквідацыі феадалізма на Захадзе і перамогі капіталізма.

Другі—перыяд з'яўлення імперыялізма.

Пры ўсёй іх розніцы, абодвум перыядам уласціва ў пастаноўцы нацыянальнага пытання адна агульная рыса—нацыянальная варожасць.

> «Першыя два перыяды маюць адну агульную рысу. Заключаецца яна ў тым, што ў абодва перыяды нацыянальнасці церпяць уціск і зняволенне, з прычыны чаго нацыянальная барацьба застаецца ў сіле, а нацыянальнае пытанне—не вырашаным».
>
> «Трэці перыяд—гэта перыяд совецкі, перыяд знішчэння капіталізма і ліквідацыі нацыянальнага ўціску, калі пытанне аб пануючых і падначаленых нацыях, аб калоніях і метраполіі адыходзіць у гістарычны архіў...».
>
> «Відавочна,—заключае т. Сталін,—адзіным рэжымам, здольным вырашыць нацыянальнае пытанне, г. зн. рэжымам, здольным стварыць умовы, якія забяспечваюць мірнае сужыццё і брацкае супрацоўніцтва розных народнасцей і плямёнаў, з'яўляецца рэжым совецкай улады, рэжым дыктатуры пролетарыята». *)

Абагульняючы вопыт нашай барацьбы і намячаючы далейшыя перспектывы развіцця нацыянальнай палітыкі пролетарыята, Ленін пісаў у 1920 г. у «Першапачатковым накідзе тэзісаў па нацыянальнаму і каланіяльнаму пытаннях» для II з'езда Комуністычнага Інтэрнацыянала:

> «Прызнаючы федэрацыю пераходнаю формай к поўнаму адзінству, неабходна імкнуцца да больш і больш цеснага федэрацыйнага саюза, маючы на ўвазе, па-першае, немагчымасць адстаяць існаванне совецкіх рэспублік, акружаных непараўнальна больш магутнымі ў ваенных адносінах імперыялісцкімі дзяржавамі ўсяго свету, без цяснейшага саюза совецкіх рэспублік; па-другое, неабходнасць цеснага эканамічнага саюза совецкіх рэспублік, без чаго неажыццявіма аднаўленне разбураных імперыялізмам прадукцыйных сіл і забяспечанне добрабыту працоўных; па-трэцяе, тэндэнцыю к стварэнню адзінай, па агульнаму плану рэгулюемай пролетарыятам усіх нацый, сусветнай гаспадаркі, як цэлай, якавая тэндэнцыя ўпаўне выразна выяўлена ўжо пры капіталізме і безумоўна падлягае далейшаму развіццю і поўнаму завяршэнню пры соцыялізме». **)

Пролетарскі інтэрнацыяналізм—тая аснова, на якой грунтуецца ленінская нацыянальная палітыка, палітыка нацыянальнай роўнасці,

*) Сталін. „Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне", стар. 74—75.
**) Ленін, т. XXV, стар. 287.

знішчэння нацыянальнага недавер'я, бязлітаснай барацьбы на два фронты: з ухілам у бок вялікадзяржаўнага шавінізма і з ухілам у бок мясцовага нацыяналізма.

Тав. Сталін, развіваючы далей ленінізм, развіваючы ленінскае вучэнне аб нацыянальна-каланіяльным пытанні, ставіць задачу ліквідацыі **фактычнай** няроўнасці раней прыгнятаўшыхся нацый у эканамічных, палітычных і культурных адносінах.

Асноўную ўстаноўку нацпалітыкі партыі ў адносінах да нацрэспублік т. Сталін сфармуляваў у сваім дакладзе на XII з'ездзе партыі:

«Некаторыя з нашых таварышоў думаюць, што, выпяціўшы на першы план пытанне аб школах і мове, гэтым самым можна разрубіць вузел. Няверна, таварышы, на школах тут далёка не паедзеш, яны, гэтыя самыя школы, развіваюцца і мова таксама развіваецца, але няроўнасць фактычна—гэта аснова ўсіх нездаваленняў і ўсіх трэнняў. Тут школамі і мовай не адгаворышся, тут патрэбна сапраўдная, сістэматычная, шчырая, пролетарская дапамога з нашага боку працоўным масам адсталых у культурных і гаспадарчых адносінах нацыянальнасцей. Неабходна, каб акрамя школ і мовы, расійскі пролетарыят прыняў усе захады к таму, каб на акраінах, у адсталых у культурных адносінах рэспубліках,—адсталі яны не па сваёй віне, а таму, што іх разглядалі раней як крыніцы сыравіны,—неабходна дабіцца таго, каб у гэтых рэспубліках былі пабудаваны ачагі прамысловасці».

Гэты прыклад адзіна правільнага вырашэння нацыянальнага пытання партыяй большэвікоў і даў магчымасць такога велізарнага росту совецкіх рэспублік.

Указваючы на гэтыя задачы, т. Сталін гаварыў:

«Хоць пры совецкім рэжыме ў Расіі і рэспубліках, звязаных з Расіяй, няма ўжо ні пануючых, ні бяспраўных нацыянальнасцей, ні метраполіі, ні калоній, ні эксплаатуемых, ні эксплаататараў, тым не менш нацыянальнае пытанне ўсё-ж існуе ў Расіі. Сутнасць нацыянальнага пытання ў РСФСР заключаецца ў тым, каб знішчыць тую адсталасць (гаспадарчую, палітычную, культурную) нацыянальнасцей, якую мы атрымалі ў спадчыну ад мінулага, каб даць магчымасць адсталым народам дагнаць цэнтральную Расію і ў дзяржаўных, і ў культурных, і ў гаспадарчых адносінах». *)

Развіваючы далей нацыянальнае пытанне, т. Сталін падымае яго на новую вышыню. На XVI з'ездзе партыі т. Сталін, бязлітасна расправляючыся з ухілам да вялікадзяржаўнага шавінізма і з ухілам да мясцовага нацыяналізма, прадаўжае і развівае далей ленінскае вучэнне аб нацыянальнай культуры ва ўмовах дыктатуры пролетарыята. Дыялектыка гэтага пытання высветлена т. Сталіным з вычарпальнай паўнатой і дакладнасцю.

«Можа здацца дзіўным,—гаворыць т. Сталін,—што мы, староннікі **зліцця** ў будучым нацыянальных культур у адну агульную (і па форме і па зместу) культуру, з адной агульнай мовай, з'яўляемся разам з тым староннікамі **росквіту** нацыянальных культур у даны момант, у перыяд дыктатуры пролета-

*) **Сталін**, Марксізм і нац.-каланіяльнае пытанне", стар. 76.

рыята. Але ў гэтым няма нічога дзіўнага. Трэба даць нацыянальным культурам развіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае патэнцыі, каб стварыць умовы для зліцця іх у адну агульную культуру з адной агульнай мовай. Росквіт нацыянальных па форме і социялістычных па зместу культур ва ўмовах дыктатуры пролетарыята ў адной краіне для зліцця іх у адну агульную социялістычную (і па форме і па зместу) культуру, з адной агульнай мовай, калі пролетарыят пераможа ва ўсім свеце і социялізм увойдзе ў быт,—у гэтым іменна і заключаецца дыялектычнасць ленінскай пастаноўкі пытання аб нацыянальнай культуры». *)

З вышыні тых пазіцый, на якія падняў нацыянальнае пытанне т. Сталін, партыя прадаўжала яшчэ з большай сілай выкрываць і граміць ухілістаў у нацыянальным пытанні як у бок вялікадзяржаўнага шавінізма, так і мясцовага. Палітыка развіцця культуры, нацыянальнай па форме і социялістычнай па зместу, патрабавала сістэматычнай барацьбы з ухілам да вялікарускага шавінізма.

«Сутнасць ухілу да вялікарускага шавінізма заключаецца ў імкненні абыйсці нацыянальныя розніцы мовы, культуры, быту; у імкненні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і абласцей; у імкненні падарваць прынцып нацыянальнага раўнапраўя і развянчаць палітыку партыі па нацыяналізацыі апарата, нацыяналізацыі прэсы, школы і іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый». **)

Ясна, што без бязлітаснай барацьбы з вялікадзяржаўным ухілам нацыянальныя па форме і социялістычныя па зместу культуры развіваць немагчыма, што без выяўлення і выкрыцця фальшывага інтэрнацыяналізма вялікадзяржаўнікаў нельга зламаць іх супраціўленне.

З другога боку, барацьба за развіццё нацыянальнай культуры, социялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме, патрабавала і патрабуе бязлітаснай барацьбы з ухілам да мясцовага нацыяналізма, сутнасць якога заключаецца:

«у імкненні адасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай шкарлупы, у імкненні затушаваць класавыя супярэчнасці ўнутры сваёй нацыі, у імкненні абараніцца ад вялікарускага шавінізма шляхам адыходу ад агульнага патоку социялістычнага будаўніцтва, у імкненні не бачыць таго, што зблібліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасцей СССР, і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адну ад другой». ***)

Ясна, што без непрымірымай і бязлітаснай барацьбы з ухілам да мясцовага шавінізма, які імкнецца выкарыстаць лозунг развіцця нацыянальнай культуры для правядзення і працягвання буржуазна-нацыяналістычных ідэй, ажыццяўляць ленінскую нацыянальную палітыку, было-б немагчыма. Іменна т. Сталіну належыць заслуга выкрыцця ўсёй буржуазнай контррэволюцыйнай сутнасці вялікадзяржаўнага і мясцовага нацыяналізма і ўхілу ў яго бок. Іменна т. Сталіну належыць заслуга выяўлення і выкрыцця агромнай небяспекі на даным этапе мясцовага нацыяналізма, які змыкаецца з інтэрвентамі, фашыстамі, ставячымі стаўку на адрыў нацыянальных рэспублік (Украіна, Беларусь і інш.) ад СССР з мэтай узмацнення пазіцый імперыялізма.

*) Сталін, „Марксізм і нац.-каланіяльнае пытанне", стар. 194—195.
**) Там-жа, стар. 191.
***) Там-жа, стар. 196.

Значыць, іменна таму, што рад арганізацый КП(б)Б і КП(б)У аслабілі барацьбу з контррэволюцыйным наццэмакратызмам, іменна таму, што контррэволюцыйны наццэмакратызм блакуецца з усімі іншымі відамі буржуазнага нацыяналізма (з вялікадзяржаўнікамі, контррэволюцыйнымі бундаўскімі элементамі і інш.), з трацкістамі на агульнай платформе адрыву БССР ад СССР, мясцовы нацыяналізм вырас да дзяржаўнай небяспекі, стаў галоўнай небяспекай ва ўмовах БССР і УССР на даным этапе.

Пастаўленыя т. Сталінам задачы няўхільна ажыццяўляліся партыяй і совецкай уладай па меры росту сіл нашай краіны, па меры ажыццяўлення грандыёзных большэвіцкіх тэмпаў індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Ужо на працягу першай пяцігодкі і першых год другой пяцігодкі партыя і совецкая ўлада дабіліся поўнага ператварэння твару раней адсталых нацыянальных рэспублік, нацыянальных раёнаў і абласцей нашага вялікага Саюза. Не толькі рушана ўперад з нячуванай хуткасцю развіццё такіх рэспублік як Украіна, Беларусь, закаўказскія рэспублікі, але заклікаhы да новага жыцця ўжо асуджаныя было царызмам на выміранне плямёны і нацыянальнасці далёкай Поўначы і Ўсходу. Абласці, чые сыравінныя багацці нястрымана раскрадаліся расійскімі памешчыкамі і буржуазіяй, абласці, чые працоўныя масы падвяргаліся бязлітаснаму знішташэнню і бязмернай эксплаатацыі, як з боку расійскіх вялікадзяржаўнікаў, так і туземных эксплаататараў,—гэтыя абласці, дзякуючы большэвіцкаму правядзенню ленінскай нацыянальнай палітыкі, усё больш і больш пакрываюцца буйнейшымі ў свеце і абсталяванымі па апошняму слову тэхнікі прадпрыемствамі і электрастанцыямі, капальнямі, абвадняльнымі каналамі і меліярацыйнымі пабудовамі, чыгункамі і ўдасканаленымі шасэ, усё больш і больш адкрываюць свае невычэрпныя нетры і багацці.

Гэты агромны працэс індустрыялізацыі суправаджаецца не менш агромным ростам туземнага пролетарыята, ростам нацыянальных тэхнічных і інжынерных кадраў, ростам пролетарскай арганізаванасці, палітычнай актыўнасці і згуртавання працоўных вакол камуністычнай партыі.

На аснове гэтага гаспадарчага росту развіваліся культуры, нацыянальныя па форме і соцыялістычныя па зместу.

Там, дзе раней панавала сярэдневяковая цемра, улада забабонаў, суцэльная няграматнасць, рабіны і шаманы, паны і баі, там цяпер ўзнікаюць універсітэты, тэхнікумы, школы, больніцы, нараджаецца новая пісьменнасць, новая літаратура. Адна з яркіх ілюстрацый росквіту нацыянальных культур—Усесаюзны з'езд совецкіх пісьменнікаў, які адбыўся ў верасні 1934 г.

Толькі дыктатура пролетарыята, толькі совецкая ўлада можа канчаткова знішчожыць нацыянальную варожасць, імкненні к нацыянальнаму прыгнечанню, нацыянальную грызню, эксплаатацыю і інш. Дыктатура пролетарыята забяспечвае не толькі прававую нацыянальную роўнасць, але і знішчае фактычную няроўнасць, адсталасць у эканамічных, палітычных і культурных адносінах—спадчыну капіталістычнай катаргі.

Узорам ажыццяўлення гэтага на **справе,** на **практыцы** з'яўляецца СССР. Сваімі **практычнымі** перамогамі СССР прыцягвае да сябе вялікую ўвагу і сімпатыі прыгнечаных імперыялізмам народаў. У іх—бязлітаснае прыгнечанне, нечалавечая эксплаатацыя, драпежніцкае

раскрадванне народных сродкаў і рэсурсаў, узаемнае нацкоўванне і нацыянальная грызня. У нас, у СССР,—мірнае супрацоўніцтва, вялікая дапамога адсталым з боку перадавых пролетарыяў, самы цесны саюз у барацьбе за зніштажэнне капіталізма і пабудову социялізма, росквіт культур, нацыянальных па форме і соцыялістычных па зместу.

Надзвычай павучальна супаставіць з гэтым пазіцыі II Інтэрнацыянала ў нацыянальным пытанні. II Інтэрнацыянал займае ў нацыянальным пытанні пазіцыю падтрымання таго нацыянальна-каланіяльнага гнёту, які так званыя «цывілізаваныя» нацыі прымяняюць да многамільённых мас калоній і паўкалоній. Сваімі тэорыямі «цывілізатарскай» ролі «перадавых» нацый, тэорыяй дэкаланізацыі II Інтэрнацыянал абгрунтоўвае той бязлітасны разбой, форменае драпежніцтва, якімі займаецца «цывілізаваная» «перадавая» буржуазія. II Інтэрнацыянал поўнасцю падтрымлівае сваю японскую секцыю, японскіх «соцыялістаў», абвясціўшых японскіх імперыялістычных драпежнікаў у Манчжурыі і Кітаі «носьбітамі соцыялізма».

Пазіцыю падтрымання нацыянальна-каланіяльнага прыгнечання займае правадыр перадавога атраду контррэволюцыйнай буржуазіі пан Троцкі. У свой час Троцкі ўзначаліў жнівеньскі ліквідатарскі блок, які прыняў рэакцыйную бундаўскую праграму культурна-нацыянальнай аўтаноміі.

Вялікадзяржаўны шавініст Троцкі цалкам падтрымлівае імперыялістычнае драпежніцтва, што знаходзіцца ў поўнай гармоніі з яго агульнай контррэволюцыйнай тэорыяй, з усёй стратэгіяй, тактыкай і праграмай авангарда контррэволюцыйнай буржуазіі. І невыпадкова, што ў Зіноўева—натхняльніка падонкаў контррэволюцыйнай зіноўеўскай групы—мы знаходзім той-жа вялікадзяржаўны шавінізм, у духу якога ён выхоўваў усіх гэтых Нікалаевых, Каталынавых, Шацкіх і інш. Служачы імперыялістам, яны падтрымлівалі імкненні самых рэакцыйных элементаў фінансавай буржуазіі ператварыць СССР у калонію манапалістычнага капітала.

Выкрыццё маскоўскага і ленінградскага «цэнтраў» паказала аднолькавасць праграмы і тактыкі Зіноўева, Еўдакімава, Каменева і інш. з праграмай і тактыкай белагвардзейскіх наймітаў, врангелеўцаў, дзенікінцаў, якія імкнуцца прабрацца праз нашы граніцы з атрутай і зброяй.

Пераход Зіноўева і яго групы на шлях белагвардзейскага бандытызма не выпадковы. Ён з'яўляецца завяршэннем таго двурушніцтва, якое Зіноўеў прымяняў у барацьбе з партыяй на працягу доўгага часу. Контррэволюцыйная праграма зіноўеўскай групы—праграма белагвардзейскага атрэп'я і ўключае ў сябе вялікадзяржаўныя мары аб «адзінай і недзялімай», аб рэстаўрацыі капіталізма.

Ужо ў 1916 г. Ленін выкрыў зіноўеўскае палажэнне аб тым, што «маленькія краіны не могуць у сучасную эпоху абараняць бацькаўшчыну». Ленін паказаў, што гэта—паўтарэнне люксембургіянскага палажэння: «У эпоху імперыялізма **не можа** быць нацыянальных войн». І пазней, у пасляокцябрскі перыяд, Зіноўеў неаднакроць праяўляе свой вялікадзяржаўны шавінізм, які неадлучным элементам увайшоў у контррэволюцыйную рэстаўратарскую праграму зіноўеўскай групы.

І невыпадкова контррэволюцыйнае ахвосце быўшай зіўноўеўска-каменеўскай антысовецкай групы, забіўшае з-за вугла т. Кірава—лепшага саратніка т. Сталіна, шукала сувязі з Троцкім праз замеж-

ных інтэрвентаў, уступаючы ў зговар з замежным консулам, выконваючы яго шпіёнскія дыверсійныя заданні і змыкаючыся з дзенікінскім атрэп'ём з Белграда і інш. Совецкая ўлада з усёй бязлітаснасцю расправілася з гэтай контррэволюцыйнай групай—агіднай гадзінай, якая сваё атрутнае жала накіроўвала ў сэрца партыі.

* * *

Асновай росквіту нацыянальных рэспублік, абласцей і раёнаў з'яўляецца соцыялістычная індустрыялізацыя, якую паслядоўна праводзіць партыя і совецкая ўлада.

Каб лепш ацаніць значэнне ленінскай нацыянальнай палітыкі, даволі кінуць беглы погляд на тое, што прадстаўлялі сабой так званыя акраіны пры царызме з яго каланіяльнай палітыкай.

Багацейшыя сыравінныя сродкі Сярэдняй Азіі раскрадваліся самым грабежніцкім чынам. Абараняючы інтарэсы расійскіх памешчыкаў і фабрыкантаў, царскі ўрад усімі сіламі перашкаджаў узнікненню там апрацоўчай прамысловасці. Генерал-губернатар Самсонаў, царскі сатрап у Сярэдняй Азіі, на хадайніцтва аб дазволе пабудаваць тэкстыльную фабрыку налажыў наступную рэзалюцыю:

> «Адмовіць у пабудове тэкстыльнай фабрыкі ў Туркестане таму, што гэта будзе нездаровай канкурэнцыяй з расійскімі фабрыкантамі Іванава-Вазнесенска, Масквы і т. д.». *)

Такая-ж палітыка вялася і ў Сібіру і на Беларусі, дзе натуральныя багацці (лясы, торф і т. д.) раскрадваліся, а працоўныя масы падвяргаліся ўціску падвойнага прэса: вялікарускіх памешчыкаў і буржуазіі і сваёй «уласнай» буржуазіі—беларускай, яўрэйскай, польскай.

Так было ўсюды, куды дабіраліся драпежніцкія лапы царскага арла і шчупальцы расійскай буржуазіі.

Азірнемся навокал і паглядзім, чым была і чым стала наша совецкая Беларусь.

> «Беларусь у мінулым гэта—калонія царскай імперыі, краіна соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечання, краіна эканамічнай і культурнай адсталасці. Мяшчанскія, з саматужнай прамысловасцю гарады; палавіна зямлі ў памешчыкаў, калі не лічыць нават кулакоў, на долю якіх прыпадала амаль што палавіна астатняй зямлі; 70 проц. няграматных; краіна беспрасветнай галечы і поўгалоднага існавання беднаты ў горадзе, вёсцы і мястэчку; краіна сярэдневяковай чэрты аседласці—такі твар дарэволюцыйнай Беларусі». **)

Прамысловасць у 1913 годзе давала 17 проц. валавога даходу ўсёй народнай гаспадаркі. Доля даходу фабрычна-заводскай прамысловасці ва ўсім даходзе прамысловасці складала 4,9 проц. Рабочых налічвалася прыблізна 20 тыс. чалавек, якія падвяргаліся асабліва бязлітаснай эксплаатацыі, бо заняты былі ў дробных саматужных прадпрыемствах, дзе працягласць рабочага дня дасягала 14—16 гадзін.

Не лепш было становішча сельскай гаспадаркі Беларусі.

---

*) **А. Хавин**, Социалистическая индустриализация национальных республик и областей, стр. 21.

**) **В. Ф. Шаранговіч** „15 год КП(б)Б і БССР", стар. 14

«З 22.228.000 дзесяцін належала памешчыкам, князям, цэрквам і манастырам 11.645.000 дзес., а на долю ўсіх сялян, уключаючы і кулакоў, прыпадала 10.384.000 дзес...

На Беларусі прыблізна было 200 тысяч батракоў... За 20 год перасялілася ў Сібір 642 тыс. чалавек, выехала ў Амерыку 800 тыс., а астатняя бедната і маламоцная частка сераднякоў гнулі спіну на рабоце ў кулакоў і памешчыкаў». *)

Эканамічнаму і палітычнаму прыгнечанню адпавядала прыгнечанне культурнае.

«Па перапісу 1891 г. у сельскіх мясцовасцях Беларусі на тысячу душ насельніцтва прыпадала ўсяго 142 граматных... Царскі ўрад забараняў выкладанне ў школах на роднай мове, праз школу праводзілася гвалтоўная русіфікацыя беларускага, польскага і яўрэйскага насельніцтва. Беларускіх школ у царскай Расіі не было; зразумела, не было на Беларусі і ні адной вышэйшай навучальнай установы». **)

Імперыялістычная вайна прадукцыйным сілам Беларусі нанесла балючыя раны. Не менш пастараліся нямецкія і белапольскія акупанты. Згодна падліку, з 715 існаваўшых да вайны прадпрыемстваў больш 400 было ліквідавана ў рэзультаце пажараў, разбурэння, вывазу абсталявання.

Такую спадчыну атрымала совецкая ўлада ў Беларусі.

І што-ж?

Мінула 15 з лішнім год, і Совецкая Беларусь стала непазнавальнай. Пры выключнай дапамозе і падтрыманні ўсяго Саюза, пры непасрэдным кіраўніцтве ЦК ВКП(б) і т. Сталіна, рабочыя і працоўнае сялянства БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ЦК паспелі за кароткі тэрмін ператварыць адсталую, саматужную Беларусь—гэту былую калонію царскай Расіі—у перадавую, індустрыяльна-аграрную рэспубліку—заходні фарпост нашага СССР.

На XV з'ездзе КП(б)Б сакратар ЦК т. Гікало ахарактарызаваў поспехі індустрыялізацыі БССР наступнымі лічбамі і фактамі:

«У 1927—28 гг. мы мелі ў Беларусі такія суадносіны паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай: 41,3 проц. на прадукцыю прамысловасці і 59,7 проц. на прадукцыю сельскай гаспадаркі. У 1932 г. валавая прадукцыя прамысловасці Беларусі ў агульнай гаспадарцы БССР складае 67 проц., сельска-гаспадарчая прадукцыя—33 проц.».

З года ў год расце ўдзельная вага прамысловасці БССР у адносінах прамысловасці ўсяго Совецкага саюза: у 1931 г.—0,87 проц., у 1928 г.—1,12 проц., у 1932 г.—2,5 проц.

У параўнанні з даваенным часам валавая прадукцыя прамысловасці БССР узрасла за апошнія гады ў 9 з лішнім раз, чаму адпавядае агромны колькасны рост фабрычна-заводскага пралетарыята.

За гады першай пяцігодкі і за першыя два гады другой у прамысловасць БССР укладзена 885 млн. рублёў.

Гэта з'яўляецца прамым выражэннем ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі, выражэннем агромнай дапамогі Совецкага саюза рабочым і працоўным масам БССР, якія пад кіраўніцтвам партыі будуюць социялізм.

*) В. Ф. Шаранговіч „15 год КП(б)Б і БССР", стар. 15.
**) Там-жа, стар. 15—16.

Бліскучай дэманстрацыяй перамог ленінскай нацыянальнай палітыкі з'явіўся XI з'езд советаў БССР.

Падводзячы вынікі перамогам, атрыманым рабочымі і калгасным сялянствам БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ленінскага ЦК на чале з т. Гікало, старшыня ЦВК БССР т. Чарвякоў заявіў:

«Няма больш старой, заняпалай, беднай, асуджанай на выміранне працоўных мас, Беларусі—калоніі царызма. Ёсць новая Беларусь—Беларусь соцыялістычнай прамысловасці, Беларусь соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, Беларусь соцыялістычнай культуры, Беларусь перамагаючага соцыялізма, Беларусь мільёнаў актыўных свядомых будаўнікоў соцыялізма, Беларусь раўнапраўная, неадлучная частка вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік».

У жорсткай класавай барацьбе дабіліся гэтых заваёў рабочыя і калгасныя масы Беларусі, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало. У лютай барацьбе з класавым ворагам, з яго агентурай—правым і «левым» апартунізмам, у барацьбе з беларускім контррэволюцыйным нацдэмакратызмам, з нацыяналістычнымі ўхілістамі ўсіх колераў—беларускага, польскага, яўрэйскага, у барацьбе з вялікадзяржаўнымі ўхілістамі, ў разгроме блока трацкістаў з нацыяналістамі (Югаў, Рыўлін) наша рэспублікаператварылася з адсталай у магутны індустрыяльна- калгасны фарпост СССР на захадзе, на мяжы капіталістычнага свету.

У рэзультаце правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі БССР пакрылася новымі буйнейшымі прадпрыемствамі з высокаю тэхнікай: Гомсельмаш, Касцюковіцкі шклозавод, цэментны завод у Крычаве, магілеўская фабрыка штучнага шоўку, швейныя фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» і «КІМ» у Віцебску, бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, БелДРЭС, гомельскі маргарынавы завод, Оршанскі мясакамбінат, менскі завод малочных кіслот, плодасушыльны завод сістэмы Бучынелі ў Магілеве і інш.

Адначасова і старыя заводы так грунтоўна рэканструяваны, што па сутнасці прадстаўляюць сабой новыя прадпрыемствы. Напр. у Менску— завод «Варашылава», «Большэвік», імя Кірава (б. «Комунар»), у Гомелі—«Пролетарый», імя Ланцуцкага і ішмат іншых.

За час з X па XI з'езды советаў ва ўсю прамысловасць БССР уложана 885 млн. руб., з іх у цяжкую—звыш 103 млн. руб., у хімічную—звыш 28 млн., у лясную—8 млн. руб.

Пераабсталяванне тэхнічнай базы прамысловасці дазволіла арганізаваць выраб цэлага раду відаў прадукцыі: штучнае валакно, варштаты, савеліт, дубільны экстракт, ізопліты, стандартныя дамы, будаўнічыя дэталі, нажовая фанера, мэбля, паркет, трыкатажныя вырабы, малочныя кіслоты і інш.

Значна змяніла свой твар металаапрацоўчая прамысловасць БССР. Асвоен выраб цэлага раду варштатаў, якія раней увозіліся з-за граніцы. Разгорнута вытворчасць машын, неабходных соцыялістычнай сельскай гаспадарцы: сячкарні, бульбакапалкі, кормарэзкі і інш. Па агульна-машыннаму будаўніцтву асвоен рад вельмі складаных машын, частка якіх упершыню вырабляецца ў СССР (рэзьбанаразныя варштаты «Ціль» і інш.).

Насосы «Вертынгон», прадукцыі завода «Пролетарый», забяспечваюць не толькі прамысловасць БССР, але і іншых саюзных рэспублік і абласцей СССР. «Пролетарый» у 1934 годзе таксама асвоіў кам-

бровачна-травільны варштат сістэмы «Калава». Заводам «Варашылава» упершыню асвоены багеры, асвойваецца прадольна-стругальны варштат і абсталяванне для малога гідраторфу.

Вялікае значэнне мае рост прамысловасці, якая базуецца на мясцовай сыравіне. Тарфяная прамысловасць, напрыклад, павялічыла выраб прадукцыі ў параўнанні з 1931 г. у 3,2 разы, хімічная—у 3,6, шкляная—у 2,3.

Магутнасць электрастанцый узрасла з 53,8 тыс. клв. у 1931 г. да 73,4 тыс. у 1934 годзе. *)

Паралельна з быстрым тэмпам індустрыялізацыі адбываецца пад кіраўніцтвам КП(б)Б соцыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі. Калектывізацыя ахапіла ўжо больш 72 проц. сялянскіх гаспадарак Беларусі. К восені 1934 г. мы мелі 429 соўгасаў з 1253 трактарамі, са 195.000 га пасеву зернавых і кармавых культур.

Для абслугоўвання калгасаў створана ўжо 65 МТС, якія маюць каля 2500 трактароў. Дзякуючы такому тэхнічнаму ўзбраенню, а таксама ўпорнай масавай рабоце палітаддзелаў, рабоце ўсёй КП(б)Б, якая забяспечыла ўздым вытворчага энтузіязма, зроблен значны крок уперад для ажыццяўлення лозунга тав. Сталіна: «Зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі». Безупынна расце матар'яльны і культурны ўзровень калгасніка.

На аснове быстрай індустрыялізацыі БССР адбываецца агромны палітычны ўздым працоўных мас, якія ўцягваюцца ў будаўніцтва органаў совецкай улады, у барацьбу за перамогу соцыялізма. Да рэволюцыі ў Беларусі было 75 проц. няграматных. У сучасны момант няграматнасць у асноўным ліквідавана. БССР ператварылася ў рэспубліку суцэльнай граматнасці. У 1914 г. было 4257 школ, дзе навучаліся пераважна буржуазна-кулацкія і памешчыцкія сынкі. Многія школы знаходзіліся ў руках духавенства і служылі мэтам адурманьвання і абдурвання народу. У сучаснай Совецкай Беларусі колькасць школ дасягнула амаль 7000. У нашых школах каля 1.000.000 вучняў, якія атрымліваюць сапраўдную пролетарскую навуку, спалучаючы тэорыю з практыкай.

Побач з сярэднімі школамі выраслі школы вышэйшыя, навукова-даследчыя ўстановы, якіх у БССР у два разы цяпер больш, чым было ва ўсёй дарэволюцыйнай Расіі. Дзяржаўная бібліятэка ў Менску—адна з багацейшых кніжных скарбніц—змяшчаецца ў новым, надзвычай прыгожым, спецыяльна абсталяваным будынку. БССР мае адзін з лепшых у Саюзе універсітэцкіх гарадкоў з дасканалымі вучэбнымі карпусамі і інтэрнатамі. Беларуская Акадэмія Навук ужо разгарнула значную работу па вывучэнню натуральных прадукцыйных сіл рэспублікі, у яе сценах канцэнтруецца ўсё большая колькасць лепшых навуковых сіл.

Буйнейшым дасягненнем культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу, з'яўляецца арганізацыя дзяржаўных тэатраў (беларускага, яўрэйскага, польскага і рускага—з кадрамі нацыянальных драматургаў), Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, Дзяржаўнай кансерваторыі.

Тэмпы развіцця культуры БССР адлюстроўваюцца ў надзвычайным росце бюджэта народнай асветы.

*) „Звязда" № 12 ад 14 студзеня 1935 г.

У 1930 г. на народную асвету было асігнавана па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэтах 53,1 млн. руб., а ў 1934 г.—191 млн. руб.—рост больш як у 3,5 разы.

Гаспадарчы, палітычны і культурны росквіт БССР асабліва рэзка выдзяляецца на змрочным фоне ўціску культуры ў Заходняй Беларусі, пад ботам польскага фашызма. Сусветны эканамічны крызіс і дэпрэсія асобага роду з асаблівою сілай б'юць па народных масах Польшчы і Заходняй Беларусі.

Страшэннае беспрацоўе ў гарадах, неймавернае жабрацтва ў вёсцы, цяжкі прэс нацыянальнага прыгнечання з усёй сілай абрушыліся на Заходнюю Беларусь. Калі некалькі год назад існавалі яшчэ пару сотнь беларускіх школ, то цяпер яны знішчаны дазвання.

Змагаючыся пад кіраўніцтвам КПЗБ і КПП за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне, рабочыя і працоўныя масы Заходняй Беларусі, разам з рабочымі і працоўнымі ўсяго свету, з гордасцю глядзяць на соцыялістычныя перамогі СССР і БССР, у якіх чэрпаюць новыя сілы для сваёй далейшай барацьбы.

У гэтым артыкуле мы адзначылі толькі важнейшыя паказчыкі поспехаў ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР, якая праводзіцца пад кіраўніцтвам КП(б)Б на чале з тав. Гікало пры непасрэднай дапамозе і кіраўніцтве ЦК ВКП(б).

БССР—толькі адзін са шматлікіх участкаў, дзе праводзіцца ў жыццё ленінская нацыянальная палітыка. Успомнім, што прадстаўлялі сабою раней так званыя ўсходнія і паўднёва-ўсходнія акраіны былой Расіі, дзе царскі ўрад штучна захоўваў качавы быт насельніцтва, уладу баеў і бэкаў з тым, каб лепш праводзіць сваю бязлітасную каланізатарскую палітыку. Пры дапамозе пролетарыята РСФСР і іншых перадавых рэспублік такія акраіны як Казакстан, Узбекістан і іншыя мінавалі капіталістычны этап развіцця і будуюць соцыялізм.

Яшчэ ў 1920 годзе, на II кангрэсе Комінтэрна, Ленін указаў:

> «Комуністычны Інтэрнацыянал павінен устанавіць і тэарэтычна абгрунтаваць тое палажэнне, што пры дапамозе пролетарыята найбольш перадавых краін адсталыя краіны могуць перайсці к савецкаму ладу і праз пэўныя ступені развіцця—к комунізму, мінуючы капіталістычную стадыю развіцця». *)

Гэта ленінскае палажэнне, як вядома, увашло ў праграму Комінтэрна. Развіваючы яго і прымяняючы да ўмоў нашага Ўсходу, тав. Сталін указаў у сваёй прамове студэнтам КУТВ у 1925 годзе:

> «Асноўная задача заключаецца ў тым, каб палегчыць справу ўключэння рабочых і сялян гэтых рэспублік у будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, стварыць і развіць прадпасылкі, дапасоўна да асобых умоў існавання гэтых рэспублік, якія могуць рушыць уперад і паскорыць гэта ўключэнне.
>
> Адсюль выцякаюць чарговыя задачы, якія стаяць перад актыўнымі работнікамі савецкага Ўсходу:
>
> 1) Стварыць прамысловыя ачагі ў савецкіх рэспубліках Усходу, як базы для згуртавання сялян вакол рабочага класа...
>
> 2) Узняць сельскую гаспадарку і, перш за ўсё, абвадненне. Вы ведаеце, што гэта справа таксама рушана ўперад прынамсі ў Закаўказзі і Туркестане.

*) **Ленін**, т. XXV, стар. 354.

3) Узняць і рушыць уперад справу кааперавання шырокіх мас сялян і саматужнікаў, як вярнейшы шлях уключэння совецкіх рэспублік Усходу ў агульную сістэму совецкага гаспадарчага будаўніцтва.

4) Наблізіць советы да мас, зрабіць іх нацыянальнымі па складу і насадзіць, такім чынам, нацыянальна-совецкую дзяржаўнасць, блізкую і зразумелую працоўным масам.

5) Развіць нацыянальную культуру, насадзіць шырокую сець курсаў і школ як агульнаадукацыйнага, так і прафесіянальна-тэхнічнага характару на роднай мове для падрыхтоўкі совецка-партыйных і прафесіянальна-гаспадарчых кадраў з мясцовых людзей». *)

Пастаўленыя правадыром нашай партыі задачы праводзіліся і праводзяцца ў жыццё з найвялікшай паслядоўнасцю, у бязлітаснай барацьбе з вялікадзяржаўным і мясцовым шавінізмам.

Справа індустрыялізацыі, як базы развіцця нацыянальнай культуры, ужо моцна наладжана на Ўсходзе.

Возьмем Казакстан. Яшчэ ў 1927-28 гг. у гэтай агромнай краіне было толькі 4 800 прамысловых рабочых.

«У агульным балансе прамысловай прадукцыі Саюза доля Казакстана вымяралася трыма дзесятымі процанта (0,3 проц.)! Пераважнае значэнне ў народнай гаспадарцы Казакстана належала жывёлагадоўлі, якая давала прадукцыю коштам у два разы больш, чым прадукцыя земляробства, і ў тры разы больш прадукцыі ўсіх астатніх галін народнай гаспадаркі». **)

Гэта былая тыповая калонія царызма з рускім кулаком-перасяленцам, які змыкаўся з мясцовымі баямі, муламі, поўфеадаламі, у самы кароткі гістарычна тэрмін, пад кіраўніцтвам ВКП(б), ператварылася ў індустрыяльна-аграрную краіну, якая будуе соцыялізм.

Дзякуючы велізарнаму размаху даследчых работ, Казакстан выступае як краіна незвычайных натуральных багаццяў. У нетрах Казакстана, дзякуючы большэвіцкім тэмпам доследаў, выяўлены вугаль, нафта, медзь, свінец, цынк, марганец, ванадзій, серны калчадан, фасфарыт, селітра. Ужо на аснове разведаных запасаў Карагандзінскі вугальны басейн разглядаецца, як «трэцяя магутная вугальная база СССР». ***) Развіццё гэтай базы характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Гады | Здабыта |
|---|---|
| 1930 | 0 |
| 1931 | 279.000 тон |
| 1932 | 723 000 „ |
| 1933 | 2.000.000 „ |

Значэнне Карагандзінскай вугальнай базы вырастае яшчэ больш у сувязі з агромным багаццем іншых выкапняў, асабліва каляровых ме-

*) Сталін, Марксізм і нац.-каланіяльнае пытанне, стар. 156–157.
**) А. Хавин. Социалистическая индустриализация национальных республик и районов. стр. 63.
***) Пастанова ЦК ВКП(б) ад 15.VIII–31 г.

талаў. Рыдэраўскае горна-металургічнае прадпрыемства (цынк і інш.), Карсакпайскі медзеплавільны завод, Канрадскія медныя руднікі, Прыбалхашбуд, Чэкментскі Казпаліметалургічны гігант з гадавой прадукцыйнасцю ў 60.000 тон свінца, Урала-Эмбенскі нафтаносны раён, Акцюбінскае фасфарытнае месцанараджэнне, якое можа забяспечыць сярэдне-азіяцкае бавоўнаводства тукавымі ўгнаеннямі—так выглядае прамысловы твар Совецкага Казакстана. Турксіб—адна з буйнейшых чыгуначных магістралей у 1 442 км.—звязвае Сярэднюю Азію і Сібір. За апошнія 4 гады ў прамысловае будаўніцтва Казакскай АССР укладзена 890 мільёнаў рублёў.

Вялікая рэволюцыя праведзена ў сельскай гаспадарцы Казакстана. Ламаючы супраціўленне баеў, мабілізуючы супроць іх батрацтва і беднату, совецкая ўлада, пад кіраўніцтвам партыі, правяла канфіскацыю байскай маёмасці і жывёлы, паставіла гэты край на рэйкі суцэльнай калектывізацыі. Казакі пераходзяць ад качэўя да аседлага жыцця ў калгасе, соўгасе, фабрычна-заводскім цэнтры. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі Казакстана дасягнула 86,1 проц. 146 МТС, 10 тысяч трактароў, тысяча камбайнаў мяняюць твар Казакстана. 700-тысячная армія пролетарыята (на 50 проц. з казакаў), фаланга калгаснікаў, на чале з загартаванай у баях бальшэвіцкай партыйнай арганізацыяй Казакстана, якая забяспечвае культурны росквіт—вось сучасны Казакстан, створаны ленінскай нацыянальнай палітыкай.

Або возьмем Украіну. Да рэволюцыі яна была аб'ектам каланіяльнай эксплаатацыі як расійскага, так і замежнага фінансавага капітала. Сучасная Совецкая Украіна зусім змяніла сваё старое абліччa, дзякуючы правільнаму правядзенню ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Велізарныя поспехі УССР, дасягнутыя ў лютай класавай барацьбе, пад кіраўніцтвам КП(б)У, пры непасрэднай дапамозе ЦК ВКП(б) і асабіста т. Сталіна, ярка паказаны на XIII усеукраінскім з'ездзе советаў у прамовах лепшых бальшэвікоў УССР: т. т. Касіора, Постышэва, Любчэнко і ў выступленнях знатных людзей працы. Пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і КП(б)У рабочыя і калгасныя масы Совецкай Украіны дасягнулі агромных поспехаў ва ўсіх галінах індустрыяльнага, калгаснага і культурнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Цяжкую сумную спадчыну пакінулі пасля сябе разгромленыя белагвардзейцы, нацыяналістычныя контррэволюцыянеры і інтэрвенты. Разбураныя і разграбленыя гарады, пагашаныя домны, затопленыя шахты, узарваныя масты і чыгункі, балючыя раны ад зверскіх распраў дзікіх белагвардзейскіх і жоўтаблакітных сатрапаў над рабочымі і працоўнымі масамі, афяры масавых расстрэлаў беднаты і працоўнага сялянства, жудасныя сляды экзекуцый над цэлымі паветамі...

А ва што ператварылі Совецкую Украіну бальшэвікі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і т. Сталіна?

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі совецкая Украіна зрабіла гіганцкі, нябачаны ў гісторыі скачок уперад. Узяць хоць-бы той факт, што завод імя Дзержынскага ў Каменскім у 1934 г. выплавіў 847,1 тысяч тон чыгуна, **г. зн. у два разы больш, чым уся польская металургія,** а Макееўскі завод імя Кірава выплавіў 822,9 тыс. тон, **г. зн. на 35 проц. больш Чэха-Славакіі.**

Украінскі Данбас, выканаўшы ў 1934 г. свой план на 100 проц., даў краіне 53 мільёны тон вугалю. Даваенны Данбас даваў толькі крыху больш 20 млн.

Неймаверна вырасла машынабудаўніцтва. Калі прадукцыя машынабудаўнічай прамысловасці УССР у 1912 г. складала 83 млн. р., у

1928 г.—305,9 млн. р., у 1933 г.—1.751,8 млн., то ў 1934 г. яна вырасла да 2.200 млн. руб.

Каб уявіць сабе, якую велізарную машынабудаўнічую прамысловасць стварылі большэвікі Украіны, даволі назваць такія гіганты машынабудаўніцтва, як Краматорскі завод, Луганскі паравозабудаўнічы, Харкаўскі турбагенератарны, Харкаўскі сталеліцейны, Днепроўскі прамысловы камбінат. Зусім занова рэканструяваны старыя заводы, **стары асноўны капітал якіх складае цяпер ад 10 да 15 проц.**

Прадукцыя электраэнергіі дасягнула ў 1934 г. 5.355 мільёнаў клв.-гадзін супроць 2.034 мільёнаў у 1930 г.

Харкаўскі паравозабудаўнічы завод разам з Луганскім, які ў 1934 г. выпусціў 341 паравоз, далі 57 проц. саюзнай прадукцыі паравозаў.

Разам з гэтым велізарнейшым працэсам індустрыялізацыі ішла социялістычная перабудова сельскай гаспадаркі. К XIII з'езду советаў соўгасы і калгасы сталі абсалютна пануючымі ў сельска-гаспадарчай вытворчасці Украіны, ахапіўшы 91,6 проц. усёй пасеўнай плошчы і 92,4 проц. хлебапаставак дзяржаве.

Тэхнічная база социялістычнага земляробства Украіны характарызуецца наступнымі красамоўнымі паказчыкамі: соўгасы распалагаюць паркам у 20.460 трактароў; 782 МТС абслугоўваюць калгасы Украіны магутнай калонай ў 44.056 трактароў; грузавы аўтатранспарт, які яшчэ ў 1931 г. меў толькі 822 машыны, вырас к XIII з'езду да 11.357 машын; соўгасы распалагаюць 2 454 камбайнамі, МТС—2.405, а хлебных малатарань з маторамі—29.630.

Усёй гэтай тэхнікай, якою ўзброена социялістычная сельская гаспадарка, кіруюць сотні тысяч тэхнічна граматных людзей, вылучаных рабочым класам і калгасным сялянствам Украіны, выкаваных пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі ў лютай класавай барацьбе з кулацкімі недабіткамі, з рэшткамі петлюраўшчыны, дзенікіншчыны, якія ў 1931-32 годзе пралезлі ў значную частку калгасаў, зямельных органаў, навукова-даследчых установ для падрыву калгаснага ладу.

Перамогі ва ўсіх галінах індустрыялізацыі, социялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, у росквіце культуры, нацыянальнай па форме і социялістычнай па зместу, атрыманы дзякуючы той дапамозе і кіраўніцтву, якія ЦК ВКП(б) і асабіста т. Сталін аказвалі КП(б)У у справе социялістычнага будаўніцтва, у справе разгрому злейшых ворагаў народу—кулакоў-петлюраўцаў, дзенікінцаў, якія, карыстаючыся падтрыманнем сваіх агентаў, пралезлі ў партыю, часам нават на адказную работу і ўзялі ў палон тагочаснага наркома асветы Скрыпніка, узначаліўшага нацыяналістычны ўхіл. За спіной Скрыпніка працавалі контррэволюцыйныя буржуазныя нацыяналісты. Толькі разгром нацыяналістычнага ўхілу, бязлітасная расправа з рэшткамі петлюраўшчыны і дзенікіншчыны, жорсткая барацьба КП(б)У на два фронты—супроць ухілу ў бок вялікадзяржаўнага шавінізма, які з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе СССР, і супроць ухілу ў бок украінскага нацыяналізма, як галоўнай небяспекі на даным этапе ва ўмовах Украіны,—забяспечылі ператварэнне Совецкай Украіны ў квітнеючы і мацнеючы фарпост СССР на стыку з капіталістычным светам.

Разграміўшы блок нацыяналістаў і трацкістаў, Совецкая Украіна пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі прышла к свайму XIII з'езду советаў з агромнымі перамогамі ў галіне культурнага будаўніцтва.

Не меншых поспехаў у галіне індустрыялізацыі, калектывізацыі, у росквіце культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу, дасягнулі рэспублікі Закаўказзя—Грузія, Арменія, Азербайджан, гіганцкі ўрос Узбекістан, Татарыя, Крым, Далёкі Ўсход і ўсе іншыя нацрэспублікі і області нашай вялікай соцыялістычнай радзімы.

Гэтыя краіны, пры ўсёй іх розніцы ў мінулым, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і з дапамогай рускага пролетарыята пераможна будуюць соцыялізм, развіваючы прадукцыйныя сілы, павышаючы актыўнасць, развіваючы свае культуры, нацыянальныя па форме і соцыялістычныя па зместу.

Поспехі ленінскай нацыянальнай палітыкі ў гэтых рэспубліках здабыты ў працэсе лютай класавай барацьбы; у агні якой большэвіцкая партыя ўсё больш і больш згуртоўвала і згуртоўвае вакол сябе самыя шырокія масы працоўных. Класавая барацьба рабочых і працоўных пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, барацьба з баем, паўфеадаламі ў Казакстане, барацьба з нацыянал-дэмакратамі—гэтай буржуазнакулацкай арганізацыяй у Беларусі, барацьба з украінскімі буржуазнакулацкімі нацыяналістамі, барацьба з вялікадзяржаўнікамі, барацьба з усімі ворагамі соцыялізма, якія-б колер яны ні прымалі, барацьба за пролетарскі інтэрнацыяналізм—неабходная ўмова большэвіцкіх перамог у справе будаўніцтва нацыянальных па форме і соцыялістычных па зместу культур, за соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, за пабудову соцыялізма, за ліквідацыю і казакскіх баеў і мулаў, за ліквідацыю рэштак кулацтва як класавых ворагаў, якія яднаюцца ў сваёй ненавісці да соцыялізма і ў сваіх імкненнях рэстаўраваць капіталізм любою цаной.

ВКП(б) у цэлым, і неадрыўныя, неад'емныя часткі яе, як КП(б)У, КП(б)Б, КП(б) Казакстана і інш., дабіліся поспехаў у соцыялістычным будаўніцтве і ў праводзенні нацыянальнай палітыкі, дзякуючы лютай класавай барацьбе на два фронты—з ухілам у бок вялікадзяржаўнага і ў бок мясцовага шавінізмаў, у бязлітаснай барацьбе супроць вялікадзяржаўнага шавінізма і мясцовых нацыяналістаў.

Партыйныя арганізацыі кожнай нацыянальнай області, кожнай нацыянальнай рэспублікі ў сваім будаўніцтве соцыялізма сустракаліся і сустракаюцца з супраціўленнем класавага ворага—буржуазіі і кулацтва. Усе гэтыя буржуазныя нацыяналісты, апранаючыся ў «нацыянальную» форму, імкнуцца прадаць свой народ і бацькаўшчыну оптам і ў розніцу, абы толькі захаваць за сабой прывілеі эксплаатаваць і прыгнятаць «свой» народ. Гэта агульная рыса ўсіх буржуазных нацыяналістаў ярка выявілася як на Ўсходзе, Украіне, Беларусі, так і на Каўказе, у Крыме і т. д. і т. п.

Даволі ўспомніць барацьбу партыі з Султан-галіеўшчынай. Султангаліеўшчына аказалася шырока разгалінаванай нацыяналістычнай контррэволюцыйнай арганізацыяй, меўшай свае філіялы ў Татарыі, Башкірыі, у Крыме. Агентура буржуазнага нацыяналізма ўнутры партыі выявілася і ў **Казакстане** ў форме садвакасаўшчыны, правадыр якой, Садвакасаў, заявіў:

> «Кіньце размовы аб класавай барацьбе, аб барацьбе з байствам, аб Окцябры і іншым. Давайце аулу мірную працу і работу, пабольш трактароў, і бай **разам з усімі іншымі ўрасце ў соцыялізм».** *)

*) Хавин, „Социалистическая индустриализация“, стр. 69.

Зусім відавочна, што будаўніцтва соцыялізма і барацьба з капіталізмам немінуча былі звязаны з разгромам усякага роду і віду мясцовага нацыяналізма, які змыкаецца з інтэрвентамі і шкоднікамі.

У дакладзе тав. Касіора і ў прамове тав. Постышэва на лістападаўскім аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)У паказана ўся гісторыя барацьбы КП(б)У з украінскім нацыяналізмам і яго агентурай унутры партыі. Пераход ад непасрэднай узброенай барацьбы з совецкаю ўладай, калі перамагчы яе ў адкрытай бойцы было немагчыма, да ўсякага роду падрыўных, шкодніцкіх метадаў барацьбы з-падцішка. Далей—хвілёвізм, гэта тонкая нацыяналістычная дыверсія, разлічаная на «паварот» Совецкай Украіны ад «азіяцкай» Масквы да «адукаванага» Захаду. Далей—шумскізм, які раскінуў свае шчупальцы крыху шырэй, на розныя ўчасткі соцыялістычнага будаўніцтва. Аднак, як хвілёвізм, так і шумскізм былі сустрэнуты КП(б)У у штыкі, разбіты і разгромлены. З пераходам да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа, на аснове суцэльнай калектывізацыі, рэшткі асуджаных класаў развілі адчайнае супраціўленне, пераходзячы да прамога шкодніцтва і аддаўшыся цалкам на службу замежным інтэрвентам—германскім фашыстам, польскім панам, якія мараць аб звароце «маёнткаў» і «новай базе»—«Усходняй Украіне».

Пад выглядам эмігруючых на Украіну «рэволюцыянераў» з Галіцыі, Заходняй Украіны інтэрвенцыянісцкім арганізацыям удавалася пралазіць у совецкія органы і нават у партыйныя арганізацыі, каб расставіць сваіх людзей для падрыхтоўкі паўстанняў і інтэрвенцыі (паказанні Лазінскага).

Небяспека на Украіне паглыблялася тым, што к гэтаму часу аформіўся буржуазна-нацыяналістычны ўхіл Скрыпніка. На працягу значнага часу контррэволюцыйныя рэстаўратарскія нацыяналістычныя элементы выкарыстоўвалі аўтарытэт Скрыпніка як члена Палітбюро ЦК КП(б)У і расстаўлялі сваіх людзей, пранікалі ў органы НКЗ, НКА, у ВУАН і т. д. і т. п. Толькі пры непасрэднай дапамозе ЦК ВКП(б) партыйная арганізацыя Украіны на чале со сваім ЦК выкрыла іх контррэволюцыйную дзейнасць і разбіла гэтыя буржуазна-нацыяналістычныя арганізацыі, групы і групоўкі, якія з'яўляліся агентамі і шпіёнамі фашызма і інтэрвенцыянісцкіх колаў капіталістычных краін.

Узмацняючы барацьбу з нацыяналізмам, КП(б)У быстра мабілізавала масы на барацьбу з нацыяналісцкімі інтэрвентамі, разграміла іх гнёзды, выкрыўшы найвялікшых ворагаў украінскага працоўнага народу.

Не менш навучальна гісторыя барацьбы КП(б)Б за перамогу соцыялізма над капіталізмам у БССР. Безупынна змагаючыся з вялікадзяржаўным шавінізмам і з ухіламі ў яго бок, КП(б)Б адначасова вяла і вядзе барацьбу з мясцовым шавінізмам і з ухіламі да яго, асабліва з контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызмам і з нацыянал-апартунізмам.

У рашэннях снежаньскага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б дана ацэнка ўсёй дзейнасці контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызма і барацьбы з ім КП(б)Б. Беларускія контррэволюцыйныя нацдэмы на працягу ўсёй сваёй дзейнасці ставілі і ставяць стаўку на адрыў пры дапамозе інтэрвентаў Беларусі ад СССР, на рэстаўрацыю ў ёй капіталізма, на ператварэнне яе ў калонію імперыялісцкай Польшчы.

Каб здзейсніць свае контррэволюцыйныя мэты, класавы вораг і яго агенты часткова пранікалі ў партыю, як Ігнатоўскі, Прышчэпаў, Алесь Адамовіч, Баліцкі і інш., выкрытыя і разгромленыя КП(б)Б у перыяд 1929-30 гг. Не меншую небяспеку прадстаўлялі прабраўшыяся ў партыю нацыянал-апартуністы розных колераў (яўрэйскага, польскага, беларускага), усе гэты Бондары, Капаевічы, Чарняўскія, выкрытыя і выгнаныя з радоў партыі.

КП(б)Б на чале з т. Гікало выкрыла і разбіла блок контррэволюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў з контррэволюцыйнымі беларускімі нацдэмамі, які знашоў, напрыклад, сваё адлюстраванне ў справе трацкіста Рыўліна. Рыўлін увесь час адстойваў і падтрымліваў контррэволюцыйных нацдэмаўскіх гісторыкаў і разам з імі вёў падрыўную работу. Віленскі контррэволюцыйна-нацдэмаўскі друк узяў Рыўліна пад сваю абарону.

Перапляценне і блок контррэволюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў з контррэволюцыйнымі буржуазна-нацыяналістычнымі, бундаўскімі і іншымі нацыяналістычнымі элементамі ў барацьбе супроць партыі і савецкай улады знашлі адлюстраванне і ў антыпартыйных, трацкісцка-бундаўскіх дзеяннях выкрытага ЦК КП(б)Б і менгаркомам і выгнанага з радоў партыі Дунца.

КП(б)Б, пры дапамозе ЦК ВКП(б), узняўшы класавую пільнасць, ускрыла рад новых шкодніцкіх контррэволюцыйных арганізацый у НКЗ, Трактарацэнтры (Масюкоў і інш.), якія для сваёй шкодніцкай работы «ціхаю сапай» скарысталі страту класавай пільнасці членаў партыі, працуючых у зямельных арганізацыях.

Падрыхтоўваючы інтэрвенцыю і рэстаўрацыю капіталізма, беларускія контррэволюцыйныя нацыянал-дэмакраты скарыстоўвалі ўсе віды шкодніцтва і дыверсіі як у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, так і ў галіне культуры. Насаджэнне кулацкіх гнёзд яны дапаўнялі тым, што прышчаплялі менінгіт коням, чуму свіному стаду. З усіх сіл яны супраціўляліся індустрыялізацыі БССР, праводзячы на прадпрыемствах прамое шкодніцтва, падпалы і т. д. Засмечваючы беларускую мову паланізмамі, архаічнымі формамі і зваротамі, беларускія контррэволюцыйныя нацдэмакраты імкнуліся гэтым выкапаць бяздонне паміж працоўнымі БССР і іншых рэспублік нашага Саюза. Прабраўшыся ў свой час у БелАН, яны імкнуліся ў саюзе з трацкістаміператварыць яе ў гняздо беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі. У дзяржаўным музеі ў якасці беларускага селяніна яны паставілі фігуру славутага белагвардзейскага палкоўніка Іезавіта, які ўзначальваў першыя белабандыцкія атрады на Беларусі. Не здавальняючыся ўсім гэтым, яны пасылалі асобых лазутчыкаў з мэтай пранікнуць у партыю і заняць відныя партыйныя пасты.

Кіруемыя з аднаго цэнтра, беларускія інтэрвенты, як і украінскія, карысталіся аднолькавым прыёмам—пад відам праследуемых рэволюцыйных дзеячоў (Рак-Міхайлоўскі, Валошын, Капуцкі, Мятла, Гаўрылюк, Дварчанін і інш.) яны перакідваліся ў БССР для шпіёнскай, дыверсійнай «работы».

Актывізацыя контррэволюцыйных нацыяналістаў, украінскіх і беларускіх, знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з прыходам к уладзе фашыстаў у Германіі, з іх планамі інтэрвенцыі СССР. З другога боку, актывізацыя украінскіх і беларускіх нацыяналістаў звязана з крушэннем іх надзей на сілу таго супраціўлення, якое аказвала ку-

лацтва і імкнуцца яшчэ аказваць яго недабітыя астаткі пераможнаму наступленню соцыялізма, разгортванню суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на яе аснове кулацтва як класа.

КП(б)У і КП(б)Б пры дапамозе ЦК ВКП(б) і непасрэдных указанняў тав. Сталіна ўдалося нанесці кулацтву—украінскім і беларускім нацыяналістам—сакрушальныя ўдары. Украінскія нацыяналісты і беларускія нацыянал-дэмакраты былі выкрыты як агенты замежнага фашызма, ставіўшыя сваю стаўку на контррэволюцыйную вайну супроць СССР, на адрыў БССР і УССР ад вялікага соцыялістычнага Саюза і на ператварэнне Беларусі ў калонію нямецкага ці польскага імперыялізма.

Гэтая стаўка контррэволюцыйных нацдэмаў была біта. Пры непасрэднай дапамозе ЦК ВКП(б), які ў свой час указаў на некаторае аслабленне барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм у радах КП(б)Б, ЦК КП(б)Б мабілізаваў усю партыйную арганізацыю і шырокія масы рабочых і працоўных сялян на барацьбу з агентамі-інтэрвентамі. У рэзультаце іх гнёзды былі выяўлены і разбіты, а іх твар, як заядлых ворагаў беларускага народу, выкрыт перад самымі шырокімі масамі.

VIII пленум ЦК КП(б)Б, так сама як і лістападаўскі пленум ЦК КП(б)У, у сваім рашэнні аб барацьбе на два фронты, падкрэсліў:

> «Вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Совецкага саюза і ўсёй ВКП(б), але гэта ні ў якой меры не пярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі; неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакуюцца паміж сабою на агульнай платформе адрыву БССР ад СССР для аслаблення пазіцый СССР і ўмацавання пазіцый капіталізма».

На XVII з'ездзе партыі т. Сталін, характарызуючы ўхіл да вялікадзяржаўнага мясцовага шавінізма, ускрывае, пры іх рознасці, агульную крыніцу:

> «Крыніца ў абодвух ухілаў, як бачыце,—агульная. Гэта— **адыход** ад ленінскага інтэрнацыяналізма. Калі хочаце трымаць пад агнём абодва ўхілы, трэба біць, перш за ўсё, па гэтай крыніцы, па тых, якія адыходзяць ад інтэрнацыяналізма,—усё роўна—ці ідзе гутарка аб ухіле да мясцовага нацыяналізма, ці аб ухіле да вялікарускага нацыяналізма».

Разам з тым тав. Сталін даў аналіз пытання аб тым, які ўхіл прадстаўляе галоўную небяспеку, ухіл да вялікадзяржаўнага нацыяналізма ці ўхіл да мясцовага нацыяналізма:

> «Пры сучасных умовах гэта,—гаворыць т. Сталін,—фармальная і таму пустая спрэчка. Глупа было-б даваць прыгодны для ўсіх часоў і ўмоў гатовы рэцэпт аб галоўнай і негалоўнай небяспецы. Такіх рэцэптаў няма наогул у прыродзе. Галоўную небяспеку прадстаўляе той ухіл, супроць якога перасталі змагацца і якому далі такім чынам разрасціся да дзяржаўнай небяспекі».

Як было ўжо ўказана, іменна ўхіл да украінскага нацыяналізма на Украіне, ухіл да беларускага нацыяналізма на Беларусі і прадстаўляюць сабою ўхіл, якому далі разрасціся да дзяржаўнай небяспекі. Вось чаму ЦК КП(б)У, ЦК КП(б)Б і XV з'езд КП(б)Б адзначылі, што ўхіл да вялікадзяржаўнага шавінізма застаецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Саюза і ВКП(б), ухіл да украінскага і беларускага нацыяналізма з'яўляецца на даным этапе галоўнай небяспекай.

Громячы контррэволюцыйны беларускі нацдэмакратызм, бязлітасна змагаючыся з ухілам да беларускага, польскага, яўрэйскага і інш. шавінізмаў, не спыняючы ні на мінуту лютай барацьбы з ухілам да вялікарускага шавінізма, КП(б)Б прадаўжае яшчэ з большаю сілай справу ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Вялікі нашы поспехі, але яшчэ больш трэба зрабіць. Ні на мінуту не супакойваючыся на дасягнутых рэзультатах, КП(б)Б, на чале з тав. Гікала, разгортваючы самакрытыку, павышаючы класавую пільнасць, барацьбу з расхлябанасцю, краснабайствам, з падменай справы словам, мабілізуе рабочыя і сялянскія масы на далейшую індустрыялізацыю нашай краіны, на соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, на далейшае развіццё культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу, памятаючы, што ў аснове ўсяго гэтага ляжыць паслядоўная, самая рашучая барацьба за асноўны прынцып Маркса — Энгельса — Леніна — Сталіна—прынцып пролетарскага інтэрнацыяналізма, абвешчаны 87 год таму назад у «Комуністычным маніфесце»—**«Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!»**, за ажыццяўленне якога нястомна змагаецца адзіная партыя пролетарыята—партыя большэвікоў.

У 1918 годзе Ленін у брашуры «Пролетарская рэволюцыя і рэнегат Каўцкі» пісаў:

> «... Большэвізм... стаў **сусветным** большэвізмам, даў ідэю, тэорыю, праграму, тактыку, якая адрозніваецца канкрэтна, практычна ад соцыял-шавінізма і соцыял-пацыфізма. Большэвізм дабіў стары, гнілы Інтэрнацыянал Шэйдэманаў і Каўцкіх, Рэнодэляў і Лонге, Хендэрсонаў і Макданальдаў, якія будуць цяпер блытацца ў нагах адзін аднаго, марачы аб «адзінстве» і ўваскрашаючы труп. Большэвізм **стварыў** ідэйныя і тактычныя асновы III Інтэрнацыянала, сапраўды пролетарскага і комуністычнага, улічваючы і заваёвы мірнай эпохі, і вопыт **пачаўшайся эпохі рэволюцый.**
>
> Большэвізм папулярызаваў на ўвесь свет ідэю «дыктатуры пролетарыята», пераклаў гэтыя словы з лацінскай спачатку на рускую, а потым на **ўсе** мовы свету, паказаўшы на прыкладзе **Совецкай улады**, што рабочыя і бяднейшыя сяляне **нават** адсталай краіны, нават найменш вопытныя, адукаваныя, прывычныя да арганізацыі, **здольны** былі цэлы год, сярод гігантскіх труднасцей, у барацьбе з эксплаататарамі (якіх падтрымлівала буржуазія **ўсяго** свету), захаваць уладу працоўных, стварыць дэмакратыю, нязмерна больш высокую і шырокую, чым усе ранейшыя дэмакратыі свету, **пачаць** творчасць дзесяткаў мільёнаў рабочых і сялян па практычнаму ажыццяўленню соцыялізма.
>
> Большэвізм указаў верны шлях к выратаванню ад жахаў вайны і імперыялізма, што большэвізм **прыдатны як узор тактыкі для ўсіх».** *)

---

*) **Ленін**, „Пролетарская рэволюцыя і рэнегат Каўцкі", стар. 66—67.

Л. Рудзіцкі

# Праз умацаванне пролетарскай дзяржавы — к соцыялізму

Выбары советаў у 1934—35 г. былі наймагутнейшай палітычнай кампаніяй, якая выявіла невычарпальныя сілы пролетарыята і ўсіх працоўных СССР, непахісна будуючых соцыялістычнае грамадства пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з т. Сталіным. У дні перавыбараў мільёны працоўных СССР з аграмаднейшым энтузіязмам дэманстравалі сваю адданасць справе советаў, справе Леніна—Сталіна. Перавыбарчая кампанія супала з гістарычнымі рашэннямі лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б). Гэтыя рашэнні былі спатканы шырокімі масамі працоўных з велізарным энтузіязмам. Пастановы пленума ЦК ВКП(б) аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты і абператварэнні палітаддзелаў у звычайныя партыйныя органы яшчэ раз пацвердзілі правільнасць генеральнай лініі партыі і паслядоўнасць таго шляху, па якому пад кіраўніцтвам т. Сталіна ідуць працоўныя СССР.

VII усесаюзны з'езд советаў завяршыў справаздачна-перавыбарчую кампанію 1934—35 года і паклаў пачатак новай эпосе далейшага разгортвання совецкай дэмакратыі і яшчэ большага ўмацавання пролетарскай дзяржавы.

VII усесаюзны з'езд советаў падвёў гістарычны вынік дасягненням працоўных СССР за 17 год пролетарскай рэволюцыі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. У бліскучых дакладах тав. Молатава з надзвычайнай яркасцю і выразнасцю паказана была сутнасць тых гістарычных змен, што адбыліся ў нашай краіне.

Даючы майстэрскі аналіз пройдзенага пролетарскай дзяржавай шляху развіцця, тав. Молатаў сказаў:

> «Соцыялізм зрабіў агромны рух уперад у нашай краіне, соцыялістычны ўклад стаў непадзельна пануючым ва ўсёй народнай гаспадарцы. Амаль чатыры пятых сялянства ўступіла ў калгасы. Значыць, не толькі рабочыя, але і сяляне ў сваёй масе ўступілі ў рады будаўнікоў соцыялізма і будуюць сваімі рукамі соцыялістычнае грамадства. У выніку гэтага непасрэдным **соцыялістычным будаўніцтвам** цяпер ужо **занята пераважная большасць насельніцтва нашай краіны.** Вось асноўны вынік нашага развіцця за гэтыя гады. Вось асноўны вынік **ленінскай** партыі і **сталінскага** кіраўніцтва ўсім соцыялістычным будаўніцтвам». *)

*) В. М. Молатаў, Справаздачны даклад аб рабоце ўрада VII з'езду советаў СССР, Партвыдат 1935 г., стар. 5.

Толькі краіна Саветаў, краіна дыктатуры пролетарыята пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна здолела дайсці да бліскучых перамог на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, забяспечыць агромны творчы энтузіязм мільённых мас працоўных.

У той час, як буржуазныя краіны ў сударгах усеагульнага капіталістычнага крызіса знішчаюць рэшткі сваёй фальшывай «надкласавай» дэмакратыі, пролетарская дзяржава ўступіла ў перыяд далейшага развіцця совецкай дэмакратыі, якая заўсёды была дэмакратыяй для большасці народу—для працоўных.

На аснове дасягнутых перамог у галіне соцыялістычнага будаўніцтва, на аснове карэнных зрухаў у суадносінах класавых сіл у нашай краіне VII усесаюзны з'езд советаў, па ініцыятыве тав. Сталіна, у адпаведнасці з пастановай лютаўскага (1935 г.) пленума ЦК ВКП(б), пастанавіў унесці змены ў канстытуцыю Саюза ССР у напрамку:

> «далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў сэнсе замены не ўпаўне роўных выбараў роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі;
>
> удакладнення соцыяльна-эканамічнай асновы канстытуцыі ў сэнсе прывядзення канстытуцыі ў адпаведнасць з цяперашнімі суадносінамі класавых сіл у СССР (стварэнне новай соцыялістычнай індустрыі, разгром кулацтва, перамога калгаснага ладу, зацверджанне соцыялістычнай уласнасці, як асновы совецкага грамадства і т. п.)».

Вось гістарычны вынік, да якога прышлі працоўныя СССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і геніяльнага правадыра працоўных мас—т. Сталіна.

Праз далейшае развіццё пролетарскай дэмакратыі, праз яшчэ большае ўцягванне новых пластоў працоўных у соцыялістычнае будаўніцтва, будзе няўхільна ўзрастаць магутнасць пролетарскай дзяржавы, узмацняцца рэволюцыйная пільнасць працоўных да манеўраў рэштак разгромленага і гінучага ў нашай краіне кулацтва.

Ніякія вылазкі класавых ворагаў, ніякія контррэволюцыйныя дзеянні фашысцкіх агентаў сусветнай буржуазіі не змогуць пахіснуць пераможнае будаўніцтва соцыялізма—такава воля працоўных СССР, якая прагучэла ў наказах мільённых мас выбаршчыкаў і адлюстравана ў гістарычных пастановах VII усесаюзнага з'езда советаў.

* *
*

У тыя дні, калі мільёны пролетарыяў у гарадах, на фабрыках, заводах, у МТС выбіралі лепшых ударнікаў у свае советы, калі найшырэйшыя масы пролетарыята і калгаснага сялянства пад кіраўніцтвам большэвікоў правяралі работу гарадскіх і сельскіх советаў, калі сотні тысяч прадстаўнікоў совецкай інтэлігенцыі разам з усімі працоўнымі актыўна намячалі шлях далейшага разгортвання работы советаў па гаспадарчаму і культурнаму будаўніцтву, у гэтыя дні вырадкі з зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы рыхтаваліся да сваіх фашысцкіх дзеянняў.

1 снежня 1934 г., у самы разгар перавыбарчай кампаніі, прагучэў здрадніцкі стрэл у тав. Кірава. Выхаванцы з зіноўеўскай белабандыцкай антысовецкай групы марылі гэтым труслівым, подлым

забойствам выклікаць замяшанасць у радах нашай партыі. Але дарэмны надзеі паноў фашыстаў. Стрэл ворага не змог ні на ёту пахіснуць яе жалезных радоў, стрэл фашысцкага забойцы не здолеў аказаць якога-б там ні было ўплыву на канцэнтраваную волю пролетарыята, выражаную ў генеральнай лініі большэвіцкай партыі. Але разам з тым гэты стрэл паказаў, што гінучы класавы вораг у апошніх сударгах з усіх сіл імкнецца шкодзіць пролетарыяту, накіроўваючы свае ўдары якраз у тыя месцы, дзе бывае аслаблена большэвіцкая пільнасць.

У БССР за апошні час ЦК КП(б)Б і менскім гаркомам партыі выяўлен і выкрыт рад контррэволюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх элементаў.

Сярод іх—былы трацкіст **Галендо**, які, двурушнічаючы і абманваючы партыю, працягваў контррэволюцыйныя трацкісцкія ўстаноўкі.

**Руды**—былы актыўны ўдзельнік трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, у сваіх лекцыях у ВКСГШ, у БІМЗО на заводзе «Большэвік» працягваў трацкісцкія сцвярджэнні і ўстаноўкі. Пад кіраўніцтвам Рудага група студэнтаў ВКСГШ на працягу доўгага часу прапагандавала трацкісцкую тэорыю аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

**Дунец,** прыкрываючыся знешнефальшывымі фразамі і скарыстоўваючы аказанае яму давер'е, доўгі час працягваў буржуазна-нацыяналістычныя контррэволюцыйныя тэорыі і контррэволюцыйную трацкісцка-зіноўеўскую кантрабанду ў яўрэйскую літаратуру.

Трацкісцкія вылазкі ў Горацкім сельска-гаспадарчым інстытуце дацэнта **Сермяжко,** у Наркамзнешгандлі—Фліора і інш. паказваюць, што класавы вораг і яго агентура ў шалёнай ненавісці да комуністычнай партыі і яе кіраўніцтва, да соцыялістычнага будаўніцтва ўсімі сіламі імкнуцца затармазіць яго пераможны ход у нашай краіне.

Барацьба з рэшткамі трацкісцка-зіноўеўскай антысовецкай контррэволюцыйнай групы, з контррэволюцыйнымі нацдэмаўскімі, бундаўскімі элементамі не скончана.

Павышэнне класавай пільнасці на ўсіх участках нашай работы—гаспадарчым, культурным, ідэйна-палітычным—мабілізацыя комуністаў, рабочых і ўсіх працоўных на далейшую барацьбу за пабудову соцыялістычнага грамадства, за ўмацаванне дыктатуры пролетарыята і абараназдольнасці нашай бацькаўшчыны—вось што неабходна зараз, каб да канца разбіць рэшткі класавага ворага і яго агентуры.

Яшчэ больш узмацніць пролетарскую дыктатуру, вышэй узнімаць класавую пільнасць да манеўраў нашых ворагаў—асноўнае патрабаванне, пастаўленае перад новаабранымі советамі шырокімі працоўнымі масамі гарадоў і вёсак СССР.

Узмацненне дыктатуры пролетарыята і яе асноўных дзяржаўных органаў—советаў—з'яўляецца абавязковай умовай далейшага разгортвання соцыялістычнага будаўніцтва, канчатковага знішчэння рэштак капіталістычных элементаў і класаў наогул і пабудовы бяскласавага грамадства.

Пад кіраўніцтвам Леніна ў гістарычныя дні Окцябра 1917 г. пролетарыят звергнуў уладу капіталістаў і стварыў сваю рэволюцыйную дыктатуру—уладу Советаў.

У жорсткіх бойках грамадзянскай вайны працоўныя СССР пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна адстаялі заваёвы пролетарскай рэво-

люцыі. Партыя выкрыла ўжо тады сутнасць штрэйкбрэхерскіх манеўраў Зіноўева і Каменева, партыя дала рашучы адпор трацкісцкім тэорыям аб немінучасці пагібелі совецкай улады без непасрэднага дзяржаўнага падтрымання яе пролетарскай рэволюцыяй на Захадзе.

Аб гэтым адзінстве поглядаў паноў Зіноўева, Каменева і Троцкага т. Сталін гаварыў:

> «Яны (Зіноўеў і Каменеў—**Л. Р.**) прама гаварылі тады, што, уздымаючы паўстанне, мы ідзем к пагібелі, што трэба чакаць Установчага сходу, што ўмовы для соцыялізма не наспелі і не хутка наспеюць. З гэтай-жа ўстаноўкі зыходзіў Троцкі, калі ён ішоў на паўстанне. Бо ён прама гаварыў, што калі пераможная пролетарская рэволюцыя на Захадзе не падаспее на дапамогу ў больш-менш блізкім будучым, то глупа было-б думаць, што рэволюцыйная Расія можа ўстаяць супроць кансерватыўнай Еўропы». *)

Бітымі, як вядома, аказаліся гэтыя разважанні контррэволюцыйных панікёраў. Совецкая ўлада ў нашай краіне не толькі ўстаяла, але, пасля смерці вялікага Леніна, ленінская справа пад кіраўніцтвам яго лепшага паслядоўніка і геніяльнага прадаўжальніка—Сталіна, узнята на новую вышыню. Бітымі аказаліся контррэволюцыйныя «прароцтвы» Троцкага, Зіноўева, Каменева і К° аб «перараджэнні советаў» аб «затапленні іх сялянскай стыхіяй».

Выкінуты пролетарскай дыктатурай за межы СССР, Троцкі, як вядома, адразу-ж адчуў сябе ў памыйнай яме буржуазнай прэсы, як рыба ў вадзе.

Патугі контррэволюцыйнага апостала Троцкага, выклікаўшыя агідлівасць працоўных СССР, ужо даўно паказалі сутнасць яго соцыял-фашысцкага твару, а яго саратнікі і паплечнікі з так званага былога «апазіцыйнага блока»—Зіноўеў і К°, якія разам з Троцкім на кожным рашаючым этапе ўзводзілі хлусню на советы, адмаўлялі магчымасць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, бясконца абманвалі партыю і рабочы клас, сваім асноўным метадам зносін з партыяй абралі двурушніцтва, узгадавалі фашысцкіх забойц тыпу Нікалаева, Каталынава, падрыхтаваўшых і здзейсніўшых пад кіраўніцтвам Зіноўева, Каменева і Еўдакімава забойства тав. Кірава.

Як паказала судовае следства па справе ленінградскага і маскоўскага «цэнтраў», паследышы зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы карысталіся такімі метадамі і ставілі перад сабой такія мэты, якія поўнасцю супадаюць з імкненнямі і метадамі адкрытых ворагаў працоўных—розных белагвардзейскіх памешчыцка-капіталістычных арганізацый, якія імкнуцца шляхам тэрарыстычных актаў супроць прадстаўнікоў совецкай улады рэстаўраваць капіталізм у нашай краіне. Разгромленыя партыяй трацкісцка-зіноўеўскія элементы, і прадстаўнікі былых эксплаатататарскіх класаў, згубіўшы надзеі на перараджэнне совецкай улады, паставілі стаўку на інтэрвенцыю і дапамогу капіталістычных, фашысцкіх элементаў, стаўку на бандытаў тыпу Нікалаева, якія, узброіўшыся ідэямі з арсенала Троцкага—Зіноўева, пачалі займацца стрэламі з-за вугла ў лепшых людзей рабочага класа.

---

*) Сталін, Палітсправаздача XV з'езду партыі.

«Пераход ад капіталізма к комунізму,—пісаў Ленін,—ёсць цэлая гістарычная эпоха. Пакуль яна не закончылася, у эксплататараў немінуча астаецца надзея на рэстаўрацыю, а гэта **надзея** ператвараецца ў **спробы** рэстаўрацыі». *)

Забойства т. Кірава паказала, што гінучыя капіталістычныя элементы, ідучы ка дну ў нашай краіне, шукаюць паратунку ў самых шалёных спробах; і пакуль існуе міжнароднае імперыялістычнае абкружэнне, яны пры непасрэдным падтрыманні сусветнага капітала не губляюць надзей, не спыняюць спроб рэстаўрацыі.

Пытанне «хто каго» у нашай краіне вырашана канчаткова і беспаваротна на карысць соцыялізма. Але гэта ні на хвіліну не зніжае важнасці задачы ўмацавання пролетарскай дзяржавы. Рэшткі капіталістычных класаў і іх агентуры, не грэбуючы ніякімі сродкамі барацьбы супроць комуністычнай партыі і совецкай улады, у перадсмяротных сударгах аказваюць шалёнае супраціўленне пераможнаму ходу соцыялістычнага будаўніцтва.

Класавая барацьба не толькі не аслабляецца, а набывае яшчэ больш абвостраныя формы. Таму пабудова соцыялістычнага грамадства немагчыма без максімальнага і настойлівага ўмацавання дыктатуры пролетарыята і ўсіх яе органаў і звенняў.

* *
*

Пытанне аб шляхах умацавання совецкай дзяржавы ёсць па сутнасці карэннае пытанне. Нашы правадыры аддавалі яму велізарную ўвагу на ўсіх этапах соцыялістычнага будаўніцтва. Усякага роду апартуністычныя разважанні аб адміранні совецкай дзяржавы, усякага роду «левацкія» заскокі, адмаўляючыя ўмацаванне ўсіх звенняў нашай дзяржавы,—на руку класавым ворагам.

Паны Троцкі, Зіноўеў, Каменеў не раз скарыстоўвалі іржавую зброю свайго антысовецкага арсенала для пашырэння ідэй аб немінучасці аслаблення дзяржавы дыктатуры пролетарыята, існуючай у адной краіне. Яны адмаўлялі рэволюцыйную сілу нашых советаў і арганізацыйныя здольнасці рабочага класа, на ўсіх этапах рэволюцыі выступалі супроць вучэння Леніна—Сталіна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў СССР.

У святле гістарычных перамог нашых советаў варта напомніць геніяльныя ўказанні Леніна, не страціўшыя сваёй актуальнасці і на сучасным этапе, калі пад кіраўніцтвам Сталіна працоўныя нашай краіны завяршаюць справу пабудовы соцыялізма.

Ленін падкрэсліў тады значэнне магутнасці совецкай улады, якую трэба ўпарта ўмацоўваць і загартоўваць:

«Трэба, ідучы к павышэнню прадукцыйнасці працы, улічыць асаблівасці пераходнага ад капіталізма к соцыялізму часу, якія патрабуюць, з аднаго боку, каб былі пакладзены асновы соцыялістычнай арганізацыі спаборніцтва, а з другога боку—патрабуюць ужывання прымусу так, каб лозунг дыктатуры пролетарыята **не апаганьваўся практыкай кісельападобнага стану пролетарскай улады»** **) (падкрэслена намі—**Л. Р.**).

*) Ленін, т. XXIII, стар. 355, выд. 3.
**) Ленін, т, XXII, стар. 455, выд. 3.

Новыя формы супраціўлення гінучых класавых ворагаў патрабуюць яшчэ большай увагі ў справе ўмацавання сістэмы совецкай улады, якая праявіла і яшчэ праявіць такія палітычныя і арганізацыйныя магчымасці, якіх не мела і не мае ні адна ўлада ў свеце.

Узмацненне работы советаў, профсаюзаў, кааперацыі, комсамола і ўсіх дзяржаўных і грамадскіх органаў пролетарскай дыктатуры набывае зараз асаблівае значэнне. Улада пролетарыята, які, паводле ўказання Маркса, сам з'яўляецца агромнай прадукцыйнай сілай, прывяла працоўных нашай краіны пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі да ажыццяўлення пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Паны трацкісты-зіноўеўцы ніколі не верылі ў сілу рабочага класа, арганізаванага ў сваю пролетарскую дзяржаву. Яны рэвізавалі вучэнне Леніна—Сталіна аб рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята, зводзячы яе да меншавіцкай тэорыі «дыктатуры партыі», якая нібы пануе сама, незалежна ад волі рабочага класа, якая ажыццяўляе сваю дыктатуру «над ім». Гэта тэорыя пана Зіноўева вяла к ліквідацыі дыктатуры пролетарыята і рэстаўрацыі капіталізма.

Тав. Сталін з вычарпальнай яснасцю паказаў, чаго варта хлусня пана Зіноўева.

> «Ва ўсіх тых выпадках,—пісаў ён,—калі Ленін знаходзіў патрэбным азначыць навукова ролю партыі ў сістэме дыктатуры пролетарыята, ён гаварыў **выключна** аб кіруючай ролі партыі (а такіх выпадкаў—тысячы) у адносінах рабочага класа». *)

Пролетарыят у капіталістычным грамадстве—галоўная прадукцыйная сіла. Але сілу гэту буржуазія эксплаатуе ў сваю карысць. Буржуазная дзяржава ахоўвае эксплаатацыю, існаванне капіталістычнага спосабу вытворчасці.

Аднак ніякія патугі, ніякія соцыял-фашысцкія і фашысцкія рэцэпты аб «гаспадарчай дэмакратыі», «арганізаваным капіталізме», «карпарацыйнай дзяржаве» не ў сілах спыніць дзеянне няўмольных, стыхійных эканамічных законаў, якія падрываюць існаванне буржуазнага ладу, вядуць к пролетарскай рэволюцыі.

На свеце пакуль што ёсць толькі адна краіна, дзе законы эканамічнага развіцця вызначаюцца планамернай актыўна ўздзейнаю роляй дзяржавы. Гэта—СССР, дзе пануюць працоўныя шматлікіх нацыянальнасцей, арганізаваныя ў дзяржаву рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята.

Пролетарская дзяржава не толькі сіла палітычная, яна адначасова і магутная эканамічная сіла, якая вызначае законы пераробкі старых грамадскіх адносін, законы руху к соцыялізму.

Актыўна ўздзейная роля пролетарскай дзяржавы немагчыма і нямысліма без кіруючай ролі комуністычнай партыі. Іменна таму, што партыя з'яўляецца авангардам пролетарыята і ўсіх працоўных, іменна таму, што партыя вядзе палітыку, заснаваную на паслядоўна рэволюцыйнай тэорыі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна,—наша Совецкая дзяржава з'яўляецца магутным рычагом і ўсё ўзрастаючай сілай соцыялістычнага будаўніцтва і перабудовы эканамічных адносін.

*) **Сталін**, „Пытанні ленінізма", выд. 9-е, стар. 218.

Аб гэтым неаднакроць гаварыў Ленін, выкрываючы розных апартуністаў, скажаўшых сутнасць дыктатуры пролетарыята:

«Надзвычай характэрна,—пісаў Ленін пра так званых «левых» комуністаў,—што ў аўтароў тэзісаў няма ні гуку аб значэнні **дыктатуры** пролетарыята ў **эканамічнай** галіне жыцця. Яны гавораць толькі «аб арганізаванасці» і т. п. Але гэта прызнае і дробны буржуа, які цураецца іменна **дыктатуры** рабочых у эканамічных адносінах. Пролетарскі рэволюцыянер ніколі не могбы ў такі момант «забыць» пра гэты «гвозд» пролетарскай рэволюцыі, накіраванай супроць гаспадарчых асноў капіталізма». *)

Толькі свядомыя ворагі рабочага класа і апартуністы розных колераў і масцей імкнуцца змазаць той гістарычны факт, што без аб'яднанага ўплыву ўсіх рычагоў і звенняў пролетарскай дзяржавы мы не мелі-б дасягненняў на разнастайных участках соцыялістычнага будаўніцтва. Рост калгасаў, росквіт культуры, усе заваёвы, з якімі мы прышлі к XI з'езду советаў БССР і VII усесаюзнаму з'езду советаў, сведчаць аб палітычнай і прадукцыйнай магутнасці нашай совецкай дзяржавы.

Пад магутным уплывам пролетарскай дыктатуры, якая адначасова з'яўляецца сапраўднай дэмакратыяй—дэмакратыяй для большасці народу, мільёны працоўных уцягваюцца і будуць уцягвацца ў соцыялістычнае будаўніцтва. Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць выхаванню новых кадраў работнікаў, прадаўжаць барацьбу з усякімі праявамі недысцыплінаванасці на вытворчасці, у калгасна-соўгаснай працы, ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і соцыялістычнага будаўніцтва. Неабходна выхоўваць свядомыя соцыялістычныя адносіны паміж працоўнымі ў быце, максімальна ўзмацняць рэволюцыйную законнасць, асноваю якой з'яўляецца ахова соцыялістычнай уласнасці.

Ажыццяўляючы ўказанні тав. Сталіна, наша партыя ўжо выхавала мільёны перадавікоў пролетарскай дзяржавы—энтузіястаў соцыялізма. Але барацьба за стварэнне новай дысцыпліны і выхаванне новых людзей павінна прадаўжацца.

«Трэба берагчы,—гаварыў тав. Сталін у гутарцы з металургамі,—кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва». **)

Шляхі ўмацавання дзяржавы дыктатуры пролетарыята адлюстраваны ў вельмі паказальных даных аб разгортванні совецкай дэмакратыі. Матар'ялы аб выбарах у советы могуць быць лепшым пацверджаннем росту палітычнай актыўнасці працоўных СССР, умацавання пролетарскай дэмакратыі, могуць паказаць як умацаванне асноўных звенняў пролетарскай дзяржавы непасрэдна звязана з агульным уздымам соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны.

«Палітычная актыўнасць і высокая арганізаванасць гарадскіх і сельскіх выбаршчыкаў у цяперашнюю выбарчую кампанію выразіліся перш за ўсё у высокай яўцы выбаршчыкаў на спра-

*) Ленін, т. XXII, стар. 526, выд. 3.
**) „Правда" ад 29-XII—34 г.

вздачныя і выбарчыя сходы. У папярэднія дзве выбарчыя кампаніі яўка на выбары сельскіх выбаршчыкаў складала: 62 проц. у 1929 г. і 70 проц. у 1931 г. На выбары сельскіх советаў у бягучую выбарчую кампанію з'явілася 84 проц. выбаршчыкаў. Найбольшае павышэнне яўкі выбаршчыкаў на выбары даюць працоўныя жанчыны. З 48 проц. у 1929 г. яўка выбаршчыц на выбары ў советы ў сельскіх мясцовасцях узнялася ў 1931 г. да 63 проц., а ў выбарчую кампанію бягучага года складала ўжо 80 проц. У выбарах гарадскіх советаў удзельнічала 90 проц. выбаршчыц.

Неабходна адзначыць, што сярэдняя яўка на выбары—амаль 84 проц. выбаршчыкаў у вёсцы і 90 проц. у горадзе». *)

Разгортванне справаздачна-перавыбарчай кампаніі советаў з'явілася магутным штуршком для яшчэ большай мабілізацыі творчых сіл працоўных БССР. Заводы, фабрыкі, калгасы, цэлыя гарады і вёскі пад кіраўніцтвам сваіх советаў і партарганізацый уключыліся ў вытворчы паход імя XI усебеларускага і VII усесаюзнага з'ездаў советаў.

Можна прывесці агромную колькасць фактаў, якія сведчаць аб непарыўнай сувязі советаў з вытворчымі калектывамі працоўных. У час перавыбараў яшчэ раз пацвердзілася геніяльнае ўказанне Леніна ў яго артыкуле: «Як арганізаваць спаборніцтва».

«Соцыялізм не толькі не ўгашае спаборніцтва, а, наадварот, упершыню стварае магчымасць прымяніць яго сапраўды шырока, сапраўды ў масавым размеры, уцягнуць сапраўды большасць працоўных на арэну такой работы, дзе яны могуць праявіць сябе, разгарнуць свае здольнасці, выявіць таленты, якіх у народзе—непачатая крыніца і якія капіталізм мяў, давіў, душыў тысячамі і мільёнамі... Трэба арганізаваць спаборніцтва практыкаў-арганізатараў з рабочых і сялян аднаго з другім».**)

Па ўказанаму Леніным шляху ідуць советы, уцягваючы ў соцспаборніцтва мільёны пролетарыяў і калгаснікаў.

На скурзаводзе імя Сталіна ў Магілеве брыгада жыроўшчыкаў дубільнага цэха пад кіраўніцтвам брыгадзіра Прысяжнага выканала промфінплан на 140 проц. Менская шчацінная фабрыка на аснове разгортвання вытворчага паходу імя з'езда советаў правяла вялікую работу па ўшчыльненню працоўнага дня, а ў выніку—датэрмінова выканан месячны промфінплан.

Соцыялістычная вёска, ідучы за пролетарскім горадам, у час справаздачна-перавыбарчай кампаніі дала высокія паказчыкі ажыццяўлення гаспадарчых мерапрыемстваў і выканання соцыялістычных абавязкаў перад совецкай дзяржавай. У гэтыя дні з асаблівай выразнасцю і чоткасцю праявілася ўся геніяльная сутнасць ленінскіх указанняў аб «неабходнасці арганізаваць спаборніцтва практыкаў-арганізатараў з рабочых і сялян». У дні справаздачна-перавыбарчай кампаніі тысячы лепшых совецкіх актывістаў на аснове разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва пад кіраўніцтвам нашай партыі арганізоўвалі спаборніцтва сельскіх советаў, калгасаў, працоўных аднаасобнікаў на паспяховае завяршэнне сельска-гаспадарчага

*) А. Енукідзе, „Вынікі выбараў у советы". „Правда" ад 4-I—35 г.
**) Ленін, т. XXII, выд. 3, стар. 158, 166.

года, на арганізацыйна- гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, на дадатковую прадажу хлеба совецкай дзяржаве, на ўздым жывёлагадоўлі, выкананне фінансавага плана і т. д.

Творчыя намаганні советаў Беларусі, велізарны размах энергіі ўсіх працоўных прывялі к таму, што ў дні падрыхтоўкі і правядзення справаздачна-перавыбарчай кампаніі наша рэспубліка паспяхова закончыла ўсе асноўныя сельска-гаспадарчыя кампаніі. Так, план хлебапаставак быў поўнасцю выканан к 5.IX, план паставак бульбы на 100,1 проц. к 20. X; к 23. IX выканан поўнасцю план азімай сяўбы.

Гэтыя дасягненні—рэзультат работы ўсіх звенняў і рычагоў нашай дзяржавы. Сіла советаў складаецца пад кіраўніцтвам партыі і яе правадыра т. Сталіна з дзеяння соцень тысяч адданых да канца справе соцыялізма скромных практыкаў-арганізатараў з рабочых і сялян. Мова лічбаў ярка і моцна сведчыць аб дасканалай рабоце кожнага совета, яго масавых органаў, кожнага дэпутата і шматлікіх, часам няўлічаных, актывістаў з прадстаўнікоў былых прыгнечаных і эксплаатаваных класаў. З гэтых паасобных звенняў, крупіца за крупіцай, факт за фактам, склаліся вынікі работы советаў.

Сівенскі сельскі совет, Веткаўскага раёна, выконваючы ўзятыя па вытворчаму паходу самаабавязацельствы, арганізаваў за адзін тыдзень 3 чырвоныя абозы з хлебам па 30—40 падвод.

Дэпутацкая група калгаса «Чырвоная зорка», Бабруйскага с.-с., Мазырскага раёна, на чале з совецкім актывістам т. Шэлідам, уключыўшыся ў вытворчы паход імя з'езда советаў, правільна арганізавала працу на ўсіх участках свайго калгаса і забяспечыла, такім чынам, добры догляд за жывёлай.

Ужо ў першыя дні справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў радзе раёнаў і сельсоветаў павысіўся процант калектывізацыі. Вялікая арганізацыйна-масавая работа, праведзеная ў Драчкоўскім сельсовеце, Смалявіцкага раёна, садзейнічала таму, што на 15 лістапада процант калектывізацыі ўзрос з 14,7 да 41. У першыя тыдні кампаніі былі арганізаваны два новыя калгасы: імя VII усесаюзнага з'езда советаў (34 гаспадаркі) і імя XI усебеларускага з'езда советаў. У астатнія калгасы ўліліся 123 гаспадаркі.

Калгасны прыліў па Уздзенскаму раёну за два месяцы справаздачна-перавыбарчай кампаніі даў 1 260 гаспадарак, процант калектывізацыі падняўся да 86,3. У Сіроцінскім раёне ў калгасы ўлілося 1 025 аднаасобных гаспадарак. Такая-ж хваля прыліву ў калгасы наглядалася і ва многіх іншых раёнах нашай рэспублікі.

Добра наладжаная і шырока разгорнутая арганізацыйна-масавая работа не толькі садзейнічала ўздыму калектывізацыі, але выклікала высокую актыўнасць сярод шырокіх мас калгаснага сялянства як у правядзенні справаздачна-перавыбарчай кампаніі, так і раду культурна-бытавых мерапрыемстваў.

Пад кіраўніцтвам палітаддзела Осіповіцкай МТС калгаснікі правялі культурны паход за чыстую калгасную хату. Па ініцыятыве дэпутацкай групы калгаса «Пролетарый» Зубаўскага с.-с., Оршанскага раёна, у значнай частцы сельсоветаў праведзена ачыстка і пабудова новых калодзезяў.

У час кампаніі працоўнае сялянства дэманстравала сваю адданасць пролетарскай дзяржаве і шчырае імкненне аказаць ёй дапамогу ма-

білізацыяй сродкаў і выкананнем дзяржаўных пазык. Так, Стасеўскі с.-с., Лёзненскага раёна, узяў абавязак выплаціць 16.986 рублёў узносаў па пазыцы 2-й пяцігодкі, і выканаў яго поўнасцю.

Такім чынам мы бачым, як праз удзел у перавыбарах советаў, у штодзённай барацьбе за іх умацаванне разгортваюцца новыя, нябачаныя яшчэ ў гісторыі формы соцыялістычнага дэмакратызма, актыўнасці мільёнаў працоўных у будаўніцтве соцыялістычнага бяскласавага грамадства.

* * *

Гісторыя Совецкай дзяржавы паказвае адзіна правільны шлях поўнага вызвалення ад ярма капіталістычнай эксплаатацыі—шлях пераможнага будаўніцтва соцыялістычнага ладу. Капіталістычныя элементы будуць цалкам ліквідаваны пры ўмове максімальнага разгортвання і ўмацавання ўсіх сіл пролетарскай дыктатуры, якая ажыццяўляецца арганізаванымі ў советы пролетарыямі і працоўнымі сялянамі.

> «Дыктатура пролетарыята ёсць зброя пролетарскай рэволюцыі, яе орган, яе важнейшы апорны пункт, выкліканы да жыцця для таго, каб, па-першае, падавіць супраціўленне звергнутых эксплаататараў і замацаваць свае дасягненні, па-другое, давесці да канца пролетарскую рэволюцыю, давесці рэволюцыю да поўнай перамогі соцыялізма». *)

У гэтым класічным азначэнні т. Сталін дае кароткае і разам з тым вычарпальнае тлумачэнне галоўных задач дыктатуры пролетарыята. Давесці рэволюцыю да поўнай перамогі соцыялізма **немагчыма** без канчатковага прыдушэння супраціўлення звергнутых эксплаататараў. Баявы, разгорнуты наступ пролетарскай дыктатуры на капіталістычныя элементы, мерапрыемствы жорсткага прыдушэння і рэпрэсіі супроць класавых ворагаў не здымаюць ні на хвіліну арганізатарскіх задач стварэння новых гаспадарчых і культурных адносін паміж працоўнымі.

Па гэтым шляху, вызначаным Леніным, узнімаючы на новую вышыню і развіваючы яго ўказанні, вядзе нас Сталін.

> «Вялікая замена працы паднявольнай,—пісаў Ленін,—працай на сябе, працай планамерна арганізаванай у агромным, агульнадзяржаўным (у пэўнай меры і ў інтэрнацыянальным, у сусветным) маштабе патрабуе таксама акрамя **«ваенных»** мер прыдушэння супраціўлення эксплаататараў—агромных **арганізацыйных,** арганізатарскіх намаганняў з боку пролетарыята і бяднейшага сялянства. Задача арганізацыйная пераплятаецца ў адно непарыўнае цэлае з задачай бязлітаснага ваеннага прыдушэння»... **)

У святле прыведзеных мыслей нашых правадыроў успомнім пра азначэнне дыктатуры пролетарыята, у свой час высунутае здраднікам рабочага класа—панам Троцкім: «Дыктатура пролетарыята,—пісаў рэнегат Троцкі,—не ёсць вытворча-культурная арганізацыя новага грамадства, а рэволюцыйна-баявы парадак барацьбы за яе». ***)

*) **Сталін, „Пытанні ленінізма", выд. 9-е, стар. 28.**
**) **Ленін, т. XXII, стар. 161.**
***) **Л. Троцкі, „Літаратура і рэволюцыя", стар. 140.**

У гэтым азначэнні мы ясна бачым процістаўленне асноўных бакоў дыктатуры пролетарыята, якая, будучы рэволюцыйным рычагом для канчатковага і поўнага прыдушэння эксплаататарскіх элементаў, **адначасова** з'яўляецца наймагутнейшай сілай, якая пераўтварае старыя грамадскія адносіны, ствараючы новы грамадскі лад—лад соцыялізма.

Пад прыкрыццём гучнай фразы контррэволюцыянер Троцкі адмаўляў усякую магчымасць творчай ролі дзяржавы дыктатуры пролетарыята.

У рэвізіяніскім азначэнні дыктатуры пролетарыята ў пана Троцкага няма нічога выпадковага з пункту погляду яго тэорыі немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне—тэорыі, звязанай з ідэяй аб непрымірымасці класавых супярэчнасцей паміж пролетарыятам і працоўным сялянствам. Адсюль у пана Троцкага вынікае своеасаблівы «рэволюцыйна-баявы парадак» барацьбы за дыктатуру пролетарыята, ідэя рэпрэсіўнага націску, які павінен быць накіраваны на асноўнага, па думцы Троцкага, антыпода пролетарыята—працоўнага серадняка.

Троцкі адмаўляў магчымасць існавання пролетарскай дыктатуры і пабудовы соцыялізма ў адной краіне без непасрэднага дзяржаўнага падтрымання міжнароднага пролетарыята. На гэтым шляху стаялі і яго бліжэйшыя сябры і саюзнікі—Зіноўеў і Каменеў, якія ў сваіх творах і выступленнях абвінавачвалі партыю і яе правадыра т. Сталіна ў так званай «нацыянальнай абмежаванасці» і лемантавалі аб бесперспектыўнасці соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтай адпраўнай ідэяй паны Троцкі, Зіноўеў і К° абгрунтавалі сваю «тэорыйку» аб «тэрмідарыянскім перараджэнні» нашай дзяржавы, якая, паводле іх характарыстыкі, з'яўляецца дзяржавай «далёка непролетарскага тыпу».

Партыя, пад кіраўніцтвам Леніна—Сталіна выявіла і выкрыла контррэволюцыйную сутнасць трацкісцка-зіноўеўскага блоку і яго ахвосця.

Рабочы клас Совецкага саюза пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна вывеў працоўнае сялянства на шырокі шлях калгаснага будаўніцтва, а паны Троцкі і Зіноўеў, як вядома, апынуліся ў лагеры контррэволюцыі. Аднак, было-б вельмі памылкова і лёгкадумна лічыць, што контррэволюцыйныя тэорыі не будуць жывіць розных паследышаў Троцкага і Зіноўева. На іх пазіцыі, безумоўна, спаўзаюць усе тыя, хто так ці інакш адмаўляе неабходнасць умацавання пролетарскай дзяржавы, хто недаацэньвае задачу максімальнага разгортвання арганізацыйна-масавай работы советаў, хто зводзіць дзейнасць советаў да голага адміністравання і камандвання.

> «Соцыялізм ёсць знішчэнне класаў,—пісаў Ленін,—каб знішчыць класы, трэба, па-першае, скінуць памешчыкаў і капіталістаў. Гэту частку задачы мы выканалі, але гэта толькі частка і прытым **не** самая цяжкая. Каб знішчыць класы, трэба, па-другое, знішчыць розніцу паміж рабочым і селянінам, зрабіць **ўсіх—работнікамі...** Гэта задача, якую нельга вырашыць звяржэннем якога-б там ні было класа. Яе можна вырашыць **толькі арганізацыйнай** (падкр. намі—**Л. Р.**) пераробкай ўсёй грамадскай гаспадаркі, пераходам ад аднаасобнай, адасобленай дробнай таварнай гаспадаркі да грамадскай буйнай гаспадаркі. Такі пераход можна толькі запаволіць і затрудніць паспешнымі і неасцярожнымі адміністрацыйнымі заканадаўчымі мерамі. Паскорыць гэты

пераход можна толькі такою дапамогай селяніну, якая-б давала яму магчымасць у велізарных размерах палепшыць усю земляробчую тэхніку, перайначыць яе ў корані». *)

Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў пролетарыят Совецкага саюза ажыццявіў геніяльны сталінскі план індустрыялізацыі нашай краіны. Пабудова новых магутных фабрык і заводаў, поўнае пераўзбраенне нашай машына-будаўнічай базы садзейнічалі «палепшанню усёй земляробчай тэхнікі і такому ператварэнню яе ў корані», аб якім марыў Ленін. Пад паслядоўна большэвіцкім, геніяльным кіраўніцтвам т. Сталіна дан рашучы адпор як «левым», якія імкнуліся рэвізаваць генеральную лінію партыі, прыкрываючыся голым адміністрацыйным «захапленнем» справай калектывізацыі, так і правым апартуністам, якія прапаведвалі патуханне класавай барацьбы, урастанне кулака ў соцыялізм, каб паслабіць класавую пільнасць, дэмабілізаваць увагу партыі і рабочага класа ў справе ўмацавання советаў, як органаў пролетарскай дыктатуры.

Якраз у перыяд масавага калгаснага руху пашыралася «славутая» тэорыя ліквідацыі сельскіх советаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі. Для пацверджання сваіх права-лявацкіх установак «ліквідатары» спасылаліся на твор Энгельса «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы», дзе ён геніяльна прадбачыць «грамадства, якое па-новаму арганізуе вытворчасць на аснове свабоднай і роўнай асацыяцыі вытворцаў і адправіць усю дзяржаўную машыну туды, дзе ёй будзе сапраўднае месца».

Сэнс разважанняў ліквідатараў сельскіх советаў быў выкрыт партыяй.

> «Сельсовет прадстаўляе сабой неад'емную і вельмі важную частку ўсёй сістэмы дыктатуры пролетарыята. Калі мы скасуем сельсоветы, а потым ліквідуем райсоветы, дык што-ж з гэтага выйдзе? У нас выйдзе галава і тулава без ног. Хіба можна гэта прыняць? Не, гэтага нельга прыняць».

Так характарызаваў т. Калінін рэвізіяніскую сутнасць прапаноў ліквідатараў.

> «Відаць, гэтыя людзі вельмі прымітыўна ўяўляюць сабе і пабудову соцыялізма ў адной краіне. Відаць яны дапускаюць, што пры пабудове соцыялізма ў адной краіне, акружанай з усіх бакоў капіталістычнымі дзяржавамі, пролетарская ўлада будзе непатрэбна, што тады магчыма будзе выкінуць яе на задворкі... Пакуль на нашы граніцы накіраваны гарматныя жэрлы капіталістычнага свету, датуль гаварыць аб адміранні ўлады па меншай меры смешна».**)

Пад кіраўніцтвам т. Сталіна партыя паказала, чаго варты імкненні ліквідатараў паставіць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы пытанне аб ліквідацыі нізавых звенняў пролетарскай дзяржавы. Цытуючы з твораў Энгельса **паасобныя** месцы аб адміранні дзяржавы, ліквідатары сказілі **ўвесь** глыбокі змест маркса-ленінскай тэорыі адмірання дзяржавы.

Усякага роду разважанні аб адміранні дзяржавы пераходнага перыяда, а г. зн. рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята, ужо на

*) Ленін, т. XXIV, стар. 511.

**) **М. И. Калинин и А. Я. Енукидзе**, „Сплошная коллективизация и задачи советов", ГИЗ 1930 г., стар. 14, 16.

даным этапе немінуча прыводзяць к тэорыі зніжэння, аслаблення ролі комуністычнай партыі.

Партыя—неад'емная, неадрыўная кіруючая сіла пролетарскай дыктатуры. І зусім зразумела, што яе роля ўзмацняецца пры агромным, магутным уздыме ўсёй сістэмы пролетарскай дзяржавы.

> «Партыя,—пісаў т. Сталін,—патрэбна пролетарыяту для таго, каб заваяваць і ўтрымаць дыктатуру. Партыя ёсць зброя дыктатуры пролетарыята. Але з гэтага вынікае, што са знікненнем класаў, з адміраннем дыктатуры пролетарыята павінна адмерці і партыя». *)

Пры механічным разуменні дыялектыкі дыктатуры пролетарыята немінуча спаўзанне ад тэорыі «адмірання дзяржавы» на даным этапе да махровага апартуністычнага разважання аб ужо наступаючым «адміранні партыі».

Прадбачанне т. Сталіна аб будучым адміранні дыктатуры пролетарыята, з якім звязана адміранне комуністычнай партыі, адносіцца да часоў поўнага комунізма. Роля комуністычнай партыі, як авангарда пролетарыята, як найбольш загартаванай часткі, перадавога атрада работнікаў соцыялістычнай будоўлі, павінна ўзрасці яшчэ вышэй на працягу другой пяцігодкі і за яе межамі.

> «Комуністычная партыя растворыцца поўнасцю ў рабочым класе толькі тады, калі комунізм перастане быць аб'ектам барацьбы і ўвесь рабочы клас стане комуністычным». **)

Так гаворыцца ў пастанове II кангрэса Комінтэрна, складзенай пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна і Сталіна. Гэта значыць, што сіла нашай партыі і яе роля ўзрастуць яшчэ больш у перыяд другой пяцігодкі і за яе межамі, што да гэтага перыяда мы прыдзем праз максімальнае ўзмацненне дзяржавы рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята і яе асноўнай кіруючай сілы—комуністычнай партыі. Усякія-ж разважанні, рэвізуючыя гэта палажэнне, павінны атрымаць знішчальны большэвіцкі адпор.

* *
*

> ...«Толькі советская форма дзяржавы, якая прыцягвае масавыя арганізацыі працоўных і эксплаатуемых да сталага і безумоўнага ўдзелу ў дзяржаўным кіраванні, здольна падрыхтаваць тое адміранне дзяржаўнасці, якое з'яўляецца адным з асноўных элементаў будучага бездзяржаўнага, комуністычнага грамадства». ***)

Адсюль зусім ясна і відавочна, што наша советская дзяржава не адмірае на даным этапе, але, умацоўваючы партыю, советы і ўсе рычагі сваёй сістэмы, праходзіць стадыю падрыхтоўкі ўмоў для будучага адмірання дзяржаўнасці, якое з'яўляецца асаблівасцю поўнага комунізма.

Да гэтага нас вядзе рэволюцыйная дыктатура пролетарыята, якую мы павінны максімальна ўзмацняць, паляпшаючы работу ўсіх яе звенняў, уцягваючы ўсё больш шырокія працоўныя масы ў справу дзяржаўнага кіравання.

---

*) Сталін, „Пытанні ленінізма", выд. 9-е, стар. 71.
**) Ленін, т. XXV, стар. 571.
***) Сталін, „Пытанні ленінізма", выд. 9-е, стар. 35—36.

«Мы за адміранне дзяржавы,—гаварыў т. Сталін на XVI партыйным з'ездзе,—і мы разам з тым стаім за ўзмацненне дыктатуры пролетарыята... Вышэйшае развіццё дзяржаўнай улады ў мэтах падрыхтоўкі ўмоў для адмірання дзяржаўнай улады—вось марксісцкая формула». *)

«Толькі людзі, якія ўхіляюцца ад марксізма-ленінізма, не разумеюць гэтай жыццёвай дыялектычнай супярэчнасці».

«Знішчэнне класаў,—напамінаў т. Сталін, на студзеньскім пленуме ЦК 1933 г.—дасягаецца не шляхам патухання класавай барацьбы, а шляхам яе ўзмацнення. Адміранне дзяржавы прыдзе не праз аслабленне дзяржаўнай улады, а праз яе **максімальнае** ўзмацненне, якое неабходна для таго, каб дабіць рэшткі паміраючых класаў і арганізаваць абарону супроць капіталістычнага акружэння, якое яшчэ далёка не знішчана і не хутка яшчэ будзе знішчана».

Так трэба разумець маркса-ленінскае вучэнне аб пролетарскай дзяржаве, развітае далей т. Сталіным. Іншая пастаноўка пытання немінуча прыводзіць да скату на антыленінскія пазіцыі, да прапаведвання тэорый, якія вядуць к аслабленню савецкай дзяржавы.

У сваім геніяльным па зместу справаздачным дакладзе на XVII партыйным з'едзе т. Сталін, даючы аналіз дасягнутых перамог і далейшых шляхоў умацавання дыктатуры пролетарыята і будаўніцтва соцыялізма, з вычарпальнай яснасцю паказаў, чаго варты розныя гора-тэарэтыкі, якія разважаюць аб адміранні пролетарскай дзяржавы ўжо на даным этапе.

«Тэзіс аб нашым прасоўванні к бяскласаваму грамадству, даны як лозунг, яны зразумелі, як стыхійны працэс, і яны прыкідвалі, калі бяскласавае грамадства, то, значыць, можна аслабіць класавую барацьбу, можна аслабіць дыктатуру пролетарыята і наогул пакончыць з дзяржавай, якая ўсёроўна павінна адмерці ў бліжэйшы час, і яны прыходзілі ў цялячае захапленне ў чаканні таго, што неўзабаве не будзе ніякіх класаў—значыць не будзе класавай барацьбы, значыць не будзе клопату і хвалявання, значыць можна скласці зброю і пайсці на бакавую спаць у чаканні прыходу бяскласавага грамадства».

Тав. Сталін з уласціваю яму сілай правадыра пролетарыята і ўсіх працоўных указаў, што патрэбна мабілізаванасць, велізарная класавая пільнасць і большэвіцкая ўзброенасць усёй нашай партыі, каб і надалей даваць рашучы адпор усякім спробам звесці пролетарыят з паслядоўнага ленінскага шляху.

Пераможнае будаўніцтва соцыялізма выклікае шалёнае супраціўленне гінучых класавых ворагаў, класавая барацьба яшчэ працягваецца. Злачынскі, здрадніцкі стрэл у т. Кірава паказаў, што капіталістычны свет у перыяд пераходу да другога тура рэволюцый і войн скарыстоўвае ўсякія сродкі і магчымасці, каб шкодзіць савецкай дзяржаве—бацькаўшчыне сусветнага пролетарыята. На грошы, атрыманыя ад консула адной з буржуазных дзяржаў, фашысцкія вырадкі з зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы арганізавалі тэрарыстычны акт супроць аднаго з лепшых прадстаўнікоў рабочага

*) Сталін, „Пытанні ленінізма", выд. 9, стар. 550.

класа. Заўчасная смерць т. Кірава напамінае нам аб тым, што мы павінны яшчэ больш увагі ўдзяліць справе ўмацавання пролетарскай дыктатуры, яшчэ вышэй узняць класавую пільнасць.

«Знішчэнне класаў,—пісаў Ленін,—справа доўгай, цяжкай, упорнай **класавай барацьбы,** якая **пасля** звяржэння ўлады капітала, **пасля** разбурэння буржуазнай дзяржавы, **пасля** ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята **не знікае** (як выабражаюць пашлякі старога социялізма і старой социял-дэмакратыі), а толькі змяняе свае формы, робячыся ва многіх адносінах яшчэ больш жорсткай».*)

* *
*

Указаныя Леніным шляхі ўмацавання дыктатуры пролетарыята ў нашу эпоху ўзняты на новую вышыню яго лепшым прадаўжальнікам—тав. Сталіным, усе выступленні і творы якога—адзіная геніяльная праграма ажыццяўлення пабудовы бяскласавага грамадства.

VII усесаюзны з'езд советаў прашоў пад знакам выканання ўказанняў тав. Сталіна, забяспечыўшых нашай краіне каласальныя поспехі.

Даючы бліскучы аналіз нашым дасягненням на з'ездзе советаў, тав. Молатаў сказаў:

«Нашы Советы — увасабленне дыктатуры пролетарыята. Як органы ўлады працоўных, яны павінны клапаціцца перш за ўсе аб умацаванні грамадскай, дзяржаўнай і кааперацыйна-калгаснай уласнасці і аб ахове інтарэсаў социялістычнай законнасці. Як органы ўлады, яны павінны зорка глядзець і трапна біць агентаў ворага і разам з тым праяўляць чуласць і клопаты к жывым людзям, к кожнаму працоўнаму... Нам трэба, каб яшчэ больш разгарнулася работа секцый советаў, дэпутацкіх груп на прадпрыемствах, шэфскіх груп і соцсумяшчальнікаў ва ўстановах, каб советы яшчэ мацней звязаліся з масамі рабочых. Нам трэба, каб гарадскія советы, выконваючы свае абавязкі ў справе правядзення палітыкі індустрыялізацыі і тэхнічнай рэканструкцыі, узмацнілі свае клопаты ў адносінах бытавых і культурных патрэб рабочых і работніц, працавалі над палепшаннем гандлю і жыллёвай справы, уздымалі справу ў школах і больніцах, паляпшалі кіно і бібліятэкі, наводзілі парадак у лазнях і на фізкультурных пляцоўках і няўхільна ўздымалі працоўную кваліфікацыю і палітычнае выхаванне рабочай моладзі—гэтай вялікай сілы социялізма.

Нам трэба, каб нашы сельскія советы звязалі па-сапраўднаму сваю работу з уздымам калгаснай вёскі, дапамагалі праз калгасы і соўгасы ўздыму сельскай гаспадаркі і культурнаму росту калгаснікаў, развівалі больнічную і школьную справу, забяспечвалі кнігай, газетай і кіно шырокія масы, праводзілі дарогі і тэлефоны ў вёсцы і зноў-такі ўсямерна клапаціліся аб стварэнні працоўнай кваліфікацыі і палітычнай свядомасці калгаснай моладзі, у якой наша будучае».

Такую разгорнутую праграму дзейнасці советаў даў кіраўнік

*) Ленін, т. XXIV, стар. 315.

нашага саюзнага ўрада тав. Молатаў у адпаведнасці з геніяльнымі ўказаннямі тав. Сталіна ў яго дакладзе на XVII партыйным з'ездзе.

Ні адна дзяржава, ні адзін палітычны лад, акрамя краіны Советаў, не ведалі і не ведаюць такога велізарнага ўдзелу шырокіх мас працоўнага народу ў справе дзяржаўнага кіравання. У той час, калі капіталістычны свет, ідучы к канчатковай пагібелі, шукае ратунку ў крывавых фашысцкіх метадах панавання і ліквідацыі рэштак буржуазна-дэмакратычных «свабод», СССР уступае ў новую эпоху развіцця сваёй дэмакратыі.

Творчы геній тав. Сталіна, выражаны ў пастановах лютаўскага пленума ЦК ВКП(б) і VII усесаюзнага з'езда советаў, дае напрамак яшчэ больш магутнаму ўздыму совецкай дэмакратыі.

Робіцца новы магутны прыступ да таго, «каб сапраўды **пагалоўна** насельніцтва вучылася кіраваць і пачынала кіраваць». *)

Далейшая дэмакратызацыя совецкай выбарчай сістэмы і ўдакладненне соцыяльна-эканамічнай асновы канстытуцыі ў напрамку, вызначаным лютаўскім пленумам ЦК ВКП(б) і VII усесаюзным з'ездам, забяспечвае яшчэ большае ўмацаванне пролетарскай дзяржавы.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі працоўныя масы СССР ажыццявілі гістарычныя ўказанні Леніна. Пытанне «хто каго» у СССР вырашана канчаткова і беспаваротна на карысць соцыялізма. Магутныя соцыяльна-эканамічныя зрухі, што адбыліся ў нашай вялікай краіне, забяспечваюць усе магчымасці далейшага разгортвання совецкай дэмакратыі.

> «Кіруючая ва ўсёй рэволюцыі роля гарадскога прамысловага пролетарыята,—гаворыцца ў праграме нашай партыі,—як найбольш сканцэнтраванай, аб'яднанай, асвечанай і загартаванай у барацьбе часткі працоўных мас, праявілася як у самым узнікненні советаў, так і ва ўсім ходзе развіцця іх у органы ўлады. Наша совецкая канстытуцыя адлюстравала гэта, захоўваючы некаторую перавагу за прамысловым пролетарыятам параўнальна з больш распыленымі дробна-буржуазнымі масамі на вёсцы».

Паслядоўнае ажыццяўленне генеральнай лініі партыі прывяло к таму гістарычнаму часу, калі паміж рабочымі і працоўнымі сялянамі можа быць ліквідавана ўсякая розніца ў выбарчых правах. Гэты перыяд быў геніяльна прадбачан Леніным, які адзначыў у праграме партыі, што канстытуцыйныя перавагі рабочага класа носяць «часовы характар... і гістарычна звязаны з труднасцямі соцыялістычнай арганізацыі вёскі».

Творчы геній тав. Сталіна, сталёвая воля большэвіцкай партыі, энтузіязм мільёнаў працоўных нашай краіны забяспечылі такі ўздым соцыялістычнага будаўніцтва, што мы можам з гонарам лічыць **галоўныя** труднасці соцыялістычнай перабудовы вёскі пройдзеным этапам. Безумоўна, у нашай далейшай рабоце яшчэ будуць сустракацца труднасці, звязаныя з задачай канчатковай ліквідацыі рэштак разгромленага, але поўнасцю яшчэ недабітага кулацтва, з задачай ліквідацыі рэштак капіталізма ў свядомасці людзей. Але гэтыя труднасці з'яўляюцца труднасцямі **завяршэння** пабудовы бяскласавага со-

*) **Ленін**, т. XXII, стар. 465.

цыялістычнага грамадства, труднасцямі росту канчаткова перамогшага соцыялізма.

У той час, калі буржуазныя краіны з года ў год узмацняюць абмежаванні для працоўных шляхам розных цэнзаў—узроснага, палавога, маемаснага, аседласці і т. д.,—адхіляючы працоўных ад удзелу ў выбарах, краіна рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята ўсямерна ўцягвае ў справу дзяржаўнага кіраўніцтва самыя шырокія працоўныя масы. Гэты магутны рост совецкай дэмакратыі адлюстрован у пастановах лютаўскага пленума ЦК ВКП(б) і VII з'езда советаў аб замене не зусім роўных выбараў роўнымі.

«Мы ідзем,—гаварыў тав. Молатаў,—па шляху пабудовы бясласавага соцыялістычнага грамадства. Капіталістычныя элементы ў нашай краіне ўжо ліквідаваны. Адна з самых галоўных задач совецкай улады зараз заключаецца ў ліквідацыі розніцы паміж рабочым класам і сялянствам на аснове забяспечання поўнага трыумфа соцыялізма ў нашай краіне. Ажыццявіць гэту задачу пролетарская дыктатура можа толькі на працягу цэлага раду гадоў. Але мы павінны няўхільна, аднак, імкнуцца к таму, каб забяспечыць рашэнне гэтай задачы і скарыстаць усе сродкі, здольныя наблізіць гэта рашэнне. Замена не зусім роўных—роўнымі выбарамі для ўсіх працоўных будзе ва многім садзейнічаць далейшым поспехам прасоўвання нашай краіны па шляху стварэння бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Зближаючы рабочых і сялян, яшчэ больш узмацняючы іх узаемадавер'е і ўздымаючы тым самым аўтарытэт рабочага класа і комуністычнай партыі, як кіруючай сілы ўсяго нашага будаўніцтва,—замена няроўных выбараў роўнымі—гіганцкі рухае наперад усю справу будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне».

Фальшывая ідэя так званай «прававаой дзяржавы», пад прыкрыццём якой капіталізм у гады росквіту буржуазнай дэмакратыі абманваў шырокія працоўныя масы, прапаведваючы «роўнасць усіх перад законамі», канула ў бяздонне. Ілюзію буржуазнай дэмакратыі аб «свабодзе наогул», «роўнасці наогул» капіталізм замяняе бізуном фашысцкіх чыноўнікаў і розных сатрапаў, якія не выбіраюцца, а прызначаюцца па волі «правадыра»—Гітлера, Пілсудскага і т. д. і т. п. «Канстытуцыя—гэта я», «Парламент—гэта я», «Дэмакратыя—гэта я»—прапаведваюць паны Гітлеры і К°.

Наша совецкая сістэма заўсёды была пабудавана на прынцыпе поўнай адказнасці абраных дэпутатаў перад выбаршчыкамі. Усямерна развіваючы самаініцыятыву мас, пролетарская дзяржава пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ніколі не дапускала і не дапускае адрыву прадстаўнікоў дзяржаўнага апарата ад рабочага класа. Гэты прынцып, выражаны ў тэксце совецкай канстытуцыі, набывае далейшае развіццё ў выніку замены многаступенных выбараў аднаступеннымі.

«У той час—гаварыў тав. Молатаў,—калі ўсё новыя і новыя краіны капіталізма адыходзяць ад сістэмы прамых выбараў і часцей усяго замяняюць выбары простым прызначэннем чыноўнікаў зверху і да самага нізу, у Совецкім саюзе сістэма многаступенных выбараў замяняецца сістэмай прамых выбараў не толькі нізавых, але і самых вышэйшых органаў совецкай улады.

Захоўваючы за выбаршчыкамі права адклікання свайго дэпутата з любога органа і забяспечваючы пры высоўванні кандыдатаў удзел беспартыйных арганізацый і груп працоўных, совецкая сістэма з увядзеннем прамых выбараў зробіць гіганцкі крок наперад у справе развіцця дэмакратызма працоўных у нашай краіне».

Розныя спосабы жульніцтва і ашуканства, якія заўсёды існавалі ў буржуазнай выбарчай сістэме, не адмаўляюць самі буржуазныя пісьменнікі.

«У час кампаній (выбараў—**Л. Р.**),—піша Острагорскі,—прыпадносіцца столькі хлусні, што можна было-б патапіць броненосец». *)

Розныя выбарчыя махінацыі, якімі аперавала буржуазная дзяржава ў часы росквіту парламентарызма, не могуць на даным этапе, у эпоху пераходу да другога тура рэволюцый і войн, поўнасцю задаволіць капіталістаў. Буржуазія шукае ратунку ў больш радыкальных, з яе пункту погляду, сродках, бо фальш буржуазнай дэмакратыі з дня на дзень робіцца ўсё больш зразумелай для шырокіх працоўных мас. Прынцыпы «чатыроххвосткі» капіталізм замяняе голым тэрорам, і ў час выбараў **адкрытым** гвалтам і здзекамі прымушае працоўных галасаваць за прадстаўнікоў буржуазіі. Мінулі часы, калі, адчуваючы сваю моц, капіталісты ў асобе іх ідэолагаў высоўвалі ідэю закрытых выбараў. Зараз гэтыя прынцыпы «чатыроххвосткі» буржуазія замяняе сваёй **адкрытай** тэрарыстычнай дыктатурай, скарыстоўваючы фашысцкія метады панавання.

Наадварот, совецкая выбарчая сістэма, якая з першага дня свайго існавання была самай дэмакратычнай сістэмай выбараў, адпавядаючай краіне пролетарскай дыктатуры, ідзе па шляху яшчэ большага развіцця, яшчэ большага выяўлення тых магчымасцей, якія ёй дае дзяржава дыктатуры пролетарыята.

Вось чаму на аснове заваёў Окцябрскай рэволюцыі, на аснове соцыялістычных дасягненняў пролетарскай дыктатуры мы можам сапраўды ажыццявіць тыя лепшыя з прынцыпаў усеагульнага выбарчага права, якія абвясціла ў час росквіту парламентарызма буржуазія, што яна не магла ніколі поўнасцю ажыццявіць і ад чаго канчаткова адмаўляецца на даным этапе ў эпоху сваёй пагібелі.

Замена адкрытых выбараў закрытымі стварае яшчэ адну магутную прадпасылку для далейшага разгортвання совецкай дэмакратыі.

«Самы факт,—гаварыў тав. Молатаў,—пераходу ад адкрытых к закрытым выбарам яскрава падкрэслівае рост пролетарскага дэмакратызма ў Совецкім саюзе і імкненне совецкай улады паставіць работу сваіх органаў пад узмоцнены кантроль рабочых і сялян. Калі ў кіруючых класах буржуазных краін зараз шырока развіты зняважлівыя адносіны к выбарчай сістэме і к правам шырокіх мас выбаршчыкаў, воля якіх падмяняецца бязмежнаю ўладай жменькі магнатаў капітала, то пераход к закрытым выбарам у Совецкім саюзе сведчыць аб тым, што совецкая ўлада чэрпае свае сілы ў росце актыўнага ўдзелу мас ва ўсім дзяржаўным кіраўніцтве, ва ўзмацненні ма-

*) М. Острогорский, „Демократия и полит. партии". т. I, стр. 188.

савага кантроля за работай усяго дзяржаўнага *апарата знізу даверху*».

Такавы два шляхі развіцця двух сістэм панавання. Шлях загніваючага капіталізма, які ідзе к сваёй канчатковай пагібелі, і шлях дыктатуры пролетарыята, які пераможна разгортвае совецкую дэмакратыю і ідзе к поўнаму заканчэнню пабудовы соцыялізма.

Змены ў канстытуцыі ў напрамку далейшай дэмакратызацыі нашай выбарчай сістэмы ўзнімаюць на новую вышыню актыўнасць мільёнаў працоўных горада і вёскі, яшчэ больш узмацняюць дыктатуру пролетарыята.

Змены ў канстытуцыі яшчэ больш умацоўваюць саюз пролетарыята і працоўных мас сялянства, кіруючую ролю пролетарыята ў сістэме пролетарскай дыктатуры, узмацняюць магутнасць і аўтарытэт большэвіцкай партыі—накіроўваючай і кіруючай сілы ў сістэме дыктатуры пролетарыята.

Змены ў канстытуцыі адыграюць важнейшую ролю ў справе набліжэння совецкіх органаў к шырокім працоўным масам, узмоцняць кантроль і дапамогу шырокіх мас у рабоце советаў, дапамогуць яшчэ больш умацаваць советы праверанымі большэвіцкімі кадрамі.

Новая эпоха совецкай дэмакратыі дасць яшчэ большы росквіт актыўнасці мас у будаўніцтве соцыялізма і барацьбе міжнароднага пролетарыята за пролетарскую рэволюцыю.

Пастановы VII усесаюзнага з'езда советаў падводзяць гістарычны вынік заваёвам Окцябрскай рэволюцыі, вынік дасягненням совецкага ладу. Гэтыя пастановы сведчаць аб усё ўзрастаючай сіле пролетарскай дзяржавы, аб непахіснай волі працоўных мас, ствараючых новае светлае жыццё бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Толькі адзіная большэвіцкая партыя, выпеставаная Леніным, узначаленая геніем Сталіна, змагла прывесці працоўных СССР да гэтай нябачанай у гісторыі чалавецтва пары, якая ў бліжэйшыя гады будзе завершана поўнай пабудовай соцыялізма.

Пад сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, скарыстоўваючы магутны вопыт нашай Совецкай дзяржавы, сусветны пролетарыят прыдзе да канчатковай перамогі над буржуазіяй і вызвалення ад ярма капіталізма.

---

С. Вольфсон

# Заветы В. І. Леніна аб культурнай спадчыне

Росквіт соцыялістычнай культуры, дасягнуты нашай краінай к адзінаццатай гадавіне смерці Леніна, ёсць вынік перамог генеральнай лініі партыі, кіруемай сталінскім ЦК, на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя перамогі паставілі Совецкі саюз на адно з першых месц у свеце па цэламу раду эканамічных паказчыкаў.

Толькі ў выніку соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай рэканструкцыі яе сельскай гаспадаркі стаў магчымым той высокі культурны ўзровень, якога дасягнула краіна пролетарскай дыктатуры.

На VII усесаюзным з'ездзе советаў, тов. **Молатаў**, падводзячы вынікі барацьбы за соцыялізм, паказаў радам пераканаўчых фактаў і цыфр, як наша краіна пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ператварылася з нэпаўскай у соцыялістычную. На аснове гэтых гістарычных перамог стала магчымай далейшая дэмакратызацыя нашай выбарчай сістэмы. Прынятая VII з'ездам пастанова аб некаторых зменах у канстытуцыі СССР адкрывае новую эпоху совецкай дэмакратыі, што забяспечвае яшчэ большую актыўнасць мільёнаў працоўных у кіраўніцтве дзяржавай і ўмацаванні дыктатуры пролетарыята.

Рост матар'яльных багаццяў у краіне абумовіў нечуваны рост культурных запатрабаванняў працоўных мас, іх гіганцкі культурны рост.

Гэты росквіт стаў магчымым у выніку таго, што партыя на чале з яе правадыром т. Сталіным няўхільна ператварала ў жыццё і развівала далей ленінскае вучэнне аб культурнай рэволюцыі.

Ленінскае вучэнне аб культурнай рэволюцыі і соцыялістычнай культуры выкавалася і вырасла ў барацьбе з усякімі класава-варожымі поглядамі на культуру: з меншавіцкімі, багданаўскімі, бухарынскімі, пролеткультаўскімі, з бундысцкімі і люксембургіянскімі, з поглядамі на пролетарскую культуру контррэволюцыйнага трацкізма...

Ленін усебакова выкрыў контррэволюцыйны меншавіцкі тэзіс аб тым, што, толькі дасягнуўшы культурнага ўзроўню, працоўныя масы могуць ажыццявіць соцыялістычную рэволюцыю. Гэты тэзіс адкрыта па-меншавіцку, трацкісцку скажаў вучэнне Маркса—Энгельса, якія заўсёды лічылі, што пролетарыят культурна перавыхоўваецца і перарабляецца ў самым працэсе рэволюцыйнай практыкі, што рабочы клас будзе ствараць сваю соцыялістычную культуру ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва.

Марксісцка-ленінскае вучэнне аб культурнай рэвалюцыі надзвычай шматгранна і ўсеабдымна. Даволі назваць некаторыя з яго праблем: суадносіны паміж так званай духоўнай і матар'яльнай культурай, паміж ідэалогіяй і эканомікай, культурай і палітыкай; класавая сутнасць культуры, тэорыі; сувязь паміж культурамі пэўных сацыяльна-эканамічных фармацый; заканамернасці гістарычнага развіцця культуры; інтэрнацыяналізм пролетарскай культуры; нацыянальная форма пролетарскай сацыялістычнай культуры; атэістычнасць пролетарскай культуры; шляхі культурнай рэвалюцыі пролетарыята і т. д. і т. д.

З усяго комплекса вялікіх пытанняў, ахапляемых ленінскім вучэннем аб культурнай рэвалюцыі, спынімся толькі на адным, надзвычай цікавым і актуальным—на ленінскіх заветах аб культурнай спадчыне, аб адносінах пролетарыята да культур, створаных і пабудаваных іншымі папярэднімі класамі.

Пры ўсіх рэвалюцыях мінулага, калі ўлада аднаго класа змянялася ўладай другога, наступаў канец панаванню адной сістэмы ідэй, над розумамі пачынала панаваць новая сістэма, бо пануючымі ідэямі эпохі заўсёды з'яўляюцца ідэі пануючага класа...

Разам з тым пачынала ствараецца новая культура, якая адлюстроўвала інтарэсы новага пануючага класа, замацоўвала яго ўладу, пашырала яго ідэалогію.

Але пры ўсіх рэвалюцыях мінулага (да вялікай Окцябрскай сацыялістычнай рэвалюцыі) культуры класа звергнутага і класа, заваяваўшага ўладу, былі паміж сабой узаемна звязаны: і тая і другая былі культурамі эксплаататарскімі, і тая і другая служылі інтарэсам меншасці, якая падначальвала сабе і эксплаатавала большасць. Вось чаму культура рабаўласніцкая, феадальная, капіталістычная—пры ўсёй іх узаемарознасці—шчыльна і непарыўна паміж сабою звязаны.

З'яву зусім іншага парадку бачым пры рэвалюцыі пролетарскай. На чале ўлады становіцца клас, які праз сваю дыктатуру кладзе канец усім і ўсялякім формам эксплаатацыі чалавека чалавекам і прыводзіць чалавецтва да знішчэння класаў. Гэты клас стварае сваю пролетарскую сацыялістычную культуру, якая прынцыпова адрозніваецца ад усіх папярэдніх.

У сувязі з гэтым для перамогшага пролетарыята набывае асаблівую складанасць і вострасць пытанне аб адносінах да культурнай спадчыны мінулых сацыяльна-эканамічных фармацый.

Як павінен аднесціся да гэтай спадчыны заваяваўшы ўладу рабочы клас, каб ажыццявіць стаўшыя перад ім задачы пабудовы сацыялізма і стварэння сваёй сацыялістычнай культуры?

Ленінскі геній неаднакроць зварочваўся да гэтага пытання. Яго адказы на гэта пытанне былі тымі дырэктывамі, ажыццяўляючы якія і развіваючы далей, партыя і рабочы клас пад кіраўніцтвам т. Сталіна дабіліся сусветна-гістарычных поспехаў ва ўсёй барацьбе за сацыялізм, за культурную рэвалюцыю, за сацыялістычную культуру.

Ленін нязменна выступаў перакананым праціўнікам і бязлітасным крытыкам лявацкай пагарды культурнай спадчынай. Нігілізм у адносінах да старой культуры лічыў ён вельмі шкоднымі і небяспечнымі для пролетарыята забабонамі, не раз называючы наплявацельскія адносіны да яе прадуктам фантастыкі і верхаглядства.

Гэта ленінская пазіцыя абумоўлена была перакананнем В. І. у тым, што нельга пабудаваць комунізм, не выкарыстаўшы культурны і тэхнічны вопыт капіталізма. Хто гэтага не разумее,—той не мар-

ксіст, не барацьбіт за сапраўдны, рэальны комунізм, а толькі ўтапіст, прыхільнік «фантастычнага комунізма». Марксіст у сваёй барацьбе за комуністычны лад павінен выкарыстаць тую суму ведаў, тыя арганізацыйныя і людскія рэсурсы, якія дасталіся пролетарыяту ад старога грамадства пры заваяванні ўлады. Ленін улічваў гіганцкую задачу ў галіне культурнай рэволюцыі, стаўшую перад перамогшым у Октябры пролетарыятам—выбрацца з поўазіяцкай бескультурнасці, якая дасталася ў спадчыну ад царскага рэжыму, ліквідаваць культурную адсталасць, а разам з тым з'явіцца тварцом новай соцыялістычнай культуры, непамерна вышэйшай ад усіх культур, якія чалавецтва стварала ў гістарычным мінулым.

У якасці адной з важнейшых прадпасылак для вырашэння гэтай задачы ад пролетарыята патрабуецца, каб ён аўладаў тым запасам ведаў, якія чалавецтва накапіла на працягу тысячагоддзяў сваёй гісторыі, на розных ступенях сваёй гістарычнай эвалюцыі, пры розных соцыяльна-эканамічных фармацыях. Пролетарыят—адзіны, да канца рэволюцыйны, самы перадавы клас сучаснага чалавецтва—павінен стаць гаспадаром тых культурных каштоўнасцей, якія чалавечае грамадства стварыла пры панаванні эксплаататарскіх класаў мінулага. Вось чаму злачынны лёгкадумна-пагардлівыя адносіны да культурнай спадчыны мінулага. Патрэбна напружаная і настойлівая барацьба за аўладанне гэтай спадчынай, за выкарыстанне яе, да чаго Ленін няўтомна заклікаў.

«Звышрэволюцыйныя» левакі патрабавалі, каб пролетарская культура будавался на голым месцы. Па іх думцы, трэба выкінуць за борт усю буржуазную культуру, вырасціць сваю новую—пролетарскую, гадуючы яе ў спецыяльна пабудаваных для гэтай мэты цяплíцах. Пролеткультаўцы меркавалі, што працэс выпрацоўкі пролетарскай культуры павінен праходзіць без класавай барацьбы, без кіраўніцтва партыі барацьбой за культуру і культурную рэволюцыю.

Ленін закляйміў гэту рэакцыйную фантастыку пролеткультаўцаў, як «архіфікцыю» і «вздор» *), зло высмеяў прэтэнзіі людзей, лічыўшых сябе спецыялістамі па пролетарскай культуры, манапалістамі яе будаўніцтва. Леніну быў глыбока варожым дробна-буржуазны радыкалізм пролеткультаўцаў, ігнараваўшых барацьбу з элементарнай некультурнасцю, бязграматнасцю, хабарніцтвам, бюракратызмам, граззю і неахайнасцю і прэтэнцыёзна дэкларараваўшых, што новая культура будзе створана намаганнямі «класава-творчага» пролетарыята, без выкарыстання і перапрацоўкі старой культуры. За гэтым дробна-буржуазным радыкалізмам Ленін адразу ўгледзеў фокусніччанне прадстаўнікоў інтэлігенцкай багемы, хацеўшай «прымазацца» да справы пролетарыята, або манеўры меншавіцкай стратэгіі Багданава.

Вось чаму Владзімір Ільіч з такой настарожлівасцю адносіўся да ўсякага роду спроб замяніць старое мастацтва новым, сканструяваным па «пролеткультаўскіх» прапісях,—усякага роду дэкадэншчынай, імажынізмам, футурызмам і іншымі «ізмамі». Ленін нязменна выкрываў і акатваў студзёнай вадою сваёй неперайма льнай іроніі занадта вялікіх «ниспровергателей» старой культуры і прыхільнікаў хуткаспелай фабрыкацыі яе ў пролеткультаўскіх рэтортах.

*) Гл. заметкі В. І. Леніна на артыкул кіраўніка „Пролеткульта" В. Плятнёва „На ідэалагічным фронце", зборнік „Пытанні культуры пры дыктатуры пролетарыята" Дзяржвыдав. 1925 г.—і змешчаны там-жа артыкул т. Я. Якаўлева.

Ленін неаднакроць выступаў супроць спроб аб'явіць так званае «левае» мастацтва навейшага часу спецыфічна пролетарскім, а старое мастацтва адкінуць як выключна буржуазнае ці дваранскае. У сваёй вядомай гутарцы з «вхутемасовцами» Ленін гаварыў аб творах «левых» мастакоў:

> «Я не разумею, не падабаецца і не падабаецца, не разумею «рассудку вопреки, наперекор стихиям». Вось вершы Пушкіна люблю. Ганчарова люблю, а левых паэтаў не разумею і чытаць не хачу, сумна, некалі» (з успамінаў **А. В. Луначарскага**).

Ленін таксама не раз астрыў над «футурыстычнымі чучаламі» архірэволюцыйных скульптараў, над жывапіссю канструктывістаў: «на чалавечых тварах ні вачэй, ні носа не знаходжу» і г. д. В. І. жартаваў і над тымі таварышамі, якія не адважваюцца выказаць сваіх адмоўных адносін да падобнага роду мастацтва з-за баязні паказацца «несучаснымі».

> «Я-ж маю смеласць,—гаварыў ён Клары Цэткін,—аб'явіць сябе «варварам». Я не ў сілах лічыць творы экспрэсіянізма, футурызма, кубізма і іншых «ізмаў» вышэйшым творам мастацкага генія. Я іх не разумею, я не адчуваю ад іх ніякай радасці».

У той-жа час Ленін, як гэта засведчана ў шматлікіх мемуарах і ўспамінах аб ім, адчуваў найвялікшую радасць ад абшчэння з такімі майстрамі старога свету, як Пушкін, Гётэ, Талстой, Шчэдрын, Золя, Бетховен, Ліст і інш.

Лявацкія імкненні «адным махам» расправіцца з культурай мінулага і на яе месца пасадзіць пад выглядам пролетарскай культуры ўсякага роду культурныя недаросткі, якія часта з'яўляліся плодам дасужых інтэлігенцкіх выдумак і крыўлянняў, сустракалі з боку Леніна руйнуючы адпор. Падобнага роду спробы вялі, па думцы Владзіміра Ільіча, да абяззбройвання рабочага класа, які толькі на аснове аўладання ўсімі культурнымі багаццямі, накопленымі чалавецтвам, зможа пабудаваць комунізм. У той-жа час В. І. праяўляў вялікую зацікаўленасць кожным сапраўдным парасткам пролетарскай культуры, з вялікай радасцю сустракаў каштоўныя праявы мастацкай творчасці рабочых.

Аб выключна беражных адносінах Леніна да з'яў старой культуры, якія, па яго думцы, маглі культурна ўзбагаціць і ўзмацніць пролетарыят, красамоўна гаворыць рад яркіх фактаў. Напомнім выпадак, калі ў час гаспадарчай разрухі на паседжанні Соўнаркома стаяла пытанне аб закрыцці за адсутнасцю паліва маскоўскіх тэатраў. Па іх адрасу, у прыватнасці Вялікага тэатра, сказана было на паседжанні не мала горкіх слоў. Указвалася, што тэатры абслугоўваюць эстэтычныя інтарэсы буржуазіі і спекулянтаў, што іх пастаноўкі, накшталт «Травіяты» ці «Еўгенія Онегіна», нічога не даюць рабочаму, чырвонаармейцу, што злачынна траціць на тэатры паліва, калі яго не хапае для лазняў перад тварам пачатку тыфознай эпідэміі і т. д. Справа яўна хілілася к закрыццю тэатраў. І тады Владзімір Ільіч папярэдзіў галасаванне кароткай, але аўтарытэтнай рэплікай: «Спадчыну ад буржуазнага мастацтва нам рана яшчэ здаваць у архіў». Гэта рэпліка выратавала тэатры. Аб усім гэтым падрабязна расказаў у сваёй кнізе «На повороте» П. І. Лепешынскі і рад іншых таварышоў. Владзімір Ільіч таксама адмаўляўся бачыць у МХАТ'е «абломак старасветчыны» і даваў дырэктывы выратаваць і захаваць гэты тэатр.

Ва ўзнікненні марксізма Ленін бачыў праобраз таго, як павінен ісці працэс развіцця пролетарскай культуры. Аб гэтым развіцці ён гаварыў у праекце рэзалюцыі «Аб пролетарскай культуры»:

«Марксізм заваяваў сабе сваё сусветна-гістарычнае значэнне, як ідэалогіі рэволюцыйнага пролетарыята тым, што ён, марксізм, ні ў якім разе не адкінуў каштоўнейшыя заваяванні буржуазнай эпохі, а, наадварот, усвоіў і перапрацаваў усё, што было каштоўнага ў больш чым двухтысячагадовым развіцці чалавечай мыслі і культуры. Толькі далейшая работа на гэтай аснове і ў гэтым-жа кірунку, адухаўляемая (практычным) вопытам дыктатуры пролетарыята, як апошняй барацьбы яго супроць усякай эксплаатацыі, можа быць прызнана развіццём сапраўды пролетарскай культуры». *)

Калі Ленін сустракаў, асабліва сярод моладзі, неразуменне гэтага законамернага працэса, калі ён сустракаў пагардлівыя, а часта і наплявацельскія адносіны да лепшых узораў культуры мінулага, гэта выклікала ў яго пачуццё ўстрывожанасці і агарчэння. Вышэй мы спасылаліся ўжо на вядомую гутарку В. І. з «вхутемасовцами». У час гэтай гутаркі ўзнікае пытанне аб літаратурных сімпатыях моладзі. Некаторыя «вхутемасовцы» заявілі, што яны «аднадушна супроць «Еўгенія Онегіна».

— «Еўгені Онегін» нам проста ў зубах завяз». Рэбяты дружна падхапілі: «Вядома, мы супроць «Еўгенія Онегіна». Владзімір Ільіч проста пакатваецца са смеху. «Вось як, вы значыць супроць «Еўгенія Онегіна». Ну, тады мне прыдзецца быць за, я-ж стары чалавек». **)

Ленін лічыў неабходным мабілізаваць пролетарскую грамадскую думку супроць такіх настрояў недаацэнкі класічных твораў мастацтва, усяляк імкнуўся ўнушыць комуністычнай моладзі разуменне таго, што «пролетарская культура павінна з'явіцца законамерным развіццём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад гнётам капіталістычнага грамадства, чыноўніцкага грамадства». ***)

На абгрунтаванне гэтага палажэння і была накіравана гістарычная прамова Владзіміра Ільіча на III з'ездзе комсамола 4 кастрычніка 1920 г. З выключнай настойлівасцю ўказваў у ёй Ленін, што, толькі ўзброіўшыся веданнем усёй культуры, створанай чалавецтвам на мінулых ступенях свайго гістарычнага развіцця, зможа рабочы клас пабудаваць сваю пролетарскую культуру.

Той, хто спрабуе падмяніць гэта веданне механічным усваеннем гатовых вывадаў, ператвараемых у хадзячую формулу, далёк ад марксізма, ад комунізма. І таму Ленін не раз папярэджваў:

«Было-б памылкова думаць так, што даволі ўсвоіць комуністычныя лозунгі, вывады комуністычнай навукі, не ўсвоіўшы сабе той сумы ведаў, вынікам якіх з'яўляецца сам комунізм... Комуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданнем усіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва... Комунізм ператорыцца ў пустату, ператорыцца ў пустую

*) Ленін, т. XXV, стар. 409—410 выд. 2.
**) С. Сенькін. Ленін у комуне Вхутемас „Молодая гвардия" 1924 г. № 2—3.
***) Ленін, т. XXII, стар. 317, выд. 1.

шыльду, комуніст будзе толькі простым хвастуном, калі не будуць перапрацаваны ў яго свядомасці ўсе набытыя веды».*)

Поўзнайства і верхаглядства, падмена труднага і складанага працэса аўладання ведамі павярхоўным усваеннем трафарэтных фраз, штампаваных формул, зазубрываннем лозунгаў знаходзілі ў Леніне непрымірымага ворага.

Ленінскія адносіны да праблемы культурнай спадчыны характарызуюцца, такім чынам, у першую чаргу барацьбой з агульным адмаўленнем неабходнасці для пролетарыята ўсваення гэтай спадчыны, з нігілістычна-пагардлівымі адносінамі да яе, з лявацкім выкідваннем за борт культурнай спадчыны мінулых эпох.

Разам з тым, і **непарыўна** з тым, Ленін вёў барацьбу супроць некрытычных адносін да буржуазнай культуры, супроць апартуністычнага капітулянцтва перад ёй, супроць механічнага ўсваення і змазвання яе буржуазна-класавага характару. Вось чаму, калі В. І. заклікае да аўладання культурнымі багаццямі мінулага, калі ён гаворыць аб усваенні ведаў, аб далучэнні да культуры мінулага, гутарка ў яго заўсёды ідзе аб **крытычным усваенні гэтых багаццяў на аснове перапрацоўкі культурнай спадчыны мінулых эпох з пункту погляду класавых інтарэсаў пролетарыята і яго рэволюцыйнай практыкі.**

Пролетарыят, становячыся пануючым, ствараючы сваю культуру, крытычна засвойвае ўсё лепшае, што было ў культуры раней панаваўшых класаў. Крытэрыем ацэнкі пры гэтым яму служыць выкаваная яшчэ пад гнётам варожых класаў магутная ідэалагічная зброя— марксізм.

Калі мы гаворым аб гэтых заветах, трэба асабліва падкрэсліць, што Ленін не абмяжоўваў працэс асваення гэтай спадчыны колам непасрэднай тэарэтычнай вучобы. В. І. надаваў асаблівае значэнне аўладанню тэарэтычнымі крыніцамі культурных багаццяў мінулага, патрабуючы ўпартай і глыбокай работы над іх аўладаннем. Гэтага якраз не разумелі, напрыклад, выкрытыя партыяй «левакі», якія прапагандавалі «адміранне настаўніка», «адміранне падручніка» у савецкай школе, вульгарна процістаўлялі «тэарэтычнай вучобе» «практыку жыцця». Беручы тэорыю і практыку ў іх непарыўным дыялектычным адзінстве, Ленін заўсёды падкрэсліваў, што **асваенне культурнай спадчыны** ажыццяўляецца як шляхам упартай тэарэтычнай працы, так і ўсім працэсам рэволюцыйнай практыкі пролетарыята, што яно **дасягаецца ў самым працэсе будаўніцтва соцыялізма, у працэсе класавай барацьбы рабочага класа** з эксплаататарамі, якая робіць пролетарыяў больш класава свядомымі, уздымае культурны ўзровень, культурна ўзбройвае і ўзбагачвае іх.

Ствараючы пролетарскую соцыялістычную культуру, рабочы клас павінен дзейнічаць так, як дзейнічаў асновапаложнік навуковага комунізма, які «апіраўся на моцны фундамент чалавечых ведаў, заваяваных пры капіталізме», вывучаў капіталістычнае грамадства «пры дапамозе поўнага засваення ўсяго таго, што дала ранейшая навука», а разам з тым «усё, што было створана чалавечым грамадствам, перапрацаваў крытычна, ніводнага пункта не пакінуўшы без увагі».

Ленін непараўнальна лепш, чым самыя крайнія «ниспровергатели» старой культуры, ведаў яе адмоўныя бакі, яе рэакцыйнасць, яе службу эксплаататарам, ведаў небяспекі, якія тояцца пры некры-

*) **Ленін**, т. XXII, стар. 316—317, выд. 1.

тычным і апалагетычным падыходзе да яе. Але дыялектычны вывад, які зрабіў В. І. з такога факта, быў не агульным адмаўленнем гэтай культуры, не чванлівым адмаўленнем ад яе, а мудрым патрабаваннем выкарыстаць усё станоўчае, што ў ёй заключаецца, узяць з яе ўсё карыснае для пролетарыята, што дасць яму неабходныя ў барацьбе за соцыялізм веды для стварэння новых культурных каштоўнасцей.

Ратуючы вялікі тэатр ад закрыцця, Ленін ведаў, лепш чым самыя заядлыя абвінаваўцы гэтага тэатра, яго класава-чуждае, класава-варожае пролетарыяту творчае аблічча («гэта кавалак чыста памешчыцкай культуры»—гаварыў ён Луначарскаму). І калі В. І. лічыў неабходным беражна адносіцца да гэтага ўвасаблення тэатральных традыцый, навыкаў, звычак, ведаў, карацей кажучы—да тэатральнай культуры мінулага, то толькі таму, што быў глыбока пераконан, што гэтыя веды і навыкі могуць быць скарыстаны пролетарыятам, пры стварэнні сваёй тэатральнай культуры, што пры крытычных адносінах самі пастаноўкі Вялікага тэатра могуць многім пашырыць культурны гарызонт рабочага класа, яго веданне мінулага, так неабходнае ў барацьбе за перабудову сучаснага.

Разам з гэтым Владзімір Ільіч з велізарнейшай класавай пільнасцю і ідэалагічнай непрымірымасцю адносіцца да буржуазнай культуры, да буржуазнай навукі. Ён няўстанна мабілізуе пільнасць мас, паказваючы, як вучоныя і мастакі ў капіталістычным грамадстве прыслужваюць пануючым класам, як выконваюць іх соцыяльны заказ, як скажаюць ва ўгоду інтарэсам буржуазіі рэчаіснасць, якімі ўтончанымі сродкамі зацямняюць класавую свядомасць мас. Толькі ва ўмовах пастаяннай класавай насцярожлівасці, вялікай класавай пільнасці, пролетарыят зможа ва ўсёй культурнай спадчыне мінулага аддзяліць адмоўнае ад станоўчага, крытычна ацаніць і перапрацаваць яго і з дапамогай гэтага станоўчага культурна вырасці, культурна ўзброіцца.

У спадчыне кожнай нацыянальнай культуры трэба адрозніваць элементы культуры дэмакратычнай і культуры буржуазнай, эксплаататарскай.

> «У **кожнай** нацыянальнай культуры ёсць, хоць і не развітыя **элементы** дэмакратычнай і соцыялістычнай культуры, бо ў **кожнай** нацыі ёсць працоўная і эксплаатуемая маса, умовы жыцця якой немінуча параждаюць ідэалогію дэмакратычную і соцыялістычную. Але ў **кожнай** нацыі ёсць таксама культура буржуазная (а ў большасці яшчэ чорнасоценная і клерыкальная)—пры гэтым не ў выглядзе толькі «элементаў», а ў выглядзе пануючай культуры». *)

Контррэволюцыйныя нацыяналістычныя элементы стараліся гэту акалічнасць усямерна адмаўляць і пад выглядам культурнай спадчыны мінулых вякоў рэстаўраваць рэакцыйную гніль дваранска-памешчыцкай, буржуазнай культуры. Практыка беларускіх контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў дае таму шматлікія прыклады.

У Леніна мы знаходзім неперавышаныя ўзоры таго, як трэба выкрываць і даваць адпор апартуністычным спробам працягваць пад выглядам «культурнай спадчыны» усякага роду тэарэтычны хлам рэакцыйнай буржуазіі, усякага роду ідэалагічныя «адкіды», што выпрацоўваюць дыпламаваныя і недыпламаваныя лакеі буржуазіі на яе

*) Ленін, т. XIX, стар. 40, выд. 1.

карысць. Ленін нястомна звароч.ваў увагу на тое, што культура і навука буржуазіі скла́ліся ва ўмовах эксплаататарскага ладу, што яны прасякнуты паразітызмам і эксплаататарствам і што пры крытычным асваенні культурнай спадчыны мінулага трэба быць асабліва на-чаку, максімальна павысіць партыйную настарожлівасць і класавую пільнасць. Толькі пры такой **сугубай крытычнасці** пролетарыят зможа стварыць сваю социялістычную культуру, сваю навуку і мастацтва, стварыць для іх сваю новую форму, адпавядаючую іх новаму зместу.

Ліквідатары і капітулянты, контррэволюцыйныя трацкісты, апартуністы ўсіх масцей заклікалі пролетарыят пайсці на «вывучку» к буржуазнай культуры. Тым самым яны фактычна заганялі пролетарыят у палон буржуазнай ідэалогіі. Ленін выкрыў усю класавую варожасць гэтых заклікаў і паказаў, што патрэбна не «вывучка», а крытычнае асваенне культурнай спадчыны, перапрацоўка яе ў працэсе класавай барацьбы і будаўніцтва соцыялізма.

У галіне мастацтва мы маем класічныя ўзоры крытычных адносін да культурнай спадчыны на прыкладзе Талстога. Ленін паказаў, што ў талстоўскай спадчыне—ад вялікага мастацтва генія, ад бязлітаснай крытыкі капіталізма, ад пратэста супроць эксплаатацыі, ад цвярозага рэалізма—з аднаго боку і ад «помещика, юродствующего во христе», ад «интеллигентского хлюпика», ад папоўшчыны—з другога.

Ленін браў пытанне аб культурнай спадчыне ў яго глыбокай дыялектычнай супярэчнасці. Ён выходзіў з асобай складанасці і дыялектычнай супярэчлівасці працэса ўсваення пролетарыятам культурнай спадчыны мінулага, на крытычнай перапрацоўцы якога павінна асноўвацца развіццё пролетарскай культуры.

Глыбокая ленінская дыялектыка пытання аб культурнай спадчыне біла на два фронты—супроць агульна-адмаўляючых гэтую спадчыну і супроць агульна-прыемлючых яе. Яна была накіравана супроць плоскіх механічных разважанняў аб тым, што з ліквідацыяй буржуазіі, ліквідуецца і створаная ёю варожая пролетарыяту культура, месца якой займае новая культура, якая ствараецца без выкарыстання і перапрацоўкі старой (пролеткультаўская канцэпцыя). Яна была накіравана супроць контррэволюцыйных разважанняў аб тым, што пролетарыят не можа будаваць сваю пролетарскую культуру (трацкісцкі пункт погляду). Яна накіравана супроць ліквідатарскі-апартуністычнага адмаўлення гегемоніі пролетарыята ў справе стварэння новай, соцыялістычнай культуры.

Выключна яркім узорам ленінскай дыялектыкі ў пытаннях культурнай спадчыны з'яўляюцца разважанні В. І. адносна старой школы і нашых да яе адносін.

Пролетарыят атрымаў у спадчыну ад старога рэжыма школу—самую рэакцыйную нават сярод школ капіталістычных дзяржаў. Гэта быў гадавальнік патрэбных царызму чынуш, бязвольных і беспрынцыпных абываталяў, школа муштры, зуброжкі, схаластычнай вучобы, рассаднік фармальных і часта некарысных ведаў. Само сабою зразумела, што перад перамогшым пролетарыятам стала задача—знішчыць гэту класава-варожую школу і замяніць яе новай, якая рыхтавала-б кадры патрэбных совецкай дзяржаве работнікаў, выхоўвала-б будаўнікоў соцыялізма. Гэтую задачу Ленін вырашыў дыялектычна ў святле тых сваіх установак адносна культурнай спадчыны, якія мы характарызавалі вышэй. Адмаўляючы старую школу, трэба

выцягнуць з яе ўсё, што неабходна для арганізацыі комуністычнага выхавання і адукацыі. Ленін настойліва падкрэсліваў:

«Трэба ўмець адрозніваць, што было ў старой школе дрэннага і карыснага, нам трэба ўмець выбраць з яе тое, што неабходна для комунізма». *)

Апраўдваючы законную ненавісць да казённай, калечыўшай дзяцей старой школы, лічачы неабходным знішчыць яе, Ленін задаваўся пытаннем:

«Але калі мы павінны яе ўбраць, калі мы павінны разбурыць, ці значыць гэта, што мы не павінны ўзяць з яе тое, што было накоплена чалавецтвам неабходнага для людзей?...»

і тут-жа адказваў:

«Мы павінны ўзяць тое добрае, што было ў старой школе»... **)

Ленін пакінуў нам цікавыя ўзоры таго глыбока дыялектычнага падыходу да пытанняў культурнай спадчыны, які ён лічыў адзіна правільным і абавязковым для марксіста. Аб Леніне можна смела сказаць яго ўласнымі словамі адносна яго вялікага настаўніка:

«Усё тое, што было створана чалавечым грамадствам, ён перапрацаваў крытычна, ніводнага пункта не пакінуў без увагі».

У гэтых адносінах выключны інтарэс прадстаўляе ленінская работа над тэарэтычнай спадчынай класікаў філасофіі, у прыватнасці над Гераклітам, Арыстоцелем і асабліва над Гегелем. Ленін утылізуе з гэтай спадчыны ўсё каштоўнае, навуковае, што пасля крытычнай перапрацоўкі можа быць карысным для філасофскага ўзбраення рабочага класа, і ў той-жа час бязлітасна крытыкуе, выкрывае і адкідае ўсякую гніль, рэакцыйныя тэндэнцыі, папоўшчыну, якіх багата ў гэтай спадчыне. На прыкладзе ленінскай распрацоўкі філасофскай спадчыны мы павінны вучыцца аддзяляць зярно ісціны ад містычнай абалонкі гэтай спадчыны, ускрываць яе супярэчнасці, ваганні паміж ідэалізмам і матэрыялізмам, знаходзіць іх класавыя корні і т. д. і т. п. Гэты прыклад ігнаравалі і механісты і меншавіствуючыя ідэалісты, якія апынуліся ў палоне буржуазнай філасофіі, падмяніўшы ў радзе філасофскіх пытанняў марксізм сляпым следваннем за Гегелем і іншымі буржуазнымі філосафамі...

Ленінскія заветы аб культурнай спадчыне ваплашчаліся партыяй ва ўсёй яе палітыцы культурнай рэволюцыі як пры жыцці Владзіміра Ільіча, так і пасля яго смерці.

Лепшы вучань і вялікі прадаўжальнік справы Леніна—тав. Сталін непахісна стаяў і стаіць на варце гэтых ленінскіх заветаў, развівае далей ленінскае вучэнне аб пролетарскай культуры. Важнейшыя партыйныя і ўрадавыя дакументы, выданыя пасля смерці Леніна па пытаннях культурнай рэволюцыі і культурнага будаўніцтва, прасякнуты той глыбокай ленінскай дыялектыкай асваення культурнай спадчыны, аб якой мы гаварылі вышэй. У іх адчуваецца мудрая сталінская мысль, так сама, як і мысль Леніна, накіраваная і супроць разухабістага адмятання культурнай спадчыны і супроць апартуністычнага неперабарлівага прыняцця яе.

Гэта з вялікай сілай адчуваецца ўжо ў першым кіруючым партыйным дакуменце па пытаннях культурнай рэволюцыі, выданым пасля

*) Ленін, т. XVII, стар. 316, выд. 1.
**) Там-жа, стар. 317.

смерці Леніна,—у апублікаванай у ліпені 1925 г. рэзалюцыі ЦК РКП(б) аб палітыцы партыі ў галіне мастацкай літаратуры.

Рэзалюцыя гэта вучыць нас як трэба па-ленінску змагацца супроць лёгкадумных і неахайных адносін да старой культурнай спадчыны, а таксама і да „спецыялістаў мастацкага слова—з аднаго боку, супроць недаацэнкі значэння барацьбы за ідэйную гегемонію пролетарскіх пісьменнікаў—з другога. Яна абвяшчае лозунг барацьбы як супроць комчванства, так і супроць капітулянцтва.

Пісьменніцкія групы, якія не зразумелі, ці не хацелі зразумець гэтай ленінскай дыялектыкі, якія спрабавалі на літаратурным фронце прымяняць іншыя, варожыя гэтай дыялектыцы метады («напостовско-рапповская» лінія), былі закліканы партыяй к парадку у вядомай пастанове ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурных арганізацый ад 23 кастрычніка 1932 г., прынятай па ініцыятыве і пад непасрэдным кіраўніцтвам тав. Сталіна.

Тое-ж самае мела месца і на школьна-педагагічным участку нашага культурнага фронта. Спрашчэнцы і вульгарызатары, насаджаючы тут антымарксісцкія ідэйкі, займаліся лявацкім пражэктарствам, вынаходзілі «комплексы» і «метады праектаў», прапаведвалі «адміранне настаўнікаў». ЦК ВКП(б), зноў-жа па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам т. Сталіна, выкрыў гэтае вульгарызатарства, паказаў яго варожасць ленінскім устаноўкам адносна школы, патрабаваў, каб школа перш за ўсё давала вучням веды, дакладныя і пэўныя, запас якіх неабходна мець кожнаму будучаму ўдзельніку соцыялістычнага будаўніцтва. Адначасова партыя рашуча выкрывае і перасякае ўсякія спробы адарваць школу ад нашага соцыялістычнага будаўніцтва, зрабіць выкладанне ў ёй славесна-схаластычным, перанесці ў яе адмоўныя бакі старой школы, чым фактычна займаліся на педагагічным участку правыя апартуністы.

Па той-жа лініі выканання, канкрэтызацыі і далейшай распрацоўкі ленінскіх дырэктыў аб культурнай спадчыне ідуць мерапрыемствы, праведзеныя за апошні час партыяй у галіне выкладання гісторыі і пастаноўкі гістарычнай асветы. Тав. Сталін асабіста выявіў і раскрытыкаваў лявацкую падмену ведання гістарычных фактаў абстрактным метадалагізаваннем, вывучэння гістарычных падзей—голымі соцыялагічнымі схемамі. Тав. Сталін даў адначасова рашучы адпор захапленню часткі нашых гісторыкаў адной канкрэтыкай і эмпірызмам без неабходных метадалагічных установак і палітычных абагульненняў.

Настойлівасць, непрымірымасць і паслядоўнасць, з якімі партыя пад кіраўніцтвам т. Сталіна ажыццяўляла, паглыбляла і развівала ленінскія дырэктывы аб культурнай спадчыне, на базе поспехаў соцбудаўніцтва выклікалі агромны культурны ўздым, які перажывае цяпер Совецкі саюз, гістарычныя дасягненні нашай культурнай рэволюцыі. Гэтыя дасягненні тым больш значны, што ў сучасны момант росквіту (у разнастайных нацыянальных формах) пролетарскай соцыялістычнай культуры ў СССР процістаіць загніванне і распад буржуазнай культуры ў капіталістычных краінах.

Поруч з фашызацыяй апарата дзяржаўнага кіраўніцтва разгортваецца ў капіталістычных краінах фашызацыя культуры і навукі. Буржуазія, імкнучыся штучна прадоўжыць сваё панаванне на шляхах тэрарыстычнай дыктатуры, шукае ідэалагічнага апраўдання гэтых шляхоў. Таму «тэарэтычная» страпня фашыстаў характарызуецца ўцёкамі ад законаў грамадскага жыцця ў абнімкі гістарычнага

«цуда». Гістарычная законамернасць асуджае буржуазію на пагібель. Таму буржуазныя ідэолагі паварачваюцца спіною да гэтай законамернасці—іх пісанні прадстаўляюць сабой у сучасны момант дзівосную мешаніну вульгарнага заалагізма і нізкапробнай містыкі.

Фашысцкая буржуазія не толькі выкідае «за борт» сваёй ідэалогіі элементы навуковага прадбачання, не толькі апасаецца падымаць «заслону будучага». Клас, які перажывае сваю «сабачую старасць», баіцца азірнуцца на гістарычнае мінулае. Адсюль—сударгавыя намаганні буржуазіі безупынна фальсіфікаваць гісторыю. І сапраўды, толькі ідэолагі класа, у якога глеба гарыць пад нагамі, могуць стварыць такія «перлы», як пісанні фашысцкіх філосафаў, соцыёлагаў, гісторыкаў. З сур'ёзным выглядам гэтыя паны пішуць кнігі, у якіх даказваюць, што ўся гісторыя чалавецтва—гэта не гісторыя барацьбы класаў, а гісторыя барацьбы бландынаў з брунетамі, доўгагаловых з кароткагаловымі, блакітнавокіх з сінявокімі. Яны прапаведваюць, што кроў і сперма вырашаюць лёсы чалавецтва, што гэта на іх паўночнай крыві і на іх арыйскай сперме вырасла чалавечая культура....

Фашыствуючая буржуазія загніваючага капіталізма не толькі не ў стане вылучыць новыя вялікія імёны мысліцеляў і правадыроў, яна адракаецца нават ад тых вялікіх філосафаў, вучоных, пісьменнікаў, якіх яна нарадзіла ў гады сваёй гістарычнай маладасці. Падаючы клас баіцца свайго ўласнага ценю.

Ідэолагі буржуазіі ў свой час упарта спрабавалі даказваць, што толькі буржуазія з'яўляецца творцай, носьбітам і спажыўцом культурных каштоўнасцей, што прыход пралетарыята к уладзе азначае пагібель культуры, закат цывілізацыі.

У гэтых адносінах вельмі паказальна, што нават Генрых Гейне, геніяльны паэт, які быў танчэйшым лірыкам і адначасова ўмеў выступаць як «лихой барабанщик революции», Гейне, які меў шчасце быць прыяцелем Карла Маркса,—нават ён разглядаў прыход рабочага класа к уладзе, як канец культуры. Ён сумаваў, што наступіць час, калі ўладу захопяць «железные ратоборцы коммунизма» і тады—так здавалася Гейне—у яго «Песню песней» будуць насыпаць нюхальны тутун старыя бабы абодвух радоў, у яго «Романцэро» будуць заварачваць селядцы...

Гісторыя даказала, што пралетарыят—адзіны клас, які з'яўляецца наследнікам лепшых культурных і навуковых каштоўнасцей, накопленых на ўсім працягу чалавечай гісторыі. Толькі пралетарыят можа выратаваць гэтыя каштоўнасці ад разграблення іх фашысцкімі варварамі. Толькі ён можа крытычна адабраць у іх лепшае, найбольш каштоўнае, прагрэсіўнае і рэволюцыйнае, што можа паслужыць вызваленню чалавецтва ад улады драпежнікаў і крамнікаў, спрыяць пакарэнню чалавекам прыродных стыхій.

Гісторыя адказала Генрыху Гейне тым, што ў краіне перамогшага пралетарыята яго мастацкія творы з любоўю выдаюцца і перавыдаюцца, з захапленнем чытаюцца дзесяткамі тысяч пралетарскіх чытачоў. У той-жа час на бацькаўшчыне Гейне фашысцкія дзяржымോрды спальваюць творы вялікага мастака на публічных кастрах і кідаюць яго помнік у герцагскую стайню. Фашысты маюць не толькі сваіх дзяржымордаў, але і сваіх камедыянтаў... І калі нядаўна адзін французскі прафесар звярнуўся ў кіраўніцтва гор. Дзюсельдорфа, дзе нарадзіўся Гейне, з просьбай прыслаць яму нейкія матар'ялы, патрэбныя для яго навуковай працы аб Гейне, ён атрымаў адказ

фашысцкіх скамарохаў: «У гор. Дзюсельдорфе невядома, хто такі Генрых Гейне»..

Ратуючыся ад уласнага ценю, кідае рэакцыйная буржуазія ў кастры творы класікаў чалавечай думкі...

Горды сваімі дасягненнямі, упэўнены ў перамозе сваёй справы, асвойвае і перапрацоўвае совецкі пролетарыят лепшае, што створана геніем чалавечым на працягу тысячагоддзяў. Пролетарыяту чужда лявацкае сектанцтва, ён не баіцца ні Сафокла, ні Гегеля, ні Моцарта, ні Шэкспіра, ні Талстога. Ён паказаў сябе даволі даспелым і моцным для таго, каб у гэтых класава-чуждых яму гігантаў адсякаць рэакцыйныя элементы і тэндэнцыі і ўзбагачаць сябе—у рэзультаце крытычнай перапрацоўкі—тым вялікім і рэволюцыйным, што заключаецца ў іх духоўнай спадчыне.

Пролетарыяту чужда спрашчэнцтва прымітыўных пролеткультаўскіх настрояў, плоскіх і аднатонных. У архітэктуры і ў музыцы, у літаратуры і ў тэатры пролетарыят патрабуе поўнагучнасці і шматтоннасці, глыбіні і выразнасці, якія будуць узбройваць яго на далейшую барацьбу, на далейшыя перамогі за пабудову соцыялізма. Аб гэтым сведчыць той вялікі паход совецкага пролетарыята за культуру, сведкамі якога мы з'яўляемся—ад стварэння ўласнай інтэлігенцыі рабочага класа да нараджэння пролетарскай літаратуры, ад барацьбы за белы варатнічок да скульптурнага афармлення новабудоўляў, ад прыгожых выданняў Дантэ да кветак у цэхах.

Маркса-ленінскае вучэнне аб культурнай рэволюцыі глыбока варожа скажоным уяўленням аб культуры, якія гатовы падмяніць глыбокі і складаны працэс культурнага пераўтварэння чалавека ў працэсе рэволюцыйнай практыкі механічным усваеннем некаторых дасягненняў культуры, знешнім «культурным бляскам». Мы змагаемся за знешняе культурнае аблічча совецкага грамадзяніна, за яго культурны быт і адпачынак, але ўсё гэта непарыўна, арганічна спалучаем з перапрацоўкай самога чалавека, з яго перавыхаваннем у працэсе соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтым працэсе знікаюць «радзімкі» капіталістычнай маралі і ідэалогіі, ліквідуюцца перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей і нараджаецца новы, свабодны, соцыялістычны чалавек, перадавы носьбіт і баец соцыялістычнай культуры.

На нашых вачах расце і квітнее пролетарская соцыялістычная культура. Мы ўжо сёння маем права горда сказаць, што ў рэзультаце гістарычных перамог соцыялізма, якіх наша краіна дабілася пад геніяльным вадзіцельствам Сталіна, сталбавая дарога сусветнай культуры і цывілізацыі пралягае праз Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Ажыццяўляецца тое, што Ленін прадбачыў і прадказаў у сваіх геніяльных указаннях аб шляхах культурнай рэволюцыі.

Выконваючы заветы Леніна аб культурнай рэволюцыі, мы абавязаны памятаць, што іх ажыццяўленне робіцца магчымым толькі ў бязлітаснай класавай барацьбе з усякімі варожымі марксізму-ленінізму поглядамі на культуру.

Ленінска-сталінскае вучэнне аб культурнай рэволюцыі ўзбройвае нас на знішчэнне і выкарчоўванне ўсялякіх контррэволюцыйных нацдэмаўскіх, бундаўскіх, трацкісцкіх і іншых «тэорый» у галіне культуры. Яно выкрывае глыбокую рэакцыйнасць і варожасць пролетарыяту гэтых поглядаў.

Адным з найбольш яркіх узораў фальсіфікацыі марксізма ў пытаннях культурнай рэволюцыі з'яўляюцца погляды перадавога ат-

рада контррэволюцыйнай буржуазіі—трацкістаў-зіноўеўцаў, якія сталі на белабандыцка-фашысцкі шлях барацьбы з совецкаю ўладай, змыкаючыся з фашысцка-белагвардзейскім дном. Гэтыя паны, у поўнай адпаведнасці са сваім адмаўленнем магчымасці пабудовы социялізма ў адной краіне, адмаўляюць магчымасць стварэння пролетарскай социялістычнай культуры. Адмаўляючы социялістычны характар вытворчых адносін, склаўшыхся ў СССР, яны адмаўляюць і социялістычны характар ствараемай совецкім пролетарыятам культуры. Яны фактычна хочуць аддаць пролетарыят ва ўладу буржуазнай культуры. Іменна контррэволюцыйныя трацкісты-зіноўеўцы стаяць на пункце погляду рабскага пракланення перад буржуазнай культурай, гэта яны заклікалі пролетарыят адмовіцца ад будаўніцтва сваёй пролетарскай культуры.

Ленінска-сталінскае вучэнне аб культурнай рэволюцыі ўзбройвае нас на барацьбу з тымі контррэволюцыйнымі поглядамі на культуру, якія сеяў беларускі контррэволюцыйны нацдэмакратызм, які імкнуўся атручваць масы фікцыяй адзінай, бяскласавай, самабытнай беларускай культуры, пад флагам культурнай спадчыны, навязваючы ім рэакцыйную феадальна-буржуазную нацыяналістычную ідэалогію з мэтай рэстаўраваць капіталізм і адарваць БССР ад Совецкага саюза.

Ленінска-сталінскае вучэнне аб культурнай рэволюцыі ўзбройвае нас на барацьбу з бундаўскімі нацыяналістычнымі поглядамі на культуру, прапаведваўшымі «адзіную нацыянальную культуру», адмаўляўшымі класавы характар культуры. Погляды гэтых буржуазных нацыяналістаў у корані варожы маркса-ленінскаму разуменню, згодна якому:

> «ёсць нацыянальныя культуры ў кожнай нацыянальнай культуры. Ёсць вялікаруская культура Пурышкевічаў, Гучковых і Струве,—але ёсць таксама вялікаруская культура, характарызуемая імёнамі Чэрнышэўскага і Плеханава. Ёсць такія-ж дзве культуры ва украінстве, як і ў Германіі, Францыі, Англіі, у яўрэяў і т. д.» *)

Па-ленінску змагацца за социялістычную культуру—значыць разумець, што будаўніцтва социялістычнай культуры шчыльна і непарыўна звязана з усім працэсам нашага социялістычнага будаўніцтва і магчыма выключна на падставе генеральнай лініі партыі. **Толькі перамогі, атрыманыя краінай пад кіраўніцтвам Сталіна ў галіне экономікі, зрабілі магчымым той грандыёзны размах культурнай рэволюцыі, які мы перажываем.**

Па-ленінску змагацца за социялістычную культуру значыць разумець, што яе будаўніцтва магчыма толькі на падставе ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, якая забяспечвае росквіт інтэрнацыянальнай социялістычнай культуры ў шматлікіх нацыянальных формах.

Па-ленінску змагацца за социялістычную культуру—значыць быць пільнымі ў адносінах усялякіх спроб варожага ўплыву ў культурным будаўніцтве, значыць паслядоўна і бязлітасна выкрываць і знішчаць гэткія спробы.

Трэба заўжды памятаць, што чым больш нашы поспехі ў будаўніцтве социялізма, тым больш азлобленым робіцца класавы вораг,

*) Ленін, т. XIX, стар. 47, выд. I.

адчуваючы сваю канчатковую пагібель. Няма подласці, гнуснасці, на якую-б ён не быў здольны, няма шчыліны, у якую-б ён не спрабаваў пралезці. Яшчэ аголена рана, якую нанеслі партыі, рабочаму класу, усім працоўным нашай социялістычнай радзімы выхаванцы Зіноўева і Каменева—трацкісцка-зіноўеўскія падонкі, якія ператварыліся ў фашысцкіх ублюдкаў і саюзнікаў белагвардзейшчыны.

На фронце культурнага будаўніцтва ад нас патрабуецца асаблівая партыйная настарожлівасць, асаблівая класавая пільнасць. Як зрэнку вока, трэба берагчы вялікі сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Бо толькі гэты сцяг даў магчымасць пролетарыяту Совецкага саюза дасягнуць сусветна-гістарычных перамог у будаўніцтве социялізма. Бо толькі пад ім магчыма разгортванне культурнай рэволюцыі, выкананне ленінскіх заветаў аб социялістычнай культуры.

---

П. Кірушын

# Контррэвалюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм на службе інтэрвенцыі

Пролетарыят і працоўнае сялянства СССР, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і свайго вялікага рулявога—т. **Сталіна**, ператварылі СССР у перадавую краіну, з гігантамі соцыялістычнай індустрыі, з буйнейшаю ў свеце сельскай гаспадаркай.

«Мы можам цяпер сказаць,—з вялікім гонарам за сваю краіну мог заявіць т. Молатаў ад імя совецкага ўрада на VII з'ездзе советаў перад усімі працоўнымі нашай дзяржавы і ўсім светам,—**Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай!** Клятва, даная памершаму Леніну 11 год таму назад т. **Сталіным,** выканана».

Па меры перамог соцыялістычнага будаўніцтва, узмацнення дыктатуры пролетарыята, адбываецца далейшы росквіт і развіццё совецкай дэмакратыі. Хвалёная буржуазнымі вучонымі «дэмакратыя» у капіталістычных краінах з'яўляецца нічым іншым, як замаскаваную формай буржуазнай эксплаататарскай дыктатуры, ды і гэтыя фігавыя лісткі дэмакратыі буржуазія цяпер скідае. Толькі совецкая пролетарская дыктатура прадстаўляе сапраўдную дэмакратыю для шырокіх мас працоўных.

Як ніколі моцнаю стала совецкая ўлада. Грамадская ўласнасць стала незыблемай асновай совецкага грамадства. Усё гэта дало магчымасць нашай партыі і ўраду пайсці далей у справе дэмакратызацыі выбарчай сістэмы. Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) і VII усесаюзны з'езд советаў вынеслі па ініцыятыве тав. **Сталіна** рашэнне аб замене ў далейшым многаступенных выбараў—прамымі, не зусім роўных выбараў—роўнымі; адкрытых выбараў—закрытымі.

Пастанова VII з'езда советаў аб зменах у совецкай канстытуцыі ў сувязі з тымі класавымі зрухамі, якія адбыліся ў нашай краіне за апошнія гады, і ўмацаваннем соцыялістычнай уласнасці, яшчэ і яшчэ раз паказвае, што толькі ў СССР існуе і максімальна развіваецца сапраўдная дэмакратыя пролетарыята і працоўных мас, якія пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна паспяхова змагаюцца за поўную перамогу соцыялізма.

Велізарнымі поспехамі сустрэла БССР свой XI і VII усесаюзны з'езды советаў. Дзякуючы правільнаму правядзенню ленінскай нацыянальнай палітыкі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і т. Сталіна, пры брацкай дапамозе Совецкага саюза, былая калонія расійскага імпе-

рыялізма ператварылася ў адну з перадавых частак вялікай соцыялістычнай сям'і народаў, у развітую індустрыяльна-аграрную краіну, у сапраўдны фарпост СССР. Створаная пры дапамозе ўсяго Совецкага саюза прамысловасць БССР больш як у 10 раз перавышае прамысловасць тых губерній, якія былі на тэрыторыі сучаснай Совецкай Беларусі. Тэмпы росту прамысловасці Беларусі за апошнія гады перавышалі тэмпы росту прамысловасці ўсяго Совецкага саюза ў цэлым.

Пролетарыят БССР вельмі хутка павялічваецца колькасна. Быстрым тэмпам ён авалодвае вяршынямі тэхнікі, следуючы лозунгу правадыра сусветнага пролетарыята т. **Сталіна:** «тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё».

Таксама бурным тэмпам развіваецца соцыялістычная сельская гаспадарка. Там, дзе на худой неўрадлівай зямлі беларускі мужык гнуў сваю шыю пад ярмом памешчыка і кулака, зараз раскінуліся калгасы, соўгасы і машына-трактарныя станцыі.

Даўным даўно ўжо знікла былая забітасць беларускай вёскі. 72,6 проц. усіх бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак увашло ў калгасы. Больш 2300 трактароў апрацоўваюць калгасныя палі. Акрамя трактароў, МТС маюць 3660 трактарных плугоў, 7 781 сеялку, 11 434 жняяркі-самаскідкі, 613 трактарных сенакасілак, 424 трактарныя снопавязалкі, 1 897 складаных малатарань і т. д. Лозунг т. **Сталіна**—«зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі»—пранік у самыя гушчы калгаснага сялянства Беларусі. На тэрыторыі БССР 358 соўгасаў. За апошнія 10 год іх колькасць вырасла больш як у 2 разы.

Разам з гаспадарчымі поспехамі Совецкая Беларусь мае велізарныя поспехі і на фронце культуры, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу. БССР першай у Совецкім саюзе ажыццявіла пастанову ЦК ВКП(б) ад 25 ліпеня 1930 г. аб усеагульным абавязковым пачатковым навучанні. Там, дзе раней не было ні адной вышэйшай школы, ні адной навукова-даследчай установы, цяпер іх дзесяткі, з дзесяткамі тысяч вучнёўскай моладзі, да 80 проц. якой—дзеці рабочых і сялян. Рабочыя і сяляне БССР ганарацца сваімі створанымі толькі Окцябрскай рэволюцыяй буйнейшымі культурнымі ўстановамі, аб якіх і марыць нельга было раней (Беларуская Акадэмія Навук, якая мае ўсесаюзнае значэнне, Беларускі Дзяржаўны Універсітэт, Вышэйшая Комуністычная сельска-гаспадарчая школа і т. п.).

На тэрыторыі БССР зараз працуюць 6 962 школы, з іх 6 263 на беларускай мове (да рэволюцыі такіх школ не было зусім), з 25 тысячамі настаўнікаў і амаль мільёнам вучняў. Створана 10 тэатраў; выходзіць 256 друкаваных газет і 8 часопісаў. За 1928-34 гг. у БССР выпушчана 1.458 назваў мастацкай літаратуры. Творы беларускіх совецкіх пісьменнікаў разыходзяцца ў дзесятках тысяч экземпляраў, многія з іх вядомы ўсяму Совецкаму саюзу.

Дзе можна знайсці, акрамя краіны пролетарскай дыктатуры, падобны размах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва і пры тым за такі кароткі перыяд? Толькі дзякуючы вялікай соцыялістычнай рэволюцыі рабочыя і сяляне Беларусі знашлі сваю сапраўдную радзіму і не аддадуць яе нікому.

Адчуваючы поўную бесперспектыўнасць сваёй дзейнасці і блізкае поўнае знішчэнне, класавы вораг пераходзіць да тэрарыстычных за-

бойстваў. Здрадніцкі стрэл ў тав. **Кірава,** вырваўшы з радоў бальшэвіцкай партыі аднаго з лепшых і адданейшых яе сыноў, выклікаў узрыў ненавісці ўсіх працоўных супроць падонкаў контррэвалюцыі.

За апошні час актывізуюцца прытаіўшыяся антыпартыйныя і антысовецкія трацкісцка-зіноўеўскія і нацдэмаўскія элементы. Выяўлены былыя верныя паплечнікі «самога» пана Троцкага і Зіноўева, падпісаўшыя ў свой час вядомую «платформу 83». Яны тады «пакаяліся», каб мець магчымасць «адседжвацца», пакуль «гісторыя пакліча», як выражаўся іх «перманентны» настаўнік, зараз перадавы барацьбіт за інтарэсы міжнароднага фашызма.

Аб актывізацыі контррэвалюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх і нацыяналістычных элементаў у БССР сведчыць контррэвалюцыйнае выступленне на заводзе «Большэвік» трацкіста Галендо і рад іншых падобных выступленняў у радзе партарганізацый БССР (Фліор, Дунец і інш.).

Класавы вораг вышуквае ўсе мажлівыя ходы, каб дабіцца сваёй мэты—зваліць пролетарскую дыктатуру, ператварыць Совецкую краіну ў калонію імперыялізма і адрадзіць капіталізм.

Ахвосце контррэвалюцыі нязменна блакуецца з рэшткамі нацдэмаўшчыны. З-за мяжы пасылаецца новае папаўненне, з рэвальверамі і бомбамі, з запасам класавай помсты і ненавісці к Советам. Акрыленая новымі падзеямі, контррэвалюцыя марыць ужо аб новых палітычных забойствах, аб новых дыверсіях на совецкай тэрыторыі.

Але памыляецеся, панове! Не спыніць вам ходу гісторыі, не павярнуць яе назад. Вам не ўдасца зноў зрабіць рабочага рабом капіталістычнай фабрыкі, не ўдасца адарваць ад яго селяніна, які будуе заможнае калгаснае жыццё, зрабіць яго зброяй контррэвалюцыі, не ўдасца пасяліць нявер'е сярод рабочых Берліна, Вены, Парыжа, Нью-Ёрка ў перамогу соцыялізма.

Адзінаццаць год мінула з часу смерці геніяльнага правадыра Окцябра і сусветнай пролетарскай рэволюцыі—**В. І. Леніна.** Партыя, як ніколі раней, цесна згуртавана вакол ленінскага ЦК, вакол прадаўжальнікаў справы **Леніна,** вакол **Сталіна**—правадыра сусветнага пролетарыята і вялікага зодчага соцыялістычнага грамадства.

Карта контррэволюцыі біта. Забойства т. **Кірава** не пахіснула радоў партыі і мільёнаў будаўнікоў соцыялізма. Шырокія масы працоўных яшчэ больш згуртаваліся вакол нашай партыі, вакол любімага правадыра тав. Сталіна.

* * *

> **«Вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Совецкага саюза і ўсёй ВКП(б), але гэта ні ў якой меры не супярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі»** (8 пленум ЦК КП(б)Б).

Ажыццяўленне большэвіцкай ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі адбываецца ў непрымірымай барацьбе з ўсялякага роду нацыяналізмам і шавінізмам, з вялікадзяржаўным шавінізмам, які з'яўляецца галоўнай небяспекай ва ўсесаюзным маштабе, з мясцовым

беларускім нацыяналізмам, які зараз з'яўляецца галоўнай небяспекай ва ўмовах БССР, з усякімі іншымі відамі нацыяналізма і прымірэнцтва да іх.

КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) правяла вялікую работу па выкрыццю і знішчэнню контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызма. КП(б)Б выкрыла і разграміла нацдэмаў у Наркамземе з іх кулацка-хутарскою практыкай, накіраванай на рэстаўрацыю капіталізма і памешчыкаў; выгнала нацдэмаў з Наркамасветы, Акадэміі Навук, Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта і іншых культурных устаноў і арганізацый, дзе яны імкнуліся акапацца для сваёй шкодніцкай і рэстаўратарскай дзейнасці; выкрыла нацдэмаўскія шкодніцкія тэндэнцыі хавацца пад шыльдай «навукі», дзе прадажныя агенты фашызма прыпадносілі свае «навуковыя тэорыі» аб бяскласавасці беларускай нацыі, аб асаблівых, «самабытных» шляхах гісторыі беларускага народу, якія няўхільна вядуць яго ў бок ад «Масквы» і большэвізма. КП(б)Б і органы пролетарскай дыктатуры БССР раскрылі і знішчылі падпольныя фашысцка-дыверсійныя інтэрвенцыянісцкія арганізацыі беларускіх нацдэмаў, як «Саюз Вызвалення Беларусі» і «Беларускі Нацыянальны Цэнтр», ставіўшыя сабе мэтай—падрыхтоўку нападу на СССР і адтаржэнне Беларусі.

Асабліва вялікую работу правяла партыя па выкарчоўванню контррэволюцыйнага нацдэмаўства ў час чысткі 1933 г. Партыя выкрыла прытаіўшыхся нацдэмаў, шкоднікаў, бандытаў, трацкістаў ў Беларускай Акадэміі Навук, выкрыла і разграміла нацдэмаўскую контррэволюцыйную арганізацыю ў горацкіх сельска-гаспадарчых ВНУ, нацдэмаў у Наркамасветы, Наркамземе, Саюзе Пісьменнікаў, радыёкамітэце і т. д.

Беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмакратызм выражае буржуазна-рэстаўратарскія інтарэсы ўсіх знішчаемых пераможным ходам соцыялізма капіталістычных элементаў, галоўным чынам кулацтва. Пад чорным сцягам ваяўнічай рэакцыі, пад сцягам нацыянал-дэмакратызма, збіраюцца ўсе тыя, хто прагне рэстаўраваць капіталізм, вярнуць фабрыкі і заводы капіталістам, зямлю памешчыкам, насадзіць на вёсцы кулацка-хутарскія гаспадаркі, увекавечыць галечу і кулацкую эксплаатацыю.

Каб здзейсніць жаданні міжнароднай буржуазіі, контррэволюцыйны нацыянал-дэмакратызм за апошнія гады асабліва ўзмоцнена праводзіць сваю контррэволюцыйную работу на розных участках, падрыхтоўваючы адрыў БССР ад Совецкага саюза.

> **«Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакуюцца паміж сабою на агульнай платформе адрыву БССР ад СССР для аслаблення пазіцый СССР і ўмацавання пазіцый капіталізма»** (з пастановы 8 пленума ЦК КП(б)Б).

У падрыхтоўцы інтэрвенцыі выкарыстоўваюцца розныя сродкі: арганізацыя на тэрыторыі СССР (у тым ліку і БССР) узброеных фашысцкіх банд, тэрарыстычныя акты супроць прадстаўнікоў совецкай улады і партыі, ідэалагічная падрыхтоўка адрыву БССР ад Совецкага саюза і рэстаўрацыі капіталізма.

Арыентуючыся на фашысцкую Германію і Польшчу, выступаючы

супроць чырвонай пролетарскай Масквы, беларускія буржуазныя нацыяналісты імкнуцца ўсякім чынам адарваць працоўныя масы Савецкай Беларусі ад брацкіх нацыянальнасцей астатніх рэспублік Совецкага саюза, па магчымасці аддаліць беларускую літаратурную мову і пісьменнасць ад мовы і пісьменнасці рускіх рабочых і сялян, адным словам—накіраваць усё эканамічнае і культурнае будаўніцтва Беларусі на шлях усямернага развіцця буржуазна-нацыяналістычнай культуры і рэстаўрацыі капіталізма.

У контррэволюцыйнай дзейнасці, накіраванай на аддзяленне БССР ад Совецкага саюза, у адзіным блоку з беларускімі нацдэмамі ідуць вялікадзяржаўныя шавіністы, бундаўцы, польскія, літоўскія і іншыя нацыяналісты. Гэты блок падтрымліваюць трацкісты і зіноўеўцы і ўся контррэволюцыйная падаль як замежная, так і прытаіўшаяся ўнутры нашай краіны.

Але ў барацьбе з усімі намаганнямі інтэрвентаў і іх агентуры расце і мацнее Совецкі саюз, а разам з ім і Совецкая Беларусь— яго неадлучная частка, расце і квітнее яе соцыялістычная прамысловасць, яе сельская гаспадарка, яе культура. Барацьба з контррэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам не павінна аслабіць наш фронт супроць вялікадзяржаўнага шавінізма. За апошні час наглядаецца актывізацыя вялікадзяржаўніцкіх элементаў, якія выступаюць то адкрыта, нагла, як чорнасоценец Прохараў у Акадэміі Навук, як распаясаўшыяся вялікадзяржаўнікі ў адной са школ Веткаўскага раёна, забараняўшыя вучням «ради чистоты русского языка», гаварыць па-за школай на беларускай мове,—то завуалявана, пад маскай інтэрнацыяналізма, дэкларуючы неабходнасць беларусізацыі, а фактычна яе ігнаруючы.

Барацьба супроць усякага роду буржуазнага нацыяналізма, супроць чорнасоценнага вялікадзяржаўніцтва, контррэволюцыйнага нацдэмакратызма, контррэволюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх элементаў, барацьба за пролетарскі інтэрнацыяналізм з'яўляецца неабходнай умовай нашых далейшых перамог.

* * *

Ва ўмовах актывізацыі ўсіх класава-варожых элементаў, ва ўмовах, калі класавы вораг ідзе на тэрарыстычныя акты, прымяняе разнастайныя метады барацьбы супроць совецкай улады, выконваючы заказ інтэрвенцыяніцкіх фашысцкіх элементаў замежных дзяржаў, барацьба з контррэволюцыйным нацдэмакратызмам набывае выключна важнае значэнне. Нацдэмаўскае атрэп'е асабліва шырока разгортвае свае інтэрвенцыяніцкія кулацка-рэстаўратарскія планы, ускладаючы вялікія надзеі, у сувязі з ускладненнем міжнароднай абстаноўкі, на вайну імперыялістычных дзяржаў з Совецкім саюзам. Прыход к уладзе фашыстаў у Германіі, выхад Германіі і Японіі з Лігі нацый, прамыя заклікі гітлераўцаў і інтэрвенцыяніцкіх колаў Японіі к вайне супроць Совецкага саюза акрыляюць і натхняюць нацдэмаў у іх барацьбе супроць совецкай улады. Яны дзейнічалі ў поўным кантакце і па заказу махрова-рэакцыйных імперыялістычных колаў буржуазных дзяржаў і асабліва фашысцкай Германіі.

Нам неабходна максімальна ўзмацніць барацьбу з контррэволюцыйным нацдэмакратызмам, маючы ўвесь час на ўвазе, што ён з'яў-

ляецца цэнтрам прыцяжэння ўсіх антысавецкіх, нацыяналістычных, трацкісцка-зіноўеўскіх элементаў, якія ставяць стаўку на рэстаўрацыю капіталізма шляхам інтэрвенцыі капіталістычных дзяржаў у Совецкі саюз. Мы павінны ўвесь час памятаць, што бязлітасная барацьба з контррэволюцыйным нацдэмакратызмам і іншымі відамі нацыяналізма неабходна і з мэтай быстрэйшага выкарчавання ў паасобных слаях працоўных рэштак нацыяналістычных перажыткаў, якія, паводле слоў т. Сталіна, асабліва жывучы.

Нам патрэбны сістэматычнае выкрыццё і барацьба з ўсякага роду буржуазным нацыяналізмам і нацапартунізмам усіх масцей.

Мы спынімся на асвятленні контррэволюцыйнай дзейнасці нацдэмаў у пасляокцябрскі перыяд. Пастараемся зрабіць гэта выключна сцісла, бо адзін артыкул такую тэму вычарпаць не можа.

* * *

У 1902 г. на беларускай тэрыторыі арганізуецца блізкая да эсэраў і пэпээсаўцаў «Беларуская рэволюцыйная грамада». На сваім першым з'ездзе ў 1903 г. БРГ пераймяноўваецца ў «Беларускую соцыялістычную грамаду» (БСГ). У свой час **Ленін** назваў БСГ партыяй «дробна-буржуазных рэволюцыянераў» (т. VIII, 2 выд., стар. 45). Як кулацка-эсэраўская партыя, яна з самага пачатку адлюстроўвала інтарэсы растучага кулака.

Праграма БСГ, прынятая ў студзені 1906 г., высоўвае патрабаванні буржуазна-дэмакратычных пераўтварэнняў надта ўмеранага толку і разлічана на саюз з манархіяй.

У 1906 г. пачаў выходзіць орган нацдэмакратызма «Наша ніва». Па імені гэтага галоўнага рупара нацдэмаўскай ідэалогіі таго часу ўвесь перыяд у развіцці нацыянал-дэмакратызма, з 1906 па 1915 год, называецца «нашаніўскім». «Наша ніва» апраўдала надзеі буржуазна-памешчыцкай улады і з першых-жа нумароў пачала ахайваць рэволюцыю, рэволюцыйны рух сялянства называла «вузка-эгаістычным». «Наша ніва» праводзіла вядомую буржуазна-нацыяналістычную тэорыю аб тым, што ніякіх класаў сярод беларусаў няма, што ўсе яны—родныя браты, адна дружная сямейка.

Твар кулака выпірае з усіх старонак «Нашай нівы». У поўнай адпаведнасці з жаданнямі царскай адміністрацыі «нашаніўцы» усхвалялі сталыпінскую рэформу і даказвалі, што хутары—лепшы паратунак для беларускай вёскі. Ідэалам дзяржаўнага ладу для нашаніўцаў была Англія—«мудрая вучыцельніца народаў».

Тады-ж, у нашаніўскую пару, складаецца і так званая «адраджанісцкая» канцэпцыя нацдэмаў.

Адраджанісцкая канцэпцыя нацдэмаў—гэта захаванне і ўмацаванне капіталістычных парадкаў на Беларусі, прычым такіх парадкаў, пры якіх павінны прымяняцца побач з капіталістычнымі метадамі самыя варварскія феадальна-памешчыцкія метады нажывы і эксплаатацыі. Гэта была рэакцыйна-манархічная праграма барацьбы з працоўнымі масамі Беларусі, якія ўсё больш шырокім фронтам выступалі на барацьбу з капіталістычным ладам.

У час вайны нацдэмы верна абаранялі «адзіную і недзялімую»

Беларускія буржуазныя нацыяналісты пашлі на згодніцтва з найбольш рэакцыйнымі, у тым ліку і памешчыцкімі коламі. 25—27 сакавіка 1917 года ў Менску арганізоўваецца «Беларускі нацыянальны камітэт» на чале са Скірмунтам, буйным памешчыкам, былым членам I Дзяржаўнай думы. У склад камітэта ўваходзілі, побач з адвакатамі, ксяндзамі, чыноўнікамі і памешчыкамі, і члены БСГ, супрацоўнікі «Нашай нівы»—вядомыя цяпер усёй Беларусі нацдэмаўскія правакатары, «дзеячы» польскай імперыялістычнай ахранкі, як Смоліч, Краскоўскі і інш. У сілу сваёй памешчыцка-буржуазнай класавай прыроды «Беларускі нацыянальны камітэт» выказаўся за прадаўжэнне імперыялістычнай вайны да пераможнага канца і за недатыкальнасць прыватнай уласнасці.

Члены БСГ блакаваліся з памешчыкамі тыпу Скірмунта і Кастравіцкага, з паалей-сіяністамі, з «соцыялістамі-сіяністамі», з «Украінскаю радай» і т. д., абы толькі адстаяць «самабытны» буржуазна-памешчыцкі характар Беларусі.

Для згуртавання ўсяго беларускага нацыянальна-буржуазнага фронта нацдэмы ўсіх масцей склікалі ў ліпені 1917 г. у Менску з'езд прадстаўнікоў усіх беларускіх нацыяналістычных арганізацый, дзе склалася «Цэнтральная рада беларускіх арганізацый і партый»—зародак будучага белагвардзейскага ўрада. К моманту Окцябрскай рэволюцыі нацдэмы, дзейнічаючы пад рознымі «соцыялістычнымі», «дэмакратычнымі» і інш. этыкеткамі, згуртоўваючы ўсе свае сілы, у тым ліку і ўзброеныя вайсковыя беларускія часці, зрабілі ўсё, што маглі, каб змагацца з рэволюцыйнаю хваляй.

Каб пашкодзіць справе рэволюцыі, нацдэмы стараліся ўнушыць рабочым і сялянам Беларусі лютую ненавісць к рускім рабочым і сялянам. Большэвізм нацдэмы імкнуліся прадставіць справай выключна рускай, якая беларусаў не датычыць і ім ненавісна. Рэволюцыя соцыялістычная пад сцягам советаў, рэволюцыя, якая адбірае ад капіталістаў заводы і фабрыкі, ад памешчыкаў зямлю—нібы не адпавядала, як сцвярджалі нацдэмы, «нацыянальнаму характару» беларускага рабочага, асабліва селяніна, яго «культурнасці, мяккасці і далікатнасці душы». Рэволюцыю на Беларусь, як сцвярджалі нацдэмы, прынеслі маскоўскія большэвікі, таму совецкая ўлада з'яўляецца чыста акупацыйнаю ўладай.

Аб'яднаўшыся, чорная рацЬ беларускай контррэволюцыі склікала 15 снежня 1917 года так званы «Першы беларускі кангрэс», дзе нацдэмы сваімі падтасаванымі дэпутатамі з эсэраў, меншавікоў, бундаўцаў, паалей-сіяністаў, кулакоў проціпаставілі Окцябрскай рэволюцыі волю «беларускага народу».

Што-ж гаварыў гэты буржуазна-памешчыцка-кулацкі «народ»? Ён выказаўся супроць пролетарскай дыктатуры, за «дэмакратыю», г. зн.—за дыктатуру буржуазіі, за адрубна-хутарское землекарыстанне, за зямельную ўласнасць. Ён проціпаставіў сябе большэвіцкаму выканкому Заходняй вобласці, як адзіны прадстаўнік «агульна-нацыянальных» (г. зн. буржуазна-памешчыцкіх) беларускіх інтарэсаў. «Першы беларускі кангрэс» стварыў сталы «Совет з'езда», які потымператварыўся ў нацыяналістычны белагвардзейскі ўрад.

Толькі 100 дзён існаваў першы совецкі ўрад на Беларусі. Потым пачалася нямецкая акупацыя. Беларускія нацдэмы, якія да Окцябрскай рэволюцыі абаранялі «адзіную і недзялімую» Расію, пакладалі

цяпер усе надзеі на рэстаўрацыю капіталізма з дапамогаю нямецкіх генералаў, называючы іх збавіцелямі ад большэвіцкага іга. Пад крыльцам нямецкага камандвання нацдэмы аб'яўляюць беларускую буржуазную незалежнасць у выглядзе так званай БНР (Беларускай народнай рэспублікі). Каб дабіцца прызнання новай «незалежнай» буржуазна-капіталістычнай дзяржавы, нацдэмы пасылаюць на імя Вільгельма II гнусную вернападданіцкую тэлеграму, у якой вітаюць яго ваенныя поспехі, дзякуюць за вызваленне ад большэвікоў і просяць прызнаць іх дзяржаву.

Для больш паспяховай барацьбы з рэволюцыяй, рада БНР імкнулася звязацца з усімі контррэволюцыйнымі ўрадамі, што засноваліся на тэрыторыі былой Расіі, са Скарападскім, з царскімі генераламі, з буржуазна-памешчыцкай Польшчай. Ад імя іх усіх рада прасіла сабе матар'яльнай дапамогі, усім прапанавала прадацца за сходную цану.

1 студзеня 1919 г. абвешчана была Беларуская Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка. Рабочы і селянін атрымалі магчымасць на сваёй зямлі заняцца соцыялістычным будаўніцтвам... Але не надоўга. У восені 1919 г. большая частка тэрыторыі БССР была зноў акупавана, на гэты раз ужо белапалякамі.

«Героем дня» нацдэмаў стаў маршал Пілсудскі. У дзень яго прыезду ў Менск нацдэмаўскі паэт А. Гарун трымаў прывітальную прамову, якая па сваёй гнуснасці можа раўнацца толькі з тэлеграмай Вільгельму. Каб заслужыць давер'е, нацдэмы пачалі арганізоўваць беларускія вайсковыя часці для барацьбы з Чырвонай арміяй і заклікалі ўсіх «шчырых беларусоў» дапамагчы белапалякам. У гэты час нацдэмы знашлі і свайго «нацыянальнага генерала» вядомага Булак-Балаховіча. Бравы генерал пастараўся пакрыць беларускія палі вогнішчам пажараў, трупамі замучаных рабочых і сялян. У знак падзякі нацдэмы ўключылі Булак-Балаховіча ў спіс членаў «Беларускага ўрада» у якасці ваеннага міністра.

Аднак не ўтрымаліся на беларускай тэрыторыі нацдэмаўскія «героі». Пілсудскаму і Булак-Балаховічу разам з іх бандамі прышлося ўцякаць. Усходняя частка Беларусі стала зноў, і на гэты раз назаўсёды, вольнай, совецкай. Здавалася—нацдэмам прышоў канец, няма больш выхаду нацдэмаўскай контррэволюцыі. Але клас эксплаататараў ніколі добраахвотна не пакідае гістарычную арэну і ўсяляк імкнецца прадоўжыць сваё існаванне. Узброеная барацьба супроць Советаў закончылася правалам, нацдэмам прышлося мяняць тактыку.

Частка нацдэмаў пераехала за мяжу, дзе ў якасці членаў розных самазваных «урадаў» прапанавала ўсім і кожнаму прадаць беларускія лясы, торф, чыгунку, хлеб, пяньку і т. д. Другая частка нацдэмаў засталася ў Менску, каб працаваць тут у якасці разнастайных «спецыялістаў»—у галіне навукі, народнай асветы, зямельнай справы і т. д. Прыкідваючыся лаяльнай у адносінах да совецкай улады, гэта група на справе вядзе падпольную разлагаючую работу, каб стварыць глебу для імперыялістычнай інтэрвенцыі ў СССР і адарваць Беларусь ад Совецкага саюза. Адначасова вядзецца разведка па заданню генеральных штабаў і ахранак заходніх дзяржаў. Нарэшце, трэцяя частка нацдэмаў шляхам двурушніцтва прабіраецца нават у КП(б)Б, займае (у асобе Ігнатоўскага, Прышчэпава, Алеся Адамовіча, Баліцкага і іншых) адказныя месцы ў нашым совецкім і

партыйным апараце і, прыкрываючыся партбілетам, праводзіць сваю контррэвалюцыйную работу.

Па загаду замежных органаў у канцы 1925 г. у Берліне збіраецца канферэнцыя эмігрантаў-беларусаў, якая нібы прызнае Менск «адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі», аб'яўляе аб ліквідацыі БНР і, прыкінуўшыся лаяльнай да совецкай улады, просіць дазволу вярнуцца «на радзіму», каб спакойна заняцца культурнай дзейнасцю. Такі шлях нацдэмы лічылі найбольш мэтазгодным для правядзення сваёй падрыўной контррэвалюцыйнай работы.

Апошні этап дзейнасці беларускага буржуазнага нацыяналізма прадстаўляе для нас выключны інтарэс і патрабуе больш падрабязнага разгляду. Азнаямленне з гісторыяй барацьбы, выкрыцця партыяй контррэвалюцыйнай дзейнасці нацдэмаў і іх разгрому дапаможа нам у павышэнні нашай класавай рэвалюцыйнай пільнасці супроць усякага прытаіўшагася ворага.

* * *

Пасля адыходу белапалякаў у Менску засталіся асноўныя нацдэмаўскія кадры: Лёсік, Смоліч, Некрашэвіч і інш., якія знешне нібы «прымаюць» совецкую ўладу. Ігнатоўскі, Баліцкі, Прышчэпаў, Алесь Адамовіч і іншыя іх сябры і паплечнікі перафарбоўваюцца яшчэ больш і, выконваючы дырэктыву сваіх гаспадароў з дэфензівы, уступаюць нават у рады компартыі і займаюць адказныя совецкія і партыйныя пасты.

У 1921 г. контррэвалюцыйныя нацдэмы ствараюць падпольную арганізацыю—«Саюз адраджэння Беларусі», якая потым, па прыкладу інтэрвенцыяністкага «Саюза вызвалення Украіны», ператвараецца ў «Саюз вызвалення Беларусі». Паміж падпольнымі контррэвалюцыйнымі арганізацыямі РСФСР, Украіны і Беларусі ўстанаўляецца цесная сувязь. Адначасова наладжваецца патаемная перапіска з замежнымі белагвардзейскімі арганізацыямі, у абодва бакі пасылаюцца спецыяльныя ганцы для інструктажа. Аб'яднанне сіл контррэвалюцыі праходзіць пад знакам салідарнасці з агульнакласавымі задачамі буржуазна-памешчыцкай рэстаўрацыі.

Агенты нацыянал-дэмакратызма пранікаюць у дзяржаўныя ўстановы, ВНУ, дзе збіраюць сілы, патрэбныя ім для контррэвалюцыйнай работы. Прышчэпаў, апіраючыся на такіх служак нацыянал-дэмакратызма, як Кісляков і Гаўрыла Гарэцкі, дзейна насаджае праз зямельныя органы хутары па беларускіх вёсках. Прышчэпаў імкнецца зрабіць Наркамзем адным са штабаў шпіёнскай нацдэмаўскай работы. Па заданню з-за мяжы, рад зямельных органаў робяцца прытулкам усіх антысовецкіх элементаў.

Для «акулачвання» беларускай вёскі Прышчэпавы задумалі план высялення з БССР некалькіх соцень тысяч беднякоў у Сібір, каб землі іх аддаць кулакам; і толькі дзякуючы пільнасці КП(б)Б ім не ўдалося гэты план ажыццявіць. Наркамземаўская інструкцыя аб «максімальных і мінімальных нормах», распрацаваная прышчэпаўскім паплечнікам «прафесарам» Кісляковым, прадугледжвала ўзаконенне буйных кулацкіх гаспадарак. Планы меліярацыйных работ, якія тады праводзіліся шкоднікамі з Наркамзема, прыстасабляліся да стратэгічных планаў інтэрвенцыяністкіх армій.

У буйных размерах праводзілі нацдэмы геадэзічна-землеўпарадкавальныя работы і таксама з контррэволюцыйнаю мэтай: палегчыць пераход да хутарскіх кулацкіх гаспадарак. Карта геадэзічных работ пабудавана была ў выглядзе правільных геаметрычных квадратаў, каб служыць добрым арыентырам для варожай артылерыі на далёкай адлегласці. Нацдэмаўскія агенты з зямельных органаў усяляк тармазілі землеўпарадкванне соўгасаў і калгасаў: лічылі найбольш актуальным і першачарговым землеўпарадкванне індывідуальных гаспадарак. Так засеўшыя ў Наркамземе нацдэмы падрыхтоўвалі інтэрвенцыю, ахоўваючы сваю асноўную социяльную базу—кулацтва.

Партыя выкрыла нацдэмаўскую контррэволюцыйную агентуру і выгнала яе з зямельных органаў. КП(б)Б пры дапамозе ЦК ВКП(б) раскрыла ўсю контррэволюцыйную «навуковую» махінацыю белагвардзейскіх слуг з Наркамзема, Трактарацэнтра, Дзяржплана і навукова-даследчых сельска-гаспадарчых інстытутаў, уся «дзейнасць» якіх была накіравана на рэстаўрацыю капіталізма.

КП(б)Б раскрыла, пры дзейнай дапамозе самых шырокіх працоўных мас, што нацдэмаўскія главары зямельнай палітыкі і «навукі», усе гэтыя Прышчэпавы, Масюковы, Гарэцкія, Журыкі, Кісляковы—з'яўляюцца платнымі агентамі замежных ахранак і разведчыкамі замежных інтэрвенцыяністскіх армій і сурова расправілася з імі праз органы пролетарскай дыктатуры.

Партыя правяла вялікую работу па выкрыццю і ліквідацыі прышчэпаўскіх кулацкіх агентаў, засеўшых у зямельных органах і адтуль шкодзіўшых уздыму ўраджайнасці і соцыялістычнамуператварэнню вёскі.

Ігнатоўскаму і Баліцкаму, нацдэмаўскім «упаўнаважаным» на культурным фронце, якія апіраліся на такіх верных слуг і паплечнікаў, як Пічэта, Лёсік, Смоліч, Некрашэвіч і іншыя,—часткова ўдавалася рыхтаваць нацдэмаўскія кадры ў навучальных установах і навукова-даследчых інстытутах.

Інбелкульт, дзе ў той час засела значная частка контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратычных элементаў, арганізоўваў розныя экспедыцыі і доследы яўна шкодніцкага і шпіёнскага характару. Усе шкодніцкія захады Прышчэпава зараз-жа знаходзілі ў нацдэмаўскіх колах Акадэміі Навук належнае тэарэтычнае абгрунтаванне. У розных частках Беларусі адкрыты былі «курсы беларусазнаўства» ці настаўніцка-лектарскія курсы, дзе Лёсік і К° падрыхтоўвалі патрэбных для нацдэмаўскіх мэт людзей, дзе актыўна працавалі падпольныя гурткі, накшталт гуртка Лістапада ў Слуцку, дзе аб блізкім вызваленні ад «большэвіцкага іга» гаварылася ясна і адкрыта, як аб нечым немінучым, да чаго трэба рыхтавацца штодня.

Нацыянальная палітыка совецкай улады ўсяляк скажалася перад шырокімі працоўнымі масамі як у нацдэмаўскіх падручніках, так і ў часопісах, у публіцыстычнай літаратуры. Лепшымі ў нацдэмаў лічыліся падручнікі, дзе зусім не ўпаміналіся такія словы, як «совецкая ўлада», «пролетарская рэволюцыя», «дыктатура пролетарыята», «комуністычная партыя». Нацдэмы пісалі многа школьных падручнікаў, рэдагавалі і рэцэнзавалі «творы» адзін другога і не дапускалі ў гэтае «святое святых» людзей не сваіх, аўтараў, не закранутых нацдэмаўскай ідэалогіяй.

У сваіх літаратурна-публіцыстычных творах нацдэмаўскія літаратары ўсякімі мерамі даказвалі, што галоўнае ў нацыяналь-

най палітыцы совецкай улады на Беларусі—нацдэмаўскі ідэал «мужыцкай (чытай: памешчыцка-капіталістычнай) улады». Пра гэта пісаў адзін з кіраўнікоў Берлінскай канферэнцыі—А. Цвікевіч, тлумачачы сэнс новай «совецкай арыентацыі» нацдэмаў.

«Выходзіла,—пісаў Цвікевіч,—што беларускую «мужыцкую праўду», аб якой пісаў яшчэ Кастусь Каліноўскі, адначасова шукалі і тут і там, шукала яе незалежніцкая думка за кардонам, выяўленая ў асобе ўрада БНР, але таксама, і з не меншым поспехам, шукала яе і змагалася за яе беларуская комуністычная думка на абшары Совецкай Беларусі».*)

Гэтая хлусня патрэбна была нацдэмаўскаму ідэолагу, каб прыкрыць сапраўдную прычыну свайго прыезду ў БССР, «змену» вех і адвесці вочы рабочых і сялян Беларусі ад інтэрвенцыянісцка-разведных задач, ускладзеных генеральнымі штабамі і ахранкамі некаторых заходніх дзяржаў на Цвікевіча і яго сяброў. Задачы гэтыя можна было выканаць толькі з дапамогай надта асцярожнай палітычнай маскіроўкі і афіцыяльнага «ура» совецкай уладзе.

Патаемныя мыслі нацдэмаў часам усё-ж неасцярожна прарываюцца. У час. «Полымя» № 4 за 1926 г. Цвікевіч пісаў:

«Калі, думала беларуская эміграцыя, нельга здзейсніць «незалежную Беларусь» сёння, дык гэта не значыць, што яна не здзейсніцца заўтра; калі нельга правесці сваю праграму «ударам у лоб», дык трэба праводзіць яе старaной. Важна, каб правільны быў прынцып. Калі прынцып справядлівы, дык рэшта становіцца толькі пытаннем часу, дасціпнай тактыкі і натугі змагання. А для гэтага трэба быць толькі цярплівым, разважна спакойным і ўпартым».

У гэтым кароткім урыўку дана ў сціслым выглядзе ўся праграма нацдэмаўскай контррэволюцыйнай дзейнасці на новым этапе, праграма двурушніцтва, з якім можа канкураваць толькі агіднае двурушніцтва зіноўеўска-каменеўскай групы.

Інтэрвенцыя—галоўны сцяг нацдэмаўскай контррэволюцыі. У гэты бок былі накіраваны ўсе дырэктывы замежных ахранак.

Нацдэмаўская інтэрвенцыянісцкая работа вялася ў асноўным у наступных кірунках:

1. Умацаванне тых класавых сіл, на якія магла-б абаперціся чужаземная інтэрвенцыя—кулацтва, рэшткі гарадской буржуазіі і рэакцыйная частка беларускай інтэлігенцыі;

2. Шпіёнская правакатарская, шкодніцкая работа, падрыхтоўка і арганізацыя тэрарыстычных актаў супроць прадстаўнікоў совецкай улады. У гэтым напрамку развівалася контррэволюцыйная дзейнасць Прышчэпава, Баліцкага, Ігнатоўскага, Мятлы, Дварчаніна, Рак-Міхайлоўскага і іншых;

3. Ідэалагічная падрыхтоўка інтэрвенцыі, адрыў БССР ад Совецкага саюза і далучэнне яе да белапанскай Польшчы. Сюды адносіцца распрацоўка і пашырэнне кулацкіх рэакцыйных, ультра-шавіністычных тэорый, якія ў далейшым маглі-б палегчыць справу Булак-Балаховіча;

4. Усялякае затрыманне росту большэвіцкіх кадраў будаўнікоў беларускай пролетарскай культуры і пролетарскіх культур нацменшасцей у Беларусі, ўсямерная падрыхтоўка і прасоўванне кадраў нацдэмаўскай контррэволюцыі.

*) „Полымя“, № 4 1926 г.

Пленум ЦК КП(б)Б ў 1932 г. так ахарактарызаваў контррэвалюцыйную ідэалагічную дзейнасць беларускіх нацдэмаў:

«Тэорыя «самабытнасці», ставячая ў аснову вугла буржуазны нацыяналізм, узводзячы ў прынцып вузка-нацыянальную абмежаванасць, затушоўванне брацкай дапамогі Беларусі з боку рабочых і працоўных Савецкага саюза, выкарчоўванне з беларускай мовы ўсяго таго, што яе збліжае з культурай народаў СССР, у прыватнасці, з рускай культурай, і насычэнне мовы польскімі і чэшскімі, незразумелымі шырокім масам словамі, вытручванне слоў, народжаных пролетарскай рэволюцыяй, «тэорыя» барацьбы рускай і беларускай культур і сувязі беларускай культуры з капіталістычным Захадам—усе гэтыя і падобныя ім «тэорыі» служылі справе ідэалагічнай падрыхтоўкі інтэрвенцыі».

* * *

Носьбіты ідэалогіі беларускага нацыянал-дэмакратызма ўжо і раней імкнуліся ўнушыць працоўным Беларусі, асабліва дробна-буржуазным і інтэлігенцкім колам, ненавісць к Маскве і Окцябрскай рэволюцыі і такім чынам ідэалагічна падрыхтаваць прыход чужаземных інтэрвентаў, «збавіцеляў ад большэвізма».

Совецкая ўлада, даводзілі ідэолагі інтэрвенцыі, была заўсёды чужою для беларускага народу, рэволюцыя «чужымі дадзена рукамі», беларуская краіна «перажывае комуністычную акупацыю».

За хвалёнай кулацка-рэстаўратарскай самабытнасцю хавалася ўсё, што не прымала советаў, пролетарскай дыктатуры, комунізма. Аб «самабытных прымітыўных формах жыцця» гаварыў Ф. Турук.*) К захаванню «дэмакратычнай самабытнасці» Беларусі з яе дзікасцю, бездарожжам і кулацкім гнётам заклікаў Е. Канчэр.**) Але рэкорд і тут пабіў «бацька» нацыянал-дэмакратызма В. Ластоўскі, склаўшы свае «10 загадаў народных», дзе з біблейскім пафасам контррэволюцыйнага месіі навучаў сваіх прыхільнікаў дзікай ненавісці да ўсяго «чужога», г. зн.—комуністычнага.

З усёй чорнасоценнай тырады нацдэма так і выпіраюць «чужынцы»—гэта «маскалі», большэвікі, совецкая ўлада.

Нацдэмы ідуць нага ў нагу з нямецкімі фашыстамі, выхваляючы «расавыя» адзнакі беларускага народу.

Усё добрае можа ісці толькі ад таго народу, які прадстаўляе сабой чыстую славянскую расу. Такім для нацдэмаў з'яўляецца толькі беларускі народ, які па прыродзе сваей «любіць праўду і красу» (Ластоўскі), «будова цела яго крыху далікатнейшая, чым у расійца», рысы твару яго—«тонкія і мяккія» (А. Смоліч).

З пункту погляду нацдэмаўскіх прыхільнікаў расавай славянскай чыстаты лепшым довадам шкоднасці маскалёў з'яўляецца іх нечыста-славянскае паходжанне.

Пад ненавісным для нацдэмаў «рускім народам» трэба разумець працоўных, якія скінулі ўладу буржуазіі і памешчыкаў. З вялікадзяржаўнікамі тыпу акадэміка Карскага, праф. М. Каяловіча і іншымі, якія адмаўляюць беларусам нават у праве на самастойную мову,

*) Ф. Турук, Белорусское движение, стр. 2.
**) Е. Канчэр, Белорусский вопрос, стр. 128.

нацдэмы застаюцца ў згодзе. У «расійска-славянскім» нацыяналізме нацдэмы абвінавачваюць ні кага іншага, як тую-ж «Маскву», большэвікоў.

У ненавісці да рускага пролетарыята адлюстроўвалася лютая ненавісць капіталіста, кулака да пролетарскай рэволюцыі. Ненавісць да ўсяго «маскоўскага» уласціва была не толькі беларускім нацдэмам. Украінскія контррэволюцыйныя нацыяналісты ў гэтых адносінах зусім падобны да сваіх беларускіх пабрацімцаў.

Украінскі нацыяналіст-фашыст Данцоў, працуючы на тэрыторыі Заходняй Украіны ў поўным кантакце з урадам Пілсудскага і на яго грошы, даў па ўсяму буржуазна-нацыяналістычнаму фронту дырэктыву: «Адзіны паратунак для Украіны—гэта разарваць культурную сувязь з Расіяй і «ісці ў навуку» да Еўропы». Выконваючы данцоўскую дырэктыву, фашыст Хвылёвы, двурушнік з партбілетам у кішэні, выкідае лозунг—«Прэч (гэть) ад Масквы, даеш Еўропу», а яго паплечнік Шумскі і за ім нацыянал-апартуністычная група былых членаў кіраўніцтва КПЗУ—Васількова і Туранскага, якія потым перашлі на бок фашызма, цалкам Хвылёвага падтрымлівалі.

Пленум Выканкома Комінтэрна ў сваёй рэзалюцыі ад 18 лютага 1928 г. адзначыў:

> «Канстатаваць, што адпаўшая група Васількова—Туранскага выражае палітычныя настроі вярхушкі дробнай буржуазіі, кулацтва і дробна-буржуазнай нацыяналістычнай інтэлігенцыі..., што палітычная платформа гэтай групы (нацыяналізм, траўля СССР і УССР, адмаўленне ад лозунга канфіскацыі зямлі і фактычнае падтрыманне аграрнай палітыкі Пілсудскага, блакаванне з буржуазнай украінскай дэмакратыяй, так званая «заходняя» арыентацыя і т. п.) ператварае яе ў зброю польскага нацыяналізма. Гэтая група не толькі парывае з пролетарыятам, але і здраджвае інтарэсам украінскага народу, бо яна аб'ектыўна дапамагае яго заклянцейшаму ворагу—польскаму імперыялізму». *)

Далейшы шлях украінскага контррэволюцыйнага нацыяналізма паказаў поўную правільнасць прыведзенай рэзалюцыі ВККІ не толькі для Украіны, але і для Беларусі.

Беларускія і украінскія нацыяналісты мелі аднолькавую соцыяльную базу—кулацкую, аднолькава былі і іх палітычныя мэты. Не дзіва, што іх контррэволюцыйная дзейнасць праходзіла ў поўным кантакце. СВУ інструктаваў дзейнасць «Саюза вызвалення Беларусі», а Луцкевіч і К° уваходзілі ў кантакт з УНДО і Данцовым. У поўнай згодзе з лозунгам «Прэч ад Масквы, даеш Еўропу» Максім Гарэцкі пачаў агітаваць за ўвядзенне на тэрыторыі БССР лацінскай азбукі. Лацінка патрэбна была нацдэмам для таго, каб лягчэй разарваць сувязь БССР з астатнімі брацкімі рэспублікамі Савецкага саюза, рэстаўраваць капіталізм.

Гэтай-жа мэце служыла і «тэорыя» барацьбы двух культур украінскіх і беларускіх нацыяналістаў.

«Тэорыя» барацьбы двух культур—рускай і беларускай—ставіла сабе тую-ж мэту: разарваць інтэрнацыянальнае брацтва працоўных Савецкага саюза, ператварыць беларускую культуру з нацыянальнай

*) Е. Гірчак, стар. 221.

па форме і соцыялістычнай па зместу ў буржуазна-нацыяналістычную, у культуру фашысцкай Польшчы, у культуру гітлераўцаў. «Тэорыя» барацьбы двух культур была важнейшым сродкам у руках нацдэмаў у іх намаганнях адарваць БССР ад Совецкага саюза, арыентуючыся на капіталістычны Захад. «Тэорыя» барацьбы двух культур, як і іншыя контррэволюцыйныя нацдэмаўскія тэорыі, поўнасцю імпанавала рэакцыйна-рэстаўратарскім поглядам вялікадзяржаўнікаў.

Абодва віды нацыяналізма выступаюць адзіным фронтам там, дзе справа ідзе аб барацьбе супроць пролетарыята, за рэстаўрацыю буржуазна-памешчыцкага ладу, за захаванне права эксплаатацыі рабочых і сялян. Мясцовы нацыяналізм у барацьбе супроць большэвізма яднаецца з вялікадзяржаўным шавінізмам. У барацьбе супроць большэвізма Дзенікін аб'яднаўся з «Беларускай радай», Савінкаў з Булак-Балаховічам, а А. Цвікевіч з прафесарам М. О. Каяловічам, вядомым у свой час русіфікатарам, натхняльнікам крывавых расправ 1863—64 гг., паклаўшым пачатак таму «западно-руссизму», які прывёў у такое захапленне беларускіх нацдэмаў.

У «западно-руссах»—гэтых ідэолагах ваенна-феадальнага рэжыма—нацдэмы знашлі сабе саюзнікаў для барацьбы з тым-жа ненавісным ім большэвізмам, з «Масквою».

«Масква» сучасная, соцыялістычная, выклікала і выклікае ў нацдэмаў толькі ненавісць і жах. Гэтай «Маскве» яны ўсюды шкодзяць як толькі могуць, ідуць на службу ў дэфензіву, у штабы іншаземных імперыялістычных армій, падрыхтоўваюць супроць яе інтэрвенцыяністкі напад. Затое Масква Гавароўскіх, Сапуновых, Каяловічаў і Мураўёвых-вешацеляў, Масква—цэнтр ваенна-феадальнай палітыкі, натхняльніца палітыкі каланіяльнага драпежніцтва і ўдушэння нацыянальных меншасцей, адным словам — старая чорнасоценная Масква двухглавага арла выклікала ў контррэволюцыйных нацдэмаў толькі палкія сімпатыі. Адсюль і ўзмоцненая зацікаўленасць «западноруссизмом» у контррэволюцыйных нацдэмаў, адсюль выкапванне з архіва зусім забытых імён яго прадстаўнікоў. «Западно-руссы» мінулага ператварыліся ў Дзенікіных, Юдзенічаў, Калчакоў—сяброў і пабрацімцаў контррэволюцыйнага нацдэмакратызма.

Вялікую контррэволюцыйную работу правялі нацдэмы і на гістарычным фронце. Гісторыкі-нацдэмы «навукова» абгрунтоўвалі свае тэарэтычныя палажэнні аб адзінстве беларускай нацыі і адсутнасці сярод беларусаў класавай барацьбы, аб тым, што пролетарыят не з'яўляецца характэрным для Беларусі і што Окцябрская рэволюцыя на Беларусі праведзена ў процівагу інтарэсам беларускага народу штыкамі расійскіх салдат.

«Паглыбляючы» сваю тэорыю, нацдэмы «даводзілі» у сваіх творах, што «дэмакратызм»—спрадвечная асаблівасць беларускага народу, што паводле ўсіх «гістарычных даных» беларусы стаяць бліжэй да капіталістычнага Захаду, чым да большэвіцкай Расіі, што беларуская інтэлігенцыя, вышаўшая з «простага народу», з сялянства, з'яўляецца адзінай рухаючай сілай усёй гісторыі Беларусі, што «залатым векам» на Беларусі былі XV і XVI стагоддзі.

Нацдэмаўскія гісторыкі акапаліся ў «таварыстве гісторыкаў-марксістаў», дзе верхаводзілі Ігнатоўскі, Віткоўскі, агенты інтэрвентаў, пры дзейнай дапамозе трацкістаў Югава і Рыўліна, якія ўсяляк падтрымлівалі і ўсхвалялі іх.

Партыя выкрыла контррэволюцыйную нацдэмаўскую схему гісторыі БССР у «гісторыкаў» Пічэты і Ігнатоўскага, выкрыла шкодніка на гістарычным фронце—Віткоўскага—прыхільніка і саратніка украінскага фашыста і шпіка Яворскага; партыя раскрыла контррэволюцыйную трацкісцкую кантрабанду у «творах» Рыўліна, Югава, трацкісцка-бундаўскую кантрабанду ў Чэрняўскага і іншых «гісторыкаў».

Партыя выявіла і выкрыла трацкісцка-нацдэмаўскую агентуру і на літаратурна-мовазнаўчым фронце БССР у выглядзе Бабарэкі, Абчука, Юдэльсона, Цветкова, Бузука, Мацюкевіча, Пеначкіна, Дубоўкі, Пушчы і іншых контррэволюцыянераў, з якіх некаторыя прыкрываліся партыйным білетам.

На фронце выяўленчага мастацтва і музыкі партыя таксама выкрыла контррэволюцыйную дзейнасць «прафесара» Шчакаціхіна, нацдэмаўскія канцэпцыі ў музыцы Дрэйзіна, якія падтрымліваў былы кіраўнік Галоўмастацтва—Дунец, чорнасоценныя тэорыі ў музыцы Прохарава і т. д.

Іменна ў барацьбе з буржуазнымі нацыяналістамі ўсіх відаў пад кіраўніцтвам КП(б)Б культура, мастацтва, соцыялістычнае па свайму зместу і нацыянальнае па форме, дасягнула ў БССР бліскучага росквіту (дзесяткі музеяў, Саюз мастакоў, музычны тэхнікум і кансерваторыя, багатая літаратура на беларускай і іншых мовах).

Нацдэмаўскія шавіністы з Наркамасветы, ненавідзячы ўсё «маскоўскае», ставілі стаўку на закрыццё ў БССР рускіх школ і школ іншых нацменшасцей. У той-жа час «вучоныя» мовазнаўцы з нацдэмаў імкнуліся даказаць усяму свету, што беларусы—гэта не беларусы, але беларутэны ці, што яшчэ вярней,—крывічы. У словах «бела-рутэн» ці «крывіч» не чуваць ужо нічога «маскоўскага», рускага.

«Крывічанская ідэалогія» для падкупленых іншаземнымі ахранкамі нацдэмаў становіцца сімвалам інтэрвенцыянісцкага нападу на СССР, сцягам утварэння кулацка-фашысцкай Беларусі.

Нацдэмаўская «Крывія»—гэта фашысцкая Беларусь. Праўда, гэта «вольная Крывія» адбудоўвалася, галоўным чынам у канцэлярыях ахранак і дэфензіў тых дзяржаў, якія асабліва ёй сімпатызавалі, каб адарваць Беларусь ад Совецкага саюза; праўда, міністры «зямлі Крывічанскай» у свой час «вольна» абціралі парогі толькі тых, каму можна прадацца, а пазней, вярнуўшыся ў БССР, па загаду імперыялістычных дзяржаў і на іх-жа грошы «адбудоўвалі» «Крывію», шкодзячы соцыялістычнаму будаўніцтву.

Па нацдэмаўскай тэрміналогіі «вольны»—гэта значыць «буржуазны», «небольшэвіцкі», не належачы рабочым. Вольным беларус можа быць толькі ў сваёй «Крывіі», пад крыўскім сцягам, працуючы на свайго «роднага» «крыўскага» капіталіста, кулака, памешчыка. Крыўская нацыя—гэта нацыя «сваіх», родных паміж сабою людзей, якія не ведаюць унутранай барацьбы і выступаюць толькі супроць адзінага ворага—чужаземца, нацыя, дзе эксплаатуемыя пакорліва аддаюцца ўладзе «сваіх» эксплаататараў.

Крывія—гэта рэстаўраваная БНР—краіна шыбеніц і галечы для пролетарыята і працоўнага сялянства.

* * *

Гістарычна-славутыя гады першай пяцігодкі змянілі твар вялікага Совецкага саюза і Беларускай Совецкай краіны—яго неадлучнай часткі. Перамога суцэльнай калектывізацыі, пераход мільёнаў распы-

леных сялянскіх гаспадарак ад індывідуальнай распыленай да буйнай соцыялістычнай гаспадаркі на базе навейшай тэхнікі, большэвізацыя калгасаў—усё гэта было неабходнай умовай магутнага ўздыму добрабыту калгасных мас.

На аснове суцэльнай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак і ліквідацыі кулацтва як класа знішчаецца тая глеба, якая безупынна нараджае капіталізм. Але класы добраахвотна ніколі не здаюць свае пазіцыі.

> «Дыктатура пролетарыята,—пісаў Ленін,—ёсць упорная барацьба, крывавая і бяскроўная, гвалтоўная і мірная, ваенная і гаспадарчая, педагагічная і адміністрацыйная, супроць сіл і традыцый старога грамадства». *)

Асноўная задача пролетарскай дыктатуры—пабудаваць соцыялістычную эканоміку, знішчыць класы.

> «Знішчэнне класаў—справа доўгай, труднай, упорнай класавай барацьбы, якая пасля звяржэння ўлады капітала, пасля разбурэння буржуазнай дзяржавы, пасля ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята, не знікае (як уяўляюць пашлякі старога соцыялізма і старой соцыял-дэмакратыі), а толькі мяняе свае формы, становячыся ва многіх адносінах яшчэ бязлітасней». **)

У першыя гады пяцігодкі былі раскрыты падпольныя контррэвалюцыйныя арганізацыі, якія ставілі сабе мэтай шкодніцтва і падрыхтоўку інтэрвенцыі. Яны працавалі як у РСФСР, так і ў іншых саюзных рэспубліках. Да гэтых партый адносіліся: так званая «промпартыя», падпольная арганізацыя буржуазных інтэлігентаў кадэцкага напрамку на чале з праф. Рамзіным, лічыўшая, што дзяржаўная ўлада павінна быць аднята ад рабочых і перадана спецам, г. зн. буржуазіі—Рабушынскім, Канаваламым і інш. «Трудовая крестьянская партия» на чале з прафесарамі Кандрацьевым і Чаянавым—кулацкая эсэраўская партыя, выражаўшая погляды кулацтва, ліквідуемага ў працэсе суцэльнай калектывізацыі; меншавіцкі замежны цэнтр меў у СССР сваё «Саюзнае бюро», якое пад кіраўніцтвам старых меншавіцкіх зуброў—Громана, Суханава і іншых, імкнулася згуртаваць вакол меншавіцкіх лозунгаў—звяржэння совецкай улады—пэўныя колы ўсіх нездаволеных совецкаю ўладай, выбітых з каляі буржуазных інтэлігентаў, раскулачаных, разарыўшыхся гандляроў, да трацкістаў і зіноўеўцаў уключна.

Не гледзячы на некаторыя «адценні» у палітычных напрамках, адзначаныя партыі і палітычныя групы працавалі паміж сабою ў поўным кантакце; кіруючыя цэнтры ўсіх іх нязменна вялі за граніцу—у капіталістычныя трэсты, ваенныя штабы і штабы ахранак.

У саюзных рэспубліках раскрываліся таксама контррэволюцыйныя антысовецкія арганізацыі буржуазна-нацыяналістычнага характару; да іх можна аднесці султан-галіеўцаў у Татарыі, мусаватыстаў у Азербайджане, дашнакаў у Арменіі, меншавікоў у Грузіі, Абхазіі і Аджарыі, рэшткі басмачоў ва Узбекістане і ў Таджыкістане. Адпаведныя арганізацыі былі даўно ўжо разгромлены совецкай уладай, але іх рэшткі, якія працавалі ў глыбокім падполлі і асабліва акты-

*) **Ленін**—т. XXV, выд. 2, стар. 190.
**) **Ленін**—т. XXIV, выд. 2, стар. 315.

візаваліся ў гады першай пяцігодкі, сям-там раскрываліся органамі пролетарскай дыктатуры.

Найбольшую цікавасць для нас прадстаўляе дзейнасць контррэволюцыйных нацыяналістаў на тэрыторыі Украіны, бо паміж абставінамі класавай барацьбы на Беларусі і Украіне вельмі многа падобнага, што сказалася на падабенстве і блізасці паміж сабою адпаведных антысовецкіх арганізацый і іх ідэалогіі.

У Заходняй Украіне стварылася, на грошы польскага фашызма, спецыяльная арганізацыя для перакідвання на гэты бок граніцы агентаў ахранкі, махровых нацыяналістаў, не бачыўшых іншых мажлівасцей існавання «рідної Украіни», як толькі ў выглядзе аўтаномнай адзінкі ў складзе фашысцкай Польшчы. Такіх перакінута было не мала. Некаторыя з іх пралезлі ў партыю і занялі даволі адказныя пасты. «Гісторык» Яворскі—член контррэволюцыйнай арганізацыі і агент ахранкі; Міхаіл Левіцкі, прыкрыўшы сваю здрадніцкую нацыяналістычную работу партбілетам; Скорбен—найміт дэфензівы і правакатар—пралез у культпроп Чэрнігаўскага абкома і інш. Адну з кіруючых ролей сярод нацыяналістаў адыграў Грушэўскі, які стаяў на чале «Украінскага нацыянальнага цэнтра».

Украінскія нацыяналісты выступілі з адкрытай прапагандаю фашызма. Нацыянал-фашыст, Н. Хвылёвы, які некалі выступаў з прапановай аб неадкладнай і пагалоўнай украінізацыі рускага пролетарыята Украіны, а пазней кіраўнік нацыяналістычнай літаратурнай групы «Ваплітэ», пісаў: «Тэмперамент фашызма не можа не выклікаць сімпатыі... Фашысцкая мужная цэльнасць павінна быць нам бліжэй роднай разляпанай псіхікі... Калі нашы погляды ў гэтым выпадку сойдуцца з імкненнямі нашай-жа дробнай буржуазіі і нават фашыстаў, то гэта зусім не значыць, што мы памыляемся». Такі твар непрыкрытага фашыста.

Наогул фашызм сярод украінскіх нацыяналістаў вельмі папулярны. У Польшчы ёсць нават спецыяльная арганізацыя «украінскіх фашыстаў», якая раней існавала толькі на польскія грошы, а цяпер шукае натхнення і падтрымання больш у Гітлера.

«Наш кліч»—орган «ОУН» («Арганізацыя украінскіх нацыяналістаў»)—у нумары ад 7 ліпеня 1933 г. прама гаворыць, што іх нацыяналістычная праграма ёсць фашысцкая праграма: «з імем украінскага нацыяналізма, мы ўжо прывыклі злучаць пэўны сэнс: гэта ёсць грамадска-палітычны рух, які сёння распаўсюджан па ўсяму свету. У адной краіне ён праявіў сябе як фашызм, у другой як гітлерызм, а ў нас проста як нацыяналізма». *)

Для нас надта цікавы паказанні арыштаваных украінскіх нацыяналістаў аб характары іх дзейнасці. **)

**Лазінскі:** «...Для ажыццяўлення сваёй мэты: знішчэння совецкай улады на Украіне і адтаржэння Украіны ад СССР, для стварэння самастойнай украінскай дзяржавы (буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі) нацыяналістычны блок падрыхтоўваў узброенае паўстанне, як сігнал для інтэрвенцыі і паралельную акцыю з інтэрвентамі».

**Вікуль:** «Пачынаючы з 1927 г., арганізацыя вяла работу, накіраваную на падрыхтоўку ўзброенага паўстання і інтэрвенцыі супроць дыкта-

*) „Знищити український націоналізм на теоретичному фронті“. Зборнік Вуамлін 1934 г.

**) Паказанні нацыяналістаў Украіны цытуюцца па кн. С. В. Касіора—„Ітогі і бліжэйшыя задачы правядзення нацпалітыкі на Украіне“. Менск 1933 г.

туры пролетарыята на Совецкай Украіне. Гэта работа з'яўляецца адным са звенняў агульнага плана інтэрвенцыі, супроць Совецкага саюза ў цэлым. Палітычны цэнтр арганізацыі, які ўзначальваўся Грушэўскім, дагаварыўся аб сумесных дзеяннях, накіраваных на звяржэнне совецкай улады, з рускімі кадэцкімі коламі, рускімі эсэрамі, грузінскімі меншавікамі, беларускімі нацыяналістамі».

**Бушкованы** (ашуканскім шляхам пралезшы ў КПЗУ, былы атаман фашысцкай арганізацыі «січавых стральцоў»): «У другой палове лютага 1933 г. мне паведаміў Бандрыўскі, што ў Берлін прыбыў Сушно і хоча бачыцца са мной. Сушно пры сустрэчы са мной паведаміў, што сумесна з Ярым ён меў гутарку з А. Розенбергам, рэферэктам гітлераўскай партыі па закардонных справах і староннікам інтэрвенцыі супроць СССР. На падставе гэтай гутаркі Сушно сказаў мне, што Германія бярэ рэзкі антысовецкі курс і прыступае да кааліцыі з Італіяй, Англіяй і Францыяй для стварэння інтэрвенцыянісцкага блока супроць СССР, што Германія пачынае ўжо весці перагаворы з Польшчай, з тым каб і яе ўцягнуць у блок. Розенберг, паводле слоў Сушно, лічыць, што УВО («Украінская ваенная арганізацыя») павінна разгарнуць непасрэдную акцыю супроць совецкай ўлады, бо прыход Гітлера к уладзе і яго агрэсіўны курс супроць СССР стварылі спрыяючую сітуацыю для адрыву Украіны ад Саюза і стварэння, пры дапамозе інтэрвенцыі, незалежнай украінскай нацыянальнай дзяржавы».

**Скорбень:** «Маё ўступленне ў партыю насіла двурушніцкі, контррэволюцыйны характар. Я ўступіў у РКП(б), як член «Польскай ваеннай арганізацыі» (ПОВ). Мая задача заключалася ў тым, каб дабіцца давер'я партыі, выкарыстаць яго супроць партыі і совецкай улады ў мэтах і інтарэсах ПОВ. Знаходзячыся ў радах партыі са студзеня 1919 г. да дня арышту, займаючы рад адказных пастоў у партыйным апараце, я, прыкрываючыся партыйным білетам, вёў контррэволюцыйную работу, з'яўляўся кіраўніком ПОВ па Украіне».

Контррэволюцыйная дзейнасць нацыяналістаў на Украіне і ўсякіх іншых контррэволюцыянераў, у тым ліку і рускіх белагвардзейцаў, палягчалася наяўнасцю нацыяналістычнага ўхілу і групоўкі былога наркома асветы—Скрыпніка. Скрыпнік, меўшы і ў мінулым цэлы рад грубейшых нацыяналістычных памылак, зрабіўся шчытом для нацыяналістаў. З яго дапамогай украінскія нацыяналісты рассаджвалі сваіх агентаў, прыбыўшых з-за мяжы, па совецкіх установах. Скрыпнік і яго група на практыцы змыкаліся з контррэволюцыянерамі, працаваўшымі на інтэрвенцыю.

Апошні паратунак буржуазія бачыць у фашызме. Фашызм—гэта ідэалогія найбольш чорнай рэакцыі фінансавага капіталізма. Беларускія нацдэмы, як агенты імперыялізма, стаяць цалкам на пазіцыі фашызма, поўнасцю падтрымліваючы фашыстаў у іх адкрытай імперыялістычнай палітыцы распальвання вайны, у палітыцы інтэрвенцыі супроць Совецкага саюза.

Нацдэмы на ўсе лады выхваляюць фашысцкія карпарацыі. Эра дэмакратызма, па іх думцы, даўно ўжо скончылася, бо дэмакратыя недастаткова абараняе прыватную ўласнасць ад пасяганняў пролетарыята. Парламенты развальваюцца, «на іх месца нараджаецца новая форма, новы ідэал грамадскага і палітычнага ладу—карпаратызм». *)

*) „Беларуская крыніца", № 25, 1934 г.

«Карпаратызм нікога не думае ані знішчаць, ані псаваць прыватную ўласнасць, бо якое права мае хто робіць гэта?—а імкнецца к таму, каб усе грамадскія класы: сяляне, работнікі, купцы, фабрыканты, а таксама розныя арганізацыі, прафесіі, карпарацыі і т. д. злучыць у адну вялікую арганізацыю для агульнага дабра. *)

Відаць, візіты беларускіх нацдэмаў з Вільні ў Берлін да «самога» Альфрэда Розенберга далі свае вынікі. Падрыўная антысовецкая дзейнасць нацдэмаў па падрыхтоўцы інтэрвенцыі знаходзіцца пад кіраўніцтвам людзей, добра напрактыкаваных у справе барацьбы з комунізмам. Нацдэмаўская Вільня пачала адкрыта размаўляць мовай гітлераўскага Берліна.

Адзін фашыст прама сказаў, што працоўнае сялянства павінна было паслужыць буржуазіі і кулацтву ў якасці гною, на якім-бы добра вырастала багацце эксплаататараў, прычым «свяшчэнны прынцып недатыкальнасці» іх уласнасці добра ахоўвауся-б бізуном фашысцкага жандара «вольнай» (ад улады рабочых) БНР.

Палітычным ідэалам нацдэмаў была недатыкальнасць прыватнай уласнасці, памешчыцкай і кулацкай зямлі.

Мэтай нацдэмаў з'яўлялася, як сведчыць Краскоўскі: «Арганізацыя народнага «ўрада», які шляхам нацыянальнага сходу выбірае прэзідэнта рэспублікі і ўстанаўляе выбарчы закон... У галіне эканамічнай—арганізацыя эканамічных адносін на прынцыпе права прыватнай уласнасці (на зямлю, прадпрыемствы, рухомую і нерухомую маёмасць) поўнага і неад'емнага... У галіне фінансавай—правядзенне палітыкі, якая базуецца на іншаземныя пазыкі і канцэсіі» (з паказанняў).

Нацдэмы жадалі зноў насадзіць на вёсцы памешчыка і кулака, прадпрыемствы вярнуць капіталістам, а зямныя багацці Беларусі аддаць на эксплаатацыю іншаземнаму капіталу. У сваіх зваротах да замежных дыпламатаў «паўнамоцныя міністры» БНР абяцалі зрабіць тое-ж самае.

У выпадку інтэрвенцыі нацдэмы, як яны адкрыта прызнаваліся пры допыце, ставілі сабе мэтай «звяржэнне совецкай улады і ўстанаўленне Беларускай народнай рэспублікі пад пратэктарствам Польшчы».

Нацдэм Краскоўскі, прызнаючы інтэрвенцыянісцкія мэты сваёй контррэволюцыйнай групы, выразна ўказвае, на каго яны думалі абаперціся ў час вайны. «...Потым мы павінны былі згадзіцца і падтрымліваць устаноўкі паланафільскай часткі ва ўсёй нацыянал-дэмакратычнай рабоце, у прыватнасці ўстаноўку на інтэрвенцыю і ўзброенае звяржэнне совецкай улады. Для дасягнення гэтых задач апорай павінны былі з'явіцца заможнае кулацкае сялянства і антысовецкая частка гарадскога насельніцтва. Для ваеннага кіраўніцтва масамі ў гэты момант намячалася скарыстанне кадраў афіцэрства» (з паказанняў).

Інтэрвенцыянісцкія мэты ставілі сабе ўсе контррэволюцыйныя групіроўкі, працаваўшыя на совецкай тэрыторыі (бундаўцаў, трацкістаў, зіноўеўцаў, польскіх, латышскіх і літоўскіх нацыяналістаў і рускіх вялікадзяржаўнікаў). Контррэволюцыйныя нацдэмы былі з імі ў цеснай сувязі. Нацдэмаўскія агенты наведвалі і кандрацьеўска-чаянаўскую падпольную арганізацыю, і ленінградскіх контррэволюцыйных гісторыкаў з групы Тарле, Ефрэмава—кіраўніка СВУ.

*) „Беларуская крыніца", № 25, 1934 г.

Пры размеркаванні міністэрскіх партфеляў, партфель ваеннага міністра намячаўся нацдэмаўскаму «генералу» Булак-Балаховічу, пагромных спраў майстру, герою бандыцкага нападу на Палессе. Не менш характэрнымі па сваёй контррэволюцыйнай «густапсовасці» былі і іншыя кандыдаты ў беларускія міністры. Урад адноўленай БНР павінен быў мець прадстаўнікоў розных грамадскіх колаў— капіталістаў, кулакоў, памешчыкаў, буржуазных інтэлігентаў, за выключэннем, зразумела, працоўных сялян і рабочых. Ён павінен быў насаджаць у народзе пашану да прыватнай уласнасці, а для гэтага патрэбна была моцная царква. У нацдэмаўскіх планах буржуазна-памешчыцкай рэстаўрацыі царкве адводзіцца значнае месца.

Летам 1930 г. контррэволюцыйная дзейнасць «Саюза Вызвалення Беларусі» была раскрыта партыяй. Яго кіраўнікі і тыя члены, якіх удалося выявіць, пазбаўлены былі магчымасці прадаўжаць сваю шкодніцкую інтэрвенцыянісцкую дзейнасць.

Сярод прытаіўшыхся быў Ігнатоўскі—адзін з галоўных кіраўнікоў беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызма. Яго «стаж» служэння буржуазіі быў надта вялікі, бо служыў ён многім «панам». У 1913 г. прымаў удзел ў гнуснейшай справе—рэдагаванні зборніка вернападданіцкіх артыкулаў, прысвечаных 300-годдзю дома Раманавых. У час вайны з натхненнем агітаваў сярод бежанцаў у Яраслаўлі за «вайну да пераможнага канца», хоць сам для сябе палічыў больш выгадным заставацца ў тыле.

Учас рэволюцыі і грамадзянскай вайны, уступіўшы з правакацыйна-здрадніцкаю мэтай у рады комуністычнай партыі, Ігнатоўскі выконваў для сваіх гаспадароў, якія плацілі яму звонкай манетай, найбольш адказныя работы. Стоячы на адказных совецкіх пастах, ён служыў цэнтрам прыцягнення ўсіх контррэволюцыйных нацыяналістычных элементаў, абараняючы іх перад совецкаю ўладай, размяркоўваючы іх па совецкаму апарату. У 1922 г. ён выратаваў ад ссылкі Я. Лёсіка і прыстроіў яго ў Наркамасветы і БДУ. Гэта ён збіраў па ўсяму СССР нацдэмаў і перавозіў іх у Беларусь, а потым шукаў ім пасады, найбольш цёплыя і карысныя для нацдэмаўскай контррэволюцыйнай справы.

Ігнатоўскі быў творцам буржуазнай, шкодніцкай схемы гісторыі Беларусі, і многія гады, з дапамогаю сваіх супрацоўнікаў-трацкістаў, выдаваў яе за марксісцкую. Ён з'яўляўся адным з аўтараў тэорыі адзінства беларускай нацыі і абараняў яе да канца. Гэты старэйшы і вопытнейшы «зубр» нацдэмаўства і дэфензівы ўпарта даводзіў, што раней беларускаму сялянству жылося значна лепш.

Выкрыты партыяй, Ігнатоўскі круціцца вужакай, падае пакаянныя заявы з прызнаннем сваіх «памылак» толькі для таго, каб партыя не раскрыла галоўнага—яго работы ў дэфензіве, аднак партыя канчаткова выкінула са сваіх радоў правакатара-ахранніка і яго паплечнікаў.

* * *

Уся совецкая краіна, а разам з ёй і БССР паспяхова скончылі першую пяцігодку. Нашы грандыёзныя поспехі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва не маглі не адбіцца на нашым унутраным і міжнародным становішчы. СССР стаў магутнаю, непераможнаю сілай.

«... Увесь свет раскалоўся на два лагеры, на лагер людзей, якія брэшуць на нас без стомы, і лагер людзей, якія здзіўлены поспехамі пяцігодкі, не гаворачы ўжо аб тым, што ёсць і ўзмацняецца наш уласны лагер ва ўсім свеце,—лагер рабочага класа капіталістычных краін, які радуецца поспехам рабочага класа СССР і гатовы аказаць ёй падтрыманне на страх буржуазіі ўсяго свету»...

Унутры СССР...«аказаліся вышыбленымі з каляіны апошнія рэшткі паміраючых класаў: прамыслоўцы і іх чэлядзь, гандляры і іх прыспешнікі, былыя дваране і папы, кулакі і падкулачнікі, былыя белыя афіцэры і ўраднікі, былыя паліцэйскія і жандармы, усякага роду буржуазныя інтэлігенты шавіністычнага толку і ўсе іншыя антысовецкія элементы». *)

Класавы вораг схаваўся, пастараўся перабудавацца, на некаторы час змяніў свой твар, прыкінуўся любячым СССР і соцыялізм і нават совецкім актывістам.

«Пайсці ў простую атаку супроць совецкай улады гэтыя паны ўжо не ў сілах. Яны і іх класы некалькі раз ужо такія атакі, але былі разбіты і рассеяны. Таму адно, што застаецца ім рабіць,—гэта паскудзіць і шкодзіць рабочым, калгаснікам, совецкай уладзе, партыі... Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых пластоў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады... На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэвалюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, **буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін** (падкрэслена намі—**П. К.**), могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэвалюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў». **)

З нявыкрытых рэштак разгромленага СВБ нацдэмы ствараюць «Беларускі нацыянальны цэнтр». Для папаўнення новымі «кадрамі» нацдэмаўскага фронту з-за мяжы спешна перакінуліся правакатары і шпіёны: Рак-Міхайлоўскі, Валошын, Мятла, Гаўрылюк, Дварчанін і іншыя. Многа год таму назад па заданню ахранкі яны прымалі ўдзел у якасці правакатараў у нацыянальна-рэвалюцыйным руху Заходняй Беларусі. Іх «арыштоўвалі», яны «сядзелі» ў турмах і сталі вядомымі шырокім рабоча-сялянскім масам. Як «рэвалюцыянеры», яны пралезлі ў компартыю, а потым фашысцкай дэфензівай былі пасланы ў БССР пад выглядам «абмену» палітычных вязняў для інтэрвенцыяніснцкай работы.

У БССР кіраўнікі «Беларускага нацыянальнага цэнтра» і іх агенты рассяліся па адказных месцах, адкуль можна было дзейнічаць з найбольшай эфектыўнасцю (дзяржаўныя ўстановы, ВНУ, Акадэмія Навук, музей, тэатры і т. д.).

У новых абставінах нацдэмы павялі лінію вельмі тонка. Яны пачалі «актыўна» «змагацца» з нацыянал-дэмакратызмам. З гэтаю мэ-

*) Сталін. Вынікі першай пяцігодкі.

**) Там-жа.

тай яны трымалі прамовы, давалі ў газеты інтэрв'ю, пісалі артыкулы (Мятла, Рак-Міхайлоўскі, Янель, Бабровіч і інш.), дыхалі паказной ненавісцю да польскага імперыялізма, да фашызма, і ў гэты-ж час самі ядналіся з усімі фашыстамі, шпіёнамі і правакатарамі, працаваўшымі за мяжой (Луцкевіч, Астроўскі, Езавітаў, Пігулеўскі, Варонка, Якавюк).

Дзеячы «Беларускага нацыянальнага цэнтра» аб'ядналіся з польскімі і германскімі фашыстамі і звязаліся непасрэдна з Розенбергам, з рускімі і украінскімі белагвардзейцамі, з астаткамі ранейшых буржуазных партый, што захаваліся яшчэ на Беларусі,—эсэрамі, бундаўцамі, трацкістамі, членамі БСГ і інш.—і на грошы замежных контрразведак выконвалі шпіёнскую работу.

Прадаўжаючы нацдэмаўскія традыцыі, нацдэмы і іх агенты колькі маглі шкодзілі на фронце навукі і культуры. У радзе раёнаў школы нацыянальных меншасцей пераводзіліся на беларускую мову, скарачалася выданне кніг і падручнікаў на мовах нацменшасцей, зрывалася справа падрыхтоўкі для іншанацыянальных школ педагагічных кадраў. У Крупскім раёне нацдэмаўскія агенты цкавалі настаўніка Сцепуро, дабіўшыся яго выключэння з профсаюза і зняцця з работы за тое толькі, што ён напісаў у сельсовет паперку на рускай мове. Прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам, рад літаратараў скарысталі гнілы лібералізм рэдактароў літаратурных часопісаў і газет, зрабіўшы адкрытую кулацкую нацыянал-дэмакратычную рэваншысцкую вылазку ў літаратуру (творы і артыкулы Сідарэнкі-Пенячкіна і С. Баранавых). Гэтыя вылазкі адлюстроўвалі «шалёнае супраціўленне разгромленага, але яшчэ канчаткова недабітага, класавага ворага разгорнутаму соцыялістычнаму наступленню па ўсім фронце» (з пастановы ЦК КП(б)Б ад 28 студзеня 1933 года).

У справе барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам велізарнае значэнне маюць кадры — большэвіцкія кадры адданых барацьбітоў за соцыялізм. Добра ведаючы гэта, нацдэмы многа старанняў прыкладалі к таму, каб сарваць падрыхтоўку кадраў як для сельскай гаспадаркі (горацкія сельска-гаспадарчыя ВНУ, Свінагадоўчы інстытут), так і для іншых галін. Нацдэмы імкнуліся зрабіць нашы ВНУ няздольнымі выканаць сваю асноўную задачу, дабіваліся штучнага раскалвання нашых навучальных устаноў на карлікавыя інстытуты без навучальнага абсталявання, без прафесароў і выкладчыкаў, з раскалатымі на многа частак і таму непрацаздольнымі кафедрамі (у бульбяным інстытуце было толькі 2—3 дзесяткі студэнтаў).

Каб сарваць падрыхтоўку кадраў, нацдэмы стараліся лепшых студэнтаў—членаў партыі—«выпускаць датэрмінова» ці адрываць ад вучобы і з 2 курса пасылаць на практычную работу, а няздольных, ці тых, каго можна было скарыстаць як матар'ял для нацдэмаўскага ўплыву, яны пакідалі вучыцца. У выніку часам па некалькі год не было выпуску закончыўшых вучобу студэнтаў, а розныя «датэрміновыя» недавучкі на месцах псавалі справу развіцця народнай гаспадаркі.

Каб разваліць большэвіцкую навукова-даследчую работу, нацдэмы з асаблівай ахвотай пранікалі ў навукова-даследчыя ўстановы БССР і працягвалі там свае контррэволюцыйныя ўстаноўкі, карыстаючыся падтрыманнем усіх антысовецкіх элементаў. У навукова-даследчых інстытутах сельска-гаспадарчага характару яны былі найбольш актыўны. Шкоднік нацдэм Кіркор распрацоўваў свае інтэрвенцыянісц-

кія планы землеўпарадкавання, група шкоднікаў пад кіраўніцтвам Журыка займалася масавым знішчэннем свінога пагалоўя, нацдэм Дміткевіч імкнуўся штучна зніжаць пасляховасць совецкіх дзяцей у школах, з мэтай дыскрэдытацыі справы совецкай народнай асветы.

З асаблівай ахвотай нацдэмы дзейнічалі ў Акадэміі Навук. Найбольш мацёрыя зубры нацыянал-дэмакратызма і ў самы апошні час (да 1933 г.) праводзілі там сваю контррэвалюцыйную работу.

На Акадэмію Навук контррэвалюцыйныя нацдэмы ўскладалі вялікія надзеі, хацелі зрабіць яе адным з галоўных апорных пунктаў інтэрвенцыяністцкай работы. Карта нацдэмаў была біта і ў Акадэміі Навук. Пры неаслабным кіраўніцтве партыі адна за другою сталі раскрывацца контррэвалюцыйныя нацдэмаўскія псеўданавуковыя канцэпцыі такіх «вучоных» і «акадэмікаў» як Эпімах-Шыпіла—стары зубр контррэвалюцыі, былы прафесар духоўнай акадэміі ў царскія часы; Дурново—«мовазнаўца», дастойны брат славутага царскага міністра; Ластоўскі—ідэёвы натхняльнік нацдэмаўскай інтэрвенцыі; Некрашэвіч, які заклікаў французскіх інтэрвентаў на беларускую тэрыторыю яшчэ ў 1919 годзе; Я. Лёсік, які вёў нацдэмаўскую антысовецкую прапаганду ў школьных падручніках па белмове; Ігнатоўскі, які выконваў адказныя заданні дэфензівы на пасту акадэмічнага прэзідэнта і «гісторыка» і многіх іншых.

Партыя выкрыла і выгнала з Акадэміі Навук прытаіўшыхся там у чаканні «зручнага часу» папоў, ксяндзоў, кулакоў і іншае смецце, якое ператварылася ў «знаўцаў» мовы, мастацтва, гісторыі і па меры сваіх сіл і талентаў шкодзіла на ўсіх гэтых участках. Беларуская Акадэмія Навук пад кіраўніцтвам партыі стала буйнейшым навуковым цэнтрам з дзесяткамі навукова-даследчых інстытутаў і цэлым радам інстытутаў—яўрэйскай, польскай, літоўскай і латышскай—пролетарскіх культур. У брацкім саюзе і супрацоўніцтве працоўных усіх нацыянальнасцей, насяляючых Совецкую Беларусь, Акадэмія Навук пад кіраўніцтвам КП(б)Б расце і будзе расці далей, выкрываючы ўсе махінацыі класавага ворага.

Не менш актыўна нацдэмы дзейнічалі ў совецкіх установах. Акрамя Наркамзема, дзе нацдэмаўскую дзейнасць узначальваў шпіён і дэфензіўшчык Масюкоў, можна адзначыць Дзяржплан, дзе буржуазны перараджэнец і нацдэм Бондар, выходзячы з кандрацьеўскіх і прышчэпаўскіх тэорый, трымаў курс на скарачэнне пасеўнай плошчы ў БССР, на надзвычай маруднае развіццё жывёлагадоўлі і т. д.; камітэт радыёвяшчання, дзе падвізаўся «выпрабаваны» нацдэм Марук, і іншыя ўстановы.

Прадаўжаючы барацьбу з буржуазным нацыяналізмам, КП(б)Б у 1933-34 гг., на чале са сваім ЦК і тав. Гікало правяла вялікую работу па выкрыццю і разгрому рэштак беларускага контррэвалюцыйнага нацдэмаўства. На студзеньскім пленуме ЦК КП(б)Б (1933 г.) партыя выкрыла нацдэмаў Сідарэнку, Нікановіча, Баранавых, выступіўшых пад фальшыва-нацыянальным сцягам, і з дапамогаю «Праўды» разграміла іх. Адначасова ЦК КП(б)Б выкрыў цэлы рад грубейшых палітычных памылак нацдэмаўскага парадку ў цэлага раду таварышоў, якія працавалі ў розных галінах мастацтва і навукі.

Партыя правяла цэлы рад мерапрыемстваў, каб забяспечыць класавую, большэвіцкую вытрыманасць работы культурных устаноў,

выкрыла цэлы рад шкоднікаў-трацкістаў і нацдэмаў на навуковым фронце: Рыўлін, Гесен, Чарняўскі, Югаў, Аруцюнянц і інш.

У пачатку 1933 года КП(б)Б дала жорсткі бой нацдэмам, цкаваўшым совецкага настаўніка Сцепуро за тое, што ён дома гаварыў па-руску. Тт. Гікало і Галадзед у сваім лісце ў «Правду» ад 4 сакавіка 1933 г. далі належную палітычную кваліфікацыю гэтай новай нацдэмаўскай вылазцы.

Пленум ЦК і менскага гаркома КП(б)Б у сакавіку 1933 г. падвялі вынікі ўсёй работы КП(б)Б за гэты год па разгрому контррэволюцыі на Беларусі і далі ясную, канкрэтную праграму далейшай барацьбы з класавым ворагам. Карыстаючыся гэтай праграмай, партыя правяла летам і ўвосень 1933 г. ачыстку сваіх радоў ад усяго варожага, нацдэмаўскага, вялікадзяржаўна-шавіністычнага, ад усіх прытаіўшыхся трацкістаў, бундаўцаў і іншага смецця.

Летам 1933 г. контррэволюцыйная арганізацыя нацдэмаў—«Беларускі нацыянальны цэнтр»— была выкрыта адначасова з «Украінскім нацыянальным цэнтрам». Нацдэмаўскія дзеячы і шпікі з БНЦ былі арыштаваны. Снежаньскі пленум ЦК і ЦКК нанёс новы, рашучы ўдар нацдэмаўскай дзейнасці на новым этапе.

Аднак, нельга паручыцца за тое, што ўсе нацдэмы і нацдэмаўскія агенты выкрыты, што нацдэмаўскай шкодніцкай дзейнасці ў нас няма. Класавая барацьба ў бліжэйшы час, у час рашучай ліквідацыі рэштак паразітычных класаў, будзе ўзмацняцца. У гэтай барацьбе буржуазія будзе карыстацца ўсё больш складанымі завуаляванымі формамі. Патрабуецца ўзмоцненая большэвіцкая пільнасць для выкрыцця яшчэ нявыкрытых агентаў нацыянал-дэмакратызма, яшчэ больш упартая барацьба за падрыхтоўку новых большэвіцкіх кадраў з рабочых і сялян-калгаснікаў для ўсіх участкаў гаспадарчага будаўніцтва, за большэвіцкую беларусізацыю, за ўзмацненне брацкай сувязі з усімі нацыянальнасцямі як БССР, так і ўсяго Совецкага саюза. Патрабуецца доўгая і напружаная работа, каб да канца выкарчаваць спадчыну контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны з усіх участкаў навукі і мастацтва.

Трэба памятаць, што выкананне задач другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства—праходзіць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы, што класавыя ворагі пролетарыята і працоўных мас у перадсмяротных сударгах не грэбаюць ніякімі сродкамі барацьбы супроць комуністычнай партыі і совецкай улады. Таму паспяховая барацьба з усімі рэшткамі капіталістычных класаў у нашай краіне, з рэшткамі беларускага контррэволюцыйнага нацдэмакратызма і нацыянал-шавінізмам іншых колераў (вялікадзяржаўным, яўрэйскім, польскім і інш.), з рэшткамі паследышаў трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі і апартуністамі ўсіх масцей—патрабуе ад усіх партыйных арганізацый, ад кожнага комуніста і ўсіх працоўных падзесяцярыць сваю рэволюцыйную пільнасць на ўсіх участках нашай работы, своечасова і бязлітасна выяўляць, выкрываць усялякія спробы і імкненні класавых ворагаў перашкодзіць справе соцыялістычнага будаўніцтва.

---

## КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**МОЛАТАЎ, В. М. Адчотны даклад аб рабоце ўрада VII з'езду советаў СССР 28-га студзеня 1935 года.**

Менск, Белпартвыдавецтва, 1935 г. С. 64. Ц. 50.

Белпартвыдавецтвам выдан асобнай брашурай бліскучы даклад старшыні СНК СССР тав. Молатава на VII усесаюзным з'ездзе советаў. У першай частцы даклада дан глыбокі аналіз міжнароднага становішча, адносін Совецкага саюза з капіталістычнымі краінамі і поспехаў барацьбы совецкага ўрада за мір.

Тав. Молатаў разгортвае карціну гіганцкіх дасягненняў соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, транспарта, абараназдольнасці краіны і ліквідацыі капіталістычных элементаў. Ён падкрэслівае агромны рост давер'я, адданасці працоўных совецкай уладзе, іх згуртаванасць вакол комуністычнай партыі.

У дакладзе тав. Молатава з выключнай яснасцю паказана, што найвялікшыя заветы Леніна пад кіраўніцтвам нашай партыі на чале з тав. Сталіным аб пераўтварэнні Расіі нэпаўскай у Расію соцыялістычную выкананы.

У брашуры змешчана таксама заключнае слова т. Молатава і пастановы VII усесаюзнага з'езда советаў па дакладу ўрада СССР.

**МОЛОТОВ, В. М. Об изменениях в советской конституции.**

Партиздат ЦК ВКП(б), 1935 г. С. 46. Ц. 25 к.

Тав. Молатаў у сваім дакладзе на VII з'ездзе советаў СССР, характарызуючы асноўныя палажэнні совецкай канстытуцыі 1918 г., на базе якіх рабочы клас будаваў сваю дзяржаву, забяспечыў уздым народнай гаспадаркі, рост культуры і матар'яльнага дабрабыту працоўных мас, спыняецца на буйнейшых зменах, што адбыліся ў эканоміцы і соцыяльнай структуры краіны за апошнія гады. Тав. Молатаў адзначае, што наша канстытуцыя павінна быць прыведзена ў адпаведнасць з цяперашнімі суадносінамі класавых сіл, з поўнай перамогай прынцыпаў соцыялістычнай грамадскай уласнасці ў Совецкім саюзе.

Тав. Молатаў паказвае, што поспехі соцыялістычнага будаўніцтва высоўваюць на парадак дня пытанне аб далейшым развіцці совецкага дэмакратызма, аб замене не зусім роўных выбараў—роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі.

У той час, як у Совецкім саюзе пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам т. Сталіна максімальна і ўсебакова разві-ваецца пролетарская дэмакратыя, працоўныя масы ўсямерна ўцягваюцца ў справу кіравання дзяржавай, капіталістычныя краіны ліквідуюць рэшткі ўяўнай буржуазнай дэмакратыі і парламентарызма, пераходзячы к фашысцкай сістэме кіравання, прамога тэрору і гвалту над працоўнымі масамі.

У канцы брашуры змешчана пастанова VII з'езда советаў аб унясенні некаторых змен ў канстытуцыю СССР.

**ОРДЖОНИКИДЗЕ, С. Отчетный доклад Народного Комиссариата Тяжелой Промышленности VII С'езду советов 31 января 1935 г.**

Москва, Партиздат, 1935 г. С. 62. Ц. 65 к.

Даклад тав. Орджанікідзе на VII з'ездзе советаў з'яўляецца адным з яркіх дакументаў эпохі соцыялістычнай індустрыялізацыі. У ім прыведзены пераканаўчыя і бясспрэчныя довады таго, што вялікія ідэі вучэння Леніна і Сталіна ператвораны партыяй у жыццё і сталі ўжо магутнай матар'яльнай сілай сучаснасці.

Падкрэсліўшы, што буйная машынная індустрыя з'яўляецца эканамічнай базай соцыялізма, тав. Орджанікідзе падрабязнымі лічбамі і фактамі ілюструе гіганцкі рост нашай цяжкай прамысловасці ва ўсіх яе галінах (электрыфікацыя, чорная і каляровая металургія, вугальная і нафтавая прамысловасць, хімічная прамысловасць, машынабудаўніцтва. На канкрэтных прыкладах паасобных прадпрыемстваў тав. Орджанікідзе паказвае ўзоры добрай і дрэннай работы гаспадарнікаў.

У канцы змешчаны заключнае слова тав. Орджанікідзе і пастанова VII усесаюзнага з'езда советаў па справаздачнаму дакладу Народнага Камісарыята Цяжкай Прамысловасці.

**ЕНУКИДЗЕ, А. С. Доклад по конституционным вопросам на VII с'езде советов СССР**

1935 г., С. 29. Ц. 20 к.

У сваім дакладзе тав. Енукідзе спыняецца на зменах і папраўках канстытуцыі, прынятых ЦВК СССР у працэсе заканадаўчай работы на аснове соцыяльна-эканамічных зрухаў у краіне паміж VI і VII-м усесаюзнымі з'ездамі советаў. Ён пералічвае заканадаўчыя мерапрыемствы ўрада СССР аб зменах у структуры і практыцы работы органаў улады ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда партыі.

Тав. Енукідзе падкрэслівае, што канкрэтныя папраўкі і дадаткі ў канстытуцыі вынікаюць з: 1. разбуйнення наркаматаў і цэнтральных ведамстваў, спецыялізацыі іх функцый, накіраваных на ўмацаванне кіраўніцтва адпаведнымі галінамі народнай гаспадаркі; 2. прывядзення ўнутранай арганізацыі работы наркаматаў у адпаведнасць з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва і 3. умацавання дысцыпліны, рэволюцыйнай законнасці і аховы соцыялістычнай маёмасці.

Дадатак—пастановы VII з'езда советаў, СССР па дакладу аб канстытуцыйных пытаннях.

**ГІКАЛО, Н. Ф. За літаратуру, вартую эпохі Сталіна.**

Менск, Партвыдавецтва, 1935 г. С. 42. Ц. 65 к.

Выступленне тав. Гікало 15/IX-34 г. у ЦК КП(б)Б на нарадзе беларускіх пісьменнікаў.

Ахарактарызаваўшы буйнейшае гістарычнае і палітычнае значэнне ўсесаюзнага з'езда совецкіх пісьменнікаў, тав. Гікало адзначае моцна ўзросшы попыт на мастацкую літаратуру і чытаемасць яе шырокімі масамі працоўных. Ён падкрэслівае велізарную ролю совецкай мастацкай літаратуры ў справе ліквідацыі перажыткаў капіталізма ў псіхіцы людзей, умацавання ў іх соцыялістычнай свядомасці.

Тав. Гікало ацэньвае выхад літаратуры БССР на ўсесаюзную арэну як агромную перамогу, як рэзультат ідэйна-палітычнага і творчага росту асноўнай масы беларускіх совецкіх пісьменнікаў на аснове перабудовы літарганізацый паводле рашэння ЦК ВКП(б) і ачысткі літаратурнага фронта ад нацыяналістычных і іншых антысовецкіх элементаў. Тав. Гікало завастрае ўвагу пісьменнікаў на іх далейшыя задачы—шырокае вывучэнне жывых людзей у абстаноўцы новай соцыялістычнай працы, адлюстраванне гераічнай барацьбы рабочага класа і калгаснага сялянства за перамогу соцыялізма.

**ВАЛКОВІЧ, Д. І. Совецкая Беларусь к XI з'езду советаў.**

Менск, Партвыдавецтва, 1935 г. С. 112. Ц. 1 руб.

У сваёй кніжцы тав. Валковіч лічбамі і фактамі паказвае, як Беларусь—у мінулым адсталая краіна Расійскай імперыі, краіна соцыяльнага і нацыянальнага гнёту—зараз пад кіраўніцтвам партыі і пры брацкай дапамозе ўсяго СССР ператварылася ў адну з перадавых рэспублік Совецкага саюза.

У кнізе наглядна паказана, як рабочы клас і ўсе працоўныя БССР, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, на аснове ленінскай нацыянальнай палітыкі, у жорсткай класавай барацьбе ператварылі БССР з краіны аграрнай, з дробнай аднаасобнай сялянскай гаспадаркай,—у краіну індустрыяльна-аграрную, з буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркай, з вялікай колькасцю буйных соцыялістычных прадпрыемстваў, калгасаў і соўгасаў, з пагалоўнай граматнасцю дарослага працоўнага насельніцтва.

Кніжка насычана лічбамі і фактамі нашых буйнейшых поспехаў ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. У кніжцы з усёй чоткасцю падкрэсліваецца, што да гэтых нябачаных поспехаў прывяло нашу краіну цвёрдае і паслядоўнае ажыццяўленне генеральнай лініі партыі, цвёрды ленінскі шлях пад геніяльным кіраўніцтвам правадыра сусветнага пралетарыята—т. Сталіна.

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б

## Аб падрыхтоўцы насення да сяўбы па Чачэрскаму раёну

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Прыняць да ведама заяву сакратара РК КП(б)Б тав. Кайкова аб тым, што як па ўсяму раёну, так, у прыватнасці, у калгасе «Май», Глыбачанскага с/с., адным з самых адстаўшых у раёне па падрыхтоўцы насення, на 10 лютага становішча рэзка палепшылася, дзякуючы прынятым мерам з боку партыйных і совецкіх арганізацый раёна і кіраўніцтва калгаса. Па раёну засыпана зернавых 111,9 проц., ачышчана 56,3 проц. насення. У к-се «Май» засыпана і ачышчана 101,0 проц.

Адзначыць, што на засыпку і абмен пшаніцы з боку райкома не было звернута ўвагі (засыпана пшаніцы 83,2 проц., абмен яшчэ не пачаўся), і сам сакратар тав. Кайкоў не ведае прычын адставання з засыпкай і абменам пшаніцы ў раёне.

Абавязаць РК і РВК забяспечыць хутчэйшую засыпку пшаніцы і абмен яе і іншых зернавых да ўстаноўленага тэрміну.

Такую-ж работу неабходна правесці па ачыстцы зярна і абеззаражванню ад кляшча.

Папярэдзіць загадчыка райза т. Гарбачова, што ЦК лічыць яго практычную работу па падрыхтоўцы да сяўбы нездавальняючай і патрабуе рашучай перабудовы работы ўсяго апарата ў бок большай аперацыйнасці і асабістага ведання ходу падрыхтоўкі да вясны ў радзе рашаючых калгасаў, асабліва ў частцы падрыхтоўкі насення, вывазу гною і т. д.

Даручыць ўпаўнаважанаму Гомельскай міжрайканторы па ўраджайнасці т. Пераломаву неадкладна выехаць у Чачэрскі раён і асабіста праверыць агульны ход падрыхтоўкі насення па раёну і ў прыватнасці падрыхтоўку ў калгасе «Май», далажыўшы аб выніках бюро ЦК.

## Аб падрыхтоўцы насення да сяўбы па Мсціслаўскаму раёну

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Мсціслаўскі раён з'яўляецца самым адсталым раёнам у рэспубліцы па засыпцы насення лёну (37 проц. на 1 лютага). Нездавальняючы таксама ход засыпкі зернавых—88 проц., ачысткі насення, яго абмену.

ЦК лічыць, што адставанне Мсціслаўскага раёна не выпадкова. На працягу апошніх двух гадоў Мсціслаўскі раён не раз бываў на чорнай дошцы, правальваючы рад сур'ёзных сельскагаспадарчых заданняў.

ЦК не раз указваў РК і ўсёй партарганізацыі на тое, што асноўнай прычынай нездавальняючай работы з'яўляецца іх недастатковае кіраўніцтва арганізацыйна-гаспадарчым умацаваннем калгасаў, ператварэннем іх у бальшэвіцкія калгасы. ЦК не раз падкрэсліваў наяўнасць у Мсціслаўскай партарганізацыі ліберальных адносін да сабагажнікаў і зрыўшчыкаў дзяржаўных мерапрыемстваў.

Партыйна-савецкія арганізацыі Мсціслаўскага раёна ў значнай меры самасупакоіліся на дасягнутых 88 проц. калектывізацыі і не заўважваюць, як у радзе калгасаў арудуюць кулацкія контррэволюцыйныя элементы, лодыры, зладзеі і бяздзельнікі.

Толькі гэтым можна тлумачыць тыя абставіны, што Мсціслаўскі раён эканамічна найбольш магутны ў Беларусі, распалагаючы вялікім параўнальна з іншымі колькасна і лепшым якасна цяглом, інвентаром, пладароднымі землямі і т. д., стаіць усё ў радах самых адстаючых раёнаў БССР па выкананню асноўных сельскагаспадарчых кампаній.

Аднак, відаць, да гэтага часу як кіраўніцтва раёна, так і ўся партарганізацыя Мсціслаўскага раёна, не разумеюць асноўнай сваёй памылкі і тлумачаць у асноўным і цяпер сваё адставанне ў падрыхтоўцы да сяўбы ўсякімі аб'ектыўнымі ўмовамі.

ЦК патрабуе ад Мсціслаўскага РК і ўсёй партарганізацыі раёна, каб зараз-жа на практычнай рабоце па засыпцы насення, ачысткі і абмену і ўсёй астатняй рабоце па падрыхтоўцы да сяўбы—рамонт трактароў і с.-г. інвентара, падрыхтоўка каня, вывазка гною і інш.—кіраўніцтва партарганізацыі раёна, сёл і калгасаў праверылі—хто стаіць на чале калгасаў і хто кіруе імі, у прыватнасці, зноў праверылі склад калгасных кладаўшчыкоў, заггасаў, рахункаводаў, сакратароў і т. д., бязлітасна выганяючы кулаччо і іншы контррэволюцыйны элемент з калгасаў. Пачатая 10 лютага масавая самаправерка і міжкалгасная праверка павінна быць ператворана ў сапраўды бальшэвіцкую барацьбу за насенне, яго высокую якасць і неабходную да сяўбы колькасць. Гэта-ж самаправерка павінна выкрыць і разаблачыць пра-

дзелкі паасобных антысовецкіх кулацкіх элементаў, якія зацясаліся ў калгасы і вядуць у іх падрыўную работу.

ЦК абавязвае РК кінуць на гэту работу ў калгасы ўсе лепшыя сілы раёна.

Абавязаць Белсельснаб неадкладна завезці ў Мсціслаўскі раён некаторую колькасць зернаачышчальных машын, у прыватнасці не менш трох трыераў, а таксама прапрацаваць усё пытанне па ўзмацненню снабжэння Мсціслаўскага раёна с.-г. машынамі і інвентаром.

Камандзіраваць тэрмінам на паўтары дэкады начальніка ільнакіраўніцтва НКЗ т. Савостава і інструктара с.-г. аддзела т. Кароўнікава для дапамогі райарганізацыям у падрыхтоўцы да сяўбы і дасканалага азнаямлення з партыйна-совецкай і гаспадарчай работай у раёне і прычынамі адставання раду калгасаў.

Камандзіраваць у Мсціслаўскі раён брыгаду з 10 чал. праверанных работнікаў, ведаючых сельскую гаспадарку, тэрмінам на дзве дэкады ў распараджэнне РК.

Абавязаць РК КП(б)Б дасканала праверыць, як арганізаваны калгасныя вытворчыя брыгады ў калгасах з пункту погляду падбору і расстаноўкі людзей, устанаўлення адказнасці і т. д., маючы на ўвазе недапушчальна нізкую прадукцыйнасць працы ў калгасах, паказаную Мсціслаўскім раёнам у мінулым 1934 г.

Абавязаць РК, на аснове данай пастановы, разгарнуць партыйную палітыка-масавую работу ў раёне, якая-б забяспечыла сапраўдны паварот усёй партарганізацыі і калгаснікаў раёна да рашучай барацьбы за большэвіцкую падрыхтоўку да вясны. Звярнуцца да пастаноўкі на бюро ЦК усяго пытання ў цэлым аб становішчы работы Мсціслаўскага РК і становішчы раёна ў першай палове сакавіка месяца г.г.

---

# Аб ходзе лесавывазкі

*Пастанова ЦК КП(б)Б і Совета Народных Камісараў БССР*

Адзначыць тое, што, не гледзячы на спецыяльныя пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР, ЦК КП(б)Б і СНК БССР, тэлеграфныя ўказанні сакратара ЦК КП(б)Б тав. Гікало, старшыні СНК БССР тав. Галадзеда і ўказанні на радыёпераклічцы,—дырэктары леспрамгасаў, старшыні РВК і сакратары РК КП(б)Б да 15 лютага не дабіліся патрэбнага пералому ў адносінах узмацнення лесазагатовак і лесавывазкі, чым паставілі пад яўную пагрозу зрыву выкананне рашэння ЦК і СНК, упусцілі шмат часу. Гэта сведчыць аб тым, што многія РК і РВК пасапраўднаму не займаліся лесазагатоўкамі і лесавывазкай, у рэзультаце чаго квартальны план па лесавывазцы на 15 лютага па БССР выканан на 51 проц., план-жа другой дэкады лютага за пяцідзёнку выканан толькі на 25 проц. замест 50 проц.

Адзначыць, як зусім ненармальнае становішча, што Лесбелам, леспрамгасамі і раённымі арганізацыямі да гэтага часу не дасягнуты хоць-бы якія-небудзь поспехі ў справе скарыстання механізаванага транспарта—трактароў, якія да гэтага часу не прыстасаваны да вывазкі драўніны, што з'яўляецца ганьбай для Лесбела.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР лічаць зусім нецярпімымі наяўныя тэмпы работы па вывазцы лесаматар'ялаў і дроў з боку Слуцкага, Лельчыцкага, Нараўлянскага, Бабруйскага, Крупскага і Петрыкаўскага леспрамгасаў, РВК і райкомаў, якія, як відаць, недаацанілі аграмаднага гаспадарчага і палітычнага значэння своечасовай вывазкі лесаматар'ялаў і апалу, указаныя арганізацыі, замест большэвіцкай барацьбы за выкананне плана, абмяжоўваюцца абяцаннямі, на справе-ж не прымаюць сапраўдных мер, забяспечваючых выкананне планаў у размерах і тэрмінах, устаноўленых партыяй і ўрадам.

Выходзячы з гэтага, **ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанаўляюць:**

1. За невыкананне планаў па лесавывазцы 1 квартала 1935 г. і за невыкананне ўказанняў ЦК і Соўнаркома—дырэктара Слуцкага леспрамгаса тав. Ліокумовіча з работы дырэктара змясціць і перавесці яго на пасаду нам. дырэктара. Прапанаваць Лесбелу (т. Шапіра) назначыць неадкладна новага дырэктара Леспрамгаса.

Старшыні Слуцкага райвыканкома т. Князеву і сакратару райкома тав. Кіштымаву за адсутнасць з іх боку аперацыйнага штодзённага кіраўніцтва справай лесазагатовак і вывазкі—паставіць на від і папярэдзіць, што ў выпадку адсутнасці зруху ў бліжэйшыя дні яны панясуць яшчэ больш суровае пакаранне.

Дырэктару Гарадоцкага лестрангаса т. Шувалаву і Пухавіцкага лестрангаса тав. Луканаву паставіць на від за дрэнную работу ў 1 квартале, бо ў іх процант выканання плана ніжэй сярэдняга проціанта па БССР.

2. Дырэктарам леспрамгасаў: Крупскага—тав. Захарэвічу, Нараўлянскага—тав. Навіцкаму, Лельчыцкага—тав. Паўлоўскаму, нам. дырэктара Петрыкаўскага леспрамгаса тав. Шаробку за правал лесавывазкі абвясціць суровую вымову.

Указаць старшыні Лельчыцкага РВК тав. Гаўрусеву і сакратару райкома тав. Асінскаму, старшыні Петрыкаўскага РВК тав. Захаркіну і сакратару РК тав. Арашчуку, старшыні Нараўлянскага РВК тав. Элькіну і сакратару РК КП(б)Б тав. Казачэнку на адсутнасць з іх боку кіраўніцтва работай па лесу.

3. Прыняць да ведама паведамленне тав. Шапіра, што на працягу бліжэйшай дэкады ўся бягучая запазычанасць па лесазагатоўках і лесавывазцы будзе цалкам пагашана.

Хадайніцтва Лесбела аб выдачы гарантыйнага ліста пад бюджэт БССР на атрыманне звышпланавага банкаўскага крэдыта на пагашэнне запазычанасці—адхіліць.

Абавязаць Пухавіцкі, Бярэзінскі, Клічаўскі і Чэрвеньскі РВК на працягу 3-х дзён выканаць нарад на фурманкі для Осіповіцкага леспрамгаса згодна ўстаноўленаму камісіяй па вярбоўцы рабочай сілы плану.

Абавязаць цэнтральныя і раённыя газеты ўзмацніць увагу да пытанняў лесавывазкі і лесазагатовак, аддаючы гэтаму пытанню больш увагі, чым да гэтага часу.

У сувязі з тым, што другая дэкада лютага месяца не толькі не дала пераломy па забяспечанню выканання дэкаднага плана і наваг аб'ём вывазкі лесу панізіўся,—абвясціць з 21 лютага па 10 сакавіка 1935 г. ударны двухдэкаднік вывазкі лесу і торфу.

Абавязаць раённыя арганізацыі забяспечыць удзел усёй цягавай сілы ў лесавывазцы, за выключэннем жаробных конематак.

У сувязі з тым, што ў цэлым радзе месц аднаасобнікі зусім слаба прыцягваюцца да лесавывазкі і загатовак і выкананне плана ідзе галоўным чынам за кошт работ калгаснага цягла,—ЦК і СНК указваюць на неабходнасць поўнага прыцягнення аднаасобнікаў да выканання імі задання па лесазагатоўках і вывазцы, як важнейшага дзяржаўнага задання.

4. Папярэдзіць усіх дырэктароў леспрамгасаў, старшынь РВК і сакратароў райкомаў, што выкананне поўнасцю планаў ва ўстаноўленыя тэрміны як колькасна, так і па асартыменту, з'яўляецца важнейшай гаспадарча-палітычнай задачай і што ЦК КП(б)Б і СНК БССР будуць меркаваць аб іх рабоце па ходу лесавывазкі.

5. Назначыць дадатковых упаўнаважаных ЦК і СНК у адстаючыя раёны. Падбор людзей даручыць промаддзелу ЦК.

6. Папярэдзіць усіх упаўнаважаных ЦК і СНК, што яны нароўні з кіраўніцтвам раёна нясуць поўную адказнасць за рэзультаты работы па лесазагатоўках і лесавывазцы.

7. ЦК і СНК лічаць, што ўсё гэта сведчыць аб дрэннай рабоце органаў Лесбела (тав. Шапіра) і Упоўнаркамлеса (т т. Трэцюхін, Дварэцкі) па ажыццяўленню рашэнняў партыі аб лесе і прапануюць ім узмацніць аперацыйную работу па лесавывазцы.

8. Даручыць промаддзелу ЦК т. Готфрыду намеціць раёны, работа якіх па загатоўцы і вывазцы драўніны павінна быць заслухана на бліжэйшым бюро ЦК.

9. Гэта рашэнне сёння-ж перадаць у раёны.

САКРАТАР ЦК КП(б)Б—Н. ГІКАЛО

СТАРШЫНЯ СНК БССР—М. ГАЛАДЗЕД

## Аб абавязковых пастаўках зярна, рысу і сланечніку дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі з ураджаю 1935 г.

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

Захаваць па абавязковых пастаўках на 1935 год дзейнічаўшыя у 1934 годзе парадак і нормы здачы зярна, рысу і сланечніку дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі з унясеннем пры гэтым наступных змен:

1. Зменшыць нормы здачы зярна калгасамі супроць дзейнічаўшых у 1934 г. па наступных абласцях і рэспубліках і ўстанавіць па іх на 1935 год нормы здачы зярна з разліку на кожны гектар плана сяўбы (у цэнтнерах):

| | Калгасы, абслуг. МТС | Калгасы, не абслуг. МТС |
|---|---|---|
| УССР | 2,3 | 2,4 |
| У тым ліку: | | |
| Одэская вобласць | 2,8 | 3,3 |
| Днепрапятроўская вобласць | 2,7 | 3,3 |
| Вінніцкая вобласць | 2,1 | 2,7 |
| Данецкая вобласць | 2,1 | 2,2 |
| Казакская АССР | 1,2 | 1,5 |

2. Устанавіць нормы здачы зярна, сланечніку і рысу па новастворaных краях і абласцях з разліку на кожны гектар плана сяўбы (у цэнтнерах):

| | Калгасы, абслуг. МТС. | | | Калгасы, не абслуг. МТС | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Па зярну | Па рысу | Па сланечніку | Па зярну | Па рысу | Па сланечніку |
| Горкаўскі край | 0,9 | — | — | 1,1 | — | — |
| Кіраўскі край | 1,4 | — | — | 1,7 | — | — |
| Калінінская обл. | 0,7 | — | — | 1,0 | — | — |
| Свердлоўская обл. | 1,6 | — | — | 2,1 | — | — |
| Чэлябінская обл. | 1,2 | — | 0,6 | 1,7 | — | 0,8 |
| Куйбышэўскі край | 1,7 | — | 1,5 | 2,3 | — | 1,7 |
| Орэнбурская обл. | 1,4 | — | 1,3 | 1,9 | — | 1,5 |
| Варонежская обл. | 2,2 | — | 3,2 | 2,8 | — | 3,5 |
| Курская обл. | 2,1 | — | 3,2 | 2,5 | — | 3,5 |
| Сталінградскі край | 1,6 | — | 1,6 | 1,8 | — | 1,9 |
| Саратаўскі край | 1,6 | — | 1,4 | 1,8 | — | 1,7 |
| Азова-Чорнаморскі кр. | 2,1 | 3,9 | 3,0 | 2,2 | 4,2 | 3,1 |
| Паўночна-Каўказскі кр. | 1,9 | 3,5 | 3,0 | 2.0 | 4,2 | 3,3 |
| Омская вобласць | 1,6 | — | 0,9 | 2,0 | — | 1,0 |
| Заходне-Сібірскі кр. | 2,1 | — | 1,1 | 2,4 | — | 1,3 |
| Усходне-Сібірскі кр. | 1,8 | — | — | 2,4 | — | — |
| Красноярскі край | 2,6 | — | — | 2,7 | — | — |

3. Устанавіць па Узбекскай ССР, Таджыкскай ССР і Туркменскай ССР нормы здачы зярна калгасамі з ураджаю 1935 года асобна з пасеваў на паліўных землях і асобна з багарных пасеваў з разліку на кожны гектар плана сяўбы (у цэнтнерах):

| | Калгасы, абслуг. МТС. | | Калг., не абсл. МТС | |
|---|---|---|---|---|
| | З паліўных пасеваў | З багарных пас. | З паліўных пас. | З багарн. пасев. |
| Узбекская ССР . . . . . . . . . . | 3,0 | 0,9 | 3,5 | 1,3 |
| Таджыкская ССР . . . . . . . . . | 3,0 | 1,5 | 3,5 | 1,5 |
| ТуркменскаяССР . . . . . . . . . | 2,5 | 0,3 | 2,6 | 0,4 |

4. Зацвердзіць для аднаасобных гаспадарак наступныя сярэднія па абласцях, краях і рэспубліках нормы здачы зярна дзяржаве з ураджаю 1935 года з разліку на кожны гектар устаноўленага плана пасеву азімых і яравых зернавых культур (у цэнтнерах):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Паўночны край . . . . . . . . . | 1,1 | Азова-Чорнаморскі кр. . . . . . . | 3,1 |
| Карэльская АССР . . . . . . . . | 0,8 | Паўночна-Каўказскі край . . . . | 3,0 |
| Ленінградская обл. . . . . . . . | 1,1 | Крымская АССР . . . . . . . . | 3,5 |
| Заходняя обл. . . . . . . . . . . | 1,5 | Казакская АССР . . . . . . . . | 2,2 |
| Маскоўская обл. . . . . . . . . | 2,0 | Омская обл. . . . . . . . . . . | 3,0 |
| Калінінская обл. . . . . . . . . . | 1,3 | Кіргізская АССР . . . . . . . . | 3,0 |
| Іванаўская обл. . . . . . . . . . | 1,3 | Заходне-Сібірскі край . . . . . . | 3,2 |
| Горкаўскі край . . . . . . . . . | 2,0 | Усходне-Сібірскі край . . . . . . | 3,2 |
| Кіраўскі край . . . . . . . . . . | 2,0 | Якуцкая АССР . . . . . . . . . | 1,0 |
| Свердлоўская обл. . . . . . . . . | 2,8 | Краснаярскі край . . . . . . . . | 3,5 |
| Чэлябінская обл. . . . . . . . . | 2,5 | УССР . . . . . . . . . . . . . | 2,8 |
| Башкірская АССР . . . . . . . . | 2,8 | БССР . . . . . . . . . . . . . | 1,1 |
| Татарская АССР . . . . . . . . | 2,8 | ЗСФСР . . . . . . . . . . . . | 1,0 |
| Куйбышэўскі край . . . . . . . | 3,0 | | |
| Арэнбурская обл. . . . . . . . . | 2,5 | **З ПАЛІЎНЫХ ЗЯМЕЛЬ** | |
| Варонежская обл. . . . . . . . . | 3,3 | | |
| Курская обл. . . . . . . . . . . | 3,1 | Узбекская ССР . . . . . . . . . | 4,2 |
| Сталінградскі край . . . . . . . | 2,3 | Таджыкская ССР . . . . . . . . | 4,2 |
| Саратаўскі край . . . . . . . . . | 2,8 | Туркменская ССР . . . . . . . . | 3.0 |

5. Даручыць Камітэту па загатоўках пры СНК СССР к 15 сакавіка 1935 г. устанавіць нормы здачы з 1 гектара асобна для пшаніцы, асобна для жыта і асобна для бабовых культур па кожнай рэспубліцы, краю і вобласці.

6. Прапанаваць Соўнаркомам саюзных рэспублік, край (обл.) выканкомам, абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартый у адпаведнасці з данай пастановай устанавіць і з зацверджання Камітэта па загатоўках пры СНК СССР апублікаваць к 25 сакавіка ў паўднёвых абласцях (Крымскай АССР, УССР, Паўночна-Каўказскі край, Азова-Чорнаморскі край, Саратаўскі край, Сталінградскі край, Узбекская ССР, Туркменская ССР, Таджыкская ССР і Закаўказская СФСР) і к 1 красавіка ва ўсіх астатніх абласцях, краях і рэспубліках параённыя нормы здачы зярна, рысу і сланечніку дзяржаве калгасамі, аднаасобнымі гаспадаркамі, дапускаючы хістанні вышэй ці ніжэй нормы, устаноўленай для данага края, вобласці, рэспублікі, з тым аднак, каб было забяспечана поўнае выкананне ўстаноўленых для рэспублікі, края і вобласці размераў паставак зярна, рысу і сланечніку калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі і каб сярэднія нормы здачы зярна, рысу і сланечніку з гектара па рэспубліцы, краю і вобласці ў цэлым былі не ніжэй устаноўленых данай пастановаю.

Параённыя нормы, устаноўленыя СНК саюзных рэспублік, край (обл.) выканкомамі, з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх калгасаў і аднаасобных гаспадарак раёна і не могуць падвяргацца зменам.

7. Зацвердзіць наступныя гранічныя тэрміны выканання калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі ўстаноўленых для іх гадавых абавязацельстваў па пастаўках зярна і сланечніку дзяржаве з ураджаю 1935 г.

## ПА ЗЯРНУ:

Па ЗСФСР, Узбекскай ССР, Таджыкскай ССР, Туркменскай ССР і Крымскай АССР: для калгасаў—1 кастрычніка, для аднаасобных гаспадарак—15 верасня;

Па УССР, Азова-Чорнаморскаму, Паўночна-Каўказскаму, Заходне-Сібірскаму, Краснаярскаму, Усходне-Сібірскаму краях, Омскай, Свердлоўскай, Чэлябінскай абласцях, Якуцкай АССР, Карэльскай АССР і Казакскай АССР: для калгасаў—15 лістапада і для аднаасобных гаспадарак—15 кастрычніка.

Па астатніх абласцях, краях і рэспубліках: для калгасаў—1 лістапада, для аднаасобных гаспадарак—1 кастрычніка.

## ПА СЛАНЕЧНІКУ:

Па Варонежскай, Чэлябінскай, Омскай абласцях, Заходне-Сібірскаму краю, Башкірскай АССР, Татарскай АССР і Казакскай АССР: для калгасаў—15 лістапада і для аднаасобных гаспадарак—1 лістапада; па астатніх абласцях, краях і рэспубліках: для калгасаў—1 лістапада, для аднаасобных гаспадарак—15 кастрычніка.

8. Даручыць Камітэту па загатоўках пры СНК СССР, выходзячы з устаноўленых данай пастановай гранічных тэрмінаў выканання паставак зярна і сланечніку калгасамі і аднаасобнымі гападаркамі, устанавіць календарныя тэрміны выканання калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі ўстаноўленых для іх абавязацельстваў па пастаўках зярна і сланечніку дзяржаве.

9. Абавязаць райвыканкомы і райупаўнаважаных Камітэта па загатоўках пры СНК не пазней 15 красавіка 1935 г. уручыць калгасам і аднаасобным гаспадаркам абавязацельствы па здачы зярна, рысу і сланечніку дзяржаве з указаннем тэрмінаў выканання гэтых абавязацельстваў.

10. Устанавіць, што грэчка і проса прымаюцца ад калгасаў і аднаасобных гаспадарак па зернапастаўках у лік плана здачы пшаніцы і жыта і залічваюцца ў выкананне абавязацельстваў калгаса і аднаасобнай гаспадаркі з разліку:

30 фунтаў грэчкі за 1 пуд пшаніцы, або жыта;

1 пуд проса за 1 пуд пшаніцы, або жыта.

11. Забараніць усім без выключэння органам улады, у тым ліку і загатоўчым арганізацыям, устанаўліваць для калгасаў і аднаасобных гаспадарак сустрэчныя планы па пастаўках дзяржаве зярна, рысу і сланечніку і папярэдзіць усе партыйныя і савецкія арганізацыі, што асобы, вінаўныя ў дачы сустрэчных планаў, будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасці.

Старшыня Савета Народных Камісараў СССР—**В. Молатаў.**

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)—**І. Сталін.**

# АБ ПАЛЕПШАННІ ЎМОЎ ПЕРААПРАЦОЎКІ НА МЛЫНАХ ЗЯРНА КАЛГАСАЎ, КАЛГАСНІКАЎ І ПРАЦОЎНЫХ АДНААСОБНІКАЎ І ЗАБЯСПЕЧАННІ ВЫКАНАННЯ ГАДАВОГА ПЛАНА ПАМОЛЬНАГА ЗБОРУ

*Пастанова ЦК КП(б)Б і Совета Народных Камісараў БССР*

У адпаведнасці з пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 17 студзеня 1935 г. у мэтах палепшання ўмоў перапрацоўкі на млынах свайго зярна калгасамі, калгаснікамі і працоўнымі аднаасобнікамі, а таксама для забяспечання выканання ўстаноўленага гадавога плана памольнага збору, **ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанаўляюць:**

1. Паменшыць існуючыя стаўкі памольнага збору і ўстанавіць іх у наступных размерах для калгасаў і калгаснікаў:

| | |
|---|---|
| Па пшаніцы простага і абойнага памолу | 10 кгр. за цэнт. |
| „ „ сартавога 80—85 проц. памолу | 12 „ „ „ |
| Па жыту простага памолу | 9 „ „ „ |
| Па жыту абойнага памолу | 11 „ „ „ |

2. Устанавіць для аднаасобнікаў наступныя стаўкі памольнага збору:

| | |
|---|---|
| Па пшаніцы простага і абойнага памолу | 11 кгр. за цэнт. |
| „ „ сартавога 80—85 проц. памолу | 13,5 „ „ „ |
| Па жыту простага памолу | 10 „ „ „ |
| Па жыту абойнага памолу | 12 „ „ „ |

3. Даручыць упоўкамзаг СНК СССР па БССР на аснове ўказанняў Камітэта Загатовак СНК СССР адпаведна паменшыць стаўкі памольнага збору за перапрацоўку зярна іншых культур (крупяных, алейных).

4. Дазволіць паўсямесна сартовы памол для калгасаў, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў зярна, прывазімага імі для перапрацоўкі.

Абавязаць горсоветы і РВК шырока абвясціць аб гэтым насельніцтва, скасаваўшы ўсе супярэчачыя гэтаму распараджэнні і пастановы мясцовых органаў.

5. Скасаваць абмежаванне сеткі дзеючых млыноў і дазволіць перапрацоўку зярна ўсім млынам і крупарушкам с.-г. мукамолля, зарэгістраваным у райупоўкамзаг СНК. Забараніць калгасам, РВК і іншым арганізацыям закрываць і разаружаць млыны.

6. Абавязаць НКМясцпрома; НКЗемляробства, Уп. НКСоўгасаў, горсоветы і РВК забяспечыць да 1 красавіка 1935 года правядзенне рамонту ўсіх дзеючых млыноў с.-г. мукамолля, а таксама непрацуючых млыноў, якія патрабуюць нязначнага рамонту.

Папярэдзіць НКМясцпрома, НКЗемляробства, Уп. НКСоўгасаў,

горсоветы і РВК, што правядзенне рамонту млыноў ні ў якім разе не павінна выклікаць масавых астановак млыноў, скарачэння памольнай плошчы і зніжэння вытворчай праграмы.

7. Увесці ў практыку, па жаданню калгасаў, авансавую здачу памольнага збору на пункты Заготзярна шляхам:

а) арганізацыі калектыўнага памолу калгасамі зярна для калгаснікаў з забяспечаннем пры гэтым размолу зярна ў адпаведнасці з патрэбамі калгаснікаў;

б) авансавай здачы памольнага збору калгасамі, калгаснікамі і працоўнымі гаспадаркамі на заготпункты Заготзярна і правядзення млынамі памолу зярна адпаведна прынятым пунктамі Заготзярна авансам.

8. Для палепшання фінансавага становішча млыноў с.-г. мукамолля і павышэння зацікаўленасці мясцовых органаў (сельсоветаў, РВК) у паступленні памольнага збору поўнасцю:

а) з 1-га студзеня 1935 г. павялічыць аплату млынам, якія здаюць памольны збор на 30 проц. у параўнанні з існуючымі цяпер цэнамі;

б) 50 проц. сумы, атрымліваемай ад гэтага павышэння, адлічваецца ў распараджэнне РВК і сельсоветаў (10 проц. сельсоветам, 5 проц. РВК) на выдаткі, звязаныя з культурна-дарожным будаўніцтвам у вёсках, звыш зацверджаных для іх бюджэтаў і плана будаўніцтва на 1935 г.;

в) астатнія 50 проц. (15 проц. з 30-працантнага павышэння аплаты памольнага збору) паступаюць у распараджэнне млыноў с.-г. мукамолля.

9. У адпаведнасці з арт. 8 гэтай пастановы скасаваць з 1 студзеня 1935 г.:

а) 20 проц. натуральных адлічэнняў ад памольнага збору на мясцовае снабжэнне;

б) 20 проц. адлічэнняў млыноў з кошту памольнага збору ў фонд капітальнага будаўніцтва.

10. Усё зярно, якое паступае на млыны ў памольны збор, павінна быць цалкам без усякага затрымання здана на пункты Заготзярна.

Дырэктары і загадчыкі млыноў нясуць адказнасць за ўсякае расходванне памольнага збору без нарадаў Заготзярна па закону ад 7 жніўня 1932 г. «Аб ахове маёмасці дзяржаўных прадпрыемстваў калгасаў і кааперацыі і ўзмацненні грамадскай (соцыялістычнай) уласнасці».

11. Прапанаваць усім раённым партыйным і савецкім арганізацыям павесці рашучую барацьбу са скажэннямі закона аб памольным зборы (падмена планаў цвёрдымі заданнямі і інш.) і ператварэннем памольнага збору ў своеасаблівую сістэму падатку.

12. ЦК КП(б)Б і СНК БССР лічаць важнейшай задачай упаўкамзаг СНК, райкомаў КП(б)Б, райвыканкомаў, НКМясцпрома, НКЗемляробства і уп. НКСоўгасаў на першае паўгоддзе 1935 г. забяспечанне поўнасцю выканання ўстаноўленага плана памольнага збору для кожнага раёна і млына і папярэджваюць, што за выкананне гадавога плана памольнага збору яны нясуць такую-ж адказнасць, як і за выкананне планаў загатовак і закупак хлеба.

13. З выданнем гэтай пастановы скасаваць пастановы СНК БССР за 14/VII—33 г. № 1049 «Аб памольным зборы», за 10/VIII—33 г.

№ 1198 «Аб рэгуляванні памольнага збору на млынах с.-г. мукамолля», за 20/VIII—33 г. № 1327 «Аб устанаўленні ставак памольнага збору ў раёнах, мяжуючых з УССР і заходняй абласцю» і арт. 3 пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР за 17/VII—34 г. (пратакол № 32 за 17/VII—34 г.) «Аб паступленні памольнага збору на 1934 г.»

14. Даручыць НКФінансаў, упоўкамзаг СНК СССР па БССР і НКМясцпрома ў пяцідзённы тэрмін выдаць за сумеснымі подпісамі ў адпаведнасці з гэтай пастановай інструкцыю, прадугледзеўшы ў ёй проценты за памол, плату за памол, парадак адлічэння млынам у сельскі бюджэт і раённы бюджэт прадугледжаных гэтай пастановай сум з павышэння аплаты за зярно, здаваемае млынамі дзяржаве.

САКРАТАР ЦК КП(б)Б—Н. ГІКАЛО

СТАРШЫНЯ СНК БССР—М. ГАЛАДЗЕД

Уп. Галоўлітбела № 3303
Тыраж 10300.
457.600 друк. зн. (8½ арк.)
Здана ў набор 4/III—35 г.
Падпісана да друку 15/III—35 г.

*Рэдкалегія* { Мінкін (адк. рэдактар) Конік }

Друкарня ім. Сталіна. Менск, Энгельса, 2. Зак. № 166.



196




ЦАНА 80 кап.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“

Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой 105.